*сніткa* ж. — сярэд.-бел. г., віц.-маг. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, (Кісялеўскі, Каспяровіч, Сцяшковіч, Ластоўскі), *сны́тка* ж. — паўдн.-усх. з., спарадычна зах. з., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Кісялеўскі, Насовіч, Растаргуеў), *шні́тка* ж. — паўн. р., акрамя Віц. р. (ЛАБНГ), *шны́тка* ж. — Тал., Карм. (ЛАБНГ), *шніць* ж. — Віц. р. (ЛАБНГ), *сныты́* мн. — Кам. (ЛАБНГ), *цна́тка* ж. — Гродз. р. (Сл. Гродз.), *мо́рква* ж. — зах.-пал. г., Маз. (ЛАБНГ), *марко́ўнік* м. — Ганц. (ЛАБНГ), *марко́вняк* (*марку́вняк*) м. — Бяроз. (ЛАБНГ), *маркя́нік* м. — Маз. (ЛАБНГ), *маркаві́нне* (*морковы́нне*) н. — Стол. (ЛАБНГ), *смы́чка* ж. — Валож. (ЛАБНГ), *смуча́й* ж. — Стол. (ЛАБНГ), *гарыва́* ж. — Воран. (ЛАБНГ), *борич* м. — Навагр. (Мат. апыт.).

## Татарнік

Расліна з зубчатым калючым лісцем; мае лілова-пурпуровыя кветкі ў шарападобных кошыках.

*чартапало́х* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас, ЭПБ), *чо́ртавы пазуры́* — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас, ЭПБ), *уро́чнік* м. — Жлоб. (Мат. Гом.).

## Трыпутнік, падарожнік

Невялікая расліна без сцябла, з шырокім лісцем і дробнымі кветкамі ў коласападобным суквецці на доўгіх кветкавых стрэлках.

*трыпу́тнік* м. — агульн., за некаторым выключэннем паўдн.-усх. з., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, ЖС, Кісялеўскі, Бялькевіч, Насовіч, Шатэрнік, Каспяровіч, Сцяшковіч, Ластоўскі, Мат. апыт.), *трыпу́днік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *трыпу́тнік гла́дкі* — мясц. (Ластоўскі), *трэпу́тнік* м., *трэ́патнік* м. — Верхнядзв., Брасл., Глыб., Докш., Віл., Круп., Раг. (СПЗБ), *тры́патнік* м. — Карэл. (ЛАБНГ), *трыпу́тняк* м. — Арш. (ЛАБНГ), *трэ́пацень* м. — Капыл. (ЛАБНГ), *тру́пуцень* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *прыпу́тнік*

м. — Віц. р. (Кісялеўскі), *крыпы́тнік* м. — Пух. (СПЗБ), *падаро́жнік* м. — пераважна паўдн.-усх. з., спарадычна паўн.-зах. з., Мін. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, СЦБ, ЛП, Мат. Гом., ГЧ, Кісялеўскі, Каспяровіч, Сцяшковіч, Ластоўскі, Мат. апыт., ЭСБМ), *падаро́жнік мужскі́* — Лельч. (ЭСБМ), *падаро́жсына* ж. — Жытк. (ТС), *падаро́жніца* ж. — Рас. (Шаталава), *прыдаро́жнік* м. — Капыл., Лун. (ЛАБНГ), *даро́жнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *ба́бка* ж. — зах.-пал. г., Панaм. р. (ЛАБНГ, ЖС, Сл. Гродз., Кісялеўскі, Насовіч, Бялькевіч, Сцяшковіч, Верас, Мат. апыт., ЭСБМ), *ба́бачка* ж. — Астр., Бяроз. (СЦБ, ДСБ., Мат. мін.-мал.), *ба́ба* ж. — Слон. (Сцяшковіч), *бабо́к* м. — Зэльв. (ЛАБНГ), *ба́бнік* м. — Драг., Іван., Пін. (ЛАБНГ, ДСБ), *ба́бін цвет* — Гродз. р., зах.-пал. г. (Кісялеўскі, Верас, ЭСБМ), *міжпе́рсніца* ж. — Верхнядзв., зах.-пал. г. (Кісялеўскі, ЭСБМ), *міжыпе́рсніца* ж. — Віц. р. (Кісялеўскі, Ластоўскі), *нізі пе́рснік* м. — зах.-пал. г. (Кісялеўскі, ЭСБМ), *нізіпе́рсніца* ж. — Гродз. р., зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *міжыпа́рніца* ж. — Верхнядзв. (СПЗБ, ЭСБМ), *шпа́рнік* м. — Гродз. р., Свісл. (СПЗБ, Кісялеўскі), *шпа́рніца* ж. — Гродз. р., зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *во́баратнік* м. — Віл., Лаг. (СПЗБ, СЦБ), *капы́тнік* м. — Іўеў. (Сцяшковіч), *ра́ннік* м. — Пін., Стол., Петр. (ЛП), *серпарэ́знік* м. — Стол. (ЛП), *ужа́чнік* (*ужа́шнік*) м. — Лельч. (ЛП), *скуля́снік* м. — Петр. (ЛП), *пле́снік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *про́рва* ж. — Лях. (СПЗБ), *язы́чніца* ж. — Паст. (СПЗБ), *куку́шка* ж. — Смален. р. (Кісялеўскі), *валаснікі́* мн. — Воран. (ЛАБНГ), *бісо́чкі* мн. — Стол. (ЛП), *казакі́* мн. — Смален. р. (Кісялеўскі), *падбе́л* м. — Чэрв. р. (Шатэрнік), *цягу́н* м. — Навагр. (СПЗБ).

## Тысячагалоў

Шыза-зялёная расліна з вострым супраціўным лісцем і буйнымі ружовымі кветкамі.

*смо́лка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ).

**Урочнік**

Расліна з перыстым, у калючых зубцах лісцем і чорна-пурпуровымі кветкамі ў буйных паўшарападобных кошыках.

*уро́чнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *сыро́чнік* м. — Віц. р. (Каспяровіч), *уда́рнік* м. — Мін. р., Чэрв. р. (Кісялеўскі, Шатэрнік, Станкевіч), *дзядо́ўнік* м. — Смален. р. (Кісялеўскі, ЭПБ, ЭБ), *чартапало́х* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі).

**Хамаміла,** гл. **Рамонкі.**

**Хацьма**

Расліна з буйным лісцем і вялікімі ружовымі кветкамі ў пазухах лісця.

*грудні́чнік* (*грудні́шнік*) м. — віц.-маг. г. (Кісялеўскі, Каспяровіч), *алце́й-ко́рань* — Гродз. р. (Кісялеўскі).

**Хвошч**

Споравая расліна з зялёным галінастым сцяблом і лускаватым лісцем; падобная на елачку.

*хвошч* м., *хво́шчык* м. памянш. — агульн., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ, ТС, ЛП, Мат. Гом., НЛГ, ЖС, ГЧ, Кісялеўскі, Сцяшковіч, Мат. апыт.), *хвошч палявы́* — Гродз. р., Глыб., Буда-Каш., Маз, Жытк., Лун. (СПЗП, ЛП, ГЧ, Кісялеўскі, Верас), *хвашча́й* м., *хвашчэ́й* м. — Гродз. р., Ганц., Стол., Жытк., Вілен. р. (СПЗБ, ТС, Сл. Гродз.), *хвашча́р* м. — Паст. (СПЗБ), *хварашча́й* м. — Маст. (СПЗБ), *хвашча́йка* ж. — Зэльв. (Сцяцко), *хвашча́йнік* м. — Іўеў. (Сцяшковіч), *хвашчо́ўнік* м., *хвашчэ́ўнік* м. — Верхнядзв., Брасл., Смарг., Латгал. р. (СПЗБ), *хво́шчка* ж., *хвы́шка* ж. — Ваўк., Свісл., Пін., Беластоц. р. (СПЗБ), *е́лка* ж., *ёлка* ж. — Карэл., Стаўб., Слон. (СЦБ, СПЗБ, ЖНС, Мат. апыт.), *елца́* ж. — Навагр., Карэл. (СПЗБ), *я́лца* ж. — Іўеў. (Сл. Гродз.), *е́лачка* ж. — Чэрв. р., Ашм. (Ша-

тэрнік, Станкевіч), *ёлачка* ж. — Ашм., Леп., Пух., Буда-Каш., Лельч., Вілен. р. (СЦБ, Сл. Гродз., СПЗБ, Мат. Гом., Мат. апыт.), *хвóйка* ж., *хóйка* ж., *хвóечка* ж. памянш. — усх.-пал. р. (ТС, ЛП, Мат. Гом., ЖС), *хвóйнік* м., *хвóйнічак* м. памянш. — Стол., Жытк. (ТС), *сасóнка* ж. — Зэльв., Стол. (ЛП, Сцяцко), *сóсанка* ж. — Зэльв., Стол. (ЛП, Сцяцко), *скрып* м. — віц.-маг. г., Гродз. р. (Кісялеўскі, Цыхун), *скрыпя́чнік* м. 'разнавіднасць палявога хвашча' — Астр. (СПЗБ), *асёкла* ж., *асёклі* мн. — Іўеў. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *асюкля* ж., *асюкле* н., *асюклі* мн., *сюклі* мн. — Вілен. р. (СПЗБ), *арэшаўнік* м. — Віл. (СЦБ), *земляны́я арэ́хі* — Маг. р., Мін. р. (Кісялеўскі), *гігель* м. — Віц. р. (ЭСБМ), *гу́гель* м., *гу́галь* м., *гугóльчык* м. памянш. — Брасл., Паст., Смарг., Віл., Валож., Докш., Лаг. (СПЗБ), *гігéльнік* м. — Ашм. (СПЗБ), *гігялéўнік* м. — Віл. (СПЗБ), *бадзюк* м., *бадзюля* ж. — Ашм. (СПЗБ), *бараздзюк* м. — Астр., Вілен. р. (СПЗБ), *барадачы́* мн. — Іўеў. (Сл. Гродз.), *стукí* мн. — Смален. р. (Кісялеўскі), *ца́рскія ку́дры* — Латгал. р. (СПЗБ), *какóш* м. — Маз. (З нар. сл., ЭСБМ), *вéхатнік* м. — Віц. р. (Кісялеўскі, Ластоўскі).

**Вясенні хвошч, ці хвошч споравай стадыі развіцця**: *хвошч* м. — пераважна агульн., за выключэннем паўн. з. і ўсх. з., Вілен. р., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Кісялеўскі), *хвóшчык* м. — спарадычна паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *хвашча́й* м. — Воран., Кам., Івац., Іван. (ЛАБНГ), *хвашчэ́й* м. — Слон. (Мат. апыт.), *хвашча́р* м. — Паст. (ЛАБНГ), *хвашчэ́ўнік* м. — Смарг. (ЛАБНГ), *хвашча́йка* ж. — Зэльв., Бяроз., Драг., Пін. (ЛАБНГ), *хвашча́нка* ж. — Круп., Пін., Стол. (ЛАБНГ, ЛП), *хвашша́йка* ж. — Пін., Стол. (ЛП), *хвашчаянка* ж. — Пін. (ЛАБНГ), *хвóшка* ж. — зах.-пал. г., Ваўк. (ЛАБНГ), *таўка́чык* м., *таўка́чыкі* мн. — віц.-маг. г., сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч, Каспяровіч), *таўка́чнік* м. — Смален. р. (Кісялеўскі), *таўкачы́* мн. — Іўеў., Маг. (ЛАБНГ), *гігéль* м., *гігялёк* м. памянш., *гігелькí* мн. памянш. — паўн.-зах. з., Вілен. р., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *гігель* м. — Віц. р., Верхнядзв.,

Астр. (СПЗБ, Сл. Гродз., Каспяровіч, ЭСБМ), *гіргéль* м. — Мёр. (ЖС), *гýгель* м. (г выбухное), *гугóльчык* м. памянш. — зах. з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *гугéль* м., *гýгель* м. — Верхнядзв. (ЛАБНГ, Шаталава), *гýкаль* м. — Беш. (ЛАБНГ), *гугóль* м., *гугóльчык* м. памянш. — Ушацк., Леп., Лаг., Віл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *гугы́ль* м. — Леп. (ЛАБНГ), *éлка* ж., *éлачка* ж. — Гарад., Ушацк., Лаг., Валож., Нясв., Слаўг., Хоц., Івац. (ЛАБНГ), *хвóйка* ж. — Ганц. (ЛАБНГ), *сасóнка* ж. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *тарчóк* м. — Круп. (СПЗБ), *калáчыкі* мн. — Валож. (ЛАБНГ), *стаўбунóчык* м. — Маст. (ЛАБНГ), *пупáлькі* мн., *пупя́лькі* м. — Воран. (ЛАБНГ), *расóха* ж. — Пін. (ЛАБНГ), *барадáч* м. — Іўеў. (СПЗБ), *дзядóк* м. — Саліг. (ЛАБНГ), *стырч* м. — Лельч. (ЛАБНГ), *скрып* м. — Смарг., Ваўк. (СПЗБ), *бугáйчыкі* мн. — Маз. (ЛАБНГ), *кудравéц* м. — Докш. (СПЗБ), *памялó* н. — Віл. (СЦБ).

**Летняя разнавіднасць хвашча:** *сасóнка* ж. — Стол. (ТС), *гігялéўнік* м. — Віл. (СПЗБ).

**Хвошч вадзяны:** *хвошч вадзя́ны* — Віл. (СПЗБ), *кваснíк* м., *квáснік* м. — Стол. (ТС, ЭСБМ), *лугавáя éлка* — Чэрв. (СПЗБ).

**Хвошч балотны**: *хвошч* м. — Гом. р., Леп. (Кісялеўскі, Мат. апыт.), *хвошч балóтны* — Маг. р., Гродз. р. (Кісялеўскі), *хвóйка* ж., *хóйка* ж., *хвóечка* ж. памянш. — Жытк., Стол. (ТС), *жáбеча хвóйка* — Жытк. (ТС), *éлачка* ж. — Мін. р. (Кісялеўскі), *ёльнік* м. — Віц. р. (Кісялеўскі), *я́ленец* м. — Віц. р. (Кісялеўскі), *сасóнка* ж. — Гом. р. (Кісялеўскі), *вéхатнік* м. — Барыс. (СПЗБ), *асёклі* мн. — Іўеў. (СПЗБ), *асю́кля* ж., *асю́кле* н., *асю́клі* мн., *сю́клі* мн. — Вілен. р. (СПЗБ).

**Хвошч лугавы:** *хвошч лугавы́* — Маг. р. (Кісялеўскі), *хрушчáй* м. — Ганц. (СПЗБ), *стукí* мн. — Маг. р., Смален. р. (Кісялеўскі), *арэ́шнік свіны́* — Віц. р. (Кісялеўскі).

## Хрэн

Расліна з вялікім шчыльным цёмна-зялёным лісцем і тоўстым мясістым коранем, які выкарыстоўваецца як прыправа.

*хрэн* м. — агульн. (СПЗБ, СЦБ, ТС, ЖС, Кісялеўскі, Ластоўскі, Мат. апыт.), *хрэнь* м., — Астр., Гродз., Дзятл., Ганц. (СПЗБ), *ахрэ́н* м. — Пух. (СЦБ).

## Цвінтарэй

Расліна з ярка-ружовымі кветкамі ў мяцёлчатых, як шчыток, суквеццях і з прадаўгаватым завостраным лісцем.

*цвінтарэ́й* м. — Гродз. р., Маг. р., Навагр. (Кісялеўскі, Сцяшковіч, Верас, Насовіч), *цвінтарэ́я* ж., *цвінтары́я* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *цвінтарэ́йка* ж. — Вет. (Мат. Гом.), *цэнта́ўра* (*цынта́ўра*) ж. — усх.-маг. р., Гом. р., Мёр., Рэч. (Мат. Гом., ЖС, Кісялеўскі, Бялькевіч), *цынта́ўрыя* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ, ЭБ), *цынту́рыя* ж., *цынту́ра* (*цэнту́ра*) ж. — пераважна паўднёва-заходняя частка паўн.-зах. з., Вілен. р. (СПЗБ, ЖС), *ты́сячнік* м. — мясц. (ЭПБ, ЭБ), *залататы́сячнік* м. — Лоеў., Смален. р. (Мат. Гом., Дабравольскі), *тысёнчык* м. — Свісл. (Шаталава), *сардэ́чнік* (*сярдзе́чнік*) м. — Віц. р., Гродз. р. (Кісялеўскі, Каспяровіч, Верас, ЭПБ, ЭБ), *чараўні́к* м. — усх.-пал. р., Гродз. р. (Мат. Гом., Кісялеўскі), *смачо́к* м. — Жытк. (ТС), *гары́чка* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *гарчы́ца* ж. — Мін. р. (Кісялеўскі), *первяне́ц* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *червяне́ц* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі).

## Цімафееўка

Расліна з дробнымі кветкамі, сабранымі ў мяцёлку.

*цімафе́еўка* ж. — паўн.-зах. з., Гродз. р., Гом. р., Браг. (СПЗБ, ЖС, Мат. Гродз., Мат. Гом., Кісялеўскі, Мат. апыт.), *цімахве́еўка* ж. — Мёр. (ЖС), *цімафе́йка* ж. — Гродз. р., Мін. р., Маг. р., Мёр. (ЖС, Кісялеўскі), *цімахве́й-*

*ка* ж. — Мёр. (ЖС), *цімо́шка* ж. — Воран. (Сл. Гродз.), *цімо́тка* ж. — Латгал. р. (СПЗБ), *тымо́тка* ж. — Беластоц. р. (СПЗБ), *матэ́йка* ж. — Гродз. р. (Мат. Гродз.), *се́янка* ж. — Воран. (СПЗБ), *трава́ ме́жава* — Маг. р. (Кісялеўскі).

## Цмен

Травяністая расліна з дробнымі жоўтымі ці аранжавымі кветкамі, сабранымі ў шарападобныя кошыкі; ужываецца як прыправа.

*цмен* м. — Маг. р., Гом. р. (Кісялеўскі), *цмян* м. — віц.-маг. г. (Кісялеўскі), *цмін* м. — Віц. р. (Кісялеўскі), *цмен жо́ўты* — Маг. р. (Кісялеўскі), *сухо́тнік* м. — Слон., Іўеў., Навагр., Брэсц. (ДСБ, Сцяшковіч, Ластоўскі, Мат. апыт.), *сухо́ткі* мн. — Смарг. (Сл. Гродз.), *сухо́тнічкі* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *сухазе́лле* н. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *сухаве́йка* ж. — Гродз. р. (Сл. Гродз., Кісялеўскі, Верас), *сухадо́лька* ж. — Астр. (Сцяшковіч), *сухалёткі* мн. — Чэрв. р. (Шатэрнік), *бяссме́ртнік* м. — усх.-пал. р., Гом. р., Дзятл., Слон. (ГЧ, Кісялеўскі, Сцяшковіч, Мат. апыт.), *несмяро́тнік* м. — мясц. (Ластоўскі), *несмяртэ́льнік* м. — Паст. (СПЗБ), *ніту́біч* м. — Ваўк. (СПЗБ, ЭСБМ), *ніту́піч* м. — Гродз. р. (Верас), *ніту́ніч* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *драмо́тка* ж., *драмо́ткі* мн. — Паст. (СПЗБ), *драму́лі* мн. — Астр. (СПЗБ), *пясо́чнік* м. — Іван. (ДСБ), *ага́ткі* мн. — Свісл. (Шаталава), *зо́рачкі* мн. — Дзятл. (Сл. Гродз.), *залату́шнік мужчы́нскі* — Вілен. р. (Кісялеўскі), *нячуйве́цер* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас, ЭПБ), *змяёўнік лясны́* — Віц. р. (Кісялеўскі, ЭПБ, ЭБ), *кацяла́пкі* мн. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ, ЭБ), *грымо́тнік* м. — Вілен. р. (Кісялеўскі, ЭПБ).

**Цыбуля мядзведжая,** гл. **Чарамша.**

## Цыкорыя

Светлалюбівая расліна з ярка-сінімі язычковымі кветкамі, сабранымі ў буйныя кошыкі.

*цыко́рыя* ж.,*цыко́р'я* ж. — Маг. р., Гом. р., зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *цыко́ра* ж. — Мін. р., Чэрв. р. (Кісялеўскі, Шатэрнік), *падаро́жнік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас), *падро́жнік* м. — зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *мачаўні́к* м. — зах.-пал. г. (Кісялеўскі, ЭСБМ), *мацаўні́к* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас), *сухо́тнік* м. — Петр. (ЛП), *гаро́шак* м. — Жытк. (ЛП), *падрыу́нік палявы́* — Стол. (ТС).

### Цмянец

Высокая расліна з белымі або ружовымі кветкамі ў парасоніках і з перыстым лісцем.

*цмя́нец* м. — Маг. р., Гродз. р. (Кісялеўскі), *цмя́нец дзі́кі* — Маг. р. (Кісялеўскі), *дзяньча́ль* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ).

### Цяцюшнік

Расліна з белымі ці бледна-фіялетавымі кветкамі, якая прысмоктваецца каранямі да іншых травяністых культур і часткова харчуецца за іх кошт.

*цяцю́шнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *цяцу́шнік* м. — Краснап. (Бялькевіч), *зязю́лька* ж. — Гродз. р., Смарг. (Мат. мін.-мал., Кісялеўскі, ЭПБ, ЭБ), *зязю́лькі* мн. — Светлагор. (Мат. Гом.), *пе́льнік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас, Ластоўскі), *чабрэ́ц* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *жабрэ́ц* ж. — Маладз. (СЦБ), *шчыр* м. — Мін. р. (Кісялеўскі, ЭПБ, ЭБ), *кашэ́чы сардэ́чнік* — віц.-маг. г. (Кісялеўскі, ЭПБ, ЭБ).

### Чабор

Невялікая расліна з прыемным духмяным пахам і дробнымі ружова-ліловымі кветкамі на вяршыні сцяблінак.

*чабо́р* м., *чабо́рык* м. памянш., *чабо́рчык* м. памянш. — агульн., Вілен. р., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Гом., ЛП, ЖС, Кісялеўскі, Бялькевіч, Шатэрнік, Верас,

Сцяшковіч, Насовіч, Ластоўскі, Станкевіч, Мат. апыт.), *чóбар* м. — Верхнядзв., Шкл., Маг., Карм. (ЛАБНГ), *чá-бар* м. — Беш., Сен., Шчуч. (ЛАБНГ), *чáбер* м. — Мсцісл., Дзятл., Браг. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *чáбер лілóвы* — Маг. р. (Кісялеўскі), *чабёр бéлы* — Маг. р. (Кісялеўскі), *чáбур* м. — Гродз. р., Круп., Калінк. (ЛАБНГ, Кісялеўскі), *чóмбар* м., *чóнбар* м., *чэнбар* м., *чóмбрык* м. памянш., *чанбóрак* м. памянш., *чымбóрык* м. памянш. — паўн.-зах. з., усх.-пал. р., Віц. р., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЛП, Кісялеўскі, Мат. апыт.), *чóмбер* (*чóмбір*) м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *чóмбрак* м. — Стол. (ЛАБНГ), *чóмбрык* м., *чэмбрык* м. — Гом. р., Гродз. р. (Кісялеўскі), *чамбóр* м., *чымбóр* м., *чынбóр* м. — паўн.-зах. з., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. мін.-мал., Ластоўскі, Мат. апыт.), *чамбóр крáсны* — Маг. р. (Кісялеўскі), *цымбóр* м., *цымбéр* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *чамбóрак* м., *цымбóрак* м. — Гродз. р. (Сл. Гродз., Кісялеўскі, ЭПБ), *чамбарэц* м. — Слон. (Мат. апыт.), *чабó-рык* м. — Гродз., Слуц., Пух., Асіп., Бабр., Жлоб. (ЛАБНГ), *чабарóк* м. — Старадарож., Светлагор., Буда-Каш. (ЛАБНГ), *чóбрык* м. — Гом. (ЛАБНГ, ГЧ, Янкова), *цэбрык* м. — Гом. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *чабрэц* м. — зах.-пал. г., спарадычна ўсх. з., Гродз. р., Бераст., Навагр., Барыс., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Кісялеўскі, Ластоўскі), *шчабрэц* м. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *шчабрýшка* ж. — Пін. (ЛАБНГ), *чабрýк* м. — Вілен. р. (СПЗБ), *чабурэц* м. — зах.-пал. г., Лельч. (ЛАБНГ), *чабярыца* (*чэберыца*) ж. — Жытк. (ТС), *чабрэйка* м. — Гл. (ЛАБНГ), *бара́нкі* мн., *бара́нчыкі* мн. — Гарад. (ЛАБНГ), *бара́начкі* мн. — Бял. (ЛАБНГ, НС), *кацярынка* ж. — Стол. (ЛАБНГ, ЖС), *мацярынка малáя* — Буда-Каш. (ЛАБНГ), *мацярдýшка* ж. — Мін. р. (Кісялеўскі, ЭСБМ), *мацяржáнка* ж. — усх.-пал. р., Гродз. р. (ЛП, Кісялеўскі, ЭПБ, ЭСБМ), *мáтачнік* (*мáташнік*) м. — Гом., Рэч. (Мат. Гом., ЭСБМ), *марýшкіна травá* — Латгал. р. (СПЗБ, ЭСБМ), *лябéдка* ж. — Лельч. (ЛАБНГ), *лянóк* м. — Лельч. (ЛП, ЭСБМ), *калатóвічкі* мн. — Маг. р. (Кісялеўскі), *сімія́н* м. — Мін. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *цімія́к* м. — Вілен. р. (Кісялеўскі, ЭПБ).

## Чальчак

Расліна з буйнымі малінавымі кветкамі, сабранымі ў перарывістых коласападобных мяцёлках.

*чальча́к* м. — віц.-маг. г. (Кісялеўскі, Каспяровіч), *слёзнік* м. — Гродз. р., Віц. р., Карм., Жытк. (Мат. Гом., Кісялеўскі, Верас, Ластоўскі, ЭПБ, ЭБ), *плаку́н* м. — Жытк. (ТС, Ластоўскі), *пла́кса* ж. — Буда-Каш., Жытк. (Мат. Гом.), *гарлёўнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ, ЭБ), *ляўко́нія палява́я* — Мін. р. (Кісялеўскі, ЭПБ, ЭБ), *ра́кавыя шы́йкі* — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ, ЭБ), *тро́йнік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас), *вербяні́ца* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭСБМ), *дзярбе́ннік* м. — Буда-Каш. (Мат. Гом.), *васілёк* м., *васі́лькі* мн. — Жытк., Стол. (ТС), *кра́ўпіца* ж. — Віц. р. (Кісялеўскі, ЭСБМ), *кабыля́к* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *мя́та кабы́лля* — Гродз. р. (Кісялеўскі), *бо́бік баравы́* — Гродз. р. (Кісялеўскі), *цвярдзя́нка* ж. — Смален. р. (Кісялеўскі).

## Чамярыца

Ядавітая расліна з жаўтавата-зялёнымі кветкамі ў буйным мяцёлчатым суквецці і з шырокім лісцем.

*чамяры́ца* ж. — віц.-маг. г. (Бялькевіч, Каспяровіч, Станкевіч), *чамары́ца* ж. — Жытк. (ТС), *чамяры́чнік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас, Ластоўскі), *чэ́мер* м. — Мёр., Чэрык., Карм., Ветк., Гом., Добр., Светлагор., Нясв., Шчуч., Беластоц. р. (СПЗБ, Мат. мін.-мал., Мат. Гом., ЖС, Ластоўскі), *чамо́р* м. — Стол. (ЖС), *чаме́р* м. — Гродз. р., Астр. (Сл. Гродз., Верас.), *чаме́рнік* м. — мясц. (Ластоўскі).

## Чарамша, мядзведжая цыбуля

Расліна з двума шырокімі вострымі пляскатымі лістамі, клубень якой мае смак часнаку.

*зайцо́ў* (*за́йчыкаў, за́ечы*) *часно́к* — Стол., Жытк. (ТС), *чысно́к лугавы́* — Чач. (Мат. апыт.), *часны́к палявы́* —

Гродз. р. (Верас), *часно́к мядзве́жы* — Маг. р. (Кісялеўскі), *дзі́ка цыбу́лька* — Жытк. (ТС), *за́йцава* (*за́йчыкава*) *цыбу́ля* (*цыбу́лька*) — Жытк. (ТС), *гусі́ная цыбу́лька* — Лун. (ЛП).

**Чарнагалоў,** гл. **Гарлянка.**

**Чарнобыль,** гл. **Палын.**

**Чартапалох**

Высокая калючая расліна з пурпуровымі кветкамі ў кошыку.

*чартапало́х* м. — паўн.-зах. з., Мін. р., усх.-пал. р. (СПЗБ, ТС, Кісялеўскі, Шатэрнік, Ластоўскі, Мат. апыт.), *дзяды́* мн. — Мін., Чэрв., Вілен, Круп. (СПЗБ), *дзе́дкі* мн. — Лельч. (Мат. Гом.), *дзядо́ўнік* м. — Маг. р., Смален. р. (Кісялеўскі, Ластоўскі, ЭПБ, ЭБ), *булдо́ўнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *калю́чка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *калюкі́* мн. — Лельч. (ЖС), *бадзюлі́* мн. — Гом. р. (Кісялеўскі, ЭПБ, ЭБ, ЭСБМ), *будзя́к* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *асо́т* м. — Маг. р., Мін. р., Смален. р. (Кісялеўскі, Ластоўскі), *асо́т палявы́* — Маг. р. (Кісялеўскі), *растро́п* м. — Гродз. р., Маг. р. (Кісялеўскі, Верас, Насовіч, Станкевіч, ЭПБ, ЭБ), *шандзёлы* мн., *шамдзёлы* мн. — Чэрв., Уздз. (СПЗБ), *дагі́ль* м. — Вілен. р. (СПЗБ), *чо́ртавы пазуры́* — зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *старо́жнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *ло́пух* м. — Слуц. (ЭСБМ).

**Чыстацел,** гл. **Падтыннік.**

**Чысцік**

Расліна з фіялетава-пурпуровымі кветкамі ў несапраўдных мяцёлках і з шурпатаваласістым сцяблом.

*чы́сцік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *чыстаце́л* м. — Гом. р. (Кісялеўскі), *жыві́чка* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас), *блашчы́чнік* м. — Гродз. р. (Верас), *галаве́нька* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі, Станкевіч, ЭПБ), *во́ўчая крапі́ва* — Маг. р., Мін. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *во́ўчая мя́та* — Чэрв.

р., Маг. р., (Кісялеўскі, Шатэрнік, ЭПБ), *зя́бра палява́я* — Віц. р. (Кісялеўскі).

## Чысцяк

Невялікая расліна з адзіночнымі залаціста-жоўтымі кветкамі і мясістым бліскучым лісцем; цвіце ранняй вясной.

*градаўні́к* м. — Стол. (ЛП), *сардэ́чнік* м. — Петр. (ЛП).

## Шалфей

Расліна з буйнымі духмянымі кветкамі ў верхавінкавых коласападобных суквеццях і простым ці перыстым лісцем.

*шалфе́й* м. — Віц. р. (Кісялеўскі), *шалве́й* м. — мясц. (Ластоўскі), *шальві́я* ж.,*шальве́я* ж. — Гродз. р., зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *шалфе́я* ж. — Гродз. р. (Верас), *шальва́* ж. — зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *шаўлюга́* ж. — Ельск. (Мат. Гом.), *дужэ́ц* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас, Ластоўскі), *жаўрэ́ц* м. — Віц. р. (Кісялеўскі, ЭПБ).

## Шпажнік, гладыёлус

Рэдкая расліна з мечападобным лісцем і пурпуровымі або пурпурова-фіялетавымі, зрэдку белымі кветкамі ў коласе.

*шпа́жнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *шпа́тнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *зро́чнік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *цыбу́лька* ж. — Вілен. р. (Кісялеўскі, ЭБ), *часно́к палявы́* — Віц. р. (Кісялеўскі), *кульчы́бер* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭБ, ЭСБМ).

## Шпергель, гл. Свінакроп.

## Шчаўе

Расліна з сакаўным лісцем, якое мае кіслы смак.

*шча́ўе* (*шча́ўя, шча́ўё*) н. — паўн.-зах. з., цэнтр. з., усх.-маг. р., Гом. р., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Кісялеўскі,

Бялькевіч, Каспяровіч, Сцяшковіч), *шчаўе́* н., *шчаўя́* н. — Ашм., Іўеў., Ганц. (ЛАБНГ, Ластоўскі), *шчо́ўе* н. — паўн.-зах. з., Вілен. р. (СПЗБ, Шатэрнік), *шчаў* м. — Паст. (ЛАБНГ), *шчаўлю́к* м. — Віц. р. (Каспяровіч), *шча́ва* ж. — Лоеў. (Янкова, НЛГ), *шча́вель* м. — асн. мас. г., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ГЧ, ЖС, Кісялеўскі, Бялькевіч, Верас, Ластоўскі, Растаргуеў, Янкоўскі), *шчаве́ль* м. — паўн.-зах. з., усх.-маг. р., Лоеў., Лельч. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч, Янкова), *шчаве́ль праўдзівы* — Маг. р. (Кісялеўскі), *шчаве́й* м. — зах.-пал. г., гродз.-бар. г., Віц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., НЛ, ДСБ, Кісялеўскі, Сцяцко, Сцяшковіч, Цыхун, Мат. апыт.), *шча́вей* м. — Светлагор. (ЛАБНГ), *шча́вер* м., *сво́йскі шча́вер* — усх.-пал. р. (ЛАБНГ, ТС), *шчаве́льнік* м. — Старадарож. (ЛАБНГ, СПЗБ), *шчаўні́к* м. — Гродз, Слон., Віц. р. (Кісялеўскі, Мат. апыт.), *шчаву́х* м., *шчаву́к* м. — зах.-пал. г., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *чаву́х* м. — Пруж., Брэсц. (ДСБ, ЖС), *кіслі́ца* ж. — віц.-маг. г., Стаўб., Латгал. р., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Кісялеўскі, Каспяровіч, Шаталава, ЭСБМ), *кісляні́ца* ж. — Віц. р. (Кісялеўскі), *квасо́к* м. — усх.-пал. р. (ТС, ДСБ, ЭСБМ), *о́барацень* м. — Свісл. (Сл. Гродз.), *ру́дзік* м. 'шчаўе лугавое' — Лаг. (СПЗБ), *шчаву́к* м. 'разнавіднасць шчаўя' — Гл. (СПЗБ), *за́льва* ж. 'маладое шчаўе' — Лях. (ДСБ, ЖС, ЭСБМ).

**Шчаўе вераб'інае, або малое, ці шчаўлюк**: *шчаўлю́к* м., *шчаўлю́к палявы́* — віц.-маг. г. (Кісялеўскі, Ластоўскі), *шчаву́к* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *грабі́нец* м. — Маст. (СПЗБ), *вераб'ёў* (*вороб'ёў*, *воробе́йкоў*, *горобе́йкоў*) *шча́вер*, *вераб'ёў* (*вороб'ёў*, *воробе́йкоў*, *горобе́йкоў*) *шчаве́р* — Жытк., Лельч. (ТС, ЖС), *за́йчыкаў шча́вер* — Жытк. (ТС), *вераба́тнік* м. — Гродз. р. (Цыхун).

**Шчаўе конскае**: *шча́ўе ко́нскае* — Віц. р., Мін. р., Хойн. (ГЧ, Кісялеўскі, Каспяровіч, Шатэрнік, ЭСБМ), *шча́вель* (*шчаве́ль*) *ко́нскі* (*ко́ньскі*) — усх.-маг. р., Мёр., Чач., Слон., Смален. р. (ЖС, Кісялеўскі, Бялькевіч, Насовіч, Дабравольскі, Ластоўскі, Мат. апыт.), *шчаве́й*

*ко́нскі* (*ко́ньскі*) — Віц. р., Слон. (Кісялеўскі, Мат. апыт.), *шчаве́р ко́нскі* (*ко́ньскі*) — Лельч., Жытк. (ТС, ЛП), *шчаўні́к* (*шчыўні́к*) *ко́нскі* (*ко́ньскі*) — Слон. (Мат. апыт.), *шчаў ко́нскі* — зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *квасо́к ко́нскі* — Стол. (ТС), *пу́чча ко́нскае* — Краснап. (Бялькевіч), *бура́к ко́нскі* — Жытк. (ТС), *шчаўні́к крыні́чны* — Віл. (СПЗБ), *шчаўлю́к крыні́чны* — Маг. р. (Кісялеўскі), *шчаўлю́к вадзяны́* — Маг. р. (Кісялеўскі), *шчаву́к* м. — зах.-пал. г., Маг. р. (Кісялеўскі), *шчаве́й* м. — Стаўб. (З нар. сл.), *шчаву́льнік* м. — Ушацк. (НЛ), *шчаўлю́к* м. — Мсцісл. (Бялькевіч), *шчаву́к* м., *шчаву́х* м. — Віл., Мядз., Вілен. р. (СПЗБ), *каншча́к* м. — Гродз. р., Ваўк. (Сцяшковіч, Цыхун), *кабяльню́х* м. — Кобр. (НЛ), *лапа́тнік* м. — Маг. р., Смален. р. (Кісялеўскі, Дабравольскі), *падваро́тнік* м. — Ашм. (СПЗБ), *лапу́х гла́дкі* — Ашм. (СПЗБ), *карпа́ч* м. — зах.-пал. г., Маг. р. (Кісялеўскі, ЭСБМ), *карна́ч* м. — Віц. р. (Кісялеўскі, ЭСБМ), *бараба́с* м. — Ваўк. (Сл. Гродз.).

**Эльсгольцыя**

Расліна з вельмі вострым пахам.

*мялі́са* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *мя́та псяр-ская* (*саба́чая*) — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *псярка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *мя́та падты́нная* — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ).

**Эстрагон**

Від палыну з вялікай колькасцю эфірных алеяў, які ўжываецца як вострая прыправа.

*астраго́н* м. — мясц. (ЭСБМ), *экстраго́н* м. — мясц. (Ластоўскі), *дзе́медзь* (*дзе́мяць*) м. — Вілен. р. (СПЗБ), *цы́прус* м. — мясц. ( Насовіч).

**Ядрушка**

Расліна з вузкім даўгаватым лісцем і дробнымі духмянымі светла- ці лілова-пурпуровымі кветкамі, сабранымі ў гронкі.

*ядру́шка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *ручнікí* мн. — Мін. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *стáрчык* м. — Мін. р. (Кісялеўскі).

## Яснотка

Расліна з белаватым, нібы апыленым зубчатым лісцем і жоўтымі, чырвонымі ці ружовымі кветкамі; падобная на крапіву, але не стрыкаецца.

*глухáя крапíва* — асн. мас. г., Вілен. р. (СПЗБ, ЛП, Кісялеўскі, Бялькевіч, Верас, Станкевіч, Ластоўскі, ЭБ, Мат. апыт.), *глухáя бракíва* (*глухá брокíва*) — Жытк. (ТС), *крапíва бéлая* — Гродз. р. (Кісялеўскі), *крапíва пяку́чая* — Стол. (ЛП), *крапíва сабáч'я* — Жытк. (ЛП), *крапíва дрóбная* — Стол. (ЛП), *крапíва* ж., *пракíва* ж. — усх.-пал. р. (ЛП), *яснóтка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *шáнта*, *шáнта чырвóная* — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас, ЭПБ), *шáндра* ж. — Лельч. (ЛП), *мядóўнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ, ЭСБМ), *пусты́рнік* м. — Слон. (Мат. апыт.), *сляпáк* м. — Астр. (СПЗБ).

## Ястрабок

Апушаная расліна, пераважна з бязлістым сцяблом і дробнымі ў кошыках кветкамі ад жоўтага да аранжава-чырвонага колеру.

*ястрабóк* м., *ястрабóк лугавы́* — Маг. р. (Кісялеўскі), *ястрэ́ц* м. — Гродз. р., Віц. р. (Кісялеўскі, Верас, Ластоўскі), *лагунéц* м., *лганéц* м. — віц.-маг. г. (Кісялеўскі, Каспяровіч, ЭСБМ), *манéц* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *сакóльнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *самíцічнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *цыкóр'я палявáя* — Мін. р. (Кісялеўскі), *гарку́ша* ж. — Смален. р. (Кісялеўскі), *валасéнь* м. — віц.-маг. г. (Кісялеўскі, Каспяровіч), *валасня́к* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *бялкí* мн. — Маг. р. (Кісялеўскі), *бацвíнчык* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *шалёнчык* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *зéлле ад трáсцы* — Гродз. р. (Верас).

### Ятрышнік

Расліна з плямістым лісцем і бэзава-фіялетавымі, ружовымі або жоўтымі кветкамі ў коласападобным суквецці.

*зязюлька* ж. — Гродз. р., Мін. р., Маг. р. (Кісялеўскі, Верас, ЭПБ), *зяўзюлька* ж. — Мёр. (ЖС), *зязюлькі* мн. — усх.-маг. г., Хойн. (ГЧ, Насовіч), *зяўзюльнік* м. — Петр., Лельч. (ЛП), *куку́лька* ( *куку́лка*) ж. — Мін. р., Маг. р., Чач. (Мат. Гом., Кісялеўскі, Шатэрнік), *ку́каўка* ж. — Вілен. р. (Кісялеўскі, ЭБ, ЭСБМ), *куку́шка* ж. — усх.-маг. г., Смален. р. (Кісялеўскі, Шатэрнік, Мат. апыт.), *зязюліны слёзы*, *зязюльчыны слёзы* — Гродз. р., Маг. р. (Кісялеўскі, Верас), *зязюліны ручнічкí* (*зовзу́ліны ручнычкы́*) — Стол. (НЛ), *пада́рак зязюлін* — Гродз. р. (Кісялеўскі), *ру́чка чо́ртава* — Маг. р. (Кісялеўскі), *бо́жжа ру́чка* — Маг. р. (Кісялеўскі), *канва́лія* ж., *канва́лія лугава́я* — Мін. р. (Кісялеўскі), *зе́лле чырво́нае* — Гродз. р., зах.-пал. г. (Кісялеўскі, Верас, ЭБ), *сале́п* м., *сале́пны ко́рань* — Гродз. р. (Кісялеўскі), *каманí чнік* (*каманíшнік*) м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *язве́жнік* м. — Віц. р. (Кісялеўскі, Ластоўскі), *сардэ́чнік* (*сярдзе́чнік*) м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *таўка́н* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *таўку́н* м. — мясц. (ЭБ), *чымяры́ца* ж. — Стол. (ЛП), *лю́бжа* ж., *лю́бша* ж. — зах.-бран. р. (ЭСБМ).

## 1.4. ЛЯСНЫЯ ТРАВЯНІСТЫЯ РАСЛІНЫ

### Агаткі

Невялікая расліна, зростак белых або ружаватых кветачак якой на невысокай кветаножцы нагадвае каціную лапку.

*ага́ткі* мн. — агульн. (Мат. апыт.), *га́ткі* мн. — Пух. (Мат. мін.-мал.), *бага́ткі* мн. — Мядз. (ЖС), *зага́ткі* мн. — Навагр. (ЛАБНГ), *аўду́лькі* мн. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ),

*дзед* м. — Пол. (ЛАБНГ), *нагаткі* мн. — Віц., Дубр., Касц. (ЛАБНГ), *бяссмертнік* м. — Верхнядзв. (ЛАБНГ, СПЗБ), *грызнік* м. — Мін. р., Лаг., Добр. (ЛАБНГ, СПЗБ, Кісялеўскі, Насовіч), *драмулі* мн. — Астр. (ЛАБНГ), *зайцава капуста* — Лун. (ЛАБНГ), *кашачыя лапкі* — усх. з., Шчуч. (ЛАБНГ), *лапкі* мн. — Шчуч., Шкл., Мсцісл. (ЛАБНГ), *кацалапкі* мн. — Гом. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *каты* мн. — Клецк. (ЛАБНГ), *каткі* мн. — Мін. р., Арш., Краснап., Добр. (ЛАБНГ, Кісялеўскі, ЭПБ), *кочкі* мн. — Зэльв. (ЛАБНГ), *коцікі* мн. — спарадычна. агульн. (ЛАБНГ), *магільнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *зелле мёртвае* — Гродз. р. (Кісялеўскі), *мудэчкі* мн. — Беш. (ЛАБНГ), *ніжаперніца* ж. — Гом. р. (ЭСБМ), *нітубіч* м. — Ваўк. (ЛАБНГ), *пераскок* м. — Чач. (ЛАБНГ), *падбел* м. — Лельч. (ЛАБНГ), *пух* м. — Віц. р. (Каспяровіч, Кісялеўскі), *сухотнік* м. — паўн.-зах. д., Валож. (ЛАБНГ, Кісялеўскі, ЭПБ), *сухапут* м. — зах.-пал. г., Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *сухавей* м. — Гродз., Ашм., Іўеў. (ЛАБНГ), *сухавеянкі* мн. — Ваўк. (ЛАБНГ), *сухавянкі* мн. — Ваўк. (ЛАБНГ), *сухаветачкі* мн. — Пух. (ЛАБНГ), *сухалеткі* мн. — Іўеў. (ЛАБНГ), *сухапутнік* м. — Бых. (ЛАБНГ), *сухотнік палявы* — мясц. (ЭПБ), *скочка* ж. — Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *скочыкі* мн. — Мін. р. (Кісялеўскі, Насовіч), *сабачкі* мн. — Касц. (ЛАБНГ), *стакротка* ж. — Мін. р. (Кісялеўскі), *срэбнік* м. — Івац. (ЛАБНГ), *цмен* м. — Маг. р., Пол., Глыб., Віл., Тал., Чэрв. (ЛАБНГ, Кісялеўскі), *шастуны* мн. — Лун. (ЛАБНГ), *шаўлея* ж., *шаўлейка* ж. — Пін. (ЛАБНГ), *шчасце* н. — зах.-пал. г. (Кісялеўскі).

### Ажыка

Расліна сярэдняй вышыні з шырокімі пёрыстымі доўгімі лістамі.

*плакса* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *сітніца* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *язычкі* мн. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *пырнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *ячменнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *трава лясная* — Гродз. р. (Кісялеўскі).

**Аканіт,** гл. **Боцікі.**

**Аквілегія,** гл. **Ворлік.**

**Алісум,** гл. **Бурачок.**

**Анемона,** гл. **Кураслепнік.**

**Арляк,** гл. **Папараці.**

**Арніка,** гл. **Купальнік.**

**Артылія, рамішыя**

Дробная вечназялёная лекавая расліна хвойных і мяшаных лясоў з гронкай белых дробных кветачак на вяршыні сцябліны.

*сісінéц* м. — Віц. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *станóўнік бáбскі* — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ).

**Асліннік, начная свечка**

Буйная расліна з бледна-жоўтымі кветкамі, якая расце па пясках каля дарог, на ўскрайках бароў.

*дзівáнна дзíкая* — зах.-пал. г. (Кісялеўскі, ЭПБ), *дзявáнна дзíкая* — Гродз. р. (Кісялеўскі), *бáбек пóльны* — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *сінíла* н. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *палявáя ляўкóнія* — Мін. р. (Кісялеўскі, ЭПБ).

**Астрагал,** гл. **Куравай.**

**Барадаўнік,** гл. **Рудзянец.**

**Бальзамін**

Расліна, якая расце па нізкіх месцах у лесе і каля рэчак; утрымлівае араматычныя смолы.

*бальсамíна лéкавая* — Мін. р., Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *бельсамíна лесавáя*, *бельсамíна* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі),

*бальсамін* м. — паўн.-зах. з. (Станкевіч), *бальзамін* м. — Гом. р. (Кісялеўскі), *бальза́н* м. — Бяроз. (Шаталава), *нядо́тка* ж. — мясц. (Ластоўскі), *пстрыкаўка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *прыгаўка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ).

## Барвенак

Расліна з ляжачымі сцяблінамі з вечназялёным лісцем; трапляецца на паўночным захадзе і захадзе Беларусі пераважна на месцы старых пахаванняў.

*барве́нак* м. — Зэльв., Жытк. (ЭСБМ, ТС), *бярве́нак* м. — Гом. р., Гродз. р. (Мат. Гом., Сл. Гродз.), *барвяне́ц* м. — Гродз. р. (Сл. Гродз.), *барві́нак* м. — зах.-пал. г., Віц. р. (Кісялеўскі), *барві́нец* м. — зах.-пал. г., Віц. р., Слон. (Кісялеўскі, Мат. апыт.), *абарві́нец* — Слон. (Мат. апыт.), *барлі́нак* м. — Гродз. (Цыхун), *страме́нкі* мн., *страме́нты* мн. — Пін. (ЛП, СПЗБ), *бу́слікі* мн. — Стол., Петр. (ЛП), *замозыліна* ж. — Кам. (ЖНС).

## Баркун

Буйная расліна з дробным трайчастым лісцем і дробнымі белымі кветачкамі, сабранымі ў шматкветкавыя гронкі.

*барку́н* м. — Гродз. р., Маг. р., Вілен. р. (СПЗБ, Кісялеўскі, Сцяшковіч, Верас, Станкевіч, Мат. апыт.), *бурку́н* м. — паўдн. р. (ЛАБНГ, ТС), *берку́н* м. — мясц. (ЭСБМ), *брыку́н* м. — Лельч. (ЖС), *брызаўка* ж. — паўн.-зах. з. (Верас), *то́мка* ж. — Маг., Лёзн. (Каспяровіч, Кісялеўскі, ЭПБ), *папо́ўнік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *маляснік* м. — Віц. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *сніну́ха* ж. — Віц. р. (Кісялеўскі, ЭПБ, Ластоўскі), *до́ннік* м. — Паст., Слон. (СПЗБ, Мат. апыт.).

## Блюшчык

Невялікая расліна з непрыемным пахам лісця і кветачак у яго пазухах.

*плю́шчык* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *расхо́днік* м. — Віц. р., Маг. р., зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *саба́ччая мя́та* — Смален. р. (Кісялеўскі), *каці́ная мя́та* — Маг. р., Смален. р. (Кісялеўскі), *каша́ччая мя́та* — Мсцісл. (Бялькевіч), *хме́лік* м. — (ЛП).

**Боцікі, аканіт**

Буйная расліна з жаўтаватымі шлемападобнымі кветкамі.

*бо́цікі* мн. — мясц. (Кісялеўскі), *мышабо́й* м. — Віц. р. (Кісялеўскі), *ваўчабо́й* м. — мясц. (ЭСБМ), *барча́к* м. — мясц. (ЭСБМ), *бару́нка* ж. — мясц. (ЭСБМ, Ластоўскі).

**Братаўка, іван-ды-мар'я**

Невялікая расліна з жоўтымі кветачкамі з сінім верхам.

*брат з сястро́й* — паўн.-зах. з., Гродз. р., Віц. р., Слон. (Станкевіч, Верас, Мат. апыт.), *брат-сястра́* — паўн.-зах. з., Маг. р. (Кісялеўскі, Станкевіч), *бра́цік-сястры́ца* — Смален. р. (Кісялеўскі), *бра́таўка* ж., *брато́ўка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *бра́ткі* мн. — Жытк., Стол., Лоеў. (ТС, Янкова), *іва́н-да-ма́р'я* — Віц. р., Навагр. (Кісялеўскі, Мат. апыт.), *мар'я́нка* ж. — Навагр. (ЖС), *сачо́ўка* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *магі́льнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *купа́ла* ж. — Мёр. (ЖС), *мяду́нка* ж. — Вілен. р. (Кісялеўскі), *чмяльні́к* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *дзень і ноч* — Гродз. р. (Кісялеўскі), *зе́брыкі* мн. — Ельск. (ЖС, ЭСБМ), *жару́ха* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *іване́ц* м. — Віц. р. (Кісялеўскі), *зване́ц* м. — Мін. р. (Кісялеўскі), *дзване́ц* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі).

**Браткі,** гл. **Фіялка.**

**Брусніцы**

Кусцікавая расліна з вечназялёным лісцем і з гронкамі бліскучых чырвоных спажыўных ягад.

*брусніцы* мн. — агульн. (АЛА, СПЗБ, ЖС, ЛП, ТС, Кісялеўскі, Шаталава, Юрчанка, Станкевіч, Мат. апыт.), *бруиніцы* мн. — спарадычна агульн. (АЛА, СПЗБ, ЖНС, Кісялеўскі, Бялькевіч, Шатэрнік, Верас, Сцяшковіч, Цыхун, Юрчанка, Дабравольскі, Мат. апыт.), *брусніка* ж. — Маг. р., Гом. р., Смален. р., Навагр. (АЛА, Кісялеўскі, Дабравольскі, Мат. апыт.), *брусіны* мн. — Ваўк., Слон. (СПЗБ, Мат. апыт.), *брусініцы* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *брусляніцы* мн. — Жытк. (ТС), *бружыніцы* мн. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *баруўкі* мн. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *сардэ́чнік* (*сярдзе́чнік*) м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *му́чальнік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *спары́шка* ж. — Гродз. р. (Мат. Гродз.).

### Букашнік

Невялікая расліна, якая цвіце светла-жоўтымі кветачкамі ў суквецці на высокай ножцы.

*начакве́т* м. — Віц. р. (Кісялеўскі, ЭПБ, Ластоўскі), *начнік* м. — Віц. р., Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас, ЭПБ), *начніца* ж. — Віц. р. (Кісялеўскі), *во́бмарак* м. — Віц. р. (Кісялеўскі), *абмаро́к* м. — Маг. р. (Кісялеўскі).

### Буквіца

Невялікая расліна з дробнымі фіялетава-блакітнымі кветачкамі, сабранымі ў шчыльныя верхавінкавыя галоўкі.

*залатнік* м. — Смарг., Ветк. (Мат. мін.-мал., Мат. Гом.), *златнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *бу́квіца* ж. — Маг. р., Віц. р., Смален. р. (Каспяровіч, Кісялеўскі), *буко́віца* ж. — Смален. р. (Дабравольскі), *глуха́я крапіва* — мясц. (ЭПБ).

### Бурачок, алісум, каменнік

Невялікая рэдкая расліна з дробнымі бледна-жоўтымі кветкамі ў прадаўгаватых суквеццях на вяршынях парасткаў.

*пасме́ртнік* м. — Жытк. (ЛП), *бяссме́ртнік* м. — Жытк., Петр. (ЛП), *перавóратнік* м. — Лельч. (ЛП), *падбе́л* м. — Лельч. (ЛП), *ка́менны цвятóк* — Стол. (ЛП).

## Бядрынец

Духмяная расліна з дробнымі кветкамі, сабранымі ў складаныя шматпрамянёвыя парасоны.

*бядры́нец* м. — Мін. р., Маг. р. (Кісялеўскі), *бе́дранец* м. — мясц. (Насовіч), *едране́ц* м. — зах.-пал. г., Маладз. (Мат. мін.-мал., Кісялеўскі, ЭПБ, Ластоўскі), *ядры́нец* м. — Гродз. р., зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *бярджы́нец* м. — мясц. (ЭПБ), *беджане́ц* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *бране́ц* м. — Гродз. р., Маг. р. (Насовіч, Кісялеўскі), *брóнец* м. — мясц. (Насовіч), *варане́ц* м. — Гродз. р., Уздз., Жытк. (ТС, Мат. мін.-мал., Кісялеўскі), *пятру́шка* — Маг. р. (Кісялеўскі), *пастарна́к* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *пе́рац* м. — Мін. р. (Кісялеўскі), *балóтні кроп* — Жытк. (ЛП), *маркóўнік* м. — Стол., Петр. (ЛП), *дзя́гель* м. — зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *дзя́нгель* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *аны́ш* (*ганы́ш*) м. — мясц. (ЭСБМ).

## Бялюк

Невялікая расліна паўднёвага захаду Беларусі з вузкім лісцем і белымі кветкамі на тонкіх кветаножках, сабранымі ў мяцёлку або гронку.

*вянóчнік* м. — мясц. (Ластоўскі), *білю́к* м. — мясц. (ЭПБ).

**Бяссмертнік,** гл. **Цмен.**

**Вагавік,** гл. **Ясколка.**

## Вапнаўка

Рэдкая шарападобная разгалінаваная расліна з белымі кветачкамі ў мяцёлцы.

*ва́пнаўка* ж. — Гом. р. (Кісялеўскі).

## Варанец

Рэдкая расліна з буйным складаным лісцем на доўгіх чаранках і дробнымі белымі кветачкамі ў гронках.

*варане́ц* м. — паўн.-зах. з. (СПЗБ, Сцяшковіч), *жаўтаквет́* м. — Віц. р. (Кісялеўскі).

**Ватачнік,** гл. **Птушанец.**

## Венерын чаравічак

Вельмі рэдкая расліна з арыгінальнымі па форме кветкамі.

*зязю́лька* ж. — мясц. (ЭПБ), *зязю́льнік* м. — мясц. (Ластоўскі).

## Верас

Кусцікавая расліна з дробным лісцем і мяцёлачкамі дробных светла-сініх кветак, якімі заканчваюцца разгалінаваныя галінкі.

*ве́рас* м. — агульн. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, ЛП, ЖС, ГЧ, Кісялеўскі, Бялькевіч, Верас, Каспяровіч, Шатэрнік, Дабравольскі, Насовіч, Станкевіч, Ластоўскі, Мат. апыт.), *ве́расы* ж. — Круп. (АЛА), *ве́рус* м. — Гом. р. (Кісялеўскі), *вэжос* м. — Гродз. (Кісялеўскі), *врэск* м. — мясц. (Насовіч), *ве́раст* м. — Шчуч., Ваўк., Кам., Кобр. (ЛАБНГ, АЛА), *верасо́к* м. — Бых. (ЛАБНГ, АЛА), *верасён* м. — Шчуч. (ЛАБНГ), *верасе́нь* м. — Пух., Капыл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *верасо́н* м. — Клім. (ЛАБНГ), *верасні́к* м. — Хоц. (ЛАБНГ), *по́дверасак* м. — Свісл. (СПЗБ), *барві́нкі* мн. — Гродз. р. (Кісялеўскі).

## Ворлікі, аквілегія

Буйная рэдкая расліна з суквеццем густа-сініх арыгінальных па форме павіслых кветак на вяршыні парасткаў.

*во́рлікі* мн. — Маг. р. (Кісялеўскі, Станкевіч, Каспяровіч, Гарэцкі, Насовіч), *го́рлікі* мн. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *збано́чкі* мн. — Гродз. р., Ельск. (ЖС, Кісялеўскі, ЭПБ), *ліле́я* ж., *ліле́йка* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *міжпе́рсніца* ж. — Віц. р., Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ).

**Вужоўнік**

Невялікая рэдкая споравая расліна з адным лістком і споравым невысокім адросткам ад яго асновы.

*вужо́ўнік* м. — агульн. (СПЗБ), *вужэ́ўнік* м. — Мёр. (ЖС), *ванжэ́ўнік* м. — Ашм. (СПЗБ), *ву́жава зе́лле* — мясц. (Ластоўскі), *ву́жакава зе́лле* — паўн.-зах. з. (Верас).

**Вырачка**

Невялікая расліна з дробным падоўжаным лісцем і дробнымі пурпурнымі кветачкамі, сабранымі ў шчыльныя шыпякі каля сцябліны і асновы чаранка лістоў.

*бо́гава крэ́салка* — зах.-пал. г., Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *свентая́ннік* м. — Вілен. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *тымя́нкі* мн. — Віц. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *дзерав́янка* ж. — Мін. р. (Кісялеўскі), *вы́рачка* ж. — Гродз. р., Шчуч. (Кісялеўскі, З нар. сл.), *крэ́селцы* мн. — мясц. (Ластоўскі).

**Вязель**

Буйная расліна паўднёвага захаду Беларусі з ляжачай галінастай сцяблінай, пёрыстым лісцем, з бела-ружовымі або бела-фіялетавымі кветкамі, сабранымі ў гронкі.

*зя́ячы хмель* — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *за́йчы гаро́шак* — мясц. (Ластоўскі), *гаро́шак* м. — мясц. (Ластоўскі), *паўзу́н палявы́* — Гродз. р., зах.-пал. г. (Кісялеўскі, Верас, ЭПБ), *во́ўча ла́да* — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас, Ластоўскі), *дзя́тлаўнік* м. — Ельск. (ЖС), *ву́жава зе́лле* — мясц. (Ластоўскі).

**Галадок**

Невялікая расліна з зеленавата-шэрым лісцем і сцяблом з дробнымі непрыкметнымі кветкамі на канцах галінак.

**Галадок шматгадовы:** *мурышка* ж. — Вілен. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *паркýн* м. — Вілен. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *грымóтнік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *сівéц баравы́* — Мін. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *дзівáна* ж. — Вілен. р. (Кісялеўскі).

**Галадок аднагадовы:** *галадóк* м. — Гродз. р., Маг. р. (Кісялеўскі), *муравéц* м. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ).

**Гарычка**

Невялікая расліна з цёмна-сінімі кветкамі ў пазухах верхніх спалучэнняў лісця.

*гары́чка* ж. 'гарычка лёгачная' — Гродз. р. (Кісялеўскі), *цюльпáн лясны́* 'гарычка лёгачная' — Гродз. р. (Кісялеўскі), *сакóллі пералёт* 'гарычка крыжападобная' — Мін. р. (Кісялеўскі), *пералётнік* м. — Жытк. (Мат. Гом.), *бóцікі* мн. — Уздз. (Мат. мін.-мал.), *каўтýннік* м. 'гарычка багновая' — Маг. р. (Кісялеўскі), *бýцікі* мн. 'гарычка лёгачная' — Маг. р. (Кісялеўскі), *гарчáк* м. 'гарычка багнавая' — Смален. р. (Кісялеўскі), *таўстýшка* ж. 'гары́чка крыжападобная' — Маг. р. (Кісялеўскі), *бздзюжнік* (*біздзюжнік*) м. — Лельч. (ЛП).

**Гваздзік,** гл. **1.7. Гваздзік.**

**Герань, журавельнік**

Расліна з глыбока раздзеленым лісцем і ружовымі, чырвонымі і ліловымі буйнымі кветкамі.

*герáнія* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *юрáнь* ж. — Сен. (Каспяровіч), *юрáнія* ж. — мясц. (Ластоўскі), *грабéлькі*

мн., *грáбелькі* мн. — Гродз. р., Маг. р., Віц. р., усх.-пал. р. (ЖС, Каспяровіч, Верас, Кісялеўскі), *пантóпалькі* мн. — Смарг. (Мат. Гродз.), *дубрóўка* ж. — Мін. р., Маг. р. (Кісялеўскі), *трыпéрсніца* ж. — Віц. р., Маг. р. (Кісялеўскі, Каспяровіч), *пяціпéрсніца* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *сяміцвéтнік* м. — Навагр. (Мат. Гродз.), *мужчы́нскі залатнічóк* — Маг. р. (Кісялеўскі), *змяёўка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *баршчóўнік* м. — Смален. р. (Кісялеўскі), *чарвятóчнік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *гваздзíчнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *падарóжнік* м. — Гродз. р., зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *злáтчыск* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *гарлачóўка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *кураслéп* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *цюльпáн лясны́* — мясц. (ЭПБ), *дзеравя́нка* ж. — Мін. р. (Кісялеўскі), *лíпка* ж. — Гом. р. (Мат. Гом.), *браткí* мн. — Лельч. (ЖС), *бýцікі* мн. — мясц. (ЭПБ), *гусíная лáпка* — Маг. р. (Кісялеўскі), *грыжная травá* — Смален. р. (Кісялеўскі), *вóўчая ступá* — Віц. р., Маг. р., Гродз. р. (Кісялеўскі, Каспяровіч).

### Гладыш

Рэдкая буйная расліна з шызым сцяблом, складаным лісцем і белымі кветачкамі, сабранымі ў парасонік.

*ляснáя мóркаў* — Гродз. р. (Кісялеўскі).

### Граздоўнік, ключ-трава

Папараць з 1—3 дробна расчлененымі лістамі.

*вýжава зéлле* — Віц. р., Маг. р. (Кісялеўскі, Ластоўскі, ЭПБ).

### Грушанка

Невялікая расліна з разеткай закругленага цёмназялёнага зімуючага лісця і гронкай белых кветак на высокім кветаносе.

*грушáнка* ж. — Віц. р. (Кісялеўскі), *грýшніца* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *грýшаўнік* ж. — зах.-пал. г. (Кісялеўскі),

*я́блынька лесава́я* — Мін. р. (ЖС, Кісялеўскі), *бацві́нка* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *пе́рац палявы́* — Маг. р. (Кісялеўскі), *стано́ўнік ба́бскі* — зах.-пал. г. (Кісялеўскі, Ластоўскі), *бято́ніка лесава́я* — Вілен. р. (Кісялеўскі), *ла́ндыш* м. — Маг. р., Віц. р. (Кісялеўскі), *ла́ндышкі* мн. — Віц. р. (Каспяровіч), *румя́нка* ж. — Смален. р. (Кісялеўскі).

### Гусіная цыбуля

Невялікая цыбулінкавая расліна з вузкім прыкаранёвым лістом і суквеццем жоўтых кветачак на невысокай кветаножцы.

*гусі́ная цыбу́ля* — Маг. р. (Кісялеўскі), *сне́дзік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі).

### Дабраполь

Невялікая расліна са сцяблом, якое сцелецца па зямлі, і з залаціста-жоўтымі кветкамі на яго прыўзнятых канцах.

*лі́пнік* м. — Смален. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *дабапо́ль* м. — Маг. р. (Кісялеўскі).

### Двухпялёснік

Невялікая расліна з ружовымі кветачкамі ў простых або галінастых гронках на версе сцябла.

*лі́пта* ж. — мясц. (ЭПБ), *лі́тба* ж. — Беш. (Каспяровіч), *лі́тпа* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі).

### Дзераза

Спораносная расліна з паўзучым сцяблом, пакрытым зялёнымі лускападобнымі лісточкамі.

*дзераза́* ж. — Віц. р., Гродз. р., Мін. р., Маг. р. (СПЗБ, ЖС, Кісялеўскі, Верас, Бялькевіч, Сцяшковіч, Станкевіч,

Мат. апыт.), *дзяра́з* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *дзяра́зка* ж. — Маладз. (Мат. мін.-мал.), *дзеруза́* ж. — Мін. р., Смален. р. (Шатэрнік, Кісялеўскі), *дзермеза́* ж. — Лаг. (Шаталава, Мат. мін.-мал., Станкевіч), *дзерага́* ж. — Гродз. р. (Кісялеўскі, Шаталава), *дзяра́чка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *дзяра́* ж. — Маладз. (ЖС, Мат. мін.-мал.), *дзяру́га* ж. — паўн.-зах. з., Віц. р., Гродз. р., Маг. р. (Кісялеўскі, СПЗБ, ЖС), *дарича́* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *рагаза́* ж. — Лун. (Шаталава), *цяку́н* м. — Гродз. р., Маг. р. (Кісялеўскі, Верас, Станкевіч, ЭПБ), *плаву́шка* ж. — Шчуч. (СПЗБ), *відла́к* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *віла́к* м. — Гродз. р., Маг. р. (Кісялеўскі), *варане́ц* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *баране́ц* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *бране́ц* м. — Смален. р. (Кісялеўскі), *бро́нец* м. — мясц. (ЭСБМ), *павілі́ца* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *казіро́г* м. — паўн.-зах. з. (Верас), *пацягу́ха* ж. — Латгал. р. (СПЗБ), *каўту́ннік* м. — Стол., Жытк. (ТС), *селяні́ка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *ба́бін мур* — Гродз. р. (Кісялеўскі, Верас, Насовіч, ЭПБ), *кра́ўпіца* ж. — Віц. р. (Кісялеўскі), *по́плывень* ж. — мясц. (Ластоўскі), *дзяраба́* ж. — мясц. (Ластоўскі).

### Дзіванна, мядзведжае вуха

Буйная расліна са светла-жоўтымі кветкамі ў густой коласападобнай гронцы на вяршыні сцябла.

*дзіва́нна* ж. — Сен. (Каспяровіч), *мядзве́дзева ву́ха* — Маз. (ГЧ), *куўты́чнік* м. — мясц. (Ластоўскі), *дзява́н* м. — мясц. (Ластоўскі), *каўту́нічнік* м. — мясц. (ЭПБ), *касма́к* м. — мясц. (ЭПБ).

### Дзягіль, дуднік лекавы

Высокая расліна з дудкаватым сцяблом з буйным перыстым лісцем і жаўтавата-зялёнымі кветкамі ў шарападобных парасонах.

*дзя́гіль* м. — мясц. (Насовіч, ЭПБ, Ластоўскі), *дзя́гель* м. — Віц. р., Гродз. р., Маг. р., Гом. р. (Кісялеўскі, Верас,

Станкевіч), *дзя́галь* м. — Маладз., Краснап. (Мат. мін.-мал.), *дзя́гільнік* м. — Мядз. (Мат. мін.-мал.), *дзя́гліца* ж. — мясц. (Станкевіч), *відо́мец* м. — Маг. р., Гом. р. (Кісялеўскі), *ство́льнік* м. — Смален. р. (Кісялеўскі), *кроп зáячы* — Гродз. р. (Кісялеўскі), *пасвісцёл* м. — Стол., Жытк. (ТС), *пук* м. — Мін. р. (Кісялеўскі), *блёкат* м. — Смален. р. (Кісялеўскі), *сны́тка* ж. — Краснап., Мсцісл. (Бялькевіч).

**Дзядкі**

Расліна з перыстым зубчастым лісцем і дробнымі залаціста-жоўтымі кветкамі на верхняй частцы сцябла.

*дзядкí* мн., *дзядкí-травá* — Маг. р. (Кісялеўскі), *дзядо́к* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *смятáнік* м. — Маг. р., Сен. (Кісялеўскі, Каспяровіч, ЭПБ), *шчэрб* м. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *су́чкі* мн. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *рэ́пік* м. — Віц. р. (Кісялеўскі).

**Дзярачка,** гл. **1.3. Маруна.**

**Дуброўка**

Расліна розных відаў са складаным пальчатым або перыстым лісцем, з кветкамі па адной на галінках або ў суквецці.

*дубро́ўка* ж. — Гом. р., Мёр. (ЖС, Мат. Гом.), *дзярвя́нка* ж. — зах.-пал. г., Маладз. (ЛАБНГ, Мат. мін.-мал.), *дзеравя́нка* ж. — Іўеў., Карэл., Люб., Воран. (СПЗБ, Ластоўскі), *калгáн* м. — Бяроз. (СПЗБ), *падаро́жнік* м. — Слон. (Мат. апыт.), *рабíнка* ж. — Жытк. (ТС), *бязвéршнік* м. — Жытк. (ТС), *дзевяцірáнка* ж. — Воран. (СПЗБ), *грымо́тнік* м. — Воран. (СПЗБ).

**Дуброўка прамастаячая:** *дубро́ўка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *дзеравя́нка* ж. — Віц. р., Гродз. р., Маг. р., Смален. р., Петр., Лельч. (ЛП, Кісялеўскі), *калгáн* м. — мясц. (ЭПБ), *паддýбнік* м. — Лельч. (ЛП), *пеправяжы́ха* ж. —

Віц. р. (Кісялеўскі), *кустóўнае дзéрава* — Вілен. р. (Кісялеўскі), *сурмалíна* ж. — Віц. р. (Кісялеўскі).

**Дуброўка серабрыстая:** *дубрóўка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *жáбнік* м. — Мін. р. (Мат. мін.-мал., Кісялеўскі), *сярэ́бнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *сярэ́бранік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *срэ́брак* м. — зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *гарля́нка бéлая* — Маг. р. (Кісялеўскі), *гартáнная травá* — Смален. р. (Кісялеўскі).

**Дуброўка гусіная лапка:** *дубрóўка* ж. — Віц. р., Мсцісл. (Каспяровіч, Станкевіч), *лáпкі* мн. — Мін. р. (Кісялеўскі), *лáпнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *срэ́бнік* м. — Гродз. р., зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *гусíная лáпка* — Маг. р. (Кісялеўскі), *гарля́нка* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі), *маркóўка* ж. — Смален. р. (Кісялеўскі).

**Дуднік,** гл. **Дзягіль.**

## Жаўтакруг

Расліна з прыкаранёвай разеткай шурпатага лісця і залаціста-жоўтымі кветкамі ў кошыках на верхавінах сцяблоў.

*свíннік* м. — мясц. (ЭПБ), *ястрабóвая травá* — мясц. (ЭПБ).

## Залозніца

Буйная расліна з парасонікамі дробных кветачак, сабранымі ў мяцёлку.

*падты́ннік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *падцéннік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *старавíца* ж. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *мáтачнік* (*мáташнік*) м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *зя́бер* м. — Віц. р. (Кісялеўскі), *жáбер* м. — паўн.-зах. з. (Мат. мін.-мал.), *вóўчая крапівá* — Мін. р., Чэрв. р. (Кісялеўскі, Шатэрнік, ЭПБ), *валлякóвая травá* — мясц. (ЭПБ).

### Заячая капуста

Расліна з сакавітым густым лісцем на галінках і дробнымі зеленавата-ружовымі кветачкамі, сабранымі ў густы шчыток на версе галінак.

*зáяччая* ( *зáячая*) *капýста* — Віц. р., Маг. р. (Кісялеўскі, Мат. апыт.), *зайцóвая капýста* — зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *зáйчыкава капýста* — Гом. р. (Кісялеўскі), *залóзнік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *залóжнік* м. — Гродз. р., зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *ядранéц* м. — зах.-пал. г. (Кісялеўскі), *скрыпýн* м. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *цылісцíк* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *зáячае шчáўе* — мясц. (ЭПБ).

### Званочкі

Невялікая расліна з кветкамі ў выглядзе званочкаў.

*званкí* мн. — Віц. р., Маг. р. (Кісялеўскі), *званóчкі* мн. — Віц. р., Гом. р. (Кісялеўскі), *звóнка* ж. — Мін. р. (Кісялеўскі), *дзвóнкі* мн. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *дзванкí* мн. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *дзвóнчыкі* мн. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *бýбны* мн. — Маг. р. (Кісялеўскі, ЭПБ), *калакóльчыкі* мн. — Гом. р. (Кісялеўскі), *вешчáнец* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *гарлáчыкі* мн. — Маг. р. (Кісялеўскі), *цыпадле* н. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *кацялкí* мн. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *нязíпер* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *ужóўнік* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *лянóк* м. — Гродз. р. (Кісялеўскі), *драмá* ж. — Смален. р. (Кісялеўскі), *чаравíчкі* мн. — Маг. р. (Кісялеўскі), *зарá* ж. — Смален. р. (Кісялеўскі), *рыштóчнік* м. — Маг. р. (Кісялеўскі), *івáнавы крáскі* — Маг. р. (Кісялеўскі), *івáнава галавá* — мясц. (ЭПБ), *тóчнік* м. — мясц. (ЭПБ), *шалфéй* м. — мясц. (ЭПБ).

**Зверабой,** гл. **Святаяннік.**

**Зіглінгія,** гл. **Трохзубка.**

Шатэрнік, Сцяцко, Янкоўскі, Яшкін, Мат. апыт.), *ліска* ж., *ліскі* мн. — Мёр., Лёзн., Уздз., Раг., Малар., Пруж., Светлагор., Беластоц. р. (СПЗБ, ЖС, ЭСБМ, Н. сл-сць, Мат. Гом., Каспяровіч, Яшкін), *ліска-пліска* — Слаўг. (Яшкін), *лісянка* ж., *лісянкі* мн. — Калінк., Рэч., Добр. (СПЗБ, ЭСБМ, Мат. Гом., Яшкін), *лісічанка* ж. — Лун., Жытк. (ЖС, Яшкін), *лісіча́нка* ж. — Старадарож., Стол. (ТС, Яшкін), *лісічык* м. — Шчуч. (З нар. сл.), *лісма́чкі* мн. — Нараўл. (ЭСБМ, Мат. Гом.), *смаля́нка* ж., *смаля́начка* ж. памянш. — Лун., Стол. (ТС, ДСБ, Яшкін), *смало́вік* м., *смалю́га* ж. — Стол. (ТС, Яшкін), *пліска* ж. — зах.-пал. г., Беластоц. р. (СПЗБ, ЖС, Яшкін), *пліскі* мн. — Кам., Жаб., Кобр. (ДСБ, ЖС), *плісіца* ж. — Раг. (Яшкін), *плісічык* м., *плісічка* ж. — Ветк. (Яшкін), *ляпёшка* ж. — Воран. (СПЗБ, ЭСБМ), *ля́пушкі* мн. — Гродз. р. (ЭСБМ, Мат. Гродз.), *раду́шка* ж. — Астр., Воран., Іўеў. (СПЗБ, Сцяшковіч), *мару́шкі* мн. — Віл. (СПЗБ, ЭСБМ), *жаўту́шка* ж. — Кам., Бярэз. (ЭСБМ, ЖС, Яшкін), *жо́ўцікі* мн. — Стол. (ТС, Яшкін), *сасня́к* м. — Пол. (Яшкін), *сасня́нкі* мн. — Беш. (НС, Яшкін), *падсасо́нка* ж. — Кліч. (Яшкін).

## Макруха

Ядомы буйны або сярэдніх памераў грыб, шапка якога звязана з ножкай слізіста-павуцінным прыватным пакрывалам, ад якога на ножцы застаецца слізістае кальцо.

*макру́ха* ж., *макру́шка* ж. памянш., *макру́хі* мн. — Уздз., Калінк. (ЭСБМ, Н. сл-сць, Мат. Гом., Яшкін), *сліма́к* м. — Мін. (Яшкін).

## Малачай

Ядомы пласціністы грыб з пукатай, потым лейкападобнай шапкай, завернутым уніз або апушчаным краем.

*малачáй* м. — паўдн.-усх. з. (ЭПБ, Мат. Гом.), *малачня́к* м. — Хойн., Лоеў., Браг. (Мат. Гом.), *маладча́к* м. — Буда-Каш., Гом., Рэч. (Мат. Гом.), *маладча́й* м., *малака́н* м. — Буда-Каш. (Мат. Гом.), *малайча́к* м. — Калінк. (Мат. Гом.), *мало́чнік* м. — Ушацк. (Яшкін), *малача́нка* ж. — Рэч. (Мат. Гом.), *гарча́к* м. — Клім., Краснап., Жытк. (Яшкін), *гарка́ч* м. — Бярэз., Мсцісл. (Яшкін), *гарку́ш* м. — Маг. р. (Насовіч, Яшкін), *гарку́ша* ж. — Мін. р., Маг. р., Калінк. (Мат. Гом., Яшкін), *каро́ва* ж. — Кам. (ЭСБМ, ЖС, Яшкін), *каро́ўка* ж. — Паст. (ЖС, ЭСБМ), *каро́вяха* ж. — Драг., Іван. (ЖС, Яшкін), *каро́ўнік* м., *ру́дачка* ж., *руды́* прым. — Ушацк. (ЖС, Яшкін), *благу́шка* ж. — Маг. (Бялькевіч, Насовіч), *бяля́нка* ж. — Лёзн. (Каспяровіч, Насовіч), *паддýбка* ж. — Лельч. (Яшкін), *паддубя́нка* ж. — Мсцісл. (Яшкін), *паддубнічо́к* м. — Клім. (Яшкін), *рудзя́к* м. — Лаг. (Яшкін).

## Масляк

Ядомы губчасты грыб з жоўта-карычневай шапкай, пакрытай сліззю.

*масля́к* м., *маслячо́к* м. памянш., *маслякí* мн. — агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, Н. сл-сць, ГЧ, ЭПБ, Шатэрнік, Станкевіч, Растаргуеў, Янкоўскі, Яшкін, Мат. апыт.), *маслю́к* м., *маслюкí* мн. — паўд.-зах. д., сярэд.-бел. г., Мёр., Леп., Кам., Брэсц., Беластоц. р. (СПЗБ, ТС, ЖС, ГЧ, Сл. Гродз., СЦБ, НЛГ, Янкова, Цыхун, Яшкін, Мат. апыт.), *маслю́ка* ж. — Кам., Брэсц. (ЛАБНГ, ЖС), *масле́к* м. — Драг. (ЖС, ЭСБМ), *масле́нік* м. — паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ, СЦБ, Мат. Гом., Мат. мін.-мал., Янкова, Яшкін), *маслёнак* м. — Віц., Дубр., Мін., Рэч. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Яшкін), *масля́н* м. — Барыс. (СЦБ, Н. сл-сць), *масля́нік* м. — Беш., Гродз., Гом. (ЛАБНГ, Яшкін), *масля́нка* ж. — Сен., Бял., Шкл., Мсцісл., Чэрык. (ЛАБНГ, Бялькевіч, Яшкін), *масля́й* м. — Гл. (Яшкін), *масля́т* м. — Стаўб., Гом. (ЖС), *масля́ты* мн. — Паст., Тал., Навагр., Касц. (ЖС,

Мат. апыт.), *лупяк* м., *лупякі* мн. — Мёр., Лід., Навагр., Дзятл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Яшкін), *лупяч* м., *лупічок* м. памянш. — Навагр., Свісл. (СПЗБ, Мат. апыт.), *лупякі* мн., *лупячкі* мн. памянш. — Навагр., Дзятл., Свісл. (СПЗБ, ЭСБМ, Мат. Гродз., Мат. апыт.), *лупплякі* мн. — Дзятл. (СПЗБ, ЭСБМ), *лупенік* м., *лупенікі* мн. — Шчуч., Лід., Навагр., Бар. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЭСБМ, Сл. Гродз., Яшкін), *лупіннік* м., *лупленік* м. — Іўеў. (ЛАБНГ, Яшкін), *люпенік* м. — Гродз. (Яшкін), *ліпняк* м. — Маст. (Сл. Гродз., ЭСБМ), *казёл* м., *козлік* м. памянш., *казельчык* м. памянш. — паўн.-усх. д., усх.-маг. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СЦБ, ЖС, Мат. мін.-мал., Насовіч, Дабравольскі, Станкевіч, Шаталава, Юрчанка, Яшкін, Мат. апыт.), *казлы* мн. — Круп., Гом. (СПЗБ, Мат. Гом.), *казелька* ж. — Сен., Арш., Кругл. (ЛАБНГ, Яшкін), *казак* м. — усх.-маг. р., Ваўк. (ЭСБМ, Бялькевіч, Сцяшковіч), *казяк* м. — паўн.-зах. з., Гарад., Пруж. (ЛАБНГ, СЦБ, Мат. Гродз., Яшкін), *казякі* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *казялок* м. — Мёр., Пол., Гарад., Ушацк., Віц., Лёзн. (ЛАБНГ, Каспяровіч, Яшкін), *казляк* м., *казлякі* мн. — паўн.-зах. з., Латгал. р., зах.-бран. р., Петр., Лельч. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЭСБМ, ЖС, Н. сл-сць, Мат. Гродз., Шаталава, Яшкін), *казля* н. — Вілен. р. (СПЗБ), *просты казлячок* — Стол. (Яшкін), *казлят* м., *казляты* мн. — Стаўб. (ЖС), *казлюк* м. — зах.-бран. р. (ЖС), *слімак* м. — Шчуч. (ЛАБНГ), *слізух* м. — Навагр., Хоц. (Мат. Гродз., Яшкін), *слізуха* ж. — Дзярж., Петр., Добр., Лельч., Ельск. (Мат. Гом., Яшкін), *слюзянка* ж. — Калінк. (Мат. Гом.), *смаркач* м. — Уздз. (Н. сл-сць), *грыбенікі* мн. — Браг. (Мат. Гом.).

## Махавік

Ядомы губчасты грыб з падушкападобна-пукатай жоўта-бурай шапачкай.

*махавік* м., *махавічок* м. памянш. — агульн. (ЭСБМ, СПЗБ, ТС, Н. сл-сць, ЖС, Мат. Гродз., Каспяровіч, Ша-

тэрнік, Бялькевіч, Шаталава, Яшкін), *махавікі* мн. — Віц., Слон., Браг. (ГЧ, Станкевіч, Мат. апыт.), *мухо́вік* м., *махавы́ грыб* — Слон. (Мат. апыт.), *мухо́вікі* мн. — Бар. (СПЗБ, ЭСБМ), *амхаві́к* м. — Гарад., Смален. р. (Дабравольскі, Яшкін), *імхавік* м. — Слуц. (Яшкін), *мхо́вік* м. — Слон. (Мат. апыт.), *імхо́вік* м. — Ганц. (СПЗБ, Яшкін), *махо́нік* м. — Лун., Пін. (ЭСБМ, Яшкін), *махо́тка* ж. — Лун. (Шаталава), *махня́ўка* ж. — Лях., Брэсц. (ДСБ, Яшкін), *мшар* м., *мша́рык* м. памянш., *імша́р* м., *мі́шар* м., *міша́рык* м. памянш. — Пруж., Бяроз., Стол. (ЖС, НЛ, Н. сл-сць, ЭСБМ, Яшкін), *маша́рнік* м. — паўн. р., Латгал. р., Капыл. (СПЗБ, Н. сл-сць, Яшкін), *машарні́к* м. — паўн.-зах. з., Беш., Капыл., Стол. (ТС, НС, НЛ, ЭСБМ, Яшкін, Мат. апыт.), *імша́рнік* м. — Леп., Стол. (ЖС, НЛ, ЭСБМ, Яшкін), *імша́нік* м. — Уздз. (Н. сл-сць, Яшкін), *імшэ́нік* м., *амшэ́нік* м., *мушэ́нік* м. — Пух., Слуц., Старадарож., Гл. (Яшкін), *машарэ́нік* м. — Саліг., Жытк. (Яшкін), *падмо́шнік* м. — Лях. (Яшкін), *падо́мшнік* м. — Пін. (ЖС, Яшкін), *рашацю́к* м. — Лельч. (НЛ, Мат. Гом.), *рашо́тнік* м. — Петр., Калінк. (Мат. Гом.), *рашо́цік* м. — Рэч. (Мат. Гом.), *рашэ́тнік* м. — Буда-Каш., Жытк. (Мат. Гом.), *рашэ́туха* ж. — Пін. (Шаталава), *падрашэ́тнік* м. — Светлагор. (Мат. Гом.), *падрашэ́тавік* м. — Слон. (ЖНС), *падрашо́тнічак* м. — Лаг. (СЦБ), *сіня́к* м. — зах.-пал. г., Дзятл., Слон., Беластоц. р. (СПЗБ, Мат. апыт.), *сіню́х* м., *сіню́шнік* м. — Уздз. (Яшкін), *жаўця́к* м. — Уздз., Кам., Драг. (ЖС, ЭСБМ, Н. сл-сць), *багню́к* м., *багнючо́к* м. памянш. — Пруж., Брэсц., Малар., Беластоц. р. (СПЗБ, ДСБ, ЖС, Н. сл-сць, Яшкін), *баго́льнік* м. — Старадарож. (Яшкін), *сітаві́к* м., *сітаві́чак* м. памянш. — Брасл., Ушацк., Гом. (Яшкін), *сі́тнік* м. — Слаўг., Рэч. (Яшкін), *падсі́тнік* м. — Пол. (Яшкін), *сіта́рык* м. — Шчуч. (Яшкін), *каза́* ж., *ко́зачка* ж. памянш. — Маз., Браг. (3 нар. сл., Яшкін), *казля́к* м. — Петр., Маз., Браг. (ЖС, Яшкін), *савя́к* м. — Маст. (ЖС, Яшкін), *шы́цік* м. — Віл. (СПЗБ), *крапя́г* м. — Стаўб., Карэл. (ЭСБМ, СЦБ, Сл. Гродз.), *баргчаві́к* м. — мясц.

(НЛГ), *саснавік* м. — Астр. (Мат. Гродз.), *падліпавік* м. — Круп. (СПЗБ, Яшкін), *падарэшнік* м. — Ветк., зах.-бран. р. (ЖС, Яшкін).

**Махавік зялёны:** *махавік* м. — Лаг., Гл., Петр., Гом., Ветк. (ЖС, Яшкін), *мшар* м., *мшáрык* м., *імшáр* м., *мшáрык* м. — Пін. (ЭСБМ, ЖС), *мшáнік* м. — Уздз. (ЭСБМ, Н. сл-сць, Яшкін), *машарнік* м. — Лун. (ЭСБМ, ЖС), *машáрнік* м. — Брасл., Верхнядзв., Шчуч. (Яшкін), *сіняк* м. — Маст., Кам., Кобр., Іван. (ЖС, Яшкін), *сінюх* м., *сінюшнік* м. — Уздз. (Н. сл-сць, Яшкін), *жаўцяк* м. — Драг. (ЖС), *чашчавік* м. — Лаг. (ЖС, Яшкін), *мухляк* м. — Драг. (ЖС), *палёвік* м. — Лун. (Яшкін), *палявік* м. — Кругл., Драг., Лун. (ЖС, Яшкін), *палявы́ грыб* — зах.-пал. г., а таксама Клім. (ЖС, Яшкін), *паляны́ грыб* — Пін., Стол. (ЖС, Яшкін), *зáяц* м. — Слон. (ЖНС), *зáячы баравік* — Паст., Лаг., Слуц., Чэрык., Іван. (ЖС, Яшкін), *зáячы грыб* — Кам., Іван., Беластоц. р. (ЖС, Яшкін), *зáйцаў баравік* — Пол., Лаг., Барыс. (СЦБ, Яшкін), *зáйчы грыб* — Кам., Іван. (Яшкін), *мукляк* м. — Драг. (Яшкін), *рашэ́тнік* м. — Смал. (Яшкін), *махéцька* ж., *рашэ́цька* ж. — Кір. (Яшкін), *падгры́бак* м. — Беластоц. р. (ЖС).

**Махавік чырвоны:** *зáячае вýшка* — Пух., Краснап. (Яшкін), *крáсенькі грыбóк* — Краснап. (Яшкін).

**Махавік, казляк паразітны:** *паляны́ грыб* — Івац. (Яшкін).

**Махавік, казляк стракаты:** *палёвік* — Лун. (Яшкін), *палявы́ грыб* — Драг. (Яшкін), *паляны́ грыб* — Пін. (Яшкін), *падгры́б* м. — Маст. (Яшкін), *падгры́бнік* м. — Драг. (Яшкін), *падмóшнік* м., *крáсік* м. — Уздз. (Н. сл-сць, Яшкін).

## Млечнік

Грыб, шапка якога гладкая, слізкая, бліскучая, брудна-шараватая, з вохрыста-ружаватым або фіялетавым адценнем.

*прася́нка* ж. — Іван. (ЖС, Яшкін), *каро́ўка* ж. — Паст. (ЖС, Яшкін), *вужо́вік* м. — Лун., Петр., Буда-Каш., Лельч. (Яшкін), *вужо́вы грыб* — Лун. (Яшкін), *вужо́ўка* ж. — Жытк. (Яшкін), *глуха́я вужо́ўка* — Пін. (Яшкін), *вужа́чка* ж., *вужа́чы грыб* — Лельч. (Яшкін), *мыша́к* м. — Круп., Чав. (Яшкін), *мышы́ны грыб* — Леп., Круп. (Яшкін), *во́ўчанка* ж. — Лун. (Яшкін), *во́ўчы грыб* — Рас., Леп., Валож., Смал., Асіп., Бар., Кам., Пін., Лун., Лельч. (Яшкін), *ваўчы́ны грыб* — Леп. (Яшкін), *жабо́вік* м. — Жытк. (Яшкін), *жабі́ны грыб*, *жабя́чы грыб* — Лун. (Яшкін), *жа́бскі грыб* — Пін. (Яшкін), *пага́нка* ж. — Чав., Буда-Каш. (Яшкін), *пага́ны грыб* — Круп., Кам., Лельч. (Яшкін), *дзіч* м., *дзі́кі грыб* — Кам. (Яшкін), *саладча́к* м. — Смал. (Яшкін), *нічо́гі грыб* — Кам. (Яшкін), *нічо́гі казля́к* — Пін. (Яшкін), *саба́чы грыб* — Мядз., Смарг. (Яшкін), *дрэ́нны грыб* — Чав. (Яшкін).

**Млечнік шэра-ружовы:** *мало́чнік* м. — Пруж. (Н. сл-сць, Яшкін), *бало́тны хрушч* — Смал. (Яшкін).

## Мухамор

Ядавіты грыб з чырвонай шапкай у белыя крапіны.

*мухамо́р* м. — агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЭСБМ, ЖС, ЭПБ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Бялькевіч, Верас, Янкова, Яшкін, Мат. апыт.), *чырво́ны мухамо́р* — Паст., Кобр., Драг., Стол. (ЖС), *кра́сны мухамо́р* — Барыс. (Яшкін), *махамо́р* м. — усх. з., акрамя ўсходу Гомельшчыны, а таксама Драг. (ЛАБНГ, ЖС, Яшкін, Мат. апыт.), *мухама́р* м., *му́хамор* м. — Бяроз. (ЛАБНГ, ЖС), *му́харан* м. — Кір., Лун. (ЛАБНГ, Яшкін), *муха́р* м., *мухаро́к* м., *мухамо́рык* м. памянш., *муха́рчык* м., *мухарчо́к* м., *мухарчо́* м., *му́хамаранак* м. — Слаўг. (Яшкін), *мукамо́р* м. — Леп. (Яшкін), *амхамо́р* м. — Гарад. (Яшкін), *мухамо́ра* ж. — сярэд.-бел. г., паўдн.-зах. д., спарадычна паўн. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЖС, Мат. Гом., Шатэрнік, Янкоўскі, Яшкін), *чырво́ная мухамо́ра* — Дзятл., Уздз., Пух. (Яшкін), *кра́сная мухамо́ра* — Навагр., Маладз., Пух.

(Яшкін, Мат. апыт.), *мухамо́рка* ж. — Брэсц. (ЛАБНГ, Яшкін), *мухамо́рына* ж. — Верхнядзв., Докш., Слаўг., Маз. (СПЗБ, ЖС, Яшкін), *муха́марына* ж. — Слаўг. (Яшкін), *му́харана* ж. — Лун. (Шаталава, Яшкін), *му́харанка* ж. — Івац., Ганц. (ЛАБНГ, ЖС, НС, ЭСБМ, Яшкін), *му́харніка* ж. — Івац. (Яшкін), *мухаро́нка* ж., *муха́рка* ж. — Брэсц. (ДСБ), *махамо́ра* ж. — Рас., Гарад., Леп., Кліч., Карм., Жытк., Петр., Лельч. (ЛАБНГ, Яшкін), *махамо́рына* ж. — Рас., Гарад., Леп. (Яшкін), *махамары́на* ж., *махамарына́* ж.—Слаўг. (Яшкін), *краснагало́вік* м. — Жытк. (Яшкін), *чырвонаша́пка* ж. — Астр. (Сл. Гродз.), *нага́нка* ж. — Навагр. (Мат. Гродз.).

## Павуціннік

Ядомы пласцінчаты грыб з шыроказваночкавай, у старых грыбоў распасцёртай, чырванавата-карычневай шапкай.

*пры́балатка* ж., *пры́балатачка* ж. памянш. — Кобр., Рэч., Маз., Нараўл. (Яшкін), *пры́балатуха* ж. — зах.-пал. г., Капыл. (Яшкін), *пры́балатушка* ж. — Лельч. (Яшкін), *прыбалату́ха* ж. — Мядз., Старадарож. (Яшкін), *пры́балатуха* ж. — Кобр., Жытк., Лельч. (Яшкін), *пры́балатачак* м. — Маз. (Яшкін), *пры́балацень* м. — Пух. (Яшкін), *балату́ха* ж. — Ганц. (Яшкін), *падбалацу́нка* ж. — Слуц. (Яшкін).

## Падасінавік

Ядомы губчасты грыб з чырвонай або чырвона-бурай шапкай.

*падасі́навік* м. — агульн. (ЛАБНГ, ЭПБ, СПЗБ, ТС, ЭСБМ, ЖС, ГЧ, Н. сл-сць, Мат. Гродз., Бялькевіч, Станкевіч, Каспяровіч, Шатэрнік, Яшкін, Мат. апыт.), *падасі́навікі хрумскі́я* — Іўеў. (ЛАБНГ), *падасі́ннік* м., *падасі́нічак* м. памянш. — зах. з., Ельск. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЭСБМ, ЖС, Бялькевіч, Яшкін), *падасі́нвік* м. — Слаўг. (Яшкін), *падсі́навік* м. — Бял. (Яшкін), *асі́навік* м., *асі́на-*

*вічак* м. памянш. — паўдн.-зах. д. (ЛАБНГ, ЖС, Н. сл-сць, Яшкін, Мат. апыт.), *асóвік* м. — Гродз. р., Старадарож., Гл., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЖНС, ЖС, З нар. сл., Янкоўскі, Яшкін), *гляблы асóвік* — Ваўк. (Яшкін), *асавíк* м. — Брасл., Паням. р., Люб. (ЛАБНГ, ЭСБМ, СЦБ, ЖС, Мат. мін.-мал., Мат. Гродз., Цыхун, Яшкін), *асóвіч* м. — Гродз. (ЛАБНГ), *падасóвік* м. — Гродз., Шчуч., Беластоц. р. (ЖС, З нар. сл., Сл. Гродз., Цыхун, Яшкін), *падласóвік* м. — Шчуч., Лід. (Яшкін), *асавя́к* м. — Карэл., Стаўб., Капыл., Слуц., Саліг. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Яшкін), *савя́к* м., *савячóк* м. памянш. — Гродз. р., Петр. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ, Мат. мін.-мал., Яшкін, Мат. апыт.), *асаўя́к* м. — Ваўк., Капыл., Слуц., Саліг. (Яшкін), *саўя́к* м., *саўячóк* м. памянш. — сл.-маз. г., Івац. (ЛАБНГ, ДСБ, ЖС, З нар. сл., Яшкін), *сая́к* м. — Гродз. р. (Яшкін), *краснагалóвік* м., *краснагалóўчык*, *краснагалóвічак* м. памянш. — паўдн.-зах. д., акрамя паўднёвага ўсходу Гомельшчыны, сярэд.-бел. г., Брасл., Мёр. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, СЦБ, ДСБ, ЖНС, ЖС, З нар. сл., Н. сл-сць, Сл. Гродз., Мат. Гом., Янкоўскі, Яшкін, Мат. апыт.), *краснагалóвец* м. — зах.-пал. г., Кір., Карм., Пруж., Ельск. (ЛАБНГ, ДСБ, ЖС, НЛ, Н. сл-сць, Шаталава, Яшкін), *краснюк* м., *краснючóк* м. памянш. — паўдн. р., Уздз., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЭПБ, ТС, ДСБ, ЖС, НЛ, Н. сл-сць, Шаталава, Яшкін), *краснюх* м. — Малар., Пін. (Яшкін), *крася́к* м. — Уздз. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *красні́к* м. — Лельч. (Яшкін), *крáсны* прым., *крáсны грыб* — Маг. (Яшкін), *грыбóк краснагалóвенькі* — Браг. (ГЧ), *чырвонагалóвік* м. — Гродз. р., Беластоц. р. (ЛАБНГ, ЭПБ, ЖС, Мат. Гродз., Яшкін), *чырвóнік* м. — Воран. (ЛАБНГ, Яшкін), *чырвóнец* м. — Навагр. (Мат. Гродз., Яшкін), *падбярóзавік* м. — Уздз. (Яшкін), *падбярэ́знік* м. — Бяроз. (Яшкін), *бярэ́завік* м. — Стол. (Яшкін), *бярэ́завец* м. — Драг. (ЛАБНГ, Яшкін), *падласóвік* м. — Шчуч. (ЛАБНГ), *падбаравíк* м. — Уздз. (Н. сл-сць), *маскáль* м. — Беш., Навагр., Дзятл. (ЛАБНГ, ЭСБМ, ЖС, Яшкін), *пані́ч* м. — Карэл., Дзятл. (ЭСБМ, Сл. Гродз.), *лось* м. — Іўеў. (Сл. Гродз.), *раўдóнік* м. — Воран., Вілен.

р. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *казля́к* м. — Навагр. (ЛАБНГ), *баблю́к* м. — Гродз. (Сл. Гродз., Яшкін), *пухля́к* м. — Дзятл. (Яшкін), *высо́тнік* м. — Калінк. (Мат. Гом.), *падо́сак* м. — Гом. р. (НЛГ), *ко́шка* (*кэ́шка*) ж. — Івац. (ЭСБМ, ЖС, Яшкін), *квасаві́к* м. — Клецк. (Яшкін), *сінаві́к* м. — Слаўг., Калінк. (ЛАБНГ, Яшкін).

## Падгруздак

Ядомы пласціністы грыб, шапка якога лейкападобная, гладкая, з загнутым уніз краем.

*свіня́* ж. — Навагр. (Мат. апыт.), *сві́нка* ж. — Віц. (Нікіфароўскі), *сві́ні* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *сві́нні* мн., *сві́нкі* мн. памянш. — Леп. (Мат. апыт.), *падгру́здзь* м. — Уздз. (Н. сл-сць).

**Падгруздак белы** ’шапка сухая, ад белага да брудна-белага колеру, з жоўта-бурымі плямамі’: *свіння́* ж. — Маст., Пруж., Кобр., Драг. (ЖС, Н. сл-сць, Яшкін), *сві́нка* ж. — зах.-пал. г. (ЖС, Яшкін), *сві́нька* ж. — Брасл. (СПЗБ), *свіню́х* м. — Кам. (ЖС, Яшкін), *свінкі́* мн. — зах.-пал. г. (ЖС), *свіна́рка* ж. — Мядз., Бярэз., Чэрв., Пін., Маз. (СПЗБ, ЖС), *губе́ня* ж. — Бяроз. (ЖС, Яшкін), *падгро́ба* ж. — Тал. (ЖС, Яшкін), *сіву́ха* ж. — Кір. (Яшкін), *падгру́здак* м. — Уздз. (Яшкін).

**Падгруздак чорны** ’шапка клейкая, бурая або амаль чорная’: *свіння́* ж. — агульн. (Яшкін), *сві́нка* ж. — Пол., Карм. (Яшкін), *свіну́шка* ж. — Смал., Латгал. р. (СПЗБ, Яшкін), *чо́рная свіння́* — Бабр., Ганц., Пруж., Кобр., Пін. (Яшкін), *сівава́тая свіння́* — Ветк. (Яшкін), *плю́ха* ж. — Ашм. (Яшкін).

## Падзялёнка

Ядомы пласціністы грыб з шапкай ад светла-шэрай да брудна-шэрай афарбоўкі.

*падзялёнка* ж. — Мін. р., сл.-маз. г., Паст., Карэл., Слон., Беластоц. р. (ЭПБ, СЦБ, ЖС, Мат. Гом., Янкова, Яшкін, Мат. апыт.), *падзяленка* ж. — Старадарож. (Яшкін), *падзяля́нка* ж., *падзяля́нкі* мн. — Астр., Смарг., Воран., Вілен. р. (СПЗБ, Яшкін), *падзяле́нка* ж. — Маз. (Яшкін), *падзялёння* ж., *падзялёнкі* мн. — Валож., Стаўб. (Яшкін), *бе́лая падзялёнка* — Рэч. (Яшкін), *по́дзеленка* ж., *по́дзеленкі* мн. — гродз.-бар. г., зах.-пал. г., Старадарож., Лельч., Маз., Беластоц. р. (СПЗБ, ЖС, Сцяцко, Яшкін, Мат. апыт.), *по́зеленка* ж. — Старадарож. (Яшкін), *плюс* м., *плю́сы* мн., *плюсы́* мн., *плю́скі* мн. памянш. — усх. з., акрамя Віцебшчыны (СПЗБ, ЖС, Яшкін), *плю́са* ж. — Старадарож. (Яшкін), *плю́ска* ж. — Бярэз., Уздз. (Яшкін), *плюх* м., *плю́хі* мн., *плю́шкі* мн. памянш. — Навагр., Слон., Карэл. (ЖНС, Нар. сл-сць, Яшкін, Мат. апыт.), *плюха́* ж., *плю́хі* мн. — Валож., Мін., Стаўб., Дзярж. (Яшкін), *плюшо́ўкі* мн. — Лоеў. (Янкова), *хлюс* м. — Бял. (Яшкін), *ку́рачка* ж. — Маг., Рэч. (Яшкін), *ку́рыца* ж., *ку́ры* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *гусь* ж., *гу́ска* ж., *гу́сачка* ж. памянш. — Гом. (Яшкін), *брузя́нка* ж. — Верхнядзв. (Яшкін), *лаша́нка* ж. — Барыс. (СЦБ), *галубо́к* м. — Віл. (СЦБ), *падво́льшнічак* м. — Драг. (ЖС, Яшкін), *сіву́лька* ж. — Ушацк. (Яшкін), *сіву́шка* ж. — Віл., Мін. (Яшкін), *сіню́шка* ж., *грама́дка* ж. — Пруж. (Яшкін), *сіве́нькая капцю́шка* — Ваўк. (Яшкін), *сяру́шка* ж. — Гродз., Лаг. (Яшкін), *альхо́вік* м. — Івац. (Яшкін), *радо́ўка* ж. — Бярэз., Пух. (Яшкін), *рандо́ўка* ж. — Люб. (Яшкін), *рага́цік* м., *ка́чар* м., *шыпу́льнік* м. — Уздз. (Н. сл-сць, Яшкін).

## Перцавы грыб

Неядомы губчасты грыб з плоска-пукатай, жоўта- або аранжава-карычневай шапкай.

*рашо́туха* ж., *рашэ́тнік* м., *рашэ́цька* ж. — Уздз. (Н. сл-сць), *падрашо́тнік* м. — Бераст. (Сл. Гродз.), *падрашэ́тнік* м. — Уздз. (Н. сл-сць), *падрашэ́цік* м. — Віл. (СЦБ), *го́р-*

*кая рашэ́цеха* — Драг. (ЖС, Яшкін), *казёл* м., *казля́к* м. — Уздз. (ЭСБМ, Н. сл-сць), *паддубо́вік* м. — Стол. (ТС), *падгру́зд* м. — Дзярж. (СЦБ), *палёвік го́ркі* — Пруж. (Яшкін), *палёвы́ грыб* — Драг. (ЖС, Яшкін), *паляны́ грыб* — Івац. (Яшкін), *за́ячы грыб* — Кам. (Яшкін), *за́ячы баравік* — Чэрык. (Яшкін), *за́йцаў грыб* — Рэч. (Яшкін).

## Пеўнік стракаты

Ядомы пласціністы грыб з шапкай плоска-пукатай або злёгку ўвагнутай.

*лось* м., *ласі́* мн. — Мядз., Віл., Лаг., Маладз., Уздз., Мін., Слуц., Люб., Бяроз., Стол., Жытк. (СПЗБ, ЭСБМ, ТС, Н. сл-сць, Яшкін), *ло́сік* м. — Гарад., Жытк., Петр. (Яшкін), *ласёвік* м. — Жытк. (Яшкін), *лашаві́к* м. — Стол. (ЭСБМ, ТС, Яшкін), *ласёвы грыб* — Лельч. (Яшкін), *каза́* ж. — паўдн. р., Дзярж., Уздз. (ЭСБМ, ЖС, Н. сл-сць, Мат. Гом., Яшкін), *ко́зка* ж. — Стол. (ЭСБМ, ТС), *казёл* м., *казлы́* мн. — Маз. (ЖС, Яшкін), *казі́нец* м. — Лельч. (ЭСБМ), *кот* м. — Кобр., Драг. (ЭСБМ, ЖС, Яшкін), *ко́шка* ж. — Пух., Івац., Драг., Іван. (ЭСБМ, ЖС, Яшкін), *кабы́ла* ж. — Кам. (ЭСБМ, ЖС, Яшкін), *еж* м., *ёж* м., *ёжык* м. — Пруж. (ДСБ, Н. сл-сць, Яшкін), *во́жык* м. — Маладз. (Яшкін), *ёршык* м. — Лаг. (Яшкін), *пе́ўнік* м., *петушо́к* м. — Ветк. (Яшкін), *пе́ўнік страка́ты*, *пупа́ч* м. — Жытк. (ТС, Яшкін), *цяце́ра* ж. — Беш., Леп., Старадарож., Рэч., Лельч. (НС, Яшкін, Мат. апыт.), *смалю́га* ж. — Чэрв., Стол., Лельч. (Яшкін), *самі́ро́га* ж. — Лун., Стол., Лельч. (ЖС, Яшкін), *валахня́нка* ж., *вало́вы язы́к* — Беластоц. р. (ЖС), *ске́панка* ж. — Лельч. (Яшкін), *ске́пнік* м. — Смал. (Яшкін), *паддубнік* м. — Лун. (Яшкін), *го́луб* м., *галубы́* мн. — Уздз. (Н. сл-сць), *галубе́ц* м. — Маг. (Яшкін), *падласо́вік* м. — Шчуч. (ЭСБМ, СПЗБ), *васі́ль* м., *ку́рачкі* мн., *го́луб* м., *сіву́ля* ж. — Дзярж., Уздз. (Н. сл-сць, Яшкін), *рэ́паныя* прым. — Уздз. (Н. сл-сць, Яшкін), *за́йцаў грыб* — Стаўб. (Яшкін).

**Пеўнік жоўты:** *мядзве́дзь* м., *мядзве́дзікі* мн. — Драг., Пін. (ЖС, ЭСБМ, Яшкін), *мядзве́дзік* м. — Люб., Клім., Драг., Пін., Ельск. (ЖС, ЭСБМ, Яшкін), *вядзме́дзік* м. — Драг. (ЖС, Яшкін), *вядзме́дзіца* ж. — Стол. (ЖС, Яшкін), *мядзве́джае ву́ха* (*ву́шка*) — Верхнядзв., Ушацк., Лід. (ЭСБМ, Яшкін), *мядзве́дзія ву́шы* – Лід. (СПЗБ), *каро́ўка* ж. — Маз. (ЖС, Яшкін), *галубо́к* м. — Навагр. (Яшкін).

## Польскі грыб

Ядомы губчасты грыб каштанава-карычневага, бурага або шакаладна-карычневага колеру.

*падгры́бак* м. — Івац., Беластоц. р. (ЖС, Яшкін), *падгры́бік* м. — Гродз. (Яшкін), *падгры́бнік* м. — Гродз., Шчуч., Бераст., Слаўг., Слуц., Кобр. (Яшкін), *падгры́бніца* ж. — Слон., Пруж. (Н. сл-сць, Яшкін, Мат. апыт.), *падгрэ́бнік* м. — Ваўк. (Яшкін), *падграбо́вік* м. — Уздз., Капыл. (Яшкін), *дубо́вік* м., *паддубо́вік* м. — Нясв., Жытк. (Яшкін), *дубо́вы грыб* — Стол. (ЖС, Яшкін), *падду́бнік* м. — Гродз. (Яшкін), *падду́бавік* м. — Паст. (ЖС), *палёві́к* м. — Лун. (ЖС, Яшкін), *палявы́ грыб* — Бых., Драг., Лун., Стол., Ветк. (ЖС, ТС, Яшкін), *палявы́ бараві́к* — Круп. (Яшкін), *падарэ́шнік* м. — Брасл., Дзярж., Уздз., Чэрв., Бых., Слаўг., Карм., Буда-Каш., Добр., Лельч. (Яшкін), *падарэ́хавік* м. — Гарад., Леп., Тал. (Яшкін), *падарэ́хавы бараві́к* — Гарад. (Яшкін), *падаро́хавік* м. — Раг. (Яшкін), *падгарэ́хавік* м. — Стаўб. (СЦБ), *арэ́хавы* прым. — Пух. (Яшкін), *за́ячы грыб* — Віл., Гом. (ЖС, Яшкін), *за́ячы грыбо́к* — Кам. (Яшкін), *за́ячы бараві́к* — Клім. (Яшкін), *за́йцаў грыб* — Лаг. (Яшкін), *за́йцаў бараві́к* — Леп. (Яшкін), *за́йчыкаў грыб* — Стаўб. (Яшкін), *за́йчыкаў до́брык*, *глухі́ грыб* — Ветк. (Яшкін), *за́йчыкавыя грыбы́* – Слон. (Мат. апыт.), *по́льскі грыб* — Навагр. (Мат. апыт.), *по́льскія грыбы́* — Слон. (Мат. апыт.), *по́льскі бараві́к* — Уздз. (Н. сл-сць, Яшкін), *махавы́ грыб*, *градавы́ грыб* — Стол. (ЖС, Яшкін), *земляны́ бараві́к* —

Навагр. (Яшкін), *баравік* м. — Драг., Стол. (Яшкін), *сіняк* м. — Нясв. (Яшкін).

## Порхаўка

Шарападобны грыб, мякаць якога пры высыханні ператвараецца ў цёмны пыл.

*пóрхаўка* ж. — агульн. (ЛАБНГ, ЭПБ, ТС, ЖС, Н. сл-сць, Сл. Гродз., Насовіч, Шатэрнік, Ластоўскі, Станкевіч, Верас, Яшкін, Мат. апыт.), *пóрахаўка* ж. — Маст., Жытк. (Яшкін), *пóрхва* ж., *парахавéнька* ж. памянш. — Стаўб., Бераст. (Яшкін), *пóхка* ж. — Уздз. (Н. сл-сць), *пýрхаўка* ж. — зах.-пал. г., Паст., Мядз. (ЛАБНГ, Шаталава, Яшкін), *пýхаўка* ж. — Леп. (ЛАБНГ, Яшкін), *пýрхватка* ж. — Беластоц. р. (СПЗБ), *пурхáўка* ж. — Гарад., Слаўг. (Яшкін), *пархáўка* ж. — Лёзн., Шкл., Слаўг. (Яшкін), *пархáтка* ж. — Краснап. (Бялькевіч), *пархóўка* ж., *пархóвачка* ж. памянш. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *пурхóўка* ж. — Верхнядзв., Рас., Гарад., Беш., Віц., Слаўг., Карм. (ЛАБНГ, СПЗБ, Яшкін), *пухóўка* ж. — усх. з. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Яшкін), *пухóрка* ж. — Жытк. (Яшкін), *пýшка* ж., *пушкí* мн. — паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ, ЖС, НС, Мат. Гом., Яшкін), *пушóк* м. — Лельч. (Яшкін), *пушáйка* ж. — Ельск. (ЛАБНГ, Яшкін), *пушóнка* ж. — Ветк. (Мат. Гом.), *пшы́каўка* ж. — Смарг., Барыс. (ЛАБНГ, СПЗБ, Яшкін), *пшы́калка* ж. — Смарг. (СПЗБ), *бздзюль* м. — Бых., Хоц. (ЛАБНГ), *бздзюх* м. — Гродз. (ЛАБНГ, СПЗБ, Яшкін), *бздзюхá* ж., *бздзюхí* мн. — Маст., Шчуч. (ЛАБНГ), *бздзю́шка* ж., *бздзюшкí* мн. — Паст., Астр., Ашм., Іўеў., Гродз., Лід. (ЛАБНГ, СПЗБ), *бадзю́шка* ж. — мясц. (Ластоўскі), *біздзюхá* ж. — Стол. (ЛАБНГ), *кубíздзель* м. — Воран. (ЛАБНГ, Яшкін), *ваўчы́ныя бздзíны* — Глыб. (ЛАБНГ, СПЗБ), *панпýха* ж. — Лун. (ЛАБНГ, Шаталава, Яшкін), *панпýшка* ж. — Бабр., Клім. (ЛАБНГ, Яшкін), *пампýха* ж., *капшýк* м. — Стол. (Яшкін), *пампýшка* ж. — усх.-маг. р., Лоеў. (ЛАБНГ, Яшкін), *бýрая пампýш-*

*ка* — Чэрык. (Яшкін), *бу́слеўка* ж., *бу́шлеўка* ж. — Пін. (ЛАБНГ, ЖС, Яшкін), *бу́снеўка* ж. — Кобр., Драг., Іван. (ЛАБНГ, ЖС, Яшкін), *бу́ськавае* прым. — Івац. (Яшкін), *бусько́вае* прым. — Іван. (Яшкін), *бу́ськаў сыр* — Стол. (ЛАБНГ, Яшкін), *бу́слава гаўно́* — Іўеў. (ЛАБНГ), *кура́ўка* ж. — Навагр., Карэл. (ЛАБНГ, ЖС, З нар. сл., Сл. Гродз., Яшкін), *ку́раўка* ж. — Уздз. (Н. сл-сць), *шапту́х* м., *шаптухі́* мн. — Гродз., Шчуч. (Сл. Гродз., Цыхун), *шапту́ха* ж. — Нясв. (ЛАБНГ, Яшкін), *мума́к* м. — Слаўг. (Яшкін), *мума́шка* ж. — Касц. (ЛАБНГ, ЖС, ЭСБМ, Яшкін), *машо́нка* ж. — Уздз., Слаўг. (ЭСБМ, Н. сл-сць, Яшкін), *пыльхаўка* ж. — Гродз. (Сл. Гродз.), *бу́льба* ж. — Браг. (Мат. Гом.), *дажджавік* м. — Уздз., Малар. (Н. сл-сць, Яшкін), *вясёлка* ж. — Уздз. (ЭСБМ), *гу́ба* ж. — Гарад. (ЛАБНГ, Яшкін), *дро́па* ж. — Драг. (ЖС), *мяшо́к* м. — Лельч. (ЛАБНГ, Яшкін), *паду́шачка* ж., *ды́мнік* м. — Бабр. (ЛАБНГ, Яшкін), *бо́мбачка* ж. — Кругл. (ЛАБНГ, Яшкін), *балабе́шка* ж. — Гл. (ЛАБНГ, Яшкін), *сыро́к* м., *сыркі́* мн. — Акц. (ЛАБНГ, Яшкін), *варо́нні сыр* — Гарад., Беш., Навагр., Карэл., Лоеў. (ЛАБНГ, Янкова, Яшкін), *варо́ны сыр* — Астр. (Яшкін), *бу́ськаў гной* — Іван. (ЖС, Яшкін), *во́ўчы таба́к* — Латгал. р. (СПЗБ), *ваўчы́нае* прым. — Глыб. (Яшкін).

## Рагацік жоўты

Малавядомы ядомы грыб з булаватападобным або лапатападобным целам, шаравата-бураватага колеру.

*лось* м., *ласёў грыб* — Жытк. (ТС), *ку́рачка* ж. — Пруж. (Н. сл-сць), *махра́ч* м. — Смал. (Яшкін), *га́рах* м. — Кам. (ЖС), *ко́зья баро́дка* — Беластоц. р. (ЖС).

**Рагацік язычковы:** *вало́вы язы́к* — Ваўк. (Яшкін).

## Радоўка

Ядомы пласціністы грыб.

*радоўка* ж., *радо́вачка* ж. памянш. — сярэд.-бел. г., віц.-маг. г., усх.-пал. р. (СПЗБ, ЭПБ, Мат. Гом., Насовіч, Станкевіч, Яшкін), *ра́даўка* ж. — Калінк. (Мат. Гом.), *радо́вік* м., *радавічо́к* м. памянш. — Докш., Ушацк. (Яшкін), *ра́ду́ха* ж. — Дзятл., Брэсц., Лун. (Яшкін), *раду́ха* ж. — Стаўб., Кір. (Яшкін), *пара́духа* ж. — Брэсц., Лун. (ЖС, Яшкін), *пара́духі* мн. — Пін. (ЖС), *параду́ха* ж. — Карэл., Кір. (Яшкін), *сіву́шка* ж. — Лун. (ЖС), *красу́лька* ж. — Пруж. (Н. сл-сць), *го́луб* м., *галубы́* мн. — Іван. (ЖС), *галу́б* м. — Докш. (Яшкін), *пасча́лка* ж. — Валож. (Яшкін), *плюс* м., *плюсы́* мн. — Маз. (ЖС), *лаша́нка* ж. — Леп., Барыс. (СПЗБ, ЭСБМ, НС, Н. сл-сць, Яшкін), *саля́нка* ж. — Леп. (Яшкін), *пад'зялёнак* м. — Карэл. (Н. сл-сць).

**Радоўка фіялетавая:** *сіню́ха* ж., *сіню́шка* ж. памянш. — Гродз. р., Уздз., Пруж. (Н. сл-сць, Яшкін), *сі́нька* ж., *сіня́ўка* ж., *сіняпу́ха* ж., *сіняпу́зка* ж., *сінь-грыб* м., *васі́ль* м., *васілёк* м. — Мін., Дзярж., Уздз. (СЦБ, Н. сл-сць, Яшкін), *галу́бка* ж., *галубо́к* м. — Мін. (Яшкін), *кот* м., *каты́* мн. — Кам. (ЖС, Яшкін), *падду́бак* м. — Льельч. (Яшкін), *падду́бка* ж. — Шкл., Гор., Маг. (Яшкін), *паддубо́ўка* ж. — Клецк. (Яшкін), *паддубя́нка* ж. — Мсцісл. (Яшкін), *падду́бняха* ж. — Кобр., Драг. (Яшкін), *макру́ха* ж., *макру́шка* ж. памянш. — Уздз. (ЭСБМ, Н. сл-сць)

## Рашэтнік

Ядомы губчасты грыб карычневага колеру.

*рашэ́тнік* м., *рашэ́тнікі* мн. — паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г. (ЖС, Мат. Гродз., Яшкін, Мат. апыт.), *падрашэ́тнік* м. — паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., гродз.-бар. г., Стол. (СПЗБ, СЦБ, Дабравольскі, Яшкін), *рашо́тнік* м., *рашо́тнікі* мн. — паўд.-зах. д., Буда-Каш., Беластоц. р. (СПЗБ, ЖС, Сл. Гродз., Яшкін), *падрашо́тнік* м. — Віл., Лаг., Круп., Гродз., Стаўб., Маст., Бераст., Ваўк., Рэч., Лоеў. (ЖС, Цыхун, Янкова, Яшкін), *рашо́цік* м. — Лун.,

Лельч. Ельск. (ЖС, Яшкін), *рашэ́цік* м. — Пух. (Яшкін), *падрашэ́цік* м. — Рэч. (Яшкін), *рашэ́цянік* м. — Пін. (ЖС, Яшкін), *рашатня́к* м. — Кам., Брэсц., Кобр. (ЖС, Яшкін), *рашаця́к* м. — Стол. (Яшкін), *рашацю́к* м. — Лун., Лельч., Ельск. (Яшкін), *рашату́н* м. — Старадарож., Стол., Лельч., Ельск. (ТС, Яшкін), *рашату́ха* ж., *рашату́хі* мн. — Навагр. (Мат. Гродз., Яшкін), *рашу́тка* ж. — Кам. (ЖС, Яшкін), *рашо́тка* ж., *рашо́тачка* ж. памянш. — Тал., Дзятл., Клім., Жытк., Маз. (СПЗБ, ЖС, Яшкін), *падрашо́тка* ж. — Маладз. (Яшкін), *рашо́цька* ж. — Гл., Лун., Лельч., Ельск. (ЖС, Яшкін), *рашэ́цька* ж. — Гл. (Яшкін), *рашэ́ценка* ж., *рашаця́нка* ж. — Стол. (Яшкін), *рашэ́цяха* ж. — зах.-пал. г. (ЖС, Н. сл-сць, Яшкін), *рашацю́ха* ж. — Пруж. (Яшкін), *рэ́шата* н. — Стол. (ТС, Яшкін), *ракішэ́тнік* м. — Пруж. (Н. сл-сць, Яшкін), *казяло́к* м. — Паст. (ЖС, Яшкін), *бацві́ннік* м. — Беластоц. р. (ЖС), *падсасно́ўкі* мн. — Докш. (СПЗБ, Яшкін), *асі́наўка* ж. — Гродз., Лід. (Яшкін), *масля́к* м. — Смал. (Яшкін), *грэ́цкі баравік* — Бых. (Яшкін).

## Рыжык

Ядомы пласціністы грыб пераважна рыжага колеру.

*ры́жык* м. — агульн. (ЖС, СПЗБ, Н. сл-сць, Бялькевіч, Каспяровіч, Ластоўскі, Яшкін, Мат. апыт.), *ры́жык свойскі* — Слон. (Мат. апыт.), *сасно́вы ры́жык*, *яло́вы ры́жык* — Мёр. (Яшкін), *ры́жыкі* мн. — паўн.-зах. з., Кобр., Драг., Латгал. р., Вілен. р. (СПЗБ, ЖС, Мат. апыт.), *ары́жык* м. — Гарад. (Яшкін), *рыжо́к* м. — агульн. (ТС, СПЗБ, ЖС, ГЧ, Н. сл-сць, Сл. Гродз., Шатэрнік, Янкоўскі, Яшкін), *грыжо́к* м. — Шчуч. (НЛ), *грышкі́* мн. — Гродз. (СПЗБ, З нар. сл., Яшкін), *рыж* м. — Бабр. (Яшкін), *рыжа́к* м. — Віц. р., Шчуч., Чэрв., Слуц. (Каспяровіч, Верас, Яшкін), *рыжкі́* мн. — зах.-пал. г., Маст., Пух., Беластоц. р. (СПЗБ, ЖС), *ры́жкі* мн. — Драг. (ЖС), *ры́жка* ж. — Беластоц. р. (ЖС), *рыжу́ха* ж. — Валож. (Яшкін), *ру́дзік* м. —

Уздз. (Н. сл-сць, Яшкін), *ружавéц* м. — Калінк. (Мат. Гом.), *мачóнік* м. — Пол. (Яшкін), *мачóнка* ж. — Пол., Докш. (Яшкін), *балбатýхі* мн. — Навагр. (Мат. Гродз.).

## Свінуха

Ядомы пласціністы грыб з карычнева-бураватай шапкай.

*свінн́я* ж., *свíнні* мн. — усх.-пал. р., Слон. (ЖНС, Мат. Гом., Мат. апыт.), ***свíнка*** ж. — мясц. (Насовіч), ***свíнкі*** мн. — усх.-пал. р. (Мат. Гом.), ***свінáрка*** ж., ***свінюха*** ж., ***свінюшка*** ж. памянш. — Чэрв. (Шатэрнік), ***свінáркі*** мн. — усх.-пал. р. (Мат. Гом.), ***свінарэйка*** ж., ***свінýха*** ж., ***свінýхі*** мн., ***свінýшкі*** мн. памянш. — Лельч., Гом., Чач. (ЖС, Мат. Гом.), ***свіняўка*** ж. — Лоеў. (Янкова), ***свініцы*** мн. — Жытк. (ТС), *швінкі* мн. — Віц. (Станкевіч), ***свінóе вýха*** — Уздз. (Н. сл-сць), ***свíныя вýшы*** — Навагр. (Мат. апыт.), ***кабыла*** ж. — Зэльв., Уздз. (СЦБ, Сцяцко), ***кабыліца*** ж. — Зэльв. (Сцяцко).

**Свінуха тоўстая:** *свінн́я* ж. — Ушацк., Тал. (Яшкін), *свінны грыб* — Хоц. (Яшкін), ***свíнка*** ж. — паўн. р., паўдн.-усх. з., зах.-пал. г., Карэл. (ЖС, Н. сл-сць, Яшкін), *свіня́нка* ж. — Гл. (Яшкін), ***свінáрка*** ж. — сярэд.-бел. г., Пруж., Пін. (Н. сл-сць, Яшкін), ***свінарэйка*** ж. — Лельч., Нараўл. (Яшкін), ***свінýха*** ж., ***свінýшка*** ж. памянш. — Ушацк., Уздз., Бых., Чэрык., Жаб., Лун., Стол., Лельч. (ЭПБ, Н. сл-сць, Яшкін), ***свінýх*** м. — Шчуч. (Яшкін), *свінюха* ж. — Кобр., Лельч. (Яшкін), ***свініца*** ж. — Жытк. (Яшкін), *сівýха* ж. — Лун. (Яшкін), *сівухá* ж. — Брэсц. (ДСБ), *сівы мачóнік* — Ушацк. (Яшкін), ***кабылка*** ж. — Кругл. (ЖС).

**Свінуха тонкая:** *альхóўка* ж. — зах.-пал. г. (ЖС, Яшкін), *альшáнік* м. — Лёзн. (Яшкін), *алéхавік* м. — Беш. (Яшкін), *ільхóвікі* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *падалéшнік* м. — Гарад., Лёзн. (ЭСБМ, Яшкін), *падалéшніца* ж. — Смален. р. (Дабравольскі), *падальхóвік* м. — Ушацк., Беш., Леп. (ЖС, Яшкін, Мат. апыт.), *паддýбняк* м. — Драг., Іван.

(ДСБ, ЖС, Яшкін), *поддубень* м. — Кам. (ЖС, Яшкін), *паддубец* м. — Пін. (ЖС, Яшкін), *кабыла* ж. — Докш., Леп., Віл., Маладз., Лаг., Мін., Бярэз., Стаўб., Зэльв., Слон., Нясв., Капыл., Маг., Мсцісл., Кір., Смален. р. (ЭСБМ, ЖС, Мат. мін.-мал., Дабравольскі, Юрчанка, Сцяцко, Яшкін, Мат. апыт.), *кабылка* ж. — Навагр., Мін., Кругл., Карм. (Яшкін), *падкабылка* ж. — Маладз. (СЦБ), *кабыляха* ж. — Ваўк. (Яшкін), *кабылянка* ж. — Слуц., Гл. (Яшкін), *кабыленка* ж. — Кір., Лун. (Яшкін), *кабыльнік* м. — Маг., Рэч. (Яшкін), *свінарка* ж. — сярэд.-бел. г., Гродз., Шчуч., Івац., Хойн., Лоеў. (Яшкін), *свінарэйка* ж., *свінуха* ж., *свінюха* ж. — Лельч. (Яшкін), *капыт* м. — Верхнядзв., Тал., Арш., Шкл. (Яшкін), *капыл* м. — Мін. р. (Яшкін), *каваль* м., *кавалік* м. памянш., *баран* м. — Тал. (ЖС, Яшкін), *конь* м. — Ветк. (Яшкін), *конскі грыб* — Смал. (Яшкін), *конская лупа* — Паст. (ЭСБМ, ЖС).

## Сіняк

Ядомы пласціністы грыб ад светла-бураватага да бледна-тэракотавага колеру, мякаць якога на зломе рэзка сінее.

*сіняк* м., *сінякі* мн. — Навагр., Зэльв., Калінк. (ЭПБ, Мат. Гом., Сцяцко. Мат. апыт.), *мядоўка* ж. — Ельск. (ЖС), *кепек* м. — мясц. (ЭСБМ), *дубавік* м. — Мін. (Яшкін), *паддубавік* м. — Паст. (ЖС), *падомшнік* м. — Пін. (Яшкін), *палявы грыб* — Маз. (ЖС), *палёвы грыб*, *палёвы белы грыб* — Драг., Лун. (ЖС, Яшкін), *палёвік горкі* — Пруж. (Н. сл-сць).

## Смаржок

Ядомы ранні веснавы грыб на кароткай ножцы з цёмна-карычневай ці жаўтаватай шапкай, паверхня якой маршчыністая, у звілістых складках.

*смаржок* м. — паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., Паням. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЭПБ, ЖС, Бялькевіч, Яшкін, Мат. апыт.),

*сморж* м. — Глыб., Малар. (Яшкін), *смаўжо́к* м., *смаўжкі́* мн. — Карм. (ЛАБНГ, Яшкін), *смарчо́к* м. — усх. з., Панями. р., Ганц. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, Мат. Гродз., Каспяровіч, Яшкін), *смарчкі́* мн. — Уздз. (Н. сл-сць), *смаршо́к* м. — агульн., акрамя паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, Яшкін, Мат. апыт.), *смаршкі́* мн. — Уздз. (Н. сл-сць), *шмаршо́к* м. — Чэрв., Пух., Хоц. (ЛАБНГ, Яшкін), *смаршы́* мн. — Гарад. (ЛАБНГ), *смаршчо́к* м. — Паст., Ушацк., Ашм., Гродз., Слон., Лях., Чэрв., Старадарож., Слаўг., Краснап., Кам., Беластоц. р. (ЛАБНГ, ЖС, Шатэрнік, Бялькевіч, Станкевіч, Цыхун, Яшкін), *смо́ркі* мн. — Івац. (ЛАБНГ), *маршчо́к* м. — Чач. (ЛАБНГ), *маршчы́* мн. — Раг. (ЛАБНГ), *маршча́к* м. — Слаўг., Краснап. (Яшкін), *маршо́к* м. — Малар., Кір., Лун. (ЛАБНГ, Яшкін), *мо́ршак* м. — Лун. (ЭСБМ, Шаталава), *старчо́к* м. — Пол., Стаўб., Дзятл., Клім., Акц., Лельч. (ЛАБНГ, Яшкін), *старшкі́* мн. — Віл. (ЛАБНГ), *страчо́к* м. — агульн., акрамя Мін. р., Гом. р. (ЛАБНГ), *тарчо́к* м. — Пол., Круп., Асіп. (СПЗБ), *смарка́ч* м. — Мін. (Яшкін), *грузд* м. — Лельч. (ЛАБНГ), *глузд* м., *глузды́* мн. — Клецк., Ганц., Стол., Жытк., Маз., Ельск. (ЛАБНГ, Яшкін), *храпа́ч* м. — Гродз., Уздз., Гл. (Сл. Гродз., Н. сл-сць, Янкоўскі), *храпа́к* м. — Светлагор. (Мат. Гом.), *каўпа́к* м. — Лельч., Маз. (ЛАБНГ, ЖС, Яшкін), *вясёлка* ж. — усх.-маг. р., Бар., Уздз., Саліг., Бых., Гом. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЭСБМ, Н. сл-сць, Яшкін), *глуха́я вясёлка* — Кір. (Яшкін), *вясе́лік* м., *вясе́лікі* мн. — Асіп., Старадарож., Саліг., Люб., Гл. (ЛАБНГ, ЖНС, ЭСБМ, Н. сл-сць, Янкоўскі, Яшкін), *весяло́к* м., *весялкі́* мн. — Бар., Лях., Клецк., Капыл., Калінк. (ЛАБНГ, СПЗБ), *асяло́к* м. — Уздз., Гом. (ЛАБНГ, Н. сл-сць), *васілёк* м. — Рэч. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *глухі́ васілёк* — Рэч. (ЛАБНГ, НС), *ба́біна у́ха* — Ваўк. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ваню́чы грыб* — Лун. (ЛАБНГ), *гры́бны цвет* — Стол. (Яшкін), *гры́баў цвет*, *грыбо́вы цвет* — Старадарож., Лун., Стол. (ЛАБНГ, ЖС, Яшкін), *грыбо́ў цвет* — Стол. (ТС), *маёвы грыбы́* — Малар. (ЛАБНГ), *палявы́я грыбы́* — Чэрык. (ЛАБНГ),

*драге́ль* м. — Стол. (Яшкін), *сняжкі́* мн., *падсне́жнікі* мн. — Гарад., Карм. (ЛАБНГ, Яшкін), *ву́ха* ж. — Гл. (Яшкін), *вужо́вікі* мн. — Ельск. (ЛАБНГ), *вужа́чкі* мн. — Хойн. (ЛАБНГ), *стаўбу́нчыкі* мн. — Стаўб. (ЛАБНГ), *танкано́жкі* мн. — Бераст. (ЛАБНГ, Яшкін), *труёнцы* мн. — Ашм. (ЛАБНГ), *таўка́чыкі* мн. — Круп. (ЛАБНГ), *шмарго́нцы* мн. — Лун. (ЛАБНГ), *зрачкі́* мн. — Клім. (ЛАБНГ), *рапкі́* мн., *ра́пчыкі* мн. памянш. — Нясв. (ЛАБНГ).

## Спарыння

Паразітны грыб у каласах жыта, пшаніцы, ячменю ў выглядзе чорных ражкоў.

*спары́ння* ж. — агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ), *спары́нец* м. — паўн.-зах. з. (Верас), *спары́ш* м. — Слон., Слаўг., Бяроз. (ЛАБНГ), *спары́шнік* м. — Лёзн. (Каспяровіч), *спарэ́ц* м. — Пін., Стол. (ЛАБНГ, ЛП), *спор* м., *спо́рыкі* мн. — Воран., Слон., Лях., Клецк., Пін., Стол. (ЛАБНГ, ТС, ЛП, Мат. Гродз.), *спо́рнік* м., *спо́рнікі* мн. — Воран., Лун. (ЛП, Мат. Гродз.), *спарэ́хі* мн. — Ганц. (ЛАБНГ), *спры́ты* мн. — Іўеў. (Сл. Гродз.), *галаўня́* ж. — усх. з., Гродз. р., Мёр., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, ЭСБМ, ЖС, Мат. Гродз., Растаргуеў), *алаўня́* ж. — Астр. (ЛАБНГ), *галаве́шка* ж. — Стол., Жытк., Маз., Ельск. (ЛАБНГ, ТС), *галаві́ца* ж. — Лаг. (СЦБ), *ражо́к* м. — Круп. (СПЗБ), *ражкі́* мн. — Стол., Лельч., Маз. (ЛАБНГ, ТС, ЛП), *зуб* м. — Лаг. (СЦБ), *зубе́ц* м. — Барыс. (СЦБ), *зу́бы* мн. — Рас. (ЛАБНГ), *зубы́* мн. — Пух. (ЖС, ЭСБМ), *сняце́й* м. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ДСБ, НЛ, Шаталава), *сянце́й* м. — Драг. (ЛАБНГ), *смяце́й* м. — Карэл., Маст., Зэльв., Бар., Слон., Лях., Клецк. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. апыт.), *смяця́й* м. — Маст., Зэльв., Бар., Лях. (СПЗБ), *смяце́нь* м. — Бяроз. (Шаталава), *са́жа* ж. — Валож., Лаг., Чэрв., Асіп., Клецк., Малар., Стол., Жытк. (ЛАБНГ, ТС, Шаталава), *дзік* м. — Віц. р. (Каспяровіч), *дзічы́* мн. — Віц. (ЛАБНГ), *піражо́к* м., *піражкі́* мн. — Паст., Чашн., Слуц., Карм., Чач. (ЛАБНГ,

Мат. Гом.), *маляначу́к* м., *малянчуко́вае зе́рне* — Ганц. (СПЗБ), *маланчу́к* м. — пал. р., Беластоц. р (ЭСБМ, ЛП), *галу́за* ж. — Старадарож. (ЛАБНГ), *маткі́* мн. — Бяроз. (ЛАБНГ), *бацькі́* мн. — усх.-пал. р. (ЛП, ЭСБМ), *зярню́к* м. — Воран. (СПЗБ), *аржа́* ж. — Іўеў. (СПЗБ), *пугачы́на* ж. — Драг. (ЛАБНГ), *клышы́* мн., *клышо́ўнік* м., *во́чка варо́няе* — паўн.-зах. з. (Верас), *варо́нін зуб* — Гродз. (Мат. Гродз.), *чарто́ў зуб* (*клык*) — Ашм. (Станкевіч), *вало́ва сі́ла* — Пін. (ЛП).

**Спарыння ў жыце:** *спор* м., *спаро́к* м. — Лях., Клецк., Старадарож., Пін., Стол. (ЛАБНГ, ЛП), *спо́рнік* м. — Ганц., Лун., Стол. (ЛАБНГ, ЛП), *спарэ́ц* м. — Пін. (ЛАБНГ), *спары́ш* м. — зах.-пал. г., Арш., Навагр., Слон., Капыл. (ЛАБНГ, ЛП), *спарына́* ж. — Слон. (Мат. апыт.), *спарыня́* ж. — Сен., Гом. (ЛАБНГ), *спо́рышча* н. — Лун. (ЛП), *спарэ́хі* мн. — Ганц. (ЛАБНГ), *галаўня́* ж. — спарадычна асн. мас. г. (ЛАБНГ, Дабравольскі), *галаве́шка* ж. — Мядз., Лун., Стол., Маз., Лельч. (ЛАБНГ), *галу́за* ж. — Гл. (ЛАБНГ), *ражо́к* м., *ражкі́* мн. — усх. з., Слон. (ЛАБНГ, ЛП, Станкевіч, Шаталава, Мат. апыт.), *рага́к* м. — Асіп., Рэч., Лельч. (ЛАБНГ), *рагаві́к* м. — Жытк. (ЛП), *ро́гі* мн. — Жытк. (ТС), *зуб* м. — паўн.-зах. з., Пол., Чэрв. (ЛАБНГ, НЛ, ЭСБМ), *зубе́ц* м. — Віл., Барыс., Мін. (ЛАБНГ), *ма́тка* ж., *ма́ткі* мн., *маткі́* мн. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ЛП, НЛ, ЭСБМ, Шаталава), *жы́тная ма́тка* — Смален. р. (Дабравольскі), *пiражо́к* м. — віц.-маг. г., Паст., Бярэз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *маляначу́к* м. — Ганц. (СПЗБ), *сняце́й* м. — Кам., Малар., Стол. (ЛАБНГ), *чарну́шка* ж. — Кір., Саліг. (ЛАБНГ), *са́жа* ж. — Кір. (ЛАБНГ), *курдзю́к* м. — Паст. (ЛАБНГ), *дзі́чка* ж. — Віц. (ЛАБНГ), *ядро́* н. — Іван. (ЛАБНГ), *клык* м., *клыкі́* мн. — Мёр. (ЖНС), *но́гці* мн. — Рас. (ЛАБНГ), *пераско́кі* мн. — Чач. (ЛАБНГ), *гво́здзікі* мн. — Драг. (ЛП), *варо́ніна жы́та* — пал. р., Слон. (ЛП, ЭСБМ, Мат. Гродз.), *варо́нне жы́та* — Гродз. р., пал. р., Карэл., Стаўб. (ЛАБНГ), *варо́нячае жы́та* — паўн.-зах.

з., Беластоц. р. (СПЗБ, Верас), *варо́ніна зярня́* — Слон. (ЛАБНГ), *варо́не во́чка* — Уздз. (ЛАБНГ), *варо́ні зуб* — Гродз., Бераст., Маст., Зэльв. (ЛАБНГ, СПЗБ), *варо́нін сыр, вало́вая сі́ла* — пал. р. (ЛП, ЭСБМ), *бу́слава дзю́ба* — Стаўб. (ЛАБНГ), *бу́снява жы́та* — зах.-пал. г. (ЛП, ЭСБМ), *чо́рна жы́та* — Навагр., Дзятл., Бар., Драг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *чо́рнае зе́рне* — Гродз. (ЛАБНГ), *чо́рны зярню́к* — Воран. (ЛАБНГ), *чо́рны насо́к* — Нясв. (ЛАБНГ), *маланко́вае жы́та* — Лід., Навагр. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *барава́я жыці́на* — Драг. (ЛАБНГ), *дзі́кае жы́та* — Іван. (ЛП), *за́йцаў піро́г* — Бых. (ЛАБНГ).

**Спарыння ў пшаніцы:** *таба́ка* ж. — Гродз., Ваўк. (Мат. Гродз., Цыхун), *п'янюга́* ж. — Іўеў. (СПЗБ), *галаўня́* ж., *гуго́ль* м., *куко́ль* м. — мясц. (Насовіч), *ро́слікі* мн. — Браг. (ГЧ), *смяце́й* м. — Слон. (Мат. Гродз.).

**Спарыння ў ячмені:** *галаўня́* ж. — Рас. (ЛАБНГ), *галаве́нька* ж. — Лун. (Шаталава), *ржа* ж. — Шум. (СПЗБ), *тражкі́* мн. — Круп. (Мат. мін.-мал.).

**Спарыння ў пшаніцы і ячмені:** *галаўня́* ж. — паўн. р., усх. з. (ЛАБНГ), *галаве́шка* ж. — цэнтр. і ўсх. Пал. (ЛАБНГ), *спор* м. — Пін. (ЛАБНГ), *спары́ш* м. — Гом. (ЛАБНГ), *са́жа* ж. — цэнтр. з., Панямр. р., Стол., Лельч. (ЛАБНГ), *сажня́* ж. — Брасл. (ЛАБНГ), *сняце́й* м. — зах.-пал. г., Пруж., Ганц. (ЛАБНГ), *сняча́й* м. — Ганц. (ЛАБНГ), *смяце́й* м. — Ваўк., Слон., Лях., Клецк. (ЛАБНГ), *смяцюга́* ж. — Карэл. (ЛАБНГ), *п'я́ніца* ж. — Віл. (СПЗБ), *ля́да* н. — Іван. (ЛАБНГ), *таба́ка* ж. — Панямр. р. (ЛАБНГ), *галу́за* ж. — Старадарож., Гл. (ЛАБНГ), *вузяльні́ца* ж. — Гродз. р. (ЭСБМ, Мат. Гродз.), *дзічкі́* мн. — Віц. (ЛАБНГ), *рагакі́* мн. — Рэч. (ЛАБНГ), *чо́рна пшані́ца, чо́рны ячме́нь* — Драг. (ЛАБНГ), *зубы́ чо́рныя* — Мядз. (ЛАБНГ).

**Спарыння ў просе:** *галаўня́* ж., *галаўню́шка* ж. — агульн., акрамя паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, ГЧ), *галаве́шка* ж. — усх.-

пал. р. (ЛАБНГ), *са́жа* ж. — Чэрв. р., Слуц. р., Докш., Барыс., Круп., Слон., Уздз., Асіп. (ЛАБНГ), *сняце́й* м. — зах.-пал. г., Пруж., Івац. (ЛАБНГ), *снача́й* м. — Ганц. (ЛАБНГ), *смяце́й* м. — Слон., Лях., Клецк. (ЛАБНГ), *галу́за* ж. — Старадарож., Гл. (ЛАБНГ), *таба́ка* ж. — Гродз., Маст. (ЛАБНГ), *ля́да* н. — Івац. (ЛАБНГ), *дзічкі́* мн. — Віц. (ЛАБНГ), *ваўкі́* мн. — Драг. (ЛАБНГ), *дзюбы́* мн. — Карэл. (Сл. Гродз.).

## Страчок

Ядомы ранні веснавы грыб, які мае карычневую звіліста-маршчакаватую з глыбокімі складкамі шапку, часткова зрослую з высокай ножкай.

*страчо́к* м. — агульн. (ЭПБ, СПЗБ, Яшкін, Мат. апыт.), *страчкі́* мн. — Уздз. (Н. сл-сць), *старчо́к* м. — зах. з., Кругл., Слаўг., Клім., Акц. (СПЗБ, Н. сл-сць, Яшкін), *тарчо́к* м. — Пол., Круп., Асіп. (Яшкін), *смаршчо́к* м. — Паст., Пруж., Кам. (Яшкін), *смарчо́к* м. — віц.-маг. г., цэнтр. з. (Яшкін), *старшо́к* м. — Лёзн., Тал. (Яшкін), *смаржо́к* м. — Чэрв., Пух. (Яшкін), *смо́рка* ж. — Івац. (Яшкін), *шмаргóнка* ж. — Лун. (Яшкін), *стро́чка* ж. — Петр. (Яшкін), *тарчо́к* м. — Круп., Асіп. (Яшкін), *моршч* м. — Раг. (Яшкін), *васілёк* м. — Пух., Стол., Рэч. (Яшкін), *глухі́ васілёк* — Рэч. (Яшкін), *вясёлка* ж. — паўдн.-усх. з., Бар., Лях. (Яшкін), *вясе́лік* м. — Саліг., Люб., Гл. (Яшкін), *вясёлік* м. — Асіп. (Яшкін), *весяло́к* м. — Бар., Лях., Клецк., Капыл., Калінк. (Яшкін), *асяло́к* м. — Гом. (Яшкін), *глузд* м. — Дзярж., Ганц., Стол., Жытк., Лельч. (Яшкін), *каўпа́к* м. — Жытк., Лельч. (Яшкін), *пажа́рка* ж. — Нясв., Карм., Брэсц. (Яшкін), *пажаро́вік* м. — Жытк., Лельч. (Яшкін), *падсне́жнік* м. — Карм. (Яшкін), *вясня́нка* ж., *вясня́рка* ж. — Рэч. (Яшкін), *зрачо́к* м. — Клім. (Яшкін), *шмаргóнец* м. — Кір. (Яшкін), *ра́бчык* м. — Нясв. (Яшкін), *драге́ль* м. — Стол. (Яшкін), *гры́баў цвет* — Саліг., Люб., Кліч., Стол. (Яшкін), *грыбо́вы цвет* — Старадарож., Лун. (Яшкін), *ба́біна ву́ха* — Ваўк. (Яшкін).

## Сыраежка

Ядомы грыб з пласцiнiстай крохкай яркаафарбаванай шапкай.

*сыраéжка* ж., *сыраéжачка* ж. памянш. — агульн. (ЭПБ, ЛАБНГ, ТС, ЖС, ГЧ, Янкова, Яшкiн, Мат. апыт.), *сыравéжка* ж. — паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., вiц.-маг. г., Глыб. (ЛАБНГ, ЖС. З нар. сл., Каспяровiч, Яшкiн, Мат. апыт.), *сыравéжа* ж. — Вiл., Маг., Краснап. (ЛАБНГ), *сыравéжчына* ж., *сыравя́жсына* ж., *сыравя́жка* ж., *сыравя́жачка* ж. памянш., *сыравéга* ж. — Слаўг. (Яшкiн), *сыраéжа* ж. — зах.-пал. г., Глыб., Шум., Мядз., Вiл., Бярэз., Салiг. (ЛАБНГ, ЖС, Яшкiн), *сыраéжсына* ж., *сыраéжчына* ж. — Слаўг. (Яшкiн), *сыраéга* ж. — зах.-пал. г., Гл. (ЛАБНГ, ЖС, Яшкiн), *сыраéдка* ж. — Беластоц. р. (ЖС), *сырагíжка* ж. — Пiн. (ЛАБНГ, ЖС), *сырая́жка* ж. — Кам. (ЛАБНГ, ЖС), *сырадзéга* ж. — Драг. (ЖС, Яшкiн), *сураéжка* ж. — паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., спарадычна паўдн.-зах. д., Драг. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, Мат. Гом., Яшкiн, Мат. апыт.), *суравéжка* ж. — паўн.-усх. д., паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, ЖС, Мат. Гродз., Станкевiч, Каспяровiч, Растаргуеў, Цыхун, Яшкiн, Мат. апыт.), *суравéжчына* ж. — Слаўг. (Яшкiн), *сураéжсына* ж. — Верхнядзв., Рас. (ЛАБНГ), *сураéжчына* ж. — Слаўг. (Яшкiн), *суравéжа* ж., *суравéжсы* мн. — Тал., Вiл., Круп., Лаг., Бярэз., Бял. (ЛАБНГ, СПЗБ, Яшкiн), *суравéга* ж. — Слаўг., Краснап. (Яшкiн), *саравéжка* ж. — Бял., Гор., Мсцiсл., Хоц. (Бялькевiч, Юрчанка, Яшкiн), *серавéжка* ж. — Чач. (Яшкiн), *аплáўка* ж., *аплáвачка* ж. памянш. — Барыс. (СЦБ, Н. сл-сць), *лiпя́нка* ж. — Раг. (ЛАБНГ, ЭСБМ, СПЗБ), *акýбкi* мн. — Гарад., Вiц. (ЭСБМ, Каспяровiч), *кýбак* м., *кýбачак* м. памянш. — Ушацк. (ЛАБНГ), *грудзя́нка* ж. — Калiнк. (ЛАБНГ), *пры́балатка* ж., *прыбалацянка* ж. — Нараўл. (ЛАБНГ), *галýбка* ж. — Беластоц. р. (ЖС), *сурая́тка* ж. — Вiлен. р. (СПЗБ), *красóткi* мн., *жаўцю́шкi* мн. — Гарад. (ЛАБНГ).

**Сыраежка чырвоная:** *красо́тка* ж., *красо́ха* ж., *красо́шка* ж. — Гарад. (Яшкін), *саладу́ха* ж., *гарчакі́* мн. — Івац. (ЛАБНГ).

**Сыраежка бурая:** *саладу́ха* ж. — Івац. (ЖС, Яшкін), *паддубніца* ж. — Гом. (ЖС, Яшкін).

**Сыраежка жоўтая:** *жаўту́ха* ж. — Чэрв., Бярэз., Пух., Люб., Кліч., Бых. (Яшкін), *жаўту́шка* ж. — Чэрв. (Яшкін), *жаўцю́шка* ж. — Гарад. (Яшкін), *жаўця́нка* ж. — Чэрв., Бярэз. (Яшкін), *жо́ўтая лі́панка*, *лі́панка* ж. — Гл. (Яшкін), *ле́плянка* ж., *лепля́нка* ж., *саладу́ха* ж. — Івац. (ЛАБНГ, ЖС, Яшкін), *ліпя́нка* ж. — Старадарож., Раг. (Яшкін), *ля́плыка* ж. — Раг. (Яшкін), *вясёлка* ж. — Слаўг. (Яшкін).

**Сыраежка сіняя:** *сіню́га* ж., *сіню́гі* мн. — Пол., Бых., Чэрв. (ЛАБНГ, Яшкін), *сіню́шка* ж., *сіню́шкі* мн. — Гарад., Беш., Краснап., Хоц. (ЛАБНГ, Бялькевіч, Яшкін), *сіне́шка* ж. — Хоц. (Яшкін), *сіня́ўка* ж. — Шкл. (Яшкін), *сіні́ца* ж. — Капыл. (Яшкін).

**Сыраежка шэрая:** *сі́вачка* ж. — Іван. (Яшкін), *сіву́лька* ж. — Слаўг., Лельч. (Яшкін), *сі́ўка* ж. – Слаўг. (Яшкін).

**Сыраежка горкая:** *гарча́к* м. — Івац., Малар., Лельч. (ЖС, Яшкін), *гарца́шка* ж. — Гарад. (Яшкін), *гарчані́* мн. — Смален. р. (Дабравольскі), *во́гнеўка* ж. — Драг. (ЖС, Яшкін).

**Сыраежка з вострай шапачкай:** *пры́балатка* ж., *пры́балатуха* ж., *пры́балацянка* ж. — Лельч. (ЖС)

## Таўкачык жоўта-карычневы

Ядомы пласцiністы грыб са званочкападобнай шэра-карычневай шапкай з рабрыстым краем.

*балату́ха* ж. — Стаўб., Дзярж. (Яшкін), *балаця́нка* ж. — Пух., Слуц., Гом. (Яшкін), *бало́цянка* ж. — Старадарож.

(Яшкін), *балóцюха* ж. — Кобр. (Яшкін), *балóтніца* ж. — Маст. (Яшкін), *пры́балатуха* ж., *пры́балатушка* ж. — Малар., Стол., Жытк., Лельч. (Яшкін), *пры́балатка* ж. — Лельч. (Яшкін), *прыбалóтка* ж. — Уздз. (Мат. мін.-мал.), *пры́балацянка* ж. — Лельч., Нараўл. (Яшкін), *балóтны таўкáчык* — Мядз. (Яшкін).

## Таўстуха

Ядомы пласціністы грыб з жаўтавата-бураватай плямістай шапкай.

*таўсту́ха* ж. — паўдн.-зах. д., зах.-пал. г., сярэд.-бел. г., Ушацк., а таксама Беластоц. р. (ЭПБ, СПЗБ, ЖС, Яшкін), *сíняя таўсту́ха* — Мін. (Яшкін), *таўсту́шка* ж. — паўдн.-зах. д., зах.-пал. г., сярэд.-бел. г. (СПЗБ, ЖС, Н. сл-сць, Яшкін), *таўстóлка* ж. — Рэч. (Яшкін), *талсту́ха* ж. — Карэл. (Яшкін), *талсту́шка* ж. — Уздз. (Н. сл-сць), *таўсцю́хі* мн., *таўсцю́шкі* мн. памянш. — Слон. (Мат. апыт.), *цяцéра* ж. — Леп., Беш., Гл. (Яшкін), *кабы́лкі* мн. — Смарг. (СПЗБ, Яшкін), *сіву́ха* ж. — Пін. (ЖС, Яшкін), *параду́ха* ж., *рагату́ха* ж. — Жаб. (Яшкін), *рубíха* ж. — Маг., Карм. (Яшкін), *ру́бчык* м., *маладу́шка* ж. — Воран. (Яшкін), *падгрóб* м. — Пол. (Яшкін), *падсаснóўка* ж. — Шум. (Яшкін), *падсасóнка* ж. — Бых. (Яшкін), *падсóснік* м. — Петр. (Мат. Гом.), *лось* м. — Стол. (Яшкін), *саланíнка* ж. — Ушацк. (Яшкін), *мачóнка* ж. — Мёр. (Яшкін), *бáбка* ж. — Мядз. (Яшкін), *маладзíца* ж. — Пух. (Яшкін).

## Шампіньён

Ядомы пласціністы грыб з белай ці буpаватай шапкай.

*шампіньён* м. — спарадычна усх. з. (ЭПБ, ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, Н. сл-сць, Яшкін), *шампіньéн* м. — Гродз. (ЛАБНГ), *шампаньён* м. — Гом. (ЖС), *шампінён* м. — Зэльв., Круп., Гор., Клім., Краснап. (ЛАБНГ, Яшкін), *шампілён* м. — Леп. (Мат. апыт.), *шампільёны* мн. — Бабр.

(ЛАБНГ), *шампіїны* мн. — Краснап. (ЛАБНГ), *шампіены* мн. — Дзятл. (ЛАБНГ), *шампіён* м. — агульн., акрамя зах.-пал. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, Яшкін, Мат. апыт.), *шампіо́н* м. — Верхнядзв. (Яшкін), *шампіена* ж., *шлапіён* м., *шампіёніна* ж. — Слаўг. (Яшкін), *шампініён* м. — Круп. (Яшкін), *шампіво́н* м. — Рэч. (ЛАБНГ, Яшкін), *шапіён* м. — усх. з., акрамя поўдня Гомельшчыны (ЛАБНГ, Яшкін), *шап'ёны* мн. — Люб. (Н. сл-сць), *шапён* м., *шапёнік* м. памянш. — Леп., Ашм., Капыл., Слуц., Хойн. (ЛАБНГ, Яшкін), *шапёнка* ж. — Стол. (Яшкін), *шапільён* м. — Бабр. (Яшкін), *шаппінён* м. — усх.-маг. р., Кругл. (Яшкін), *шаплуёны* мн. — Леп. (ЛАБНГ, Мат. апыт., Яшкін), *шафіо́н* м. — Ашм. (ЛАБНГ, Яшкін), *шафіён* м. — Дзярж., Уздз. (Яшкін), *шахаён* м., *шахіён* м. — Стол. (Яшкін), *шпіёны* мн. — Гарад., Шум., Беш., Клім., Петр. (ЛАБНГ, Яшкін), *шпінён* м. — Пруж. (Н. сл-сць, Яшкін), *чампіён* м., *чампіо́н* м. — Слон. (Мат. апыт.), *чампіво́н* м. — Гарад. (Яшкін), *чампіёны* мн. — Шарк., Гарад., Слон., Асіп. (Мат. апыт.), *печуры́ца* ж. — паўдн. р., Уздз., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, ТС, ЖС, ДСБ, НЛГ, Н. сл-сць, Станкевіч, Насовіч, Яшкін), *палявая пячуры́ца* — Смал. (Яшкін), *пачуры́ца* ж., *пачуры́цка* ж., *пачары́ца* ж., *пачары́цка* ж. — Жытк. (Яшкін), *качуры́ца* ж. — Саліг. (Яшкін), *пячу́рка* ж., *пачу́рачка* ж. памянш. — зах.-пал. г., Бераст., Валож., Уздз., Капыл., Клецк., Чэрык., Маз. (ЛАБНГ, ЖС, ДСБ, Н. сл-сць, Яшкін), *пячуркі́* мн. — Брэсц., Драг. (ДСБ), *печуры́ны* мн. — Навагр. (Мат. апыт.), *пяча́рка* ж., *печа́ркі* мн. — Ваўк., Слон., Стаўб., Нясв., Беластоц. р. (ЛАБНГ, ЖС, Яшкін), *пячо́рка* ж. — Гродз., Карэл., Стаўб., Клецк., Капыл., Стол. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., Мат. мін.-мал., Цыхун, Яшкін), *гаўня́нка* ж. — Зэльв. (ЛАБНГ), *гамня́нка* ж. — Кам., Малар. (ЛАБНГ, ЖС, Яшкін), *гаўня́нкі* мн. — Слон. (ЛАБНГ), *гаўня́ныя грыбы́* — Мядз. (ЛАБНГ), *гная́нка* ж. — Зэльв., Уздз., Пруж., Лельч., Нараўл. (ЛАБНГ, ЖС, Н. сл-сць, Яшкін), *гная́нкі* мн. — Бар., Беластоц. р. (СПЗБ), *гная́ўка* ж. — Уздз. (Н. сл-сць, Яшкін), *гная́ўкі* мн. — Валож., Пух. (ЛАБНГ, ЖС, Яшкін), *гнаёўкі* мн. — Маст. (Сл. Гродз.), *гнаю́ўкі* мн. — Брасл. (СПЗБ, Яшкін), *гная́лкі* мн. — Кір. (ЛАБНГ,

Яшкін), *гнаякí* мн. — Бар. (ЛАБНГ), *ѓнаявíк* м. — Леп., Лаг., Уздз. (ЛАБНГ, Н. сл-сць, Яшкін), *гнаявікí* мн. — Леп. (Яшкін), *пагнóйка* ж. — Гродз., Свісл., Чэрв., Пух., Беластоц. р. (ЛАБНГ, ЭСБМ, ЖС, Сл. Гродз., СЦБ, Станкевіч, Яшкін), *пагнóйнік* м., *пагнóйнікі* мн. — Гродз. р., Валож., Уздз., Беластоц. р., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Н. сл-сць, ЖС, ЭСБМ, Сл. Гродз., Яшкін), *навóзнік* м. — Уздз. (Н. сл-сць, Яшкін), *бяля́к* м. — паўн.-зах. з., усх.-пал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, Яшкін), *белячóк* м. — Клецк. (Яшкін), *бяля́нка* ж. — Слаўг., Карм. (ЛАБНГ, Яшкін), *белякí* мн., *падбéльнікі* мн. — Навагр. (НС), *бéлы грыб* — Паст., Бераст. (ЖС, Яшкін), *кýркі* мн. — Беш. (НС, Яшкін), *чарапíцы* мн. — Івац., Іван. (ЛАБНГ, НС, Яшкін), *шапíрка* ж. — Калінк. (Мат. Гом.), *калóша* ж., *калóшкі* мн. — Дзятл., Карэл. (СПЗБ, Яшкін), *галавáч* м. — Гродз. (Сл. Гродз.), *сікýнчыкі* мн. — Маст. (СПЗБ, Яшкін), *бэ́цькі* мн. — Стол., Жытк. (ЛАБНГ, Яшкін), *гукáлкі* мн. — Смален. р. (Станкевіч), *сóвы* мн. — Смарг. (ЛАБНГ, Яшкін), *сарóка* ж. — Віл. (ЛАБНГ, Яшкін), *плю́ха* ж. — Віл. (Мат. мін.-мал.), *паплавя́нка* ж., *бéлы каўпáк* — Пруж. (ЛАБНГ, Яшкін), *палявíк* м. — Пух., Ветк., Ельск. (СЦБ, Яшкін), *палявы́ грыб* — усх.-маг. р., Капыл., Слуц., Стол., Лельч. (Яшкін), *садавікí* мн. — Гродз. (ЛАБНГ, Яшкін), *садóвы грыб* — Воран. (ЛАБНГ, Яшкін), *чапяры́ца* ж., *чапуры́чка* ж., *чыпуры́чак* м., *прóсты казля́к, казлячóк* м. памянш. — Стол. (ДСБ, Яшкін), *пáнскія грыбы́* — Віл. (ЛАБНГ, Яшкін), *вóўчанка* ж., *вужóвік* м. — Лун. (Яшкін), *вóўчы грыб* — Чэрв. (Яшкін), *стаптáрка* ж. — Глыб. (Яшкін), *пагáнка* ж. — Верхнядзв., Гарад., Беш., Тал., Бял. (Яшкін), *вужóвік* м. — Лельч. (Яшкін), *вужáчка* ж. — Маз. (Яшкін), *вужáчы грыб* — Лельч. (Яшкін), *паляны́ грыб* — Зэльв. (Яшкін), *пашанцэ́вік* м. — Ваўк. (Яшкін), *падвíшнік* м. — Слуц. (Яшкін), *мыш'я́к* м. — Краснап. (Яшкін), *мышы́ны грыб* — Пол. (Яшкін), *бéлы мышáк* — Бял. (Яшкін).

# 3. ТЭМАТЫЧНЫЯ ГРУПЫ ЛЕКСІКІ СА ЗНАЧЭННЕМ ХАРАКТАРЫСТЫКІ РАСЛІН І ГРЫБОЎ

## 3.1 АГУЛЬНЫЯ НАЗВЫ РАСЛІН І ГРЫБОЎ

### Водарасці

Ніжэйшыя споравыя вадзяныя расліны, у якіх адсутнічае падзел на сцябло, ліст і корань; усе расліны, якія жывуць у вадзе; ціна.

*вóдарасці* мн. — Леп. (Мат. апыт.), *вóдарасць* ж. — мясц. (Ластоўскі), *вóдараслі* мн. — Уздз. (СЦБ), *вóдарасль* ж. — Навагр. (Мат. Гродз.), *вóдарасліна* ж. адзінк. — Валож. (СЦБ), *вадóраслі* мн. — Жытк. (ТС), *пáраслі* мн. — Навагр. (НС), *багавíнне* н. — Жаб. (ЛАБНГ, Станкевіч, ЭСБМ), *багнó* н. — Стол. (ТС), *балóтна* ж. — Люб. (Мат. апыт.), *балóцяна травá* (*зéлле*) — Драг. (Мат. апыт.), *жабуры́нне* н. — Слуц. р., Гом. р. (Мат. апыт., ЭСБМ), *жабурэ́нне* н. — Слуц. р. (Мат. апыт.), *зéлле* н. — Уздз. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *вадзянóе зéлле* — Драг. (Мат. апыт.), *цíна* ж. — Паст., Чэрв., Слаўг., Чач. (СПЗБ, Мат. апыт.), *цінá* ж. — Глыб. (СПЗБ, Мат. апыт.), *цíня* ж. — Слаўг. (Мат. апыт.), *рáска* ж. — Мсцісл., Чач., Люб. (Мат. апыт.), *твань* ж. і м. зборн. — паўдн.-усх. з., Смален. р. (Мат. Гом., Станкевіч), *тынь* ж. — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *паплывýха* ж. — Стаўб. (СЦБ), *майнá* ж. — Жытк. (Н. сл-сць, ЭСБМ), *мох* м. — Смален. р. (Дабравольскі), *рассá* ж. 'травы, якія густа растуць у вадзе' — Віц. р. (Каспяровіч), *броснь* ж., *брóсня* ж. 'цвіль на вадзе' — паўн.-зах. з. (Мат. Гродз., Насовіч, ЭСБМ); **раслінная покрыва на балоце, на вадаёмах, якое ўспухае, узнімаецца, плаў:** *кажýх* м. — Малар. (НЛ), *здымкі* мн. —

Кобр. (НЛ), *зыбе́нь* м. — Віц. р. (Мат. апыт.), *зыбу́н* м. — пол.-мін. г. (ДАБМ, Мат. апыт.), *зы́баўка* ж. — Мядз. (ДАБМ, Мат. апыт.), *зыбіна́* ж., *зыбката́* ж., *зыбі́чына́* ж., *зы́бчасць* ж., *зы́бша* ж., *зыбе́ча* н. — Слаўг. (Мат. апыт.), *по́плаў* м. — Слаўг., Люб. (Мат. апыт.); **тонкае покрыва расліннасці і плесні на паверхні вады:** *па́валка* ж. — Віц. р., усх.-маг. р. (Каспяровіч, Юрчанка, Мат. апыт.), *па́валака* ж., *на́валака* ж. — Слаўг. (Насовіч, Мат. апыт.).

## Гароднiна

Агульная назва раслін, якія растуць на гародзе.

*гаро́дніна* ж. — спарадычна зах. з. (СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. апыт.), *агаро́дніна* ж. — Гл. (Янкоўскі, Насовіч), *гараднiна́* ж. — Вілен. р. (СПЗБ), *араднiна́* ж. — Астр. (СПЗБ), *гаро́дзіна* ж. — Жытк., Драг., зах.-бран. р. (ТС, ЖНС, Растаргуеў), *агаро́дзіна* ж. — Ветк. (Мат. Гом.), *гараднё* н. — Бар. (СПЗБ), *агаро́дняе* н., *гаро́дне* н. — Драг. (ЛП, Мат. апыт.), *грэдаві́на* ж. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *гардаві́на* ж., *гардо́віца* ж. — мясц. (Ластоўскі), *сыры́зна* ж. — Віц. р., Смарг. (Каспяровіч, Станкевіч), *сыраві́зна* ж., *сыраві́знь* ж. — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *ва́рыва* н. — Віц. р., Смарг., Віл., Чэрв., Гл., Петр., Браг. (СЦБ, Каспяровіч, Шатэрнік, Шаталава, Янкоўскі, Станкевіч), *ва́рава* н. — Смарг. (Сл. Гродз.), *ва́ра* ж. — Шчуч. (Сл. Гродз.), *зяле́ніва* н. — Зэльв. (Сцяцко), *зеляні́на* ж. — мясц. (Ластоўскі), *яжы́на* ж. — Смарг. (СПЗБ), *сле́ціва* н., *сле́ціўе* н. зборн. — мясц. (Ластоўскі), *сыры́зна* ж. 'недаспелая гародніна' — мясц. (Станкевіч), *шугаі́* мн. 'збуялая гародніна' — Свісл. (Сл. Гродз.); *уро́д* м. 'ураджайная гародніна' — Жытк. (ТС); **малаўраджайная, дробная, невялікая гародніна:** *не́радзь* ж. — Стаўб., Жытк. (ТС, СЦБ), *не́расль* ж. — Стаўб. (СЦБ), *скараспе́йка* ж., *скараспе́лька* ж., *скараспе́лка* ж., *раннаспе́лка* ж. 'гародніна-скараспелка' — Жытк. (ТС).

**Гароднiна, якая высаджваецца на насенне:** *вы́садкі* мн. — Чэрв. р., спарадычна гродз. р., Гарад., Гл. (СПЗБ, ТС, ЖНС, Каспяровіч, Насовіч, Шатэрнік, Сцяцко, Станкевіч, Янкоўскі), *выса́дкі* мн. — Навагр. (Мат. апыт.), *насе́ннік* м. — Зэльв. (Сцяцко), *се́менніца* ж. — Жытк. (ТС), *се́міны* мн. — Віц. р. (Станкевіч), *се́янка* ж. 'гароднiна, вырашчаная з насення' — Слон. (Мат. апыт.).

**Расада, маладыя расліны, вырашчаныя ў парніках або спецыяльных градках для перасадкі на ўчасткі ў агародзе, на полі:** *раса́да* ж. — спарадычна паўн.-зах. з., Мсцісл. (СПЗБ, Мат. Гродз., Бялькевіч, Насовіч), *паса́да* мн. — Віц. р. (Каспяровіч), *паса́дкі* мн. — Лоеў. (Янкова), *садзо́нкі* мн. — Лід. (СПЗБ), *фле́нсы* мн. — Іўеў (Мат. мін.-мал.), *фля́нсы* мн., *фля́нцы* мн. — Брасл., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ), *пля́нсы* мн., *пля́нцы* мн. — Вілен. р. (СПЗБ); **адно каліва расады:** *фленс* м. — Іўеў. (Мат. мін.-мал.), *флянц* м. — Мядз. (Мат. мін.-мал.), *фля́нец* м. — Мядз., Іўеў. (Сл. Гродз., Мат. мін.-мал.); **расада з засохлым карэньчыкам:** *сухано́жка* ж. — Ашм., Раг. (СПЗБ), *сухапя́тка* ж. — Раг. (СПЗБ).

## Грыб

Ніжэйшая бесхларафільная расліна ў выглядзе шапачкі на ножцы.

*грыб* м., *грыбо́к* м. памянш., *грыбы́* мн. — агульн., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Сл. Гродз., ГЧ, Бялькевіч, Каспяровіч, Сцяшковіч, Шаталава, Шатэрнік, Юрчанка, Янкова, Дабравольскі, Мат. апыт.), *грыбцы́* мн. — Іўеў., Воран., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. мін.-мал.), *грыбата́* ж. зборн. — Браг. (ГЧ), *губа́* ж., *гу́бы* мн. — Кам., Лоеў., зах.-бран. р. (СПЗБ, Растаргуеў, Янкова), *губя́к* м. — Лельч. (ЛАБНГ), *казля́к* м. — усх.-маг. р., Пін. (ЛАБНГ, Бялькевіч, ЭСБМ), *казя́к* м., *казякі́* мн. — спарадычна Паням. р. (НС, Сцяцко, ЭСБМ), *бэ́тка* ж. — Гродз., Драг. (ЖС, Сл. Гродз.), *карпуне́ц* м. 'маленькі грыб' — Гом. р.

(НЛГ); **стары грыб:** *кісля́к* м. — Смален. р. (Дабравольскі, Насовіч), *ляпя́к* м. — Карэл. (Сл. Гродз.), *махла́к* м. — Докш. (Мат. дыял. сл.), *пля́ха* ж. — Уздз. (Н. сл-сць), *пясля́к* м., *песлячы́на* м. і ж., *пясля́чча* н. зборн. — мясц. (Насовіч), *пяссю́к* м., *псюк* м. — мясц. (Насовіч), *шлапа́к* м. — Гродз. (ЖНС), *шлупа́к* м. — Мсцісл. (З нар. сл.), *шупшу́ль* м. — Віл. (СПЗБ), *бабу́х* м. — Пруж. (ДСБ), *ро́спаднік* м., *ро́спадзень* м. — Жытк. (ТС), *раша́цька* м. — Гл. (Янкоўскі), *барщчаві́к* м. 'стары ядомы грыб' — Жлоб., Хойн. (Мат. Гом.); **першыя грыбы:** *высыпа́льнікі* мн.— Уздз. (Мат. мін.-мал.), *салёнікі* мн. 'грыбы, якія толькі соляць' — Навагр. (Мат. Гродз.), *мачо́нікі* мн. 'грыбы, якія мочаць' — Леп. (Мат. апыт.), *суша́нікі* мн. 'грыбы, якія сушаць' — Ашм., Смарг. (Станкевіч), *варэ́нікі* мн. 'грыбы, якія ядуць варанымі' — мясц. (Станкевіч), *тава́рачыя грыбы́* 'грыбы, якія ядуць каровы, авечкі' — Маз. (ЖС), *гарку́шка* ж. 'горкі грыб наогул' — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *белякі́* мн. 'грыбы белага колеру' — Жытк. (ТС), *бубе́хі* мн., *баб'я́кі* мн. 'тоўстыя наздраватыя грыбы' — Смален. р. (Дабравольскі), *струтчакі́* мн. 'грыбы, якія маюць пад нізам струткі' — мясц. (Ластоўскі), *мясі́стыя грыбы́* 'трубчастыя грыбы' — Паст., Петр., Драг. (ЖС); **пласцінчатыя грыбы:** *грыбы з пір'ем* — Кам. (ЖС), *грыбы́ з пір'ечкам* — Драг. (ЖС); **грыбы, якія выдзяляюць малако:** *мало́чныя грыбы́* — Драг. (ЖС), *грыбы́ з малако́м* — Паст. (ЖС); **першыя вясеннія грыбы:** *вясня́ныя грыбы́* — Драг., Пін. (ЖС), *вяснёвыя грыбы́* — Кам. (ЖС), *вясе́лікі* мн. — Слуц. р., цэнтральная частка пал. р. (Станкевіч), *маёвыя грыбы́* — спарадычна зах.-пал. г. (ЖС), *маявы́я грыбы́* — Драг., Пін. (ЖС), *ма́йскія грыбы́* — Навагр. (Мат. апыт.), *міко́льныя грыбы́* — Лун. (ЖС), *міко́льны грыбы́* — спарадычна зах.-пал. г. (ЖС), *міко́ліны грыбы́* — Кам. (ЖС), *міко́льнікі* мн. — Лун. (ЖС), *ю́р'евы грыбы́* — Драг. (ЖС), *юр'евікі́* мн. — Іван. (ЖС), *трае́цкі грыбы́* — Пін. (ЖС); **асеннія**

**грыбы:** *асенніяа грыбы́* — Гом. (ЖС), *асе́нні грыбы́* — спарадычна зах.-пал. г. (ЖС), *гасе́нні грыбы́* — Драг. (ЖС); **грыбы, якія растуць на полі:** *палявы́я грыбы́* — Паст. (ЖС), *паляны́я грыбы́* — Пін. (ЖС), *палявікі́* мн. — Хоц. (Бялькевіч), *стаптáркі* мн. — Лоеў. (Янкова); **грыбы, якія растуць на месцы пажарышчаў:** *пажáрны грыбы́* — Іван. (ЖС), *пажаро́вікі* мн. — Жытк. (ТС), *шмаргóнкі* мн. — Лун. (Шаталава).

**Неядомыя грыбы:** *вóўчыя* (*грыбы́*) — цэнтр. з., акрамя паўночна-заходняй часткі, Беластоц. р., спарадычна зах.-пал. г., Лельч. (ЛАБНГ, АЛА, ЖС, Мат. апыт.), *вóўчы грыбы́* — зах.-пал. г., Капыл. (ЛАБНГ, ЖС), *вóўча грыбы́* — Шчуч. (СПЗБ), *вóўчыя губя́кі* — Лельч. (ЛАБНГ, АЛА), *вóўчыя казякí* — Зэльв., Слон. (ЛАБНГ), *вóўчыя бэ́ткі* — Драг. (ЖС), *ваўчы́ныя* (*грыбы́*) — спарадычна паўднёва-ўсходняя частка паўн. р., Бых., Краснап. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *ваўкóвыя грыбы́* — Віц., Докш. (ЛАБНГ, АЛА), *ваўчакí* мн. — Шчуч., Карэл., Нясв. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., З нар. сл.), *ваўчанюкí* мн. — Карэл. (Сл. Гродз.), *ваўчы́нікі* мн.—Леп. (Мат. апыт.), *вóўчанкі* мн. — Лун. (ЛАБНГ, Шаталава), *сабáчыя грыбы́* — заходняя частка паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., ЖС, Мат. мін.-мал.), *сабáччыя грыбы́* — Шарк., Шкл., Смарг. (ЛАБНГ, АЛА), *сабáччы грыбы́* — поўнач паўн.-зах. з., Кобр. (ЛАБНГ, АЛА, ЖС, Мат. апыт.), *сабáчнікі* мн. — Шарк. (ЛАБНГ), *мышы́ныя* (*грыбы́*) — спарадычна паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, ЖС, НС, ЭСБМ), *мышы́нныя грыбы́* — Беш., Слаўг. (ЛАБНГ, АЛА), *мышáччыя грыбы́* — Пол. (ЛАБНГ), *мышáчча* н. зборн. — усх.-маг. р. (ЭСБМ), *мышакí* мн. — спарадычна віц.-маг. г. (ЛАБНГ, АЛА, ЖС, НС, Бялькевіч, Насовіч, Юрчанка, ЭСБМ), *мышшакí* мн. — усх.-маг. р., Кругл. (ЛАБНГ, ЖС, Бялькевіч, Насовіч, ЭСБМ), *вужáчыя грыбы́* — Маз., Лельч. (ЛАБНГ, ЖС), *гужáчыя* (*грыбы́*) — Малар. (ДСБ), *вужóвыя грыбы́* — Ельск., Лельч. (ЛАБНГ), *вужóвы грыбы́* — Драг. (ЛАБНГ, ЖС), *вужóвыя, вужóвы казлякí* — Пін. (ЛАБНГ, ЖС), *вужóвікі* мн. — спарадычна цэнтральная частка пал.

р. (ЛАБНГ, ТС, ЖС), *ужóвікі* мн. — Лун. (ЖС), *вужóўкі* мн. — паўдн.-усх. з., акрамя паўднёва-ўсходняй часткі (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гом., ЖС, Янкоўскі, ЭСБМ), *глухíя вужóўкі* — Рэч. (ЛАБНГ), *вужáўкі* мн. — спарадычна паўдн.-усх. з. (Мат. Гом., Янкова), *вужáчкі* мн. — паўднёва-ўсходняя частка паўдн.-усх. з., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, Мат. Гом.), *вужáкі* мн. — Ветк. (Мат. Гом.), *жáбечыя* (*грыбы́*) — Стол., Браг. (ЛАБНГ, ТС), *жáбечы грыбы́* — Стол. (ЛАБНГ), *жáбскі грыбы́* — зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, ДСБ, ЖС), *жабíны грыбы́* — Стол. (ЛАБНГ, ЖС), *жáбікі* мн. — Маз. (ГЧ), *жабóвікі* мн., *жаб'юкí* мн. — Стол. (ЛАБНГ, ТС), *пагáныя* (*грыбы́*) — спарадычна паўн. р., спарадычна паўднёва-ўсходняя частка паўдн.-усх. з., а таксама Уздз., Бераст. (ЛАБНГ, АЛА, ЖС), *пагáны грыбы* — Камян. (ЛАБНГ), *пагáнкі* мн. — усх. з. (ЛАБНГ, АЛА, ЖС, Каспяровіч), *пагáнка* ж. — Леп., Слон. (Мат. апыт.), *пагáныш* м., *пагáнышы* мн. — мясц. (Насовіч), *пóгань* ж. зборн. — Буда-Каш. (ЛАБНГ), *дрэ́нныя грыбы́* — Чав., Быx. (ЛАБНГ), *благíя грыбы́* — Віл., Маладз., Валож. (ЛАБНГ, АЛА), *благýшкі* мн. — Віц. р., Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *дурнагýбы* мн. — зах.-бран. р. (ЖС), *нічóгія* (*грыбы́*) — Пруж. (ЛАБНГ), *нічóгія*, *нічóгі казлякí* — Пін. (ЛАБНГ, ЖС), *глухíя грыбы́* — Уздз., Стол., Лельч. (ЛАБНГ, ТС, Мат. мін.-мал.), *дзíкія* (*грыбы́*) — Лёзн., Лід., Браг. (ЛАБНГ, АЛА), *дзíкі* ( *грыбы́*) — Кам., Іван. (ЛАБНГ, АЛА, ЖС), *дзікары́* мн., *дзіч* ж. зборн. — Кам. (ЛАБНГ, ЖС), *некуцáвыя* (*грыбы́*) — Маг. р. (Мат. Маг., ЭСБМ), *неядзíмыя грыбы́* — Слон. (Мат. апыт.), *машарэ́нікі* мн. — Жытк. (ТС), *рэшатýхі* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *бэ́ткі* мн. — Гродз. (СПЗБ), *каты́* мн. — Кам. (ДСБ), *пане́нка* ж. — Ашм. (СПЗБ), *палявíк* м. — Калінк. (Мат. Гом.), *сіню́ха* ж. — Лаг., Чэрык. (Мат. мін.-мал., Бялькевіч), *смярдзю́к* м. — мясц. (Насовіч).

**Ядомыя грыбы:** *грыбы́* мн. — асн. мас. г. (ЛАБНГ, АЛА), *ядóмыя грыбы́* — Лёзн., Шкл., Мін. (ЛАБНГ, АЛА), *з'ядóмыя грыбы́* — Пол. (ЛАБНГ, АЛА), *ядзíмыя грыбы́* — Віл., Слон. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *дóбрыя грыбы́* — Маладз., Шчуч., Уздз. (ЛАБНГ, АЛА, Н. сл-сць), *харóшыя*

*грыбы́* — Ветк. (ЛАБНГ, АЛА), *свóйскія грыбы́* — Маст., Навагр. (СПЗБ, Мат. апыт.), *свóйскі грыбы́* — Кам. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *сваé грыбы́* — Навагр. (Мат. апыт.), *справядлі́вы грыбы́* — Кам. (ЖС), *бéлыя грыбы́* — Лельч. (ЛАБНГ, АЛА), *чóрныя грыбы́* — Пух. (ЛАБНГ), *праўдзі́вікі* мн. — Слон. (Мат. апыт.); **усе ядомыя грыбы, акрамя баравіка:** *казлякі́* мн — паўдн.-зах. д., зах.-пал. г., Мёр., Барыс., Чэрык. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, ДСБ, ГЧ, ЖНС, ЖС, З нар. сл., Н. сл-сць, ЭСБМ), *казлюкі́* мн. — зах.-бран. р. (ЖС), *казякі́* мн. — спарадычна гродз.-бар. г., Кобр. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, НЛ), *казлы́* мн. — Гом. р., спарадычна ўсх-маг. р., а таксама Мёр., Бярэз., Карм. (ЛАБНГ, Мат. Гом., ЖС), *гу́бы* мн. — зах.-пал. г., Светлагор. (ЛАБНГ, АЛА, ЖС), *губякі́* мн. — спарадычна ўсх.-пал. р. (ЛАБНГ, ЖС), *гу́біна* ж. зборн. — Рэч., Лоеў. (НС, Янкова), *бэ́ткі* мн. — Гродз. р., Беластоц. р., Свісл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЖС, З нар. сл.), *аба́бкі* мн. — Слаўг. (ЛАБНГ), *аба́бачкі* мн. — Акц. (ЛАБНГ), *маслякі́* мн. — Ганц., Акц. (ЛАБНГ), *маслюкі́* мн. — Гом. (ЛАБНГ), *падарóжнікі* мн. — Смарг. (СЦБ), *пячу́ркі* мн. — Валож. (ЛАБНГ, АЛА).

## Дрэва

Шматгадовая расліна з цвёрдым ствалом і галінамі, якія ўтвараюць крону.

*дрэ́ва* н., *дрэ́ўка* н. памянш., *дрэ́ўца* н. памянш. — паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., паўночная частка паўдн.-зах. д. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., Сл. Гродз., Бялькевіч, Каспяровіч, Насовіч, Шатэрнік, Мат. апыт.), *дравіна́* ж. — мясц. (Ластоўскі), *дравя́чына* ж. — Гом. р. (НЛГ), *драўё* н. — Смален. р. (Дабравольскі), *дрывó* н. зборн. — Дзятл. (СПЗБ), *дзéрва* н. і ж. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, ДСБ, Станкевіч), *дзéрава* н. — агульн. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., Сл. Гродз., ГЧ, Бялькевіч, Каспяровіч, Цыхун, Янкоўскі, Мат. апыт.), *дзера́ва* н. — Дзятл. (Мат. Гродз.), *дзеравó* н., *дзераўчó* н. памянш. — Смален. р. (Дабравольскі), *дзераві́на* ж. адзінк., *дзераві́нка* ж. памянш. — паўн.-зах. з., Гом. р., Латгал. р., Лун., Петр.

(СПЗБ, НЛГ, Шаталава), *дзеравя́ка* н. экспр. — агульн. (Мат. апыт.), *дзяро́ўя* мн. зборн. — Лоеў. (Янкова), *лясíна* ж. — Сен. (Каспяровіч), *лясíніна* ж. адзінк. — Лёзн. (Каспяровіч), *пень* м. 'адно дрэва' — Чэрв. р. (Шатэрнік, Станкевіч), *карча́к* м. 'дрэва з карча' — Пух. (СЦБ), *смалíна́* ж. 'смольнае дрэва' — Драг. (ЛП), *дзерць* ж. 'тоўстае дрэва' — Паст., Іўеў., Пух. (СПЗБ), *калато́ўка* ж. 'нізкае і грубае дрэва' — Іўеў. (ЛАБНГ), *кракацíна* ж. 'нізкае дрэва на нізкім, балоцістым месцы' — Драг. (ЛП), *жо́расць* ж., *жэ́расць* ж. 'нятоўстае высокае дрэва без сукоў' — Стол. (ТС); **дрэва без сукоў ці малагалінастае:** *лу́ціца* ж. — Лоеў. (Янкова), *галаме́нь* м. — мясц. (Станкевіч); *старча́к* м. 'дрэва з абламанымі сукамі' — Лун. (Шаталава); **сукаватае, разгалінаванае дрэва:** *віла́кі* мн. — Карм. (Мат. Гом.), *вíлкі* мн. — Слаўг. (Мат. апыт.), *вíлы* мн. — Шчуч. (Мат. апыт.), *рага́ліна* ж. — Нясв. (Мат. апыт.), *рага́ль* м. — Слаўг. (Мат. апыт.), *рага́тае дрэ́ва* — Слон. (Мат. апыт.), *галаля́дзь* ж. — Тал. (Мат. апыт.), *барсу́к* м., *балбу́чча* н. — Слаўг. (Мат. апыт.), *рало́* н. — Старадарож. (Мат. апыт.); *дзярту́ха* ж. 'невысокае дрэва з густымі суччамі' — Лаг. (Варлыга, Станкевіч), *галава́ч* м. 'раскідзістае дрэва на адкрытым месцы' — Ваўк. (Мат. Гродз.), *гай* м. 'дрэва з раскошнай кронай' — Ветк. (Мат. апыт.); **каржакаватае дрэва:** *карэ́мза* ж. — Жытк. (ТС), *карэмза́чына* ж., *карэмза́ч'е* н. зборн. — Стол. (ТС), *карамжа́* ж., *карамжа́к* м. — Смарг. (Станкевіч); **крывое дрэва:** *крывíна* ж. — Паст. (СПЗБ), *крыву́ля* ж. — Лаг. (Варлыга), *каса́пля* ж. — Віц. (Мат. апыт.), *гарбе́ль* м. — Гродз. (ЖНС), *гну́цікі* мн. — Раг. (СПЗБ), *кля́пы* мн., *кляпо́е дрэ́ва* — усх.-пал. р. (ЭСБМ), *ардзíлíна́* ж. — Паст. (СПЗБ); **крывое дрэва, у якім сарцавіна не ў цэнтры:** *крэж* м. — спарадычна зах.-пал. г. (ЛП, Шаталава, ЭСБМ), *гража́стае дрэ́ва* н. — Іўеў. (Мат. Гродз.); **крывое, сукаватае, непрыгожае дрэва:** *кара́чына* ж. — Стол. (ТС), *кара́ч'е* н. зборн. — Жытк. (ТС), *карачу́н* м. — Малар., Драг. (ЛП, НЛ), *карачы́нь* ж. — Кам. (ЖНС), *каркалíна* ж. — Верхнядзв. (НС); *капа́нь* м., *капане́ц* м. 'дрэва, корань якога

надае ствалу кручкаватасць' — Віц. р. (Станкевіч), *кульба́ка* ж. 'сагнутае дрэва' — мясц. (Станкевіч); **дрэва з пакручастымі валокнамі:** *зві́вач* м., *зві́тач* м. — Стол. (ТС), *сувярто́ка* ж., *сувярто́чына* ж. адзінк. — мясц. (Насовіч), *ко́сае дрэ́ва* — Лаг. (Варлыга), *ко́са дзе́рава* — Стол. (ТС), *буйнасло́й* м. 'дрэва з буйнымі слаямі' — Лаг. (Варлыга), *правіле́ц* м. 'прамое, роўнае дрэва' — Стол. (ТС), *карані́к* м. 'дуплаватае дрэва' — Ашм. (Сл. Гродз.), *гару́н* м. 'дрэва з нарастам, які ідзе на выраб труту' — мясц. (Мат. апыт.), *смо́льнік* 'абгарэлае дрэва' — Гродз. (Сл. Гродз.), *громабо́й* м. 'дрэва, пашкоджанае громам' — Лельч. (ЖС), *марозабо́й* м. 'дрэва, пашкоджанае марозам' — Стаўб. (СЦБ); **ляснoе дрэва:** *лясі́на* ж. — Віц. р., усх.-маг. р., Рас., Пух., Лоеў., Стол. (СПЗБ, ТС, Бялькевіч, Станкевіч, Шаталава, Юрчанка, Янкова), *лесіна́* ж. — Стаўб., Стол. (ТС, Станкевіч); *ку́зня* ж. 'дрэва ў лесе і мноства шышак пад ім, якія налушчыў дзяцел' — Мсцісл. (Мат. апыт.), *межаву́ха* ж. 'балотнае дрэва' — Зэльв. (Сцяцко), *хваі́на* ж. 'хваёвае дрэва' — Лід. (Мат. Гродз.); **садовыя пладовыя дрэвы:** *садавіна́* ж. — Слаўг., Пух., Жытк., Драг., Стол. (СПЗБ, ТС, Мат. апыт.), *садаві́на* ж. — Чэрв., Слаўг. (СПЗБ, Мат. апыт.), *прыса́дкі* мн. — Зэльв. (Сцяцко), *паса́дкі* мн. — Лоеў. (Янкова), *паса́дзіна* ж. — Стол. (ТС), *зі́мка* ж. 'садовае дрэва, плады якога спеюць позна і добра захоўваюцца зімой' — Гл. (Янкоўскі); **дзікае пладовае дрэва:** *дзі́чка* ж. — Лаг., Стол. (ТС, Варлыга, Насовіч), *ляско́ўка* ж. — Чач., Буда-Каш., Ветк. (Мат. Гом.), *самаса́дка* ж. — Жытк. (ТС), *не́радзь* ж. 'малаўраджайнае пладовае дрэва' — Жытк. (ТС); **непладовае дрэва ў агародзе:** *прыса́днік* м. — зах. з. (Мат. апыт.); **спарыш, два дрэвы з аднаго кораня:** *спары́ш* м. — Слон. (Мат. апыт.), *спарышы́* мн. — Лоеў. (Янкова), *блізню́к* м., *блізнюкі́* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *двайні́к* м. — Гом. (Мат. Гом.), *злі́нак* м. — Навагр. (ЖС), *зро́стак* м. — Воран. (Мат. Гродз.), *суро́сціна* ж. — Дзятл., Лоеў. (Мат. Гродз., Янкова), *ро́суха* ж. — Драг. (СПЗБ), *ра́ла* н. — Лун. (Шаталава); **дрэва-самец:** *саме́ц* м. — Слон., Стол. (ТС, Мат. апыт.); **дрэва-самка:** *са́мка* ж., *ма́тка* ж. — Слон. (Мат. апыт.).

**Маладняк, маладыя дрэвы:** *маладнíк* м. зборн. — Дзятл. (Мат. Гродз.), *маладняча* н. зборн. — Буда-Каш. (Мат. Гом., ЭСБМ), *падрóст* м. зборн. — Навагр. (Мат. Гродз.), *падрóстак* м. 'адно маладое дрэва' — Буда-Каш. (Мат. Гом.), *падгóн* м. — Уздз. (СЦБ), *адгóны* мн. 'маладыя дрэўцы, якія размнажаюцца з пнёў, каранёў' — мясц. (ЭСБМ), *астрыжанак* м. 'маладое сукаватае дрэва' — мясц. (Насовіч), *прут* м. 'малады садовы саджанец' — Слаўг. (Мат. апыт.), *сáжанец* м. 'маладое дрэва, вырашчанае ў гадавальніку' — Навагр. (Мат. Гродз.).

**Старое дрэва:** *старадрэ́віна* н. — Лаг., Воран., Слаўг. (Мат. Гродз., Варлыга, Мат. апыт.), *старынá* ж. — Навагр. (Мат. Гродз.), *стары́к* м. — Браг. (Мат. Гом.), *перастáрак* м. — Карм. (Мат. Гом.), *перарóстак* м. — Жлоб. (Мат. Гом.), *перастóй* м. — Ветк. (Мат. Гом.).

**Сухастоіна, засохлае на корані дрэва:** *сухастóіна* ж. — агульн., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. мін.-мал., Сцяшковіч, Янкоўскі), *сухастóвіна* ж. — Верхнядзв. (СПЗБ), *сухастóіца* ж. — Ельск. (ЖС), *сухастóйка* ж. — Ашм., Чэрв. (ЛАБНГ), *сухастóй* м. — паўдн. р., Чэрв. р. (ЛАБНГ, Шатэрнік), *сухапастóй* м. — зах.-пал. г., Чэрв. р. (ЛАБНГ, Шаталава, Шатэрнік), *сухапастóіна* ж. — спарадычна зах. з. (ЛАБНГ), *сухапастáвіна* ж. — Смарг. (Сл. Гродз.), *сухадрэ́віна* ж. — Чэрв. р. (Шатэрнік), *сухаліна* ж. — Верхнядзв., Гарад. (ЛАБНГ, Станкевіч), *сухрáк* м. — Рэч. (Мат. Гом.), *сухаўя́ліца* ж. — Ельск. (ЖС), *вя́ліца* ж. — усх.-пал. р., Стол. (ЛАБНГ, ТС, ЖС, Мат. Гом.), *вя́лка* ж. — Лельч. (ЖС), *сушы́на* ж. — Навагр. (ЖС), *сушня́к* м. — Гом. р., Лаг., Асіп. (СПЗБ, НЛГ, Варлыга), *сýшка* ж. — Астр., Віл., Лаг., Кругл., Пруж. (ЛАБНГ), *самасýшка* ж. — Лаг. (Мат. мін.-мал.), *засмóлак* м. — Валож. (ЛАБНГ), *стурчмя́к* м. — Пух. (ЖС), *чарця́нка* (*чэрця́нка*) ж. — Пін. (ЛАБНГ), *шавíна* ж. — Верхнядзв. (СПЗБ), *хавýтнае* н. — Лун. (Шаталава); **дрэва з засохлым верхам:** *сухавéрх* м. — Барыс., Карэл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сухавéршка* ж. — Валож. (ЛАБНГ); *усýх* м. 'дрэва з амярцвелай унутранай часткай' — Лельч. (ЖС).

**Парахнявае дрэва:** *парахно́* н. — пал. р., Лаг. (ТС, ЛП, ЖС, Мат. Гом., Варлыга), *парахня́к* м. — Драг., Стол. (ТС, ЛП), *парахня́* ж. — Стол. (ТС), *парахня́віна* ж. — Жытк. (ТС), *парахо́нне* н. — Мёр. (ЖНС), *трупе́шка* ж. — Мсцісл., Шчуч. (Сл. Гродз., Юрчанка), *сітава́* ж. — Жытк., Чач. (Мат. Гом.), *агно́ек* м. — Бяроз. (Шаталава), *му́ршыны* мн. — Ваўк. (СПЗБ, ЭСБМ), *пцель* ж. 'паўзгнілае, паўспарахнелае дрэва' — Віц. р. (Станкевіч), *трухлё* н. 'гнілое дрэва' — Добр. (Мат. Гом.), *жабярдзі́на* ж. 'дрэва з гніліной' — Жытк. (ТС), *бердзь* ж. 'падгнілае слаістае дрэва' — Стол. (ТС), *ха́ут* м. 'дрэва з гнілым стрыжнем, асяродкам' — Жытк., Стол., Лельч. (ТС, ЖС).

**Зламанае дрэва:** *стырч* м. — Жытк., Стол. (Мат. апыт.), *старча́к* м. — Лях. (СПЗБ), *стаўбу́р* м. — Вілен. р., Паст. (СПЗБ), *сара́нка* ж. — Свісл. (Сл. Гродз.), *све́чка* ж. — Жытк. (ТС); **дрэва, зламанае ветрам у навальніцу:** *лом* м., *злом* м., *бурало́м* м., *гразало́м* м. — Слаўг. (Мат. апыт.), *гра́нды* мн. — мясц. (Мат. апыт.).

**Вываранець, вывернутае бурай дрэва:** *вы́варацень* м. — усх. з., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шатэрнік, Станкевіч), *вывараце́нь* м. — Шум. (СПЗБ), *вы́варацін* м. — Докш. (СПЗБ), *вы́вараціна* ж. — пол.-мін. г., Шум., Слаўг., Гл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Каспяровіч, Станкевіч, Янкоўскі, Мат. апыт.), *вы́вараць* ж. — віц.-маг. г., цэнтр. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. дыял. сл., Каспяровіч, Шатэрнік, Станкевіч, Юрчанка), *вы́варат* м. — паўдн.-зах. д. зах.-пал. г., Паст., Касц. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, Бялькевіч, Сцяцко, Янкоўскі, Мат. апыт.), *вы́варатнік* м. — Гом. р. (Мат. Гом.), *вы́варатак* м. — Буда-Каш. (ЛАБНГ), *вы́варатка* ж. — пераважна паўночная частка паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *вы́варатня* ж. — цэнтральная частка паўн.-зах. з., Вілен. р., Слаўг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Станкевіч, Мат. апыт.), *вываро́тніца* ж. — Слаўг. (Мат. апыт.), *вы́верціна* ж. — Віл. (Мат. мін.-мал.), *вы́вернутае дрэ́ва* — Краснап. (ЛАБНГ), *вывернутае дзе́рава* — Брэсц. (ЛАБНГ), *вы́скідзь* ж. —

Чэрв. р., спарадычна паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС, Шатэрнік, Янкоўскі, ЭСБМ), *выскадзь* ж. — заходняя частка сл.-маз. г. (СПЗБ, ЭСБМ, Станкевіч, Мат. апыт.), *выскладзь* ж. — Лельч. (ЛАБНГ), *вывалы* мн. — Свісл. (СПЗБ), *поваль* ж. — Слаўг. (Мат. апыт.), *павала* ж. — Чэрв. р. (Шатэрнік, Станкевіч), *павал* м. — Віц. р., Гл. (ЛАБНГ, Станкевіч), *ветравал* м. — Барыс. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ветравак* м. — Кам. (ЛАБНГ), *бурвалак* м. — Віл. (СПЗБ), *бураломіна* ж. — Пух. (СЦБ), *віхравата дзерава* — Стол. (ЛАБНГ), *вызваленае дзерава* — Лоеў. (ЛАБНГ), *ляжак* м. — Навагр., Жытк. (СПЗБ, ТС), *самавал* м. 'дрэва, якое само ўпала' — Стол. (ТС); **гнілое, струхлелае ляжачае дрэва:** *лежань* м. — Жытк., Лоеў. (ЭСБМ), *ляжняк* м. — Маз. (ЭСБМ), *валеж* м., *валюга* н., *валішча* н. — Жытк., Стол. (ЭСБМ).

**Патанулае дрэва:** *макляк* м. — Бял., Лельч. (ЖС, НС), *тапляк* м., *топленік* м. — Лельч. (ЖС), *чапы* мн. — Віц. р. (Станкевіч), *чэпы* мн. — Віл. (Станкевіч), *напсінь* ж. 'дрэва, пасінелае ці пачарнелае ад вільгаці' — мясц. (Насовіч).

## Збожжа, злакі

Агульная назва хлебных злакавых раслін, з зерня якіх выпрабляецца мука і крупы.

*збожжа* н. — агульн. (АЛА, ЛП, Насовіч, Мат. апыт.), *збож'е* н. — Уздз. (Мат. мін.-мал.), *збож* ж. — зах.-пал. г. (АЛА, ТС, ЛП), *збажына* ж. — Смарг., Смал., Пух. (АЛА), *дабро* н. — паўн.-зах. з., цэнтральная частка сярэд.-бел. г. (АЛА, СПЗБ, СЦБ, ЖС, Мат. мін.-мал., Шатэрнік), *пашня* ж. — Гом. р. (НЛГ), *пашня* ж. — цэнтральная частка пал. р. (АЛА, ТС, НЛ), *пашніца* ж. — спарадычна зах.-пал. г. (ТС, ДСБ, НЛ), *пашніца* ж. — Гом. р. (НЛГ), *хлеб* м. — паўн.-усх. д., паўдн.-усх. з., Уздз. (АЛА, ТС, ГЧ, Мат. мін.-мал., Янкова), *хлебата* ж. — Лоеў. (Янкова), *ураджай* м. — Гор. (АЛА), *каласнік* м., *каласіца* ж., *калас-*

*нічныя* мн. — мясц. (Ластоўскі), *зе́лень* ж. 'збожжа да высыпання коласа' — Смален. р., Слаўг. (Дабравольскі, Мат. апыт.), *самасе́йка* ж. 'збожжа, што само насеялася' — Лаг. (Варлыга), *пазня́к* м. 'позна пасеяная збажына' — мясц. (Станкевіч), *падса́да* ж. 'збажына другога ўзыходу ці пасля кушчэння' — Слаўг., Ветк., Рэч. (Мат. апыт.), *радабо́ддзе* н. 'рэдкая збажына на полі' — Маладз. (Станкевіч), *пале́гліца* ж., *палёгліца* ж. 'палеглыя збожжавыя расліны' — спарадычна гродз.-бар. г., Лаг., Пух., Калінк. (СПЗБ, ЖС, Мат. мін.-мал.); **збожжавая расліна з пустым коласам:** *дуддзё* н. зборн. — Лаг. (СЦБ), *стая́н* м. — Жытк., Стол. (ТС); **прарослае збожжа:** *праро́ст* м. — Лоеў. (Янкова), *паро́сце* н. — Стол. (ТС).

**Яравое збожжа, якое высяваецца і прарастае вясной і дае ўраджай восенню таго ж года:** *яравы́я* мн. — агульн. (ЛАБНГ), *яраво́е* н. — Смален. р., Слаўг. (Дабравольскі, Мат. апыт.), *яраві́на* ж. — Краснап., Жытк., Стол. (ДСБ, Бялькевіч), *яравіна́* ж. — спарадычна пал. р. (ЛП), *еравіна́* ж. — Калінк. (ЛАБНГ), *яраві́шча* н. — Мсцісл. (Бялькевіч), *ярына́* ж. — зах. з., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., Насовіч, Станкевіч, Сцяшковіч, Мат. апыт.), *ярыня́* ж. — Чэрв. (Станкевіч, Шатэрнік), *яры́на* ж. — Слон. (Мат. Гродз.), *я́рына* ж. — Беш., Сен. (Каспяровіч), *ерына́* ж. — Маст. (СПЗБ), *іры́на́* ж. — усходняя частка паўн.-зах. з. (СПЗБ, Варлыга), *яры́нь* ж. — Валож. (ЛАБНГ), *я́рацiна* ж. — Стол. (ЛАБНГ, ТС), *я́рыца* ж. — спарадычна паўдн.-зах. д., Барыс., Малар. (ЛАБНГ, ТС, ДСБ, Сл. Гродз., Мат. апыт.), *я́рая* н. — Стол. (ЛАБНГ), *я́ра* ж. — Стаўб., Ваўк. (ЛАБНГ), *я́рка* ж. — Свісл. (Сл. Гродз.), *яр* ж. — віц.-маг. г., Мін. р., Слуц. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Растаргуеў, Юрчанка), *яр* (*ярь*) м. — Беш., Сен. (Каспяровіч), *яр* н. — Мсцісл. (Бялькевіч), *суя́рак* м. — спарадычна Бярэз. р., Нараўл. (ЛАБНГ).

**Азімае збожжа, якое высяваецца, прарастае і кусціцца восенню, зімуе пад снегам, а потым летам спее:** *азі-*

*мыя* мн. — агульн. (АЛА), *азімае* н. — спарадычна зах. з., Докш., Слаўг. (Мат. апыт.), *азіма* ж. — Навагр. (Мат. апыт.), *азіміна* ж. — Слаўг., Нясв. (Ластоўскі, Мат. апыт.), *азіміна* ж. — мясц. (Насовіч), *зіміна́* ж. — Жытк. (АЛА, ТС), *зімняе* н. — Капат. (АЛА), *зімны* мн. — Лун. (АЛА), *зімо́выя* мн. — спарадычна агульн. (АЛА, Мат. апыт.), *зімка* ж. — Навагр., Буда-Каш. (Мат. Гом., Мат. апыт.), *на́зімка* ж. — Гродз. (Цыхун).

**Усходы збожжа:** *рунь* ж. — цэнтр. з., Беластоц. р., Вілен. р. (ДАБМ, Мат. Гродз., Насовіч, Станкевіч, Мат. апыт.), *руна́* ж. — Лоеў. (Янкова), *ру́на* н. — Бых. (ДАБМ, Насовіч, Станкевіч), *ру́ня* ж. — Віл. (ДАБМ), *ру́ньяя* ж. — Мядз., Лаг. (ДАБМ), *уру́на* ж. — зах.-пал. г., Слуц. р. (ДАБМ), *уру́на* н. — Бар., Пін. (ДАБМ), *уру́н* м. — Лун., Жытк. (ДАБМ), *уру́нь* ж. — Іван., Стол. (ДАБМ), *сялба́* ж. — Маз., Малар. (ЛП), *сялбіца* ж. — Малар. (ЛП), *скарада́* ж. — сл.-маз. г. (ДАБМ, ЛП), *усхо́ды* мн. — мясц. (Насовіч), *усхо́д* м. — Слаўг., Кір., Кам. (ДАБМ, Мат. апыт.); **усходы азімага збожжа:** *рунь* ж. — агульн. (акрамя Слуц. р.), Беластоц. р., Вілен. р. (ДАБМ, СПЗБ, Бялькевіч, Каспяровіч, Шатэрнік, Станкевіч), *ру́на* ж. — Крыч. (ДАБМ), *ру́ня* ж. — Віл., Чэрык. (ДАБМ), *ру́нья* ж. — Докш., Віл., Лаг. (ДАБМ), *ру́нія* ж. — Паст., Докш., Віл. (ДАБМ, СПЗБ), *руно́* н. — Стол. (ТС), *ру́ні* мн. — Смарг. (ДАБМ), *уру́нь* ж. — Гродз., Іван., Стол. (ДАБМ, Сл. Гродз.), *уру́н* м. — пал. р., за выключэннем зах.-пал. г. (ДАБМ, ДСБ, ЛП, ТС, Мат. Гом., Янкова), *уру́на* ж. — сл.-маз. г., зах.-пал. г., Бярэз. (ДАБМ, ДСБ, ЖС, ЛП, НЛ, Мат. мін.-мал., Мат. Гом., Янкова, Мат. апыт.), *гуру́на* ж. — Пін. (ЛП), *уру́на* н. — пал. р., акрамя зах.-пал. г. (ТС, ЛП), *ўру́на* н. — Бар., Пін. (ДАБМ), *уру́нішча* н. — Астр. (ДАБМ), *скарада́* ж. — Верхнядзв., Бабр., Хойн. (ДАБМ, Шаталава, Янкова, Мат. апыт.), *сяўба́* ж. — зах.-пал. г. (ДАБМ), *усхо́ды* мн. — Пух., Слуц. (ДАБМ), *жніўні* мн. — Лоеў. (Янкова), *веснаво́е* н. — Добр. (Мат. Гом.), *уру́нь* ж. 'вялікія ўсходы азімых' — Капат. (ДАБМ); **усходы яравога збожжа:** *рунь*

ж. — Слуц. р., Рэч., Драг. (ДАБМ), *уруна́* ж. — Лоеў. (Янкова), *абхо́д* м., *абхо́ды* мн. — Віл. (ДАБМ), *усхо́ды* мн. — Бярэз. р., Чэрв. р., Слуц. р., Мін., Ваўк. (ДАБМ), *усхо́д* м. — Бярэз. р. (ДАБМ), *ярына́* ж. — спарадычна паўн.-зах. з. (ДАБМ), *яр* м. — Кір. (ДАБМ), *ячына́* ж. — Воран. (Мат. апыт.).

## Кветка

Травяністая расліна, якая прыгожа і пахуча цвіце.

*кве́тка* ж., *кве́тачка* ж. памяншч. — зах. з., зах.-бран. р., спарадычна ўсх.-пал. р. і Бярэз. р., Хоц., Краснап. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Сл. Гродз., Мат. Гродз., ГЧ, Бялькевіч, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч, Мат. апыт.), *квя́тка* ж. — спарадычна зах. з. (ЛАБНГ, АЛА), *квет* м. — Жытк., Лоеў. (ТС, Насовіч, Станкевіч, Янкова), *квят* м. — спарадычна паўн.-зах. з., Вілен. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, СЦБ, Мат. мін.-мал., Мат. дыял. сл., Н. сл-сць, Каспяровіч, Шаталава, ЭСБМ), *кве́цень* ж. зборн. — Круп. (НС), *цвет* м. — агульн., паўн.-зах. з. і зах.-пал. г. спарадычна, зах.-бран. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, ЖС, Растаргуеў, Янкова, Мат. апыт.), *цвято́к* м., *цвято́чак* м. памянш. — усх. з., спарадычна зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гом.), *кра́ска* ж., *кра́сачка* ж. памянш. — цэнтр. з. (акрамя Паням. р.), Маг. р., усх-маг. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, Мат. Гом., Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Бялькевіч, Каспяровіч, Насовіч, ЭСБМ), *красата́* ж. зборн. — Пін. (ЭСБМ), *ца́цка* ж., *ца́цачка* ж. памянш. — спарадычна ўсх.-пал. р. (ТС, Янкова), *зёлка* ж. — Глыб. (ЛАБНГ, Насовіч), *зе́лле* н. зборн. — Люб. (ЛАБНГ), *до́да* ж. — Бераст. (Мат. Гродз.), *маро́знік* ж. 'позняя кветка' — Бяроз., Кам. (ДСБ), *лаба́тка* 'небахматая кветка, няпоўнага квету' — мясц. (Ластоўскі), *ду́шкі* мн. 'духмяныя кветкі' — Лоеў. (Мат. Гом.), *сіня́ўка* ж. 'любая кветка, якая цвіце сінім колерам' — Навагр. (ЖС).

## Куст

Нізкарослая дравяністая расліна, у якой галіны пачынаюцца амаль ад самай паверхні глебы; травяністая расліна, сцяблінн якой растуць пучком.

*куст* м., *ку́сцік* м. памянш., *кусто́к* м. памянш., *кусто́чак* м. памянш. — агульн., зах.-пал. г. спарадычна, Беластоц. р., Вілен. р., Латгал. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, ГЧ, Бялькевіч, Насовіч, Станкевіч, Шаталава, Юрчанка, Янкова, ЭСБМ, Мат. апыт.), *корч* м., *ко́рчык* м. памянш. — зах.-пал. г., паўдн.-зах. д., спарадычна сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, ДСБ, ГЧ, ЖС, ЖНС, З нар. сл.), *карча́к* м. — спарадычна Гродз. р. (ЛАБНГ, З нар. сл.), *курга́н* м. — Беш., Чашн. (Каспяровіч); **асобны куст, корч гароднiны:** *ка́ліва* н. — Сен., Ваўк., Лоеў. (Мат. Гродз., Каспяровіч, Янкова), *гра́нка* ж. — Мядз. (СЦБ), *гро́зень* — Лаг. (СЦБ); **куст бульбы**: *ка́ліва* н. — асн. мас. г. (акрамя сл.-маз. г.), зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Растаргуеў), *былі́на* ж. — Рас. (ЛАБНГ), *гняздо́* н. — Віц. р. (ЛАБНГ), *гра́нка* ж. — Тал. (ЛАБНГ), *грузно́* н. — Віц. (ЛАБНГ), *гро́зень* м. — Лаг. (Мат. мін.-мал.), *ко́рань* м. — Брасл., Іўеў., Хоц. (ЛАБНГ), *ця́віна* ж. — Капыл. (ЛАБНГ), *ця́ўвіна* ж., *ці́віна* ж., *цяці́віна* ж. — Чэрык. (ЛАБНГ), *цяці́ўка* ж. — Арш., Дубр. (ЛАБНГ); **куст, корч цыбулі:** *грязно́* н. — віц.-маг. г., Докш., Віл. (ЛАБНГ, Шаталава), *гразён* м. — Докш. (СПЗБ), *гра́нка* ж. — спарадычна паўн. р. і паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. мін.-мал., Шаталава), *гняздо́* н. — Клім. (ЛАБНГ), *гало́ўка* ж. — Лельч. (ЛАБНГ), *каро́ўка* ж. — Ашм. (Мат. мін.-мал.), *ка́ліва* н. — Лаг. (ЛАБНГ), *карчу́к* м. — Карэл. (ЛАБНГ), *курга́н* м. — Паст. (ЛАБНГ), *ко́рань* м. — Гродз., Бяроз. (ЛАБНГ), *клычо́к* м. — Маладз. (Мат. мін.-мал.), *шып* м. — Навагр. (ЛАБНГ), *лукно́* н. — мясц. (Ластоўскі), *ке́ча* ж. — Паст. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЭСБМ), *цыбу́ліна* ж. — Брасл. (СПЗБ).

## Лішайнік

Расліна ніжэйшага тыпу, якая складаецца з грыба і водарасці, утвараючы адзін арганізм.

*лішáйнік* м. — Мсцісл. (Ластоўскі, Мат. апыт.), *лішáй* м. — Чач. (Мат. апыт.), *мох* м. — Драг., Жытк., Стол. (ТС, Мат. апыт.), *плюснік* м. — мясц. (Ластоўскі), *шалýднікі* мн. — мясц. (Ластоўскі).

## Мох

Споравая расліна без каранёў і кветак, якая сцелецца або расце ў вільготных мясцінах, на дрэвах, каменні.

*мох* м., *машóк* м. памянш. — агульн. (ТС, Мат. Гродз., Сл. Гродз., ГЧ, ЭСБМ, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Ластоўскі, Мат. апыт.), *імшóк* м. памянш. — Шум. (ЭСБМ), *імчэ́чак* м. памянш. — Ганц. (СПЗБ), *махавíца* ж. — Віл. (СПЗБ), *саманíца* ж., *сáманы* мн. — Вілен. р. (СПЗБ), *альсавы́ мох* 'мох, які расце на тарфяніках' — мясц. (Ластоўскі), *страявы́ мох* 'мох, які выкарыстоўваецца ў будаўніцтве', *дубóвы мох* 'мох, які расце на дубах', *зялёны мох* 'мох, які расце на дрэвах', *мох бéлы* 'мох, які расце на лузе', *мох жóўты*, *мох чóрны* 'іншыя разнавіднасці моху' — Слон. (Мат. апыт.), *жывéц* м. 'зялёны лугавы мох' — Клім. (Бялькевіч, Мат. апыт.).

## Пустазелле

Дзікарослая расліна, якая засмечвае пасевы культурных раслін.

*зéлле* н., *зéллейка* н. памянш. — агульн. (ЛАБНГ, ТС, Мат. Гродз., ДСБ, ЖС, Сцяшковіч, Янкоўскі, Мат. апыт.), *пустазéлле* н. — мясц. (Мат. апыт.), *зялíна* ж. — Драг. (Мат. апыт.), *зялíна* ж. адзінк., *зялíнка* ж. памянш. — Жытк., Стол. (ТС), *зёлкі* мн. — спарадычна паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *травá* ж. — Чач. (Мат. апыт.), *пыр'ё* н. — Свісл. (Шаталава), *сабакáрнік* м. — Жытк. (ТС), *гавы́ла* ж. — Смарг. (Сл. Гродз.), *ахрáп'е* н. 'пустазелле, прыдатнае для кармлення свіней' — Глыб. (Мат. апыт.); **высакарослае сцяблістае пустазелле:** *бур'я́н* м. — Верхнядзв., Слаўг., Карэл.,

Жытк. (СПЗБ, ТС, Мат. апыт.), *бур'яніна* ж. — мясц. (Мат. апыт.), *бур'ё* н. — Лоеў. (Янкова), *бура́н* м. — Барыс. (СЦБ), *байра́н* м. — Жытк. (ТС), *байра́к* м. — Жытк., Пін. (ТС, ЭСБМ), *быльня́к* м. — Пух. (СПЗБ), *быльня́г* м. — Іўеў. (СПЗБ), *бы́льнік* м. — Чэрв. р. (Шатэрнік), *бы́лле* н. — Краснап. (Бялькевіч), *буйлякі́* мн. — Воран. (СПЗБ), *бады́ллё* н. — Глыб., Зэльв. (СПЗБ), *бады́льнік* м. — Жытк. (ТС), *блёкат* м. — мясц. (ЭСБМ), *лабаза́* ж. — Слуц. р., Ашм. (СПЗБ, ЭСБМ), *лабуза́* ж. — Слуц. р., Дзятл. (СПЗБ, ЭСБМ), *лабаззё* н. — Бых. (ЖНС), *лабы́знік* м., *лабы́рнік* м. — Слаўг. (Мат. апыт.), *гай* м. — Жытк. (Мат. апыт.).

## Расліна

Арганізм, які развіваецца звычайна ў нерухомым становішчы, атрымлівае пажыўныя неарганічныя рэчывы з глебы і паветра і ператварае іх у арганічныя.

*расліна* ж., *расці́нка* ж. памянш. — Віц. р., Слон., Драг. (Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Мат. апыт.), *расці́на* ж. — Навагр., Жытк. (ТС, Мат. апыт.), *расце́ніе* н. — Мсцісл. (Юрчанка), *зяло́* н. — Малар. (НЛ), *малажа́ва* ж. 'расліна, якая мае добры выгляд' — Лаг. (ЭСБМ), *су́валка* ж. зборн. 'засохлыя расліны' — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *расці́на* ж. 'культурная расліна' — Стол. (ТС), *падбе́л* м. 'дзікія і культурныя расліны з белымі кветкамі ці апушэннем' — Жытк., Стол. (ТС), *дзераза́* ж. 'усякая паўзучая расліна' — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *чужапа́с* м. 'расліна-паразіт' — мясц. (Ластоўскі), *яўнасе́мныя расці́ны* 'яўнашлюбныя расліны' — мясц. (Ластоўскі), *се́янка* ж. 'расліна-сеянец' — Жытк., Стол. (ТС); **расліна-самасей:** *самасе́й* м. — Астр., Жытк. (СПЗБ, ТС), *самасе́ў* м. — Беластоц. р. (СПЗБ), *самасе́йка* ж. — Верхнядзв., Глыб., Жытк., Латгал. р. (СПЗБ, ТС); **расліна-пустацвет:** *пустацве́т* м. — Латгал. р., Мсцісл., Ганц., Жытк., Стол. (СПЗБ, ТС, Бялькевіч), *пустазво́н* м. — Лельч. (Мат. Гом.); **расліна, якая расце ўгору:** *стаяро́с* м. —

Лаг. (Варлыга), *стаяро́сіна* ж. — Мсцісл. (Мат. апыт.); **аднагадовая расліна:** *аднаго́дак* м. — Мсцісл. (Юрчанка), *быліна* ж., *былі́нка* ж. памянш. — Лаг. (Варлыга); **калючая расліна:** *калю́к* м., *калюкі́* мн. — Стол. (ТС), *дзед* м. — Лаг. (Варлыга).

**Адна асобна ўзятая расліна:** *ка́ліва* н. і ж., *ка́ліўца* н. і ж. памянш. — паўн.-зах. з., пал. р. (СПЗБ, ЭСБМ, Варлыга, Станкевіч, Шатэрнік, Мат. апыт.), *ка́льва* н. — спарадычна Паням. р. (Мат. Гродз., НЛ, Сцяцко, Цыхун), *калі́ўка* ж. — Карм. (Мат. Гом.), *ка́лівіна* ж. — Стол. (ТС), *ка́ліўе* н. зборн. — Навагр., Лоеў. (Мат. Гродз., Янкова), *ко́рань* м. — Жытк. (ТС), *грэ́нка* ж. — Лаг. (СЦБ), *сяні́нка* ж. — Гом. р. (НЛГ).

**Дэкаратыўная, звычайна пакаёвая расліна:** *вазо́н* м., *вазо́ны* мн. — зах. з., пал. р. (ЖС, ЭСБМ, Мат. апыт.), *цвяты́* мн. — Мсцісл. (Мат. апыт.), *цвет* м. — Брасл., Ашм. (СПЗБ), *кляты́* мн. — Вілен. р., спарадычна паўн.-зах. з. (СПЗБ), *ца́цкі* мн. — Лоеў. (Янкова).

**Расліны, якія растуць з аднаго кораня, звычайна разам:** *спары́ш* м., *спары́шак* м. памянш. — Віц. р., Паням. р., Чэрв. р. (Мат. Гродз., Каспяровіч, Шатэрнік, Станкевіч, Мат. апыт.), *спарышы́* мн., *спары́шыкі* мн. памянш. — спарадычна паўдн.-усх. з., Слон. (Мат. Гом., Мат. апыт.), *спары́шнік* м. — Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *спарэ́ц* м. — Слон. (Мат. апыт.), *спа́рта* ж. — Ветк. (Мат. Гом.), *суро́сціна* ж. — Раг., Чач., Ельск. (Мат. Гом.), *блізні́цы* ж. мн., *блізні́цка* ж. — Стол. (ТС).

**Расліна, звычайна культурная, у самым пачатку свайго развіцця, парастак:** *расто́к* м. — Глыб., Калінк. (СПЗБ), *ро́сцік* м. — Верхнядзв., Латгал. р. (СПЗБ), *ро́слік* м. — Рэч. (Мат. Гом.), *ро́сля* ж. — Чашн. (Каспяровіч, Станкевіч), *храсто́к* м. — паўдн.-усх. з., Стаўб., Брэсц. (ДСБ, Мат. Гом., ЖС, Станкевіч), *храсткі́* мн. — Драг. (ЛП), *усхо́ды* мн. — Жытк. (ТС); **парастак цыбулі**: *шыпо́к* м. — Навагр. (Мат. Гродз.), *ко́зка* ж. — Мсцісл. (Юрчанка).

### Садавіна

Агульная назва садовых раслін, а таксама іх пладоў.

*садавіна́* ж. — Чэрв. р., Лаг., Лях., Жытк., Драг., Пін. (СПЗБ, ТС, Шатэрнік, Станкевіч, Мат. апыт.), *садаві́на* ж. — Слуц. р. (СПЗБ, Мат. апыт.), *садо́віна* ж. — зах.-бран. р., Мін. р., спарадычна Панязм. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Растаргуеў, Станкевіч, Мат. апыт.), *сад* м. — Чач. (Мат. апыт.), *сыры́зна* ж. — Віц. р., Смарг. (Каспяровіч, Станкевіч), *сыраві́зна* ж., *сыраві́знь* ж. — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *сыныні́шча* н., *сырні́шча* н. — Зэльв. (Сцяцко), *вінагра́д* м. — пал. р. (Насовіч, ЭСБМ), *яжы́на* ж. — Смарг. (СПЗБ), *вадзя́нкі* мн. 'вадзяністая садавіна' — Смарг. (Станкевіч), *ра́йка* ж. 'садавіна накшталт яблыкаў' — Лоеў. (Мат. Гом.); **недаспелая садавіна:** *зяле́ніва* н. — Зэльв. (СПЗБ, Сцяцко), *зелені́на́* ж. — Жытк. (ТС), *зелянча́к* м., *зелянчу́к* м. — Жытк. (ТС), *зе́лень* ж. — Жытк., Стол. (ТС), *на́дзелень* ж. — Гродз., Карэл. (СПЗБ, Цыхун), *зяле́пуха* ж. — Чэрв., Свісл. (СПЗБ), *зялёпуха* ж. — Гродз. (СПЗБ), *кісля́к* м. — Лаг. (ЭСБМ).

### Трава

Расліна з аднагадовымі зялёнымі неадзервянелымі парасткамі і сцяблом; зялёнае покрыва зямлі з такіх раслін.

*трава́* ж., *тра́ўка* ж. памянш., *тра́вачка* ж. памянш., *траві́ца* ж. памянш., *траві́шча* ж. экспр. — асн. мас. г., Вілен. р., Смален. р. (СПЗБ, ТС, Сл. Гродз., Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., ГЧ, Дабравольскі, Насовіч, Мат. апыт.), *траві́цка* ж. памянш. — Верхнядзв. (СПЗБ), *тро́ўка* ж. памянш. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *траві́на* ж. адзінк. — асн. мас. г. (АЛА, Мат. апыт.), *травіна́* ж. адзінк. — паўн.-усх. д., паўн.-зах. з., Акц. (АЛА, СПЗБ), *зе́лле* н. — Панязм. р., пал. р., Беластоц. р., Вілен. р., Мсцісл., Пух. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., ГЧ, НЛ, Бялькевіч, Мат. апыт.), *зе́ліна* ж. адзінк. — Слон. (Мат. апыт.), *зе́льска* н. — Гродз.,

Ваўк., Беластоц. р. (СПЗБ), *зёлкі* мн. — Гарад., Іўеў. (ЛАБНГ), *зяле́ніва* н. — Віц. р., Уздз. (СЦБ, Станкевіч), *зяле́ня* н. — Навагр. (СПЗБ), *зе́лень* ж. — Маст. (СПЗБ), *зелянёк* м. 'адна зялёная травінка' — Ушацк. (НЛ), *шчыкаві́ца* ж. 'першая трава' — Ельск. (Мат. Гом.), *падса́да* ж. 'маладая і нізкая трава ў высокім травастоі' — Слаўг., Рэч., Смален. р. (Дабравольскі, Мат. апыт.), *валасе́нь* 'моцная высокая трава' — усх.-пал. р. (ЭСБМ), *лабаза́* ж., *лабаззё* н. 'грубая, тоўстая трава' — Мёр. (НЛ), *казіна́* ж. ' вельмі жорсткая дзікая трава' — Стаўб. (ЭСБМ), *ло́пух* м. 'шырокалістая трава наогул' — мясц. (Насовіч), *пяро́* н. 'перыстая трава' — Жытк., Стол. (ТС), *трава́* ж., *траві́на* ж. адзінк. 'толькі вузкалістая травяністая расліна, у якой няма сцябла' — зах.-пал. г. (АЛА, Мат. апыт.); **калючая трава:** *бадзюк* м. — Віл. (СПЗБ), *іжо́кіла* ж. — Мсцісл. (Бялькевіч); **жорсткая сцяблiністая трава:** *быллё* н., *бы́льнік* м. — Віц. р., Мёр. (Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч), *быльнёг* м. — мясц. (Станкевіч); **мяккая сцяблiністая кусцістая трава:** *бы́льнічак* м. — мясц. (Насовіч), *му́чка* ж. — Лельч. (ЖС); **сухая на корані трава:** *пасу́шнік* м. — Гл. (Янкоўскі), *быллё* н., *былі́нка* ж. адзінк. — Смален. р. (Дабравольскі), *былі́на* ж. адзінк. — Лід. (Мат. Гродз.), *після́к* м. — Іўеў. (Сл. Гродз.), *павіха́* ж. — Старадарож. (Мат. апыт.), *казя́нка* ж. — Лід. (Сл. Гродз.), *ко́зарыца* ж. — Гродз. (Сл. Гродз.), *шумаві́нне* н. — Гом. (НЛГ), *цыбуллё* н. зборн. 'доўгія сухія травы' — Чэрв. (Шатэрнік, Станкевіч); **любая трава, якая мае непрыемны пах:** *смярдзюха́* ж., *смярдзю́ча зе́лле* — Слон. (Мат. апыт.), *тухля́нка* ж. — Касц. (Бялькевіч); *гарка́ч* м. 'горкая трава' — Краснап. (Бялькевіч); *дубро́ва* ж. 'трава, якая расце ў лесе' — цэнтральная частка пал. р. (Мат. апыт.), *лагу́н* м. 'трава на лагчынах, якая сцелецца па зямлі' — Карэл. (ЖНС), *па́ша* ж., *па́жа* ж. 'трава на папасе' — Жытк., Стол. (ТС), *папа́рына* ж. 'трава на папары' — Гродз. (Сл. Гродз.), *пажаро́ўка* ж. 'трава на выгаралых участках' — Жытк. (ТС), *трынь-трава́* ж., *тынь-трава́* ж. 'трава, якая расце пад тынам' —

мясц. (Насовіч), *шупіна* ж. 'рачная трава' — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *бераэнсніца* ж. 'розная буйная трава, якая расце па берагах азёр, рэк' — Пол. (НЛ), **трава, што расце ў балоце, на купінах:** *ку́павіца* ж. — Чэрв. (НЛ, ЭСБМ), *купіца* ж. — Уздз. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *куптыры́* мн. — Гом. р. (Мат. Гом.); *з'е́дзіны* мн. 'трава, патраўленая жывёлай' — мясц. (Насовіч), *зяле́ніва* н. 'трава, якая ідзе на корм свінням' — Уздз. (Мат. мін.-мал.); **непрыгодная для корму трава:** *не́смак* м. — Шчуч. (Сл. Гродз.), *нецікáвая травá* — Уздз. (Мат. мін.-мал.); *бліску́ха* ж. 'трава, якую цяжка касіць' — Пух. (ЖС), *яжá* ж. 'трава, якую немагчыма скасіць' — Пух. (ЖС), *сцярнуё* н. 'трава, якую косяць на полі, дзе вырвуць лён' — Навагр. (Сл. Гродз.); **трава другога ўкосу:** *ата́ва* ж. — Чэрв. р., Смарг., Ваўк., Слон., Жытк., Стол. (ТС, Сл. Гродз., Каспяровіч, Насовіч, Сцяшковіч, Шатэрнік, ЭСБМ, Мат. апыт.), *ата́ўка* ж. — Навагр. (Мат. апыт.), *вята́ра* ж. — Лях. (ДСБ), *віш* м. — Лун., Лельч. (ЖС, Шаталава), *віша́р* м. — Светлагор., Ельск. (Мат. Гом.), *малажа́й* м., *малажэ́й* м. — Драг. (ДСБ, ЖС, ЛП), *пако́с* м., *другі́ пако́с* — Стол. (ТС), *пако́ша* ж. — Навагр. (Мат. апыт.); **трава, якая засталася на зіму няскошанай:** *віш* м. — усх.-пал. р., Чэрв. р., Ушацк., Асіп., Бар., Лях., Гл., Ганц. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ДСБ, СЦБ, Мат. Гом., З нар. сл., Шаталава, Янкоўскі, ЭСБМ), *віс* м. — пал. р. (ЭСБМ), *вішá* ж. — Слуц. р., Дзярж., Гл., Светлагор. (ЛАБНГ, СПЗБ, З нар. сл., Янкоўскі, ЭСБМ), *віша́р* м. — зах.-пал. г., акрамя заходняй часткі, усходняя частка ўсх.-пал. р., Ушацк., Бых., Пух., Гл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ві́шар* м. — Чэрв. р., Брэсц., Гл. (ЛАБНГ, Шаталава, Шатэрнік, Янкоўскі, ЭСБМ), *ві́шчар* м. — Жаб. (ЛАБНГ), *ві́жар* м. — Кам. (ЛАБНГ), *вішэ́й* м. — спарадычна зах.-пал. г., Слон., Івац. (ЛАБНГ, ДСБ, ЖС, НС), *вішугá* ж. — Маз., Лельч. (ЛАБНГ), *па́суш* ж. — Віц. р., Лаг., Раг., Маз. (СПЗБ, Варлыга, Каспяровіч, Шаталава, ЭСБМ), *пасу́ш* ж. — Хойн. (ЭСБМ), *па́сушнік* м. — Маг. р., Гл., Гом. (Мат. Маг., Янкоўскі, ЭСБМ), *не́касць* ж. — спарадычна паўн.-зах. з. (СПЗБ, НС), *не́гар* ж. —

Кобр. (ДСБ), *асяніна* ж. — Свісл. (Сл. Гродз.), *асянчыіна* ж. — Віл., Іўеў. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *асянчэць* ж. — Іўеў. (СПЗБ), *асянча́* ж. — мясц. (Станкевіч).

**Густая зялёная сакавітая трава:** *му́рава* ж., *му́раўка* ж. памянш. — паўн.-зах. з., зах.-бран. р., Беш., Слаўг., Краснап., Лоеў. (СПЗБ, СЦБ, Бялькевіч, Варлыга, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, ЭСБМ, Мат. апыт.), *му́рава* н. — Карэл., Навагр., Беластоц. р. (СПЗБ, Мат. апыт.), *мурава́* ж., *мура́ўка* ж. памянш. — зах.-бран. р., спарадычна зах. з. (Насовіч, Станкевіч, ЭСБМ), *мура́ва* ж. — мясц. (ЭСБМ), *муро́ва* ж., *муро́ўка* ж. памянш. — Докш., Краснап., Бяроз. (ЛП, Мат. дыял. сл., Бялькевіч, Насовіч, ЭСБМ), *му́раўца* ж. — Пух. (СЦБ), *мураўца́* ж. — Навагр. (СПЗБ), *му́раў* м. — Лаг. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *мур* м. — зах.-бран. р., Лід., Лоеў. (Сл. Гродз., Насовіч, Растаргуеў, Янкова, ЭСБМ), *муро́г* м., *муражо́к* м. памянш. — паўн.-зах. з., усх.-пал. р., Вілен. р., Беш. (СПЗБ, ТС, Каспяровіч, Станкевіч, Мат. апыт.), *муро́жына* ж. адзінк. — Жытк. (ТС), *му́раг* м. — Слаўг. (Мат. апыт.), *муро́жнічак* м. — Пух. (СЦБ), *муражы́на* ж. — Чэрв. р. (Шатэрнік), *муро́жніца* ж. — Стаўб. (Мат. апыт.), *муро́жка* ж. — мясц. (Ластоўскі), *муро́жжа* н. — Шчуч. (Сл. Гродз.), *по́дмураж* м. — Жытк. (ТС), *морг* м. — Петр. (Шаталава), *мяку́ха* ж. — Ушацк. (НЛ), *мяку́шка* ж. — Брасл. (СПЗБ), *мяку́ш* м. — Пол., Докш. (Мат. дыял. сл., ЭСБМ), *мякі́ш* м. — Гл. (Янкоўскі), *мякішы́* мн. — Жытк. (Мат. апыт., ЭСБМ), *мя́каць* ж., *намя́каць* ж. — Слаўг. (Мат. апыт.), *намяку́ша* ж. — Докш. (Мат. апыт.), *вішáр* м. — Рэч. (Мат. апыт.).

**Лекавыя травы:** *зе́лле* н., *зе́ллейка* н. памянш. — агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЖС, ГЧ, Мат. апыт.), *тро́йзелле* н. — Гом. р. (НЛГ), *зе́ллі* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *зёлкі* мн. — паўн.-зах. з. Вілен. р., Лёзн., Кобр., Бяроз., Хойн. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, ЖС, Каспяровіч, Станкевіч, Шатэрнік, Мат. апыт.), *тра́вы* мн. — Леп. (Мат. апыт.), *ца́цкі* мн. — Лоеў. (Янкова).

## Ягады

Агульная назва ягадных раслін.

*ягады* мн. — пераважна агульн. (Сл. Гродз., ГЧ, Шаталава, Мат. апыт.), *ягада* ж. — Іўеў., Буда-Каш., Смален. р. (Мат. Гом., Мат. Гродз., Дабравольскі), *буба* ж. дзіц. — Кам. (ЖНС), *збіркі* мн. 'ягадныя расліны, якія засталіся неабабранымі' — Гродз. (ЖНС), *мамаранкі* мн. 'ягадныя расліны, якія даюць мала ўраджаю' — Гродз. (Сл. Гродз.), *воўчыя ягады* 'ягадныя расліны, плады якіх нельга есці' — Слон., Стол., Жытк. (ТС, Мат. апыт.).

## 3.2 НАЗВЫ ГРУП РАСЛІН І ГРЫБОЎ

### Агрэстнік

Кусты агрэсту

*агрэстнік* м., *агрэснік* м., *агрыснік* м. — у межах назвы расліны *агрэст* (ЭСБМ), *агрыстнік* м. — мясц. (Насовіч), *агрэст* м. — Глыб., Леп., Старадарож. (Мат. апыт.), *агрэст* м. — Люб., Драг., Пін. (Мат. апыт.), *яграснік* м., *ягрыснік* м. — Маг. р., усх.-маг. р., Смарг. (Бялькевіч, Станкевіч, Мат. апыт.), *ягрэст* м. — Мсцісл. (Мат. апыт.).

### Аернік

Зараснік аеру.

*ернік* м. — Гл. (Янкоўскі, Мат. апыт.), *аір* м. — Глыб., Леп., Мсцісл., Люб. (Мат. апыт.), *явар* м. — усх.-маг. р. (Мат. апыт.), *яварышча* н., *яварнішча* н. — Слаўг. (Мат. апыт.), *ярай* м. — Рэч. (Мат. апыт.), *ярый* м. — Жлоб. (Мат. апыт.), *свойскі пліснк* — Драг. (Мат. апыт.), *пляшняк* м. — Пін. (Мат. апыт.), *плешнік* — Жытк., Стол. (Мат. апыт.), *курдоўнік* м. — Маг. р. (Мат. апыт.), *нюнькі* мн. — Чач. (Мат. апыт.).

### Ажыннік

Кусты, зараснік ажын.

(ЛАБНГ), *ліскавыя яблыкі* — Калінк. (ЛАБНГ), *алескавыя яблыкі* — Светлагор., Рэч. (ЛАБНГ), *ляснушка* ж. — Беш. (НС), *ляснушкі* мн. — Верхнядзв., Сен. (Каспяровіч, Шаталава, Станкевіч), *лясныя яблыкі* — Глыб., Віл. (ЛАБНГ), *лыснушка* ж., *лыснушкі* мн. — Сен. (Каспяровіч, Станкевіч, ЭСБМ), *лясоўкі* мн. — Віц.-Маг. р. (ЛАБНГ), *лясаўка* ж., *лясаўкі* мн. — Маг. р. (Бялькевіч, ЭСБМ), *ляснікі* мн. — Верхнядзв., Мёр., Леп. (ЛАБНГ, Шаталава, ЭСБМ), *лясунак* м., *лясункі* мн. — Кругл., Бял., Бых. (ЛАБНГ, ЖНС), *лесавікі* мн. — Віц. р., Пух. (ЛАБНГ, Каспяровіч, Станкевіч), *лесавыя яблыкі* — Бярэз., Чэрв., Старадарож., Маз., Лельч. (ЛАБНГ), *лясушка* ж. — Барыс. (СПЗБ), *лясушкі* мн. — Круп., Барыс. (ЛАБНГ, НС), *касцянкі* мн. — Пруж. (ЛАБНГ), *паляўкі* мн. — спарадычна паўн.-усх. д., Бяроз. (ЛАБНГ), *польныя яблыкі* — Брасл., Астр. (ЛАБНГ).

## Часткі пладоў

**Знешняя абалонка:** *лупіна* ж. — паўн.-зах. з., зах.-пал. г. (СПЗБ, ЭСБМ, Станкевіч, Мат. апыт.), *лупінка* ж. — Дзятл. (Сцяшковіч), *лупінка* ж. памянш. — Лельч. (ЛП), *лупайка* ж., *лупэйка* ж., *лупайкі* мн., *лупаўкі* мн. — зах-пал. г., усх-пал. г., Гом. р., Маг. р., Гродз. р. (ЭСБМ), *лупяйка* ж. — Драг. (ЛП), *лушпайкі* мн. — Маз. (ГЧ), *лушпаўка* ж. — Пін. (НЛ), *лушпаі* мн. — Старадарож. (ЖНС), *лушпавіна* ж. — Пін. (НЛ), *лушпекі* мн. — Малар. (НЛ), *лушчавіны* мн. — Панямонне, Вілен. р. (СПЗБ, Сцяцко, ЭСБМ), *лушчавіна* ж. — Зэльв. (Сцяцко), *лузга* ж. — усх-маг. р., зах-пал. г., Беластоц. р. (ЭСБМ, Бялькевіч, Насовіч, СПЗБ, Ластоўскі), *луска* ж. — агульн. (Насовіч, Шатэрнік, Растаргуеў, ЭСБМ), *плюска* ж. — Маг. р. (Насовіч), *лухта* ж. — Маг. р. (Насовіч), *шалупа* ж. — мясц. (Станкевіч, Ластоўскі), *шалупка* ж. — Віц. р., Мёр., Пух. (Каспяровіч, Станкевіч, НС, Ластоўскі), *шалупкі* мн. — Мёр, Буда-Каш. (ЖНС, ГЧ), *шалушка* ж. — Віц. р., Мёр. (Каспяровіч, НС), *шарлупка* ж. — Мёр. (НС), *шкарлупка* ж. — Мёр.

(НС), *шулупа́* ж. — Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *шалупі́на* ж. — Лаг., Чэрв. р. (Варлыга, Станкевіч), *шалупі́нка* ж. памянш. — Лаг., Чэрв. р. (Станкевіч), *шалупі́нне* н. — Лаг, Чэрв. р. (Станкевіч, Ластоўскі), *шалупа́йка* ж. — Чэрв. р., Драг. (Шатэрнік, ДСБ), *шалупа́йкі* мн. — Браг., зах.-бранск. (З нар. сл., Растаргуеў), *шалупа́я* ж. — Пух. (З нар. сл.), *шалупа́і* мн. — Лаг. (Мат. мін.-мал.), *шалупа́хі* мн. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *шалупа́шкі* мн. памянш. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *шалу́п'е* н. — Віц. р., Барыс. (Каспяровіч, Мат. мін.-мал., Станкевіч), *шалуп'е́* н. — Лаг. (Варлыга), *шалуха́* ж. — Маз. (ГЧ), *шакві́ны* мн. — мясц. (Станкевіч), *шакі́ны* мн. — Віц. р., Маг. р. (Насовіч, Станкевіч), *шакі́віны* мн. — Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *шако́віны* мн. — Віц. р. (Станкевіч), *шако́лы* мн. — Віц. р. (Станкевіч), *шако́ліна* ж. (з грэчкі, ячменю і інш.) — Маг. р. (Насовіч), *шако́лінка* ж. памянш. — Маг. р. (Насовіч), *шако́ліны* мн. — Віц. р. (Каспяровіч), *шаро́йка* ж. (з грэчкі) — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *шкарлупа́йкі* мн. (з бульбы) — Хойн. (Шаталава), *шкарлу́па* ж. (у арэхах і інш.) — Маг. р., Слон. (Насовіч, Мат. апыт.), *шусця́к* м. (на зярнятах) — Малар. (ЛП), *кажура́* ж. — мясц. (ЭСБМ), *кажу́рка* ж. — Маладз. (СЦБ), *скары́нка* ж. (у высахлай агародніне) — Лоеў. (Янкова), *кажушо́к* м. (на бульбе) — Мядз. (СЦБ), *мундзі́р* м. (на варанай бульбе) — Драг. (Мат. апыт.), *цыбу́льнік* (на цыбулі) м. — Стол., Жытк. (ТС, Мат. Гом.), *цыбу́льніца* ж. (на цыбулі) — Жытк. (ТС), *цыбу́лькі* мн. (на цыбулі) — Лельч. (ЖС), *жаро́нкі* мн. (на канапляным семені) — Віц. р. (Каспяровіч), *жамяра́* ж. — Віц. р. (Каспяровіч), *тоўч* ж. (з прасеянага абтоўчанага зерня) — Малар., Стол. (ДСБ, ТС), *асцю́к* м. (са збожжа) — Чэрв. р. (Шатэрнік), *ашакі́* мн. (са збожжа) — Верхнядзв., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ), *пух* м. (з асіны) — Слон. (Мат. апыт.).

**Долька часнаку:** *зуб* м. — Драг., Лоеў. (Янкова, ЛП), *зубо́к* м. — Навагр., Стол. (Сцяшковіч, ТС), *друбо́к* м. — Іўеў. (Мат. мін.-мал.).

**Мякаць гарбуза:** *мяздра́* ж. —паўн.-усх. д, паўн.-зах. з., Жытк. (ЛАБНГ, ТС, ЭСБМ, Каспяровіч, Сцяшковіч, Шаталава), *наздра́* ж. — Докш., Віл. (СЦБ., Мат. мін.-мал., ЭСБМ), *мязгра́* ж. — Лёзн., Маладз., Іўёў., Навагр., Карэл. (ЛАБНГ, Сл.Гродз., ЭСБМ), *мязга́* ж. — спарадычна ўсх. з., Мін. р., Паням. р., Гом. р., Стол. (ЛАБНГ, ТС, Цыхун, Сцяшковіч, Мат. Гом., ЭСБМ), *мязка́* ж. — Стол. (ТС), *мазга́* ж. — Свісл., Ганц., Маз. (ЭСБМ), *мазгі́* мн. — Маг. р., Глыб., Маладз., Круп. (ЛАБНГ, Насовіч, СЦБ, Мат. мін.-мал., НС, ЭСБМ), *мязо́к* м. — Клім. (ЛАБНГ), *мя́са* н. — спарадычна агульн., акрамя Віц. р. (ЛАБНГ, ТС, ЖС, Мат. мін.-мал., СЦБ, Шаталава, Янкова, Сцяшковіч, НС), *гарбузо́ва мя́са* — Бял. (НС), *кі́шкі* мн. — паўдн.-зах.д, сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, З нар. сл., СЦБ, Янкова, Мат. мін.-мал., ГЧ), *кішкі́* мн. — Зэльв., Слон., Кам., Кобр., Драг., Іван. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *кішчы́ны* мн. — Капыл. (СПЗБ, ЛАБНГ), *мя́кіш* м. — паўдн.-усх. з., Шчуч., Маст. (ЛАБНГ, ТС), *мякіша́* ж. — спарадычна паўдн.-усх. з. (ЭСБМ, Мат. Гом., Мат. Маг., Юрчанка), *мякша́* ж. — Маст. (СПЗБ), *мя́каць* ж. — асн. мас. г. (ЛАБНГ, ЭСБМ, Мат. апыт), *мя́касць* ж. — Жытк. (ТС), *вы́чаўкі* мн. — Іваც., Лун., Пін., Стол. (ЛАБНГ, Шаталава, ЭСБМ), *вантро́бы* мн. — Мсцісл., Дзярж. (ЛАБНГ), *жы́лля* мн. — Кругл. (ЛАБНГ), *кле́тка* ж. ’секцыя ўнутры гарбуза’ — Стол. (ТС), *кло́чча* н. — Стол., Жытк. (ТС), *кудзе́ля* ж. — Ваўк. (ЛАБНГ), *муза́* ж. — Навагр. (З нар. сл., ЭСБМ), *м’яць* ж. — Старадарож. (ЛАБНГ), *пле́ва* ж. — Іван. (ЛАБНГ), *са́ла* н. ’мясістая абалонка гарбуза’ — Навагр. (З нар. сл.), *сярэ́дзіна* ж. — Дзятл., Слон. (Сцяшковіч, Мат. апыт.), *шу́трык* м. — Барыс. (ЛАБНГ).

**Хвосцік у гарбузе:** *гу́ска* ж. — Жытк. (ТС), *каза́* ж. — Стол. (ТС), *кара́к* м. — Стол., Жытк. (ТС), *сук* м. — Стол. (ТС), *сучо́к* м. — Стол. (ТС), *цю́цік* м. — Жытк. (ТС), *цю́цька* ж. — Маз. — (З нар. сл.), *шпе́нік* м. — Стол., Жытк. (ТС), *шпянёк* м. — Стол., Жытк. (ТС).

**Ядро арэха:** *ядро́* н. — Маг. р., Беластоц. р., Паст., Лаг., Драг., Стол. (Насовіч, СПЗБ, Варлыга, ТС, Ластоўскі), *зе́рка*

н. — Брасл. (СПЗБ, ЭСБМ), *зе́рашка* н. — Брасл. (СПЗБ), *зярнё* н. — Віл. (СПЗБ), *зярня́* н. — Н́авагр., Зэльв., Слон. (СПЗБ, Сцяцко, Мат. апыт.), *зярню́к* м. — Воран. (СПЗБ), *зёрнушкі* мн. — Зэльв., Слон. (Мат. апыт.), *брандýк* м. — Воран. (СПЗБ).

**Часткі жолуда:** *пятка* ж. 'тупы канец' — Лаг. (Шаталава), *мі́сачка* ж. 'пладаножка' — Лаг., Драг. (Шаталава, Мат. апыт.), *ша́пачка* ж. 'пладаножка' — Лаг., Петр., Браг. Шаталава), *шкарлу́пка* ж. — Слон. (Мат. апыт.).

**Часткі качана капусты:** *лялюшачка* ж. 'качан-парастак у качане капусты' — Паст. (СПЗБ, ЭСБМ), *па́сынак* м. 'тое, што і лялюшачка' — Маг. р. (Насовіч), *цыцкі́* мн. 'маленькія качанчыкі пад асноўнымі качанамі' — Стол. (ТС); **храпка** 'ствол качана капусты без лістоў': *хра́пка* ж. — усх. з., акрамя Віц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч, Насовіч, Растаргуеў), *хра́па* ж. — Слуц.-Маз. г., Гом. р. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Янкова, Шаталава, ЖС), *хра́піна* ж. — Стол., Лельч. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *храпу́н* м. — Мядз. (ЛАБНГ), *храпу́шнік* м. — Светлагор. (Мат. Гом.), *хра́п'е* н. зборн. — Маг. р. (Насовіч), *ахра́пка* ж. — віц.-маг. г. (ЛАБНГ, Шаталава), *ахра́пак* м. — Беш., Лаг. (ЛАБНГ, Каспяровіч, Станкевіч), *ахра́п'е* н. зборн. — Віц. р. (Каспяровіч. Станкевіч), *кача́н* м. — зах. з., Мін. р., Чэрв. р. (ЛАБНГ, Шаталава, Станкевіч), *качары́жка* ж. — Падзвінне, Гродз. р. (ЛАБНГ, ЭСБМ, Шаталава, Мат. Гродз., Каспяровіч), *качары́га* ж. — Рас., Гарад., Шум. (ЛАБНГ, ЭСБМ), *качарэ́жка* ж. — Рас., Мёр., Маладз., Барыс., Валож. (ЛАБНГ), *качарэ́жына* ж. — Верхнядзв., Рас., Гарад., Віц., Паст (ЛАБНГ), *качары́жнік* м. — Нараўл. (Мат. Гом.), *качэ́ргі* мн. — Бераст. (Сл. Гродз.), *кара́к* м. — Лун., Жытк. (ЛАБНГ, ТС, Мат. апыт.), *кура́к* м. — Лун. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *крыша́н* м. — Пух. (Мат. мін.-мал.), *сэ́рца* н. — Зэльв., Верхнядзв. (ЛАБНГ), *асёрдак* м. — мясц. (Станкевіч); **цвёрдая частка ліста капусты:** *хруме́ль* м. — Астр. (СПЗБ), *хрумлі́на* ж. — Астр. (СПЗБ).

**Часткі яблыка:** *пе́нчык* м. ’хвосцік у яблыку, ігрушы’ — Стол. (ТС), *хвост* м. ’хвосцік у яблыку’ — Драг. (Мат. апыт.), *мя́са* н. ’сакавітая частка яблыка’ — Драг. (Мат. апыт.), *я́дра* мн. ’зярняткі ў яблыку’ — Драг. (Мат. апыт.), *шку́ра* ж. ’абалонка ў яблыку’ — Драг. (Мат. апыт.), *лупя́йка* ж. ’тое, што і шкура’ — Драг. (Мат. апыт.).

## Часткі караняплодаў

**Вочка на бульбіне:** *во́чка* н. — Петр. (Шаталава), *ачко́* н. — Драг. (Мат. апыт.), *казлы́* мн. — Смарг., Шчуч., Браг. (СПЗБ, Мат. мін.-мал., СЦБ), *казю́лька* ж. — Жытк. (ТС), *мандзю́ры* мн. — Мёр. (ЭСБМ, Нар. сл.), *мандзюры́* мн. — Мёр. (НС), *дупе́льца* н. (на бульбе, моркве) — Лоеў. (Янкова), *пляснí́ўка* ж. (на гародніне) — Раг. (Мат. Гом.), *я́мачка* ж. (на клубні) — Гродз. р. (Цыхун).

**Вярхушка бурака, на якой расце бацвінне:** *гало́ўка* ж. — Круп. (НС), *лы́чык* м. — Маг. р. (Насовіч, Станкевіч), *вы́чык* м. — Маг. р. (Насовіч).

**Стрыжань морквы:** *сэ́рца* н. — Верхнядзв., Рас., Слон., Лун. (Шаталава, Мат. апыт.), *сяро́дак* м. — Навагр. (Сцяшковіч), *сяро́давік* м. — Бярэз. (Мат. мін.-мал.), *сярдо́к* м. — Драг. (Мат. апыт.), *сярэ́дзіна* ж. — Слон. (Мат. апыт.), *хра́шчык* м. — Добр. (Мат. Гом.).

**Частка цыбуліны, якую зразаюць, калі садзяць клубень:** *вяршо́к* м. — Маладз. (СЦБ), *маку́шка* ж. — Ельск. (Мат.Гом., ЭСБМ), *пле́шка* ж. — Лоеў. (Янкова).

**Іншыя назвы:** *дзіч* ж. ’чарвяточына’ — Верхнядзв. (Шаталава), *нары́ца* ж. ’пашкоджаная частка бульбіны’ — Стол. (ТС), *нос* м. ’востры канец бульбіны’ — Драг., Петр. (Шаталава, Мат. апыт.), *но́сік* м. — Гом. р. (Мат. Гом., ЭСБМ), *пя́тка* ’частка бульбіны без вочак’ ж. — Маст. (Сл. Гродз.).

## СУКВЕЦЦІ І СУПЛОДДЗІ, ЗРОСТКІ ПЛАДОЎ І КВЕТАК

**Агульныя назвы:** *суквéцце* н. — Навагр. (Мат. Гродз., Станкевіч), *вéтка* ж. — Жытк., Стол., Лаг. (ТС, ЭСБМ), *кісці* мн. — Ваўк. (ЭСБМ), *бук* м. 'бутон, суквецце з сцяблом' — Стол., Жытк. (ТС), *бýцік* м. памянш., *буцю́к* м. памянш., *буцóчак* м. памянш., *бучóк* м. памянш., *бутóчкі* мн. памянш. 'тое, што і бук' — Стол., Жытк. (ТС).

### Гронка

Зростак пладоў на адной галінцы ці караняплодаў пад адным калівам.

*грóнка* ж. 'галінка з ягадамі' — Ваўк. (Мат. Гродз.), *грáнка* ж. — Верхнядзв., Шум., Барыс., Бярэз., Докш., Лаг., Чэрв. (СПЗБ, Варлыга,), *шып* м. 'гронка арэхаў, корч цыбулі' — Навагр. (НС), *шып* м., *шыпáчка* ж. 'зростак арэхаў, ягад' — Жытк. (ТС), *шыпáк* м., *шупáк* м., *шыпя́к* м., *шчыпáк* м., *шыпáх* м., *шупáх* м. 'зростак арэхаў, ягад' — Стол., Жытк. (ТС), *шыпá* ж. 'зростак арэхаў, ягад' — Стол. (ТС), *шыш* м. — Стол. (ТС), *шышáк* м. — Пін. (ДСБ), *шышакé* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *шы́шка* ж. — Слон., Круп. (НС, Мат. апыт.), *шы́шачкі* мн. памянш. — Слон. (Мат. апыт.), *кíстка* ж. — Стаўб. (АЛА, ЛАБНГ), *кíтка* ж. — Карэл. (З нар. сл.), *кíчка* ж. — Гом. (Мат. Гом.), *казёл* м. 'гронка арэхаў, адно гняздо, корч цыбулі' — Мёр. (ЖНС), *каўцю́к* м. — Жытк. (ТС), *кýчмы* мн. — Карэл. (Мат. Гродз.); **гронка арэхаў:** *шып* м. — Навагр., Стол., Кам., Петр. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава), *шыпóк* м. памянш. — Навагр., Стол. (ЛАБНГ), *шыпáк* м. — Саліг., Лун., Кам., Стол., Маз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *шыпéх* м. — Хойн. (ДСБ), *шыпóх* м. — Лельч. (НЛ), *шы́шка* ж. — цэнтр. з., Паням. р., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, Шаталава, Мат. апыт.), *шы́шачка* ж. памянш. — Слон. (Мат. апыт.), *шышáк* м. —

зах.-пал. г., Карэл., Уздз., Слон., Нясв., Клецк. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. апыт.), *гра́нка* ж. — усх. з., спарадычна паўн.-усх. з. (ЛАБНГ), *гро́ня* ж. — Верхнядзв., Мсцісл. (ЛАБНГ), *гразно́* н. — Лёзн., Арш., Дубр. (ЛАБНГ), *грузно́* н. — Віц. р., Беш., Лельч. (ЛАБНГ, НС), *гро́зень* ж. — Віл. (ЛАБНГ), *грузён* м. — Гарад. (ЛАБНГ), *граздо́* н. — Беш. (НС), *кісць* ж. — усх.-маг. р., Гом. р. (ЛАБНГ), *кісце́нь* м. — Зэльв., Маст., Карэл., Шчуч., Іўеў., Лун., Рэч. (ЛАБНГ, СПЗБ), *кістка* ж. — Шкл., Стаўб., Дзярж., Гом. р. (ЛАБНГ), *казёл* м. — Брасл., Шарк., Сен., Ганц., Лун. (ЛАБНГ), *казлы́* мн. — Паст. (СПЗБ), *корч* м. — Бяроз., Лун. (ЛАБНГ, ДСБ, Шаталава), *куст* м. — спарадычна зах. з., Рэч. (ЛАБНГ), *ку́сцік* м. — Пух. (СЦБ), *кусце́нь* м. — Шчуч. (СПЗБ), *кусцёнчык* м. — Шчуч. (Сл. Гродз.), *ве́тка* ж. — Гор. (ЛАБНГ), *вясла* н. — Слаўг. (ЛАБНГ), *гняздо́* н. — Слон. (Мат. апыт.), *ке́ча* ж., *ке́чка* ж. — Паст. (ЛАБНГ), *кукре́к* м., *кукре́х* м. — Маладз. (ЛАБНГ), *купе́х* м. — Хойн. (Шаталава), *ку́па* ж. — Івац., Лельч. (ЛАБНГ), *кутлуха́* ж. — Гарад. (ЛАБНГ), *ку́ча* ж. — Калінк. (ЛАБНГ), *плёнка* ж. — Карм. (ЛАБНГ), *папа́х* м. — Светлагор., Ельск. (ЛАБНГ), *ша́пка* ж. — Рас. (ЛАБНГ); **гронка вінаграду:** *ве́тка* ж., *ве́тачка* ж. — спарадычна агульн. (АЛА), *гро́нка* ж. — Валож., Маст., Стаўб., Слон., Слаўг. (АЛА, Мат. апыт.), *гра́нка* ж. — Бял., Смарг., Бярэз., Пух., Капыл., Лях., Івац., Акц., Бяроз., Калінк. (АЛА, Шаталава), *шы́шка* ж. — Віл., Стаўб., Пух., Капыл., Саліг., Пін., Лельч. (АЛА), *галі́нка* ж. — Старадарож., Драг. (АЛА), *галэ́ндзя* ж. — Воран. (АЛА, Шаталава), *галэ́нсць* ж. — Воран. (АЛА), *галя́чка* ж. — Кам. (АЛА), *кісць* ж. — Маст., Свісл., Касц., Ветк. (АЛА), *кі́сціна* ж. — Навагр. (АЛА), *кісце́нь* ж. — Шчуч., Зэльв. (АЛА), *кі́ста* ж. — Свісл. (АЛА), *гроздзь* ж. — Слаўг. (АЛА), *гро́здзя* ж. — Віц. (АЛА), *гро́здзі* мн. ’аб любых ягадах, калі цэлы камок іх на адной ветцы’ — мясц. (Ластоўскі), *вінагра́дачка* ж. — Смален. р. (Дабравольскі), *пучо́к* м. — Воран., Жытк. (АЛА), *ла́пка* ж. — Карэл. (АЛА, Шаталава).

**Катах**

Суквецце з патоўшчаным асяродкам, воссю.

*катахі* мн., *катахе́* мн., *кіяхі́* мн., *шышкі* мн. — Ганц., Маст. (СПЗБ), *катахі́*, *катахе́*, *катухі́* мн. — Гродз., Кам. (СПЗБ), *като́к* м. — Мёр., Стаўб. (ЖС, СЦБ), *каткі́* мн. ’катахі на сцяблах падарожніка’ — Бар. (СПЗБ), *каты́* мн., *катэ́* мн. — Чэрв., Карэл., Дзярж., Бар. (СПЗБ), *таўка́ч* м. — Слон. (Мат. апыт.), *таўка́чык* м. — Іўеў., Шчуч., Навагр. (СПЗБ, Мат. апыт.), *стаўбу́н* м. ’суквецце некаторых раслін, напрыклад шчаўя’ — Навагр. (Мат. апыт.), *стаўбуно́к* м. — Маст. (СПЗБ), *була́ўкі* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *бычо́к* м. — Віл. (СПЗБ), *кала́чык* м. — Лях. (СПЗБ), *кача́н* м. — Бяроз. (Шаталава), *кіёўка* ж. — Віц. р. (Каспяровіч), *кіцю́х* м., *кіцюшо́к* м. памянш. — Жытк. (ТС), *папу́х* м. — Іўеўск. (Сл. Гродз.), *пе́сік* м. — Стаўб. (ЖС), *жы́чка* ж. — Верхнядзв. (СПЗБ), *шы́шка* ж., *шы́шачка* ж. памянш. — Мёр., Леп., Слон. (ЖС, Мат. апыт.).

**Каташковыя суквецці на дрэвах:** *кіціцы* мн. ’катахі бярозы, асіны, але не на алешыне’ — Стол. (ТС), *ко́цікі* мн. — Пух., Слон. (З нар. сл., Мат. апыт.), *аве́чка* ж., *аве́чачка* ж. памянш. — Жытк. (ТС), *кілба́скі* мн., *кілба́ска* ж. ’суквецце на бярозе, алешыне’—Мёр. (ЖС), *ме́калка* ж. ’коцік на дрэвах’ — Гл. (Янкоўскі), *шы́шка* ж., *шы́шкі* мн. ’суквецці бярозы, вольхі’ — Навагр. (Мат. апыт.); **катах на алешыне:** *шы́шачкі* мн. — Слон., Стол. (ТС, Мат. апыт.); **суквецці на бярозе:** *калачы́* мн. — Свісл. (Шаталава), *ко́цікі* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *піражкі́* мн. — Браг. (Шаталава), *сяро́жкі* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *таўка́чык* м. — мясц. (Шаталава); **суквецці вярбы:** *каткі́* мн. — Ашм., Астр., Лун., Навагр. (Ластоўскі, Мат. Гродз., СПЗБ, Станкевіч, Шаталава), *ко́ткі* мн. — мясц. (Насовіч), *каташке́* мн. — Маст. (СПЗБ), *ко́цікі* мн. — Навагр. (Мат. Гродз.), *каца́нкі* мн. ’касматая наквець на вярбе’ — мясц.

(Ластоўскі), *авечачка* ж. — Ветк. (Мат. Гом.), *авечачкі* мн. — Мсцісл., Браг. (Шаталава, Юрчанка) *багня* ж. — мясц. (Насовіч), *бырачкі* мн. — Добр. (Мат. Гом.), *бэбачкі* мн. — Жытк. (ТС), *волікі* мн. — Петр. (Шаталава), *кунюткі* мн. — мясц. (Насовіч), *павучкі* мн. — Верхнядзв. (СПЗБ), *сярожкі* мн. — Гом. (Мат. Гом.); **суквецце елкі:** *ялтычынка* ж. 'яловая тычынка' — Латгал. р. (СПЗБ); **суквецце таполі:** *пупяхі* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *тофаль* м., *тофель* м., *топіль* м. — Астр. (СПЗБ); **суквецці хвоі:** *кашка* ж. 'пупышка хвоі' — Лоеў. (Мат. Гом.).

**Каташковыя суквецці і суплоддзі травяністых раслін**: **катах аера:** *баролік* м. — Стол. (ТС); **катах кукурузы (кукурузны пачатак):** *кіёўка* ж. — Мядз., Жлоб., Чач., Буда-Каш., Бых. (ЖНС, Шаталава, Мат. апыт.), *кіюшка* ж. — Краснап., Чач., Ветк., Гом., Нар. (Бялькевіч, ЖНС, Мат. Гом.), *кіях* м. — Маладз., Рэч., Хойн., Жытк., Буда-Каш., Ельск., Петр., Браг., Добр., Ветк. (Мат. Гом., СЦБ), *кіяхі* мн. — Лельч. (ЖС); *князх* м. — Пін. (НЛ), *к'ях* м. — Браг. (Мат. Гом.), *кіяк* м. — Старадарож. (ЖНС, Янкоўскі), *кіёк* м. — Гом., Добр., Ветк. (Мат. Гом.), *кійке* мн. — Кір. (НС), *кіян* м. — Гом., Буда-Каш. (Мат. Гом.), *кій* м. — Барыс. (Мат. мін.-мал.), *кіяш* м. — Шчуч. (НЛ), *качан* м. — Паням. р., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Сцяцко, Цыхун, Мат. апыт.), *таўкачы* мн. — Свісл., Маст., Дзятл. (СПЗБ), *калач* м. — Лях., Лід. (СПЗБ); вусікі ў кукурузным катаху: *коскі* мн. — Рэч., Калінк., Буда-Каш., Браг. (Мат. Гом.), *косы* мн. — Лоеў. (Янкова), *валаскі* мн., *валасок* м. — Стаўб. (СЦБ), *махрачы* мн. — Дзятл. (Мат. Гродз.); **катах рагозу:** *кіёўкі* мн. — паўн.-зах. з., усх.-маг. р., а таксама Бярэз. (ЛАБНГ), *кіёўка* ж. — Мёр., Віл., Бял. (ЖС, НС, СЦБ), *кіёўнік* м. зборн. — Мёр., Чэрв. (ЛАБНГ, ЖС), *кіяўкі* мн. — спарадычна. паўн.-зах. з., Мядз., Смарг. (ЛАБНГ), *кійкі* мн. — Мсцісл. (ЛАБНГ), *кіяхі* мн. — паўдн.-зах. д., спарадычна Паням. р., Жытк. (ЛАБНГ, ТС), *кіях* м. — Маз., Лоеў. (ГЧ, Янкова), *кіюха* ж. — Гродз.

(СПЗБ), *кіяшы* мн. — спарадычна паўдн.-зах. д. (ЛАБНГ), *кіяш* м. — Пух. (СЦБ), *кіяшнік* м. зборн. — Пух. (ЛАБНГ), *каты́* мн. — сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ), *катахí* мн. — спарадычна Паням. р., Чэрык. (ЛАБНГ), *кацяхí* (*кацяхé*) мн. — зах.-пал. г., Лельч. (ЛАБНГ), *кóцікі* мн. — Бых., Стаўб., Бар., Саліг., Рэч., Добр. (ЛАБНГ), *шы́шкі* мн. — пераважна паўн. р., спарадычна агульн. (ЛАБНГ), *шы́шка* ж. — Рас. (Шаталава), *булáўкі* мн. — спарадычна Паням. р. (ЛАБНГ), *булáўнік* м. зборн. — Іўеў., Лід. (ЛАБНГ), *бýлах* м., *бýлахі* мн. — Гродз. (ЛАБНГ, З нар. сл.), *булáшнік* м. зборн. — Бяроз. (ЛАБНГ), *булдóўка* ж., *булдóўкі* мн. — Мядз., Клім., Карм. (ЛАБНГ, СПЗБ), *буяхí* мн., *буякí* мн. — Стол. (ЛАБНГ, ТС), *біях* м. — Стол. (ТС), *пухóўкі* мн. — паўн.-усх. д., усх.-маг. г. (ЛАБНГ), *пухóўка* ж. — Мёр., Чашн., Бял., Лоеў. (ЖС, НС, Каспяровіч, Мат. Гом.), *пухóўнік* м. зборн. — Докш. (ЛАБНГ), *пушкí* мн., *пýшкі* мн. — Буда-Каш., Гом. (ЛАБНГ), *пушáк* м. — Жытк. (ТС), *пушы́на* н. — Жытк. (ТС), *калáч* м. — Лях., Лід. (СПЗБ), *качáлкі* мн. — Чэрв. р., Лаг., Кам. (ЛАБНГ), *качáлка* ж. — Стол., Жытк. (ТС), *таўкачы́* мн. — Паням. р., Бабр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *таўкáч* м. — Навагр. (ЖС); *гáлкі* мн. — Гл., Кобр. (ЛАБНГ), *качаны́* мн. — Бяроз., Кобр. (ЛАБНГ), *мячэ́ўнік* м. зборн — Докш., Чав. (ЛАБНГ), *пýрхаўка* ж. — Жлоб. (Мат. Гом.), *пурхóўка* ж. — Буда-Каш. (Мат. Гом.), *авéчачкі* мн. — Хойн. (ЛАБНГ), *балáбушкі* мн. — Ельск. (ЛАБНГ), *бóйкі* мн. — Драг. (ЛАБНГ), *ваўцкí* мн. — Гарад. (ЛАБНГ), *галавачы́* мн. — Лельч. (ЛАБНГ), *казакí* мн. — Слон. (ЛАБНГ), *калатóўкі* мн. — Бярэз. (ЛАБНГ), *панпýшкі* мн. — Леп. (ЛАБНГ), *сьцíна* ж. — Ашм. (ЛАБНГ), *цыганы́* мн. — Кобр. (ЛАБНГ); **катах чароту (пладовая шышка):** *амялá* ж. — Віл. (СПЗБ), *булавá* ж. — Бераст. (Сл. Гродз.), *булдавéха* ж. — Гродз. (Сл. Гродз.), *кіёўка* ж. — Віл. (Мат. мін.-мал.), *пухóўка* ж. — мясц. (Насовіч); **катах шчаўя:** *казятнік* м. ’пладовая шышка дзікага шчаўя’ — Круп. (СЦБ).

## Колас

Суквецце большасці злакаў і некаторых іншых раслін, у якіх кветкі не маюць кветканожак і размяшчаюцца ўздоўж канца сцябла; суквецце з пладамі, насеннем гэтых раслін.

*ко́лас* м. — агульн. (АЛА, СПЗБ, ТС, Ластоўскі, ЛП, Мат. Гродз., Сл. Гродз., Станкевіч), *каласо́к* м. памянш. — Чэрв., Краснап., Карэл., Навагр., Жлоб., Чач., Вілен. р. (Бялькевіч, СПЗБ, Шаталава, Шатэрнік, Мат. апыт.), *трос* м. — Гродз. (Сл. Гродз.); **назвы са зборным значэннем**: *кало́ссе* н. — агульн. (АЛА, Каспяровіч, ЛП, ТС, Юрчанка), *калассё* н. — Круп. (СЦБ), *каласы́* мн. — Воран., Слон. (Мат. Гродз., Мат. апыт.), *каласаві́нне* н. — Тал. (Шаталава), *кало́сейка* ж. — Стол. (ТС); **пусты колас:** *глухо́е жыта* ’каласы з дробнымі пустымі зярнятамі’ — Астр., Воран. (СПЗБ), *пле́вы* мн. — мясц. (Насовіч); **назвы коласа паводле іншых прыкмет**: *блізню́к* м. ’адзін з двух каласоў, што зрасліся’ — Драг., Пін., Іван., Стол., Лун. (ЛП), *падго́ніч* м. ’заморак, недаразвіты колас, кволы парастак і інш.’ — Стол. (ТС), *пы́сы* мн. ’нявымалачаныя каласы’ — Чэрв. (НЛ); *стая́н* м. ’сухі колас у жыце’ — Бяроз., Пін. (ДСБ, Шаталава), *сто́раж* м. ’першы колас у жыце’ — Житк. (ТС).

## Часткі коласа

**Асцюк** ’тонкі доўгі вусік на каласах некаторых злакаў’: *асцю́к* м. — агульн., акрамя паўн. р. (ЛАБНГ, Каспяровіч, Мат. Гродз., Насовіч, СПЗБ, Станкевіч), *асцюкі́* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *асцю́лька* ж. — віц.-маг. г. (ЛАБНГ, Насовіч, Станкевіч), *аўсцю́к* м. — Астр. (Мат. Гродз.), *гасцю́к* м. — Воран., Зэльв. (Мат. Гродз., Сцяцко), *асця́к* м. — Гродз., Шчуч., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, СПЗБ), *гасця́к* м. — Гродз., Шчуч. (СПЗБ), *вусця́й* м. — Драг., Малар. (ДСБ), *асце́нь* м. — усх-маг. р. (Бялькевіч, На-

совіч), *асціна* ж., *асціна́* ж. — Пол. р., Вілен. р., Карэл. (СПЗБ, ЛАБНГ, НЛ), *асце́віна* ж. — Барыс. (ЛАБНГ), *асцё* н. зборн. — Пол., Віл., Лаг., Бераст., Пруж. (ЛАБНГ, Варлыга, СПЗБ), *гасцё* н. зборн. — Докш., Паст., Глыб., Лаг., Маст. (СПЗБ), *асцяўё* н. зборн. — Беш., Докш., Барыс. (ЛАБНГ, СПЗБ), *асцяге́і* мн. — Гродз. (Сл. Гродз.), *аксны́* мн. — Смарг., Воран. (Мат. Гродз., Сл. Гродз.), *аксюкі́* мн. — Астр., Воран. (СПЗБ), *аксцён* м. зборн. — Шчуч. (СПЗБ), *ако́т* м. зборн. — Вілен. р., Брасл., Мёр., Чэрв. р. (ЖНС, СПЗБ, ЭСБМ), *ако́та* ж. — Брасл., Паст. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ако́ціна* ж. зборн. — Вілен. р., Верхнядзв., Брасл., Паст., Мёр. (ЛАБНГ, ЖНС, СПЗБ), *ако́ц-це* н. зборн. — Вілен. р., Верхнядзв., Стаўб. (СПЗБ, СЦБ), *асёклі* мн. — Воран. (СПЗБ), *асю́кля* ж., *асю́клі* мн., *сю́клі* мн. — Вілен. р. (СПЗБ), *восць* ж., *вось* ж. — Верхнядзв., Пух., Віц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава), *осць* ж., *ось* ж. — Віц., Лёзн., Пол. (ЛАБНГ), *вус* м. — усх.-маг. р., спарадычна паўдн. р., Малар., Драг., Стол. (ЛАБНГ, ТС, ЛП), *вусы́* мн. — Барыс., Жлоб., Чач., Буда-Каш., Малар., Драг., Стол. (ЛП., Мат. мін.-мал., Мат. апыт.), *ву́ссе* н. зборн. — Мсцісл., Чав., Бых. (ЛАБНГ), *вусьвіца* ж. зборн. — Пух. (ЛАБНГ), *усні́ца* ж. зборн. — Стол. (ДСБ, ЛП), *касцю́лька* ж., *касцю́лькі* мн. — Сен., Барыс., Краснап. (Бялькевіч, Каспяровіч, Мат. мін.-мал., СЦБ), *касцю́к* м., *касцюкі́* мн. — Чэрв., Пух. (Мат. мін.-мал., СЦБ), *ашáк* м., *áшака* ж., *ашакі́* мн., *ашáкі* мн, *áшакі* мн. — Брасл., Лід., Воран., Паст., Дзятл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *бадзю́к* м. — Чэрв., Кір., Раг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *бадзю́ка* ж. — Чэрв., Кір. (ЛАБНГ), *калю́к* м. — Бяроз., Стол. (ДСБ, ЛП), *ка-лю́кі* мн. — Гл. (ЛАБНГ), *бры́сы* мн. — Гродз., Шчуч. (ЛАБНГ, СПЗБ, Цыхун), *бры́са* ж. — Гродз. (СПЗБ), *валасо́к* м. — Гом. (ЛАБНГ), *вало́ссе* н. зборн. — Чэрв. (Шатэрнік), *вало́тка* ж. — Кір. (ЛАБНГ), *во́лаць* ж. зборн., *во́лацце* н. зборн., *вало́цце* н. зборн. — Верхнядзв. (ЛАБНГ, СПЗБ), *поўсць* ж. зборн. — Пух., Асіп. (ЛАБНГ), *гулякі́* мн. — Жаб. (ЛАБНГ), *жыбу́лька* ж. — Пух. (СПЗБ), *кастры́ца* ж. — паўн.-зах. з. (СПЗБ), *пы́сікі* мн. — Барыс.

(СПЗБ), *ражкí* мн. — Хойн. (ГЧ), *рачáк* м. зборн. — Лельч. (ЖС), *шýста* ж., *шусты́* мн. — Драг. (ДСБ, НЛ), *шусты́нка* ж. — Бяроз. (ЛАБНГ), *шусцé* н. зборн. — Бяроз., Драг. (ЛАБНГ).

**Машонка** ’месца ў коласе, дзе знаходзіцца зерне’: *машóнка* ж. — Пін. (Шаталава).

**Пятка** ’ніжняя частка коласа, яго пачатак, які набывае закругленую форму (становіцца бачным), калі пачынае поўніцца’: *пя́тка* ж. — Рас., Пін. (Шаталава).

**Трубка** ’месца ў сцябле, адкуль выплывае колас’: *трýбка* ж. — Петр. (Шаталава).

## Мяцёлка

Суквецце некаторых раслін, якое нагадвае па форме мятлу (пераважна ў злакавых).

*мяцёлка* ж. — Пол., Стаўб., Навагр., Раг., Жлоб., Чач., Буда-Каш. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *вéтка* ж. — асн. мас. г., спарадычна. зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ЛП, СЦБ, Шаталава), *вíтка* ж. — Малар., Пін., Беластоц. р. (НЛ, СПЗБ), *вець* ж. — Верхнядзв., Сен., Клім., Іўеўск. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *квéтка* ж. ’мяцёлка проса, аўса, грачыхі’ — Малар., Драг., Бяроз. (ЛП), *каласóк* м. — Слон. (Мат. апыт.); **аўсяная мяцёлка:** *квéтка* ж. — Ашм., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, СПЗБ), *квíтка* ж. — Кам. (СПЗБ), *кíстка* ж. — Маст., Стаўб., Кам. (ЛАБНГ), *кíста* ж. — Маст. (СПЗБ), *кíсць* ж., *кíсця* ж. — Чэрык., Касц., Нясв., Слон. (ЛАБНГ), *кíстка* ж. — Малар. (ЛАБНГ, ЛП), *кітóк* м. — Кам. (ЛАБНГ), *кóлас* м. — Паням. р., Шум. (ЛАБНГ), *сцябл*ó н., *сцяблí* мн. — Лід., Навагр., Бераст. (ЛАБНГ), *аўсянíца* ж. — Навагр. (Сл. Гродз.), *галíнка* ж. — Зэльв. (ЛАБНГ), *калівó* н. — Шум. (ЛАБНГ), *калíтка* ж. — Кам. (ЛАБНГ), *кéчка* ж. — Барыс. (ЛАБНГ), *прэ́рвачкі* мн. ’сцяблінкі аўса, зярняты’ — Гродз. (Сл. Гродз.), *сéргі* мн. — Арш. (ЛАБНГ); **мяцёлка проса:** *валóтка* ж. — Пін., Стол. (ДСБ,

ЛП), *ве́ха* ж. — Рэч. (Мат. Гом.), *кве́тка* ж. — Брэсц. (ДСБ), *про́сеніца* ж. — Лун. (Шаталава).

### Калючка

Суквецце ў раслін, якія адносяцца да роду калючых.

*калю́чка* ж. — Слон. (Мат. апыт.), *ваўкі́* мн. 'калючкі чарады, лопуху' — Слон. (Мат. апыт.), *каўту́ннік* м. зборн. 'калючыя галоўкі, суквецце дзядоўніку, лопуху' — Лельч. (ЖС), *шыпу́шка* ж. Чэрык. (Бялькевіч), *бадзю́ка* ж. — мясц. (Насовіч); **калючка лопуху:** *ваўчкі́* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *ку́кса* ж. — Лоеў. (Мат. Гом.), *рапе́й* м., *рапе́йнік* м. — Гродз. (Цыхун), *саба́чка* ж. — Буда-Каш. (Насовіч, Мат. апыт.).

### Парасон

Суквецце парасонавых раслін.

*парасо́н* м. — Іўеў. (Мат. Гродз.), *зо́нцік* м. — Ваўк., Дзярж., Чач. (Мат. Гродз., Мат. Гом.).

### Шышка

Прадаўгаватае суквецце хваёвых і некаторых іншых раслін, пакрытае луской.

*шы́шка* ж. — Чэрв., Іўеў., Астр., Дзятл., Стол., Жытк. (Мат. Гродз., ТС, Шатэрнік), *шы́шачка* ж. памянш. — Стол., Жытк. (ТС), *шы́шачкі* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *шыш* м. — Жытк. (ТС), *шупу́ль* м. — Петр. (Шаталава), *шупу́льнік* м. зборн. — Петр. (Шаталава).

## СУКВЕЦЦІ АСОБНЫХ ТРАВЯНІСТЫХ РАСЛІН

**суквецце дзеразы:** *качо́лачкі* мн. — Пух. (СПЗБ), *кіяшо́к* м. — Люб. (СПЗБ); **суквецце канюшыны**: *като́к* ж. — Жытк. (ТС), *ку́камка* ж. — Калінк. (СПЗБ), *смакту́шка* ж. — Стол. (ТС); **суквецце сланечніку**: *каце́лка* ж. — Слаўг., Чач. (Мат. апыт.), *каце́лачкі* м. — Ветк. (Мат. Гом.), *круг* м. — Буда-Каш. (Мат. Гом.), *кружо́к* м. — Браг., Светлагор.

(Мат. Гом.), *кружо́лка* ж. — Рэч., Ве̇тк. (Мат. Гом.), *кружэ́лка* ж. — Ветк. (Мат. Гом.), *галава́* ж. — Мядз., Круп. (СЦБ), *гало́ўка* ж. — Рас., Мядз. (СЦБ, Шаталава), *калясо́* н. — Петр., Лоеў. (Шаталава, Янкова); *ала́ва* ж. — Астр. (Мат. Гродз.), *вяно́к* м. — Стол. (ТС), *плешка* ж. — Навагр. (Мат. апыт.), *лупо́ны* мн. — Карэл. (СПЗБ), *сон* м. — Браг. (З нар. сл.), *ша́пка* ж. — Кам. (СПЗБ), *шы́шка* ж. — Навагр. (Мат. Гродз.); **суквецце цыбулі**: *бу́льбачка* ж. — Раг., Чач., Хойн. (Мат. Гом.), *бульбу́шачка* ж. — Ельск. (Мат. Гом.), *каце́х* м. — Бяроз. (Шаталава).

## Суплоддзе насенная каробачка

*гало́ўкі* мн. — Верхнядзв., Чач., Буда-Каш., Жытк. (ТС, Шаталава, Мат. апыт.), *гало́вачка* ж. — Лаг. (СЦБ), *бала́бушка* ж., *балабу́шка* ж., *балабе́шка* ж., *була́бушка* ж. 'галоўка ў расліны, бутон, насенная каробачка, завязь' — Стол., Жытк. (ТС), *баламбу́шачка* ж. 'шарык, насенная каробачка' — Жытк. (ТС), *ба́нка* ж., *ба́нька* ж. 'насенная каробачка ў гарлачыкаў' — Стол. (ТС), *бо́мчык* м. — Жытк. (ТС); **галоўка маку:** *ма́каўка* ж. — Ашм., Лаг., Чэрв., Мсціcл., Лях., Навагр., Светлагор., Буда-Каш., Рэч., Стол., Жытк. (Бялькевіч, Варлыга, Мат. Гом., Мат. Гродз., СПЗБ, Станкевіч, ТС, Шатэрнік), *ма́кавіна* ж. — Віц. р., Жлоб., Ветк., Раг. (Каспяровіч, Мат. Гом.), *макаві́ца* ж. — Жытк. (ТС), *макаўні́ца* ж. — Браг. (Мат. Гом.), *маку́шка* ж. — Смал. (Станкевіч), *мачы́на* ж. — Драг. (ДСБ); **галоўка льну**: *гало́ўкі* мн. — Зэльв., Пін. (Мат. Гродз., Шаталава), *галаўкі́* мн. — Стаўб., Гл. (ЖС, Янкоўскі), *гало́ўка* ж. — Верхнядзв., Барыс. (Мат. мін.-мал., СЦБ, Шаталава), *асмо́ржыны* мн. 'абрэзаныя галоўкі льну' — Іўеў. (СПЗБ).

## ІНШЫЯ АГУЛЬНЫЯ НАЗВЫ

**Верх расліны, макушка:** *вяршо́к* м. 'самы верх у вялікай ці малой расліне, макушка дрэва' — зах.-пал. г., паўд.-зах. д., спарадычна сярэд.-бел. г., Астр., Стаўб., Маладз., Лаг. (ЛАБНГ, Варлыга, СЦБ, Сцяшковіч, ЭСБМ), *вяршэ́чак*

м. — Стол. (ТС), *шчык* м. 'вярхушка дрэва, коласа' — Светлагор., Петр., Рэч. (Мат. Гом.), *шчыкавіна* ж. — Жытк. (Мат. Гом.), *шчыкавіца* ж. — Жытк. (ТС).

**Сэрцавіна** 'сярэдзіна ў ствале, галіне, сцябле': *асяро́дак* м. — Чэрв. р. (Шатэрнік), *сэ́рца* н. — Ашм. (Станкевіч).

## ЧАСТКІ ДРЭЎ

### Вершаліна

Верхняя частка дрэва з суччамі.

*вершаліна* ж. — Ашм., Мядз., Жытк. (ЛАБНГ, Мат. Гом., ЭСБМ), *вяршáліна* ж. — Ашм. (Станкевіч), *вяршáлка* ж. — Мёр., Пол. (ЛАБНГ), *вяршáлле* н. зборн. — Ушацк. (НЛ), *вяршáльнік* м. 'верхаўё лесу' — Светлагор. (ЭСБМ), *вяршы́ня* ж. — паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., паўн. частка паўдн.-зах. д. (ЛАБНГ, СЦБ, Шаталава), *вершынá* ж. — Валож., Іўеў. (ЛАБНГ), *вяршы́ня* ж. — мясц. (ЭСБМ), *верх* м. 'макушка дрэва' — зах. з., пераважна зах.-пал. г. і Паням. р., Пін., Жытк., Стол. (ЛАБНГ, ТС, Шаталава), *вярху́шка* ж. — усх. з., Круп., Смален. р. (ЛАБНГ, Дабравольскі, СЦБ, Мат. апыт.), *вярхо́ўка* ж. 'вершаліна маладняку' — мясц. (ЭСБМ), *верхавіна* ж. — паўн.-зах. з., Мін. р., Чэрв. р., зах.-бран. р., Сен., Светлагор., Лельч. (ЛАБНГ, СПЗБ, Варлыга, Каспяровіч, Мат. Гродз., Растаргуеў, Шатэрнік), *верхаўё* н. — Чэрв. р., Бяроз. (ЖНС, Шатэрнік), *вярхо́ўе* н., *вярхо́ўя* мн. зборн. — усх.-маг. р. (Бялькевіч), *верхаве́ц* м. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *маку́шка* ж. — усх. з., Брасл. (ЛАБНГ, Бялькевіч, Каспяровіч, Мат. Гом., Насовіч, СПЗБ, Шатэрнік, Юрчанка), *мáкавіна* ж. — Лёзн., Слон., Мсцісл. (Каспяровіч, Мат. Гродз., Насовіч, Станкевіч, Юрчанка), *мáкавінне* н. зборн. 'зрубленыя верхавіны дрэў' — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *мáкаўка* ж. — Чэрв. р., Слаўг., Шчуч., Навагр., Зэльв., Слон. (ЛАБНГ, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік, Мат. апыт.), *макаўё* н. — Рас., Краснап. (Бялькевіч, Насовіч), *шчык* м., *шчыт* м. — паўд.-усх. з. (З нар. сл., ЛАБНГ, Мат. Гом., НС, Шатала-

ва, Янкова), *вільчык* м. — Пін., Стол., Жытк., Ветк., Хойн. (ЖНС, Мат. Гом., ТС), *вéнчык* м. — Жытк. (ТС), *рóчкі* мн. — Іўеў. (Сл. Гродз.), *хамёлка* ж. 'самы верх дрэва' — Слаўг. (Ластоўскі, Мат. апыт.), *цары́к* м. — Бял. (НС), *шаламóчак* м. — Стол. (ЛАБНГ), *шáпка* ж. — Брэсц. (ДСБ).

### Крона

Верхняя галінастая частка дрэва.

*крóна* ж. — Навагр. (Мат. Гродз.), *курóна* ж. — Астр. (Мат. Гродз.), *верх* м. — Слон. (Мат. апыт.); **ніжнія галіны ў кроне дрэва, якія навісаюць над зямлёй, шаты:** *асóнне* н. — Свісл. (Сл. Гродз.), *нáвісь* ж. — Карэл. (Мат. Гродз.).

### Галіна

Бакавы адростак на ствале дрэва; сук з веццем.

*галíна* ж., *галíнка* ж. памянш. — Чэрв. р., Касц., зах.-бран. р., Чэрык., Жытк. (Бялькевіч, Растаргуеў, ТС, Шатэрнік, ЭСБМ), *галінá* — Віл., Чэрв., Навагр. (СПЗБ, Шатэрнік), *галя́ка* ж. — Брэсц., Пін. (ДСБ, ТС), *галя́чкі* мн. памянш. — Кам. (СПЗБ), *галіня́ка* ж. — Гл. (Янкоўскі), *галю́ка* ж., *галю́чка* ж. — Гом. р. (Мат. Гом., НЛГ, СПЗБ), *гáліўя* н. — мясц. (Ластоўскі), *гóлька* ж. — Рэч., Чач., Буда-Каш., Лоеў. (НС, Янкова, Мат. апыт.), *гýлькі* мн. — Калінк. (СПЗБ), *галýза* ж. — Віл., Ашм. (Сл. Гродз., СЦБ), *галýска* ж. — Іўеў. (Мат. Гродз.), *галóнзка* ж. — Ваўк. (Сцяшковіч), *галэ́нзі* мн. — Вілен. р., Воран. (СПЗБ), *вéтка* ж. — Віц. р., усх.-маг. р., Смален. р., Лоеў. (Бялькевіч, Дабравольскі, Каспяровіч), *вéтачка* ж. памянш. — Смален. р. (Дабравольскі), *вéтхі* мн. — Карэл. (СПЗБ), *вець* ж. — Жытк. (ТС), *вéцце* н. зборн. — Чэрв. р. (Насовіч, Шатэрнік), *вéцціка* н. зборн. памянш. — мясц. (Насовіч), *кóкат* м. — Буда-Каш., Чач., зах.-бран. р. (Станкевіч, Растаргуеў, Мат. апыт.), *какатá* ж. — Свісл. (Сл. Гродз.), *какатóк* м. памянш. — мясц. (Насовіч), *лáпа* ж. — Стаўб., Слон. (ЖС, Мат. апыт.), *лáпка* ж. 'галінка, травінка' — Слон. (Мат. апыт.), *валóтка*

ж. — Пін. (ЭСБМ), *гук* м. — Чэрв. (Шатэрнік), *кве́тка* ж. — пал. р. (ЭСБМ), *лабаза́* ж. зборн. — Гродз. (Сл. Гродз.), *лага́зіна* ж. — Навагр. (Сл. Гродз.), *лу́зік* м. — Слаўг. (ЭСБМ), *рагу́ліна* ж. — Лоеў. (Янкова), *разга́ч* ж. — Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *ро́зка* ж. — Пін. (Шаталава), *чаш* м. 'галіна з лісцем' — Жытк. (ТС); **крывая галіна:** *кляк* м. 'загнутая галіна ці корань' — Стол., Жытк. (ТС), *гарама́ха* ж. 'крывая галіна' — Кобр. (ДСБ), *кукаба́ка* ж. 'самарослая крывуля да бычынага ярма' — Лаг. (Варлыга), *рагу́лька* ж. 'сук, галіна, якая нагадвае вілы' — мясц. (Станкевіч); **тонкая галіна:** *галі́нка* ж. — агульн., акрамя Віц. р. (ЛАБНГ), *галіна́* ж. — паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *галля́* ж. — Лоеў., Браг. (ЛАБНГ), *галле́чка* ж. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *галю́ка* ж. — Гом. р. (ЛАБНГ), *го́лька* ж. — Рэч., Нараўл. (ЛАБНГ), *галу́за* ж. — Ашм., Іўеў., Мсцісл., усх.-пал. р. (ЛАБНГ), *галэ́ндзя* ж. — Воран. (ЛАБНГ), *гук* м. — цэнтр. з. (ЛАБНГ), *сучо́к* м. — паўдн.-усх. д., спарадычна сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ), *ато́грыш* м. — Пух. (ЛАБНГ), *кве́тка* ж. 'галінка, сцяблінка' — мясц. (Насовіч), *ламбучо́к* м. — Гродз. (Цыхун), *по́хвіст то́нкі* — Хойн. (ЛАБНГ), *сты́йна* ж. 'доўгая тонкая галіна' — Карэл. (Сл. Гродз.), *таніна́* ж. — Мёр. (ЛАБНГ), *хлю́ба* ж. — Жаб. (ЛАБНГ), *цы́бінка* ж. — Браг. (Шаталава); **тоўстая галіна:** *галі́на* ж. — зах.-пал. г., паўд.-зах. д., Гом. р. (ЛАБНГ), *галіна́* ж. — Асіп., Кір., Раг. (ЛАБНГ), *галля́* ж. — Кам., Кобр., Лоеў., Браг. (ЛАБНГ), *галля́ка* ж. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *галю́ка* ж. — Гом., Добр. (ЛАБНГ), *галу́за* ж., *галуза́* ж. — усх.-пал. р. (ЛАБНГ), *гру́ба галэ́ндзя* — Воран. (ЛАБНГ), *сук* м. — асн. мас. г. (ЛАБНГ), *гук* м. — Віл., Чэрв., Уздз., Старадарож. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *ла́па* ж. — Дзятл., Ваўк., Раг. (ЛАБНГ), *кача́к* м. — Кліч. (ЖС), *ко́кат* м. — Чач. (ЖНС), *ра́лля* ж. — Капыл. (ЛАБНГ), *ламы́* мн. 'тоўстыя сукі, наваленыя на зямлю, ці тыя, што схіліліся да зямлі' — мясц. (Насовіч); **галіна лісцёвага дрэва:** *галі́на* ж. — паўд.-зах. д., зах.-пал. г. (АЛА, ЛАБНГ), *галіна́* ж. — спарадычна цэнтр. з. (АЛА, ЛАБНГ), *галю́ка* ж. — Чач., Ветк. (АЛА, ЛАБНГ), *галя́* ж. —

Жлоб. (АЛА, ЛАБНГ), *галя́ка* ж. — зах.-пал. г. (АЛА, ЛАБНГ), *галэ́ндзь* ж. — Воран. (АЛА, ЛАБНГ), *ве́тка* ж. — паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г. (АЛА, ЛАБНГ), *сук* м. — паўн.-усх. д., спарадычна сярэд.-бел. г. (АЛА, ЛАБНГ), *ла́па* ж. — Мёр., Валож., Лях., Ганц. (АЛА, ЛАБНГ); **галіна арэшніка:** *гарэ́шына* ж. — Слон. (Мат. апыт.); **дробныя галінкі бярозы, з якіх робяць венікі:** *ве́цце* н. зборн. — Гродз., Зэльв., Смарг. (Сцяцко, Цыхун, Шаталава), *віццё* н. зборн. — Рас., Смарг. (Шаталава), *ве́цё* н. зборн. — Слон. (Мат. апыт.), *вішшо́* н. зборн. — Рас. (Шаталава), *ро́ззе* н. зборн. — Пін. (Шаталава), *ла́пка* ж. — Мсцісл. (Юрчанка); **галіны вішні:** *вішнік* н. зборн. — Лельч. (ЖС), *вішня́к* м. зборн. — Леп. (Мат. апыт.); **галіны вяза:** *вя́знік* м. зборн., *вязні́к* м. зборн. 'тонкія галінкі вяза' — Жытк. (ТС); **галіны вятлы:** *ве́цельнік* м. зборн., *вяце́льнік* м. зборн. — Жытк. (ТС); **галіны вярбы:** *вярба́* ж. — мясц. (Насовіч), *вярбі́на* ж. — мясц. (Насовіч), *вілаго́лле* н. зборн. 'вісячыя галіны вярбы' — мясц. (ЭСБМ), *вяце́льнік* м. зборн. — Жытк. (ЭСБМ); **галіна жавіны:** *жаві́ніна* ж. — Віц. р. (Каспяровіч), *сербалі́ніна* ж. — Віц. р. (Каспяровіч); **галіна клёна:** *ла́па* ж. — Слон. (Мат. апыт.); **лазовыя галінкі:** *лаза́* ж. зборн. 'галлё некаторых парод вярбы, вінаграду' — паўн.-зах. з., усх.-маг. р. (ЭСБМ), *лазі́на* ж. — Слон., Жытк. (Мат. апыт., ТС), *лазі́нка* ж. — Смален. р. (Дабравольскі), *лазі́ца* ж. 'дробная і тонкая лазовая галінка' — мясц. (Насовіч), *ло́занька* ж. памянш. — мясц. (Насовіч), *шылег* м. зборн. — Лельч. (ЖС); **галінкі малін:** *малі́ннік* м. зборн. — Смарг. (СПЗБ), *малі́наўкі* мн. — Слон. (Мат. апыт.); **галінкі чорных парэчак:** *смуро́днік* м. зборн. — Глыб., Паст., Чэрв., Стол. (СПЗБ, ТС); **галіна хваёвага дрэва:** *ла́пка* ж. — агульн. (АЛА, ЛАБНГ, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік), *ла́па* ж. — Глыб., Навагр., паўдн.-зах. д., Касц., Раг. (ЛАБНГ, Станкевіч), *ла́пнік* м. — усх.-маг. р. (Бялькевіч), *галі́на* ж. — паўн.-усх. д., спарадычна сярэд.-бел. г. (АЛА, ЛАБНГ), *галіна́* ж. — Валож., Кліч., Бабр. (АЛА, ЛАБНГ), *галю́ка* ж. — Чач., Добр. (АЛА, ЛАБНГ), *галя́* ж. — Жлоб. (АЛА, ЛАБНГ),

*галя́ка* ж. — зах.-пал. г. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ), *галэ́ндзь* ж. — Воран. (АЛА, ЛАБНГ), *го́лька* ж. — Рэч. (АЛА, ЛАБНГ), *сук* м. — паўн.-усх. д., паўн. частка сярэд.-бел. г. (АЛА, ЛАБНГ), *ве́тка* ж. — спарадычна сярэд.-бел. г. (АЛА, ЛАБНГ), *хво́я* ж. — Пол. (ЛАБНГ), *хвайё* н. зборн. — Воран. (Мат. Гродз.), *яла́га* ж. зборн. 'яловыя сукі, галінкі' — Ашм. (Сл. Гродз.), *яла́жнік* м. зборн. 'яловыя лапкі' — Верхнядзв. (СПЗБ), *сасніна́* ж. зборн. 'галінкі хвоі' — Гродз. (СПЗБ), *ко́стачка* ж. 'сухая яловая галіна без кары, па знешнім выглядзе нагадвае косць' — Ушацк. (НЛ), *лі́чнік* м. зборн. 'апаўшыя камлючкі з хвоі або елкі' — Івац. (НС), *ру́дачка* ж. 'сухая галінка хвоі або елкі з рудой іглiцай' — Ушацк. (НЛ), *рэ́пей* м. 'галінка хвоі, упрыгожаная кветкамі' — Хойн. (Мат. Гом.).

**Сук** 'галіна, што расце непасрэдна ад ствала': *сук* м., *сучо́к* м. памянш. — Беш., Мсцісл. (Каспяровіч, Ластоўскі, Станкевіч, Юрчанка), *су́чча* н. зборн. — Беш. (Каспяровіч, Ластоўскі, Насовіч), *ко́кат* м. 'тоўсты сук у вілаватым дрэве' — Мін., Гом. р., зах.-бран. р. (НЛГ, Растаргуеў, Станкевіч, СЦБ, Мат. апыт.), *кляк* м. — Свісл. (СПЗБ, Шаталава), *ра́ла* н. 'тоўсты сук' — Пін. (Шаталава), *ра́ля* ж. 'тоўсты сук, адгалінаванне, два ствалы з аднаго кораня' — Жытк. (Яшкін), *ра́лцэ* н., *ра́льцэ* н. 'адгалінаванне, сук' — Стол. (ТС), *канча́р* м. — Гродз., Шчуч. (ЛАБНГ), *зо́бзель* м. — Кобр. (ДСБ), *казёл* м. — Гл. (ЭСБМ), *кі́жык* м. 'сучок' — Кліч. (ЖС), *кі́рна* ж. 'тоўсты сук' — Шчуч. (СПЗБ), *ляшчы́ніна* ж. 'сук ляшчыны' — Глыб. (СПЗБ), *свяча́* ж. 'прамы сук у хвоі' — Стол. (ТС).

**Сухая галіна:** *галы́шык* м. — Лід. (Сл. Гродз.), *галэ́ндзіна* ж. — Лаг. (СЦБ), *канча́р* м. 'корч, сухая галіна' — Іўеў., Ваўк. (Мат. Гродз.), *ражо́н* м. — Ваўк. (Мат. Гродз.), *ralі́na* ж. — Слон. (Сл. Гродз.), *ставару́к* м. — Воран. (СПЗБ), *вярша́льнік* м. зборн. 'сухія галіны з верхавіны дрэва' — Гом. р. (НЛГ).

**Галіна без лісця:** *хварасці́на* ж. — Жлоб., Буда-Каш., Лоеў. (Янкова, Мат. апыт.), *дубе́ц* м. — Чэрв. р., Драг.,

Стол., Жытк., Гом. р. (ЛП, НЛГ, ТС, Шатэрнік), *дубішча* ж. экспр. — Гом. р. (НЛГ), *вітка* ж. — Воран., Шчуч., Вілен. р. (Сл. Гродз., СПЗБ), *віціна* ж. — мясц. (ЭСБМ), *рóжга* ж., *рóзга* ж., *рóзка* ж., *рóзачка* ж. памянш. — Вілен. р., Ашм., Шчуч.,Ганц., Люб., Чэрвен. (СПЗБ, Шатэрнік), *рóска* ж. — Пух. (Мат. мін.-мал.), *хлюба* ж. 'тонкі лазовы дубец' — Брэсц., Бяроз., Кам. (ДСБ), *хлабаздзíна* ж., *хлабазíна* ж., *хлабзінá* ж. — мясц. (Насовіч), *лабáзіна* ж. 'доўгі дубец, хварасціна' — Маладз. (СЦБ), *хлудзíна* ж. 'дубец, хварасціна' — Бых., Гом. р. (ЖНС, НЛГ, Насовіч), *хлудзíнка* ж. памянш. — мясц. (Насовіч), *шылежсына* ж. 'тонкі прут' — Гом. р. (НЛГ), *шылега* ж. зборн. 'тонкія пруты, розгі' — Гом. р. (НЛГ), *арáсіна* ж. — мясц. (Насовіч), *галяжсына* ж. 'дубец, лазіна' — Маст. (СПЗБ), *жсыдзіна* ж. 'тонкі прут' — Сен. р. (Каспяровіч), *жсыдзíна* ж. — мясц. (Насовіч), *клібíна* ж. 'бярозавы або лазовы дубец' — Пол. (ЖНС), *ламéсіна* н. 'адламаная частка галіны' — Нясв. (Станкевіч), *лазíна* ж., 'лазовы дубец' — Мсцісл., Жлоб., Буда-Каш. (Бялькевіч, Насовіч, Мат. апыт), *лагéзіна* ж. 'дубец, лазіна, прут' — Іўеў. (СПЗБ), *лазíнка* ж. памянш., *лазíначка* ж. памянш. — мясц. (Насовіч), *лéмзіна* ж. 'доўгая тонкая галіна без лісця, дубец' — Карэл (ЭСБМ), *лéмніца* ж. 'нешта доўгае, гнуткае, важкае, чым можна ўдарыць (галіна і інш.)' — Слон. (ЖС), *ляска* ж. 'галінка дрэва, дубец' — Ваўк. (Мат. Гродз.), *прутóк* м. — мясц. (Насовіч), *пярэвітка* ж. 'бярозавы пруток, якім перавязваюць жэрдкі ў плоце' — Чэрв. (Шатэрнік), *расахáціна* ж. 'сукаватая хварасціна' — Чэрв. (Шатэрнік).

**Галлё** 'сухія галіны ў мностве': *галлё* н. зборн. — Беш., Віл., Чэрв., Мсцісл., Шчуч., Слон., Пух., Ганц., Івац., Жлоб., Чач., Буда-Каш., Беластоц. р., Смален. р., зах.-бран. р. (Бялькевіч, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, СПЗБ, Шатэрнік, Мат. апыт.), *гóлле* н. зборн. — Віц., Ганц., Шчуч., Стол., Жытк., Лоеў., зах.-бран. р. (Каспяровіч, Растаргуеў, СПЗБ, ТС, Янкова), *галéчча* н. зборн. — Брэсц., Кам. (ДСБ, СПЗБ), *галэндзя* мн. — Гродз. (Сл. Гродз.), *галéнне* н. зборн. — мясц. (Насовіч),

*го́ллейка* н. зборн. памянш. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *ламáчча* н. зборн. — Чэрв., Свісл., Брэсц., Лоеў. (ДСБ, Мат. Гродз., Шатэрнік, Янкова), *ламатá* ж. зборн. — Карэл., Зэльв., Слон. (Мат. Гродз., Сл. Гродз., Сцяцко), *гарамáчча* н. зборн.—Кобр. (ДСБ), *лам'е́* н. зборн. — Свісл. (Мат. Гродз.), *ламяйкó* н. зборн. — Карэл. (Мат. Гродз.), *лом* м. зборн. — Сен., Іўеў., Кам. (ЖНС, Каспяровіч, Сл. Гродз., Станкевіч), *жагары́* мн., *жагáры* мн., *жагяры́* мн. зборн. 'тонкае суччa, лом' — Брасл., Воран., Беластоц. р., Вілен. р. (СПЗБ), *хвóраст* мн., *хварóст* м. — Вілен. р., Мядз., Паст, Ваўк., Пух., Крыч. (СПЗБ, Яшкін), *вíшша* н. зборн. — Мядз., Смарг. (СПЗБ, СЦБ), *пашы́на* ж. 'галлё, якім пакрывалі лён пры мачэнні' — Рас. (Шаталава), *пашы́на* ж. 'галлё ці зрубленыя маладыя дрэвы з галінамі' — Віц. р., Драг. (Каспяровіч, ЛП), *рагаццё* н. зборн. — Беш. (Каспяровіч), *рагáчча* н. зборн. — Чэрв. (Станкевіч), *рагаччó* н. зборн. — мясц. (Насовіч), *сухаллё* н. зборн. — Гарад., Лаг. (Варлыга, НЛ), *суш* ж. зборн. — мясц. (Насовіч), *труск* м. 'дробныя галінкі' — Стол. (ТС), *трусóк* м. 'тое, што і труск' — Жытк. (ТС), *бáрва* ж. зборн. — Малар. (ДСБ), *бу́ч'е* н. зборн. — Стол. (ТС), *валéжнік* м. — Навагр. (Мат. Гродз.), *дру́чча* н. зборн. — Малар. (ДСБ), *ігрушшó* н. зборн. 'сухое грушавае галлё' — Ушацк. (НЛ), *карчэ́ўейка* н. зборн. — Віл. (СЦБ), *лабазá* ж. зборн. — Гродз. (Сл. Гродз.), *лагаззё* н. зборн. — Карэл. (Шаталава), *лазны́* мн. 'сучча ў лесе' — Смален. р. (Дабравольскі), *лазня́чча* н. зборн. — Гом. р. (НЛГ), *падбóр* м. 'дробнае сучча, галіны, лапкі' — Чэрв. (СЦБ), *палéчча* н. зборн. — Драг. (ЛП), *пацу́рбалкі* мн. — Уздз. (Мат. мін.-мал.), *пáцэпнічак* м. — мясц. (Насовіч), *су́чча* н. зборн. — Верхнядзв. (СПЗБ), *хлабazзё* н. зборн. — мясц. (Насовіч), *хлуд* м. — мясц. (Насовіч), *хмыз* м., *хмызня́к* м. — мясц. (Ластоўскі), *хруст* м., *хрустóк* м., *хрустóчак* м. памянш. 'дробнае сухое галлё' — мясц. (Насовіч), *шакалí* мн. — Воран. (Сл. Гродз.); **галлё з лісцем, зялёнае вецце:** *вéцце* н. зборн. — Чав., Мсцісл., Смален. р. (Дабравольскі, НС, Юрчанка), *вéццё* н. зборн. — Навагр. (З нар. сл.), *вéцційка* н. зборн. памянш. —

Гом. р. (НЛГ), *дымніца* ж. зборн. — Лельч. (Мат. Гом.), *май* м. 'зялёнае вецце, галінкі з дрэва і кустоў' — Віл. (СЦБ); **куча галля:** *груд* м. — Круп. (СЦБ), *угру́д* м. — Верхнядзв., Нясв., Слаўг. (НС, Яшкін), *гу́ра* ж. — Стол. (Яшкін), *ху́ра* ж. — Слаўг. (Яшкін), *ламо́к* м. — Люб. (СПЗБ), *лоу́ж* м. — Барыс. (Мат. мін.-мал.), *шу́ркі* мн. — Чач. (ЖС).

**Драўніна**

Цвёрдае шчыльнае рэчыва пад карой дрэва.

*дзе́рава* н. — Чэрв. р. (Шатэрнік), *жыве́ц* м. 'драўніна ў жывым дрэве' — мясц. (Станкевіч), *касталёжына* ж. 'усохлае дрэва з сукаватымі слаямі' — Лаг. (Варлыга), *набры́згліна* ж. 'драўніна, якая набухла і пачарнела ад вады, сырасці' — Валож. (Мат. апыт.), *пярэ́бардзь* ж., *пярэ́барць* ж. 'драўніна з чаргаваннем здаровых і гнілых праслоек' — Жытк. (ТС), *чачо́тка* ж. 'драўніна бярозы са скручанымі слаямі ' — Жытк. (ТС); **гнілое дрэва, чурбан:** *пагні́лак* м. — Чэрв. (Станкевіч, Шатэрнік), *па́гнілле* н. зборн. — Чэрв. (Шатэрнік), *гніля́к* м. 'кавалак гнілога дрэва' — Нав. (Мат. Гродз.), *трухля́к* м. 'тое, што і гніляк' — Воран., Ваўк. (Мат. Гродз.).

**Абалона** 'знешнія вільготныя слаі дрэва, якія знаходзяцца пад карой': *абало́на* ж. — Чэрв., Стол. (ТС, Шатэрнік), *абало́нь* ж. — Гом. р., Лаг., Мсцісл., Жытк. (Бялькевіч, Варлыга, НЛГ, ТС), *абало́нка* ж. — Гом. р., Краснап. (Бялькевіч, НЛГ), *абало́ніна* ж. — Воран. (Мат. Гродз.), *бало́ніна* ж. — Краснап., Лун., Смален. р. (Бялькевіч, Дабравольскі, Мат. Гом.), *бало́нь* ж. — Краснап., Хоц. (Бялькевіч), *балана́* ж. — Беш. (НС), *бало́на* ж. — Жытк. (ТС), *бало́нька* ж. — Карм. (Мат. Гом.), *бальна́* ж. — Круп. (НС), *бало́чка* ж. — Ветк. (Мат. Гом.), *за́балань* ж. — мясц. (Ластоўскі), *абзо́л* м. — Бяроз., Ветк., Лоеў., Браг. (Мат. Гом., Шаталава, Янкова), *абзо́ль* ж. — Кобр. (НЛ), *абза́* ж. — Віц. р. (Каспяровіч, ЭСБМ), *абзо́й* м. — Воран. (Мат. Гродз.), *за́бердзь* ж. — Жытк. (ТС), *блэ́нка* ж. 'паласа абалоні, з якой плятуць кашы' — Пін. (ДСБ).

**Аскабалак** 'кавалак дрэва, палена': *аскаба́лак* м., *аскабо́лак* м. — Чэрв. р. (Станкевіч, Шатэрнік), *аскаба́лак* м.

’кавалак дрэва, адломлены ветрам’ — Лоеў. (Янкова), *ашчабо́лька* м. — Чэрв. р. (Станкевіч, Шатэрнік), *аскялёпак* м., *аськялёпак* м. — Мсцісл. (Насовіч, Станкевіч), *аськёпак* м. — мясц. (Станкевіч), *ашкалёпак* м. — Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *аскрамётак* м. — Смален. р. (Дабравольскі), *аскро́так* м. — Віц. р., Мсцісл. (Каспяровіч, Станкевіч), *паплéціна* ж. ’тонкі прадаўгаваты кавалак дрэва’ — Пух. (Мат. мін.-мал.), *хлуст* м., *хлыст*, м. ’тое, што і паплеціна’ — Стол. (ТС); **смалісты кавалак дрэва:** *смаля́к* м. — Чэрв. р., Навагр. (Мат. Гродз., Шатэрнік), *асмо́лак* м. — Карэл. (Шаталава), *асмы́лкі* мн. — Лун. (Шаталава), *асмо́лак* м. ’смалістае палена’ — Чэрв. р. (Станкевіч, Шатэрнік), *асмо́л* м. ’смалісты кавалак сасны’ — Лельч. (ЖС).

**Асмол** ’амярцвелая смалістая частка хвоі’: *асмо́л* м. — Лун., Хойн. (Мат. Гом., Шаталава), *смоль* ж. ’смалістая сухая сярэдзіна дрэва’ — Браг. (Шаталава).

**Краж** ’унутраная амярцвелая частка ствала дрэва’: *краж* м. ’патоўшчаныя і больш цвёрдыя слаі ў дрэве, якія ўтвараюцца з сонечнага боку ствала, асабліва на яго выгнутай частцы’— Стаўб. (ЖС), *крэж* м. — Лельч. (ЖС).

**Лета** ’слаі драўніны, па якіх вызначаюць ўзрост дрэва; гадавое колца ў дрэве’: *лéта* н. — Малар., Драг., Бяроз. (ДСБ, ЛП, Шаталава), *лéтавішча* н. — Віц. р., Ельск. (ЭСБМ), *палéтак* м. — Стол., Жытк. (ТС), *абало́нь* ж. — Чэрв. р., Дзятл., Лун., Браг. (Сл. Гродз., Шаталава, Шатэрнік), *бало́начкі* мн. — Браг. (Мат. Гом.), *кругí* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *пáскі* мн. — Шчуч. (СПЗБ).

**Кара**

Паверхневая частка ствала і галін дрэва.

*кара́* ж. — агульн. (ГЧ, Ластоўскі, Мат. Гродз., СПЗБ, ТС, Мат. апыт.), *кары́на* ж. — Верхнядзв., Віл. (СПЗБ), *кары́ца* ж. — Лід., Віл., Лаг. (СПЗБ), *кары́чка* ж. памянш. — Іўеў. (СПЗБ), *гара́* ж. — Лях. (СПЗБ), *абало́на* ж. — Уздз. (Мат. мін.-мал.), *скару́па* ж. — мясц. (Насовіч); **бярозавая**

**кара:** *бяро́ста* ж. — Верхнядзв., Слон., Чэрв., Гом. р., Смален. р. (Дабравольскі, НЛГ, СПЗБ, Шаталава, Шатэрнік, Мат. апыт.), *бе́раст* м. — Стол., Маз., Браг. (ГЧ, Мат. Гом., ТС), *бярэ́ста* ж. — мясц. (Станкевіч), *бераста́* ж. — Смален. р. (Дабравольскі), *цэр* м. — Стаўб. (Мат. мін.-мал.); **ліпавая кара:** *лі́па* ж., *ліпа́* ж. — Вілен. р. (СПЗБ), *лі́піна* ж., *ліпо́ўе* н. — Лельч. (ЖС), *лі́пнік* м. — Чэрв. (СПЗБ), *карна́* ж. — Вілен. р. (СПЗБ), *луб* м. — Сен., Лаг. (Варлыга, Каспяровіч); **ліпавае лыка:** *лы́ка* н., *лы́чка* н. памянш. — Ашм. (Станкевіч), *лут* м. — Маз., Браг. (Насовіч, Шаталава), *лу́цік* м. памянш. — Сен. (Каспяровіч, Станкевіч), *лу́цце* н. зборн. — Лун., Лоеў. (Станкевіч, Шаталава, Янкова), *луб* м. — Сен. (Каспяровіч, Станкевіч); **іншыя назвы кары:** *ліма́к* м. 'кара вяза' — усх-пал. р., Рэч. (ЭСБМ), *лімі́нне* н. зборн. 'кара ільмы' — Асіп. (СПЗБ), *лу́цце* н. 'кара з лазы або вяза на лапці' — Маз. (ГЧ); *зазя́б* м., *шавіна́* ж. 'пашкоджанне на кары дрэва ад марозу, калі тое месца зарастае' — Лаг. (Варлыга), *кары́нка* ж. 'кавалак, абломак кары' — Гом. р. (НЛГ), *раме́за* ж. 'луска верхняга слоя кары ў хвоі' — Лід., Петр. (Сл. Гродз., Шаталава).

## Мязга

Мяккая частка дрэва паміж карой і драўнінай, камбій.

*мязга́* ж. — асн. мас. г. (АЛА, ЛАБНГ, Ластоўскі, Станкевіч, ТС, Мат. апыт.), *мазга́* ж. — Свісл., Бярэз., Ганц., Бяроз., Пін., Маз., Браг. (АЛА, ЛАБНГ, Шаталава), *мязка́* ж. — паўдн.-усх. з., Круп., Стол. (ЛАБНГ, Насовіч, СЦБ, ТС), *маска́* ж., *мазгі́* мн. — Круп. (НС, СЦБ), *ме́зак* м. — Гор., Ваўк., Капат. (АЛА, ЛАБНГ), *мяздра́* ж. — паўн.-зах. з., Віц. р., Касц. (АЛА, ЛАБНГ, Варлыга, Каспяровіч), *мяздро́* н. — Шчуч. (АЛА, ЛАБНГ), *мязгра́* ж. — Валож. (АЛА, ЛАБНГ), *абало́на* ж. — Івац. (АЛА, ЛАБНГ), *бало́ніна* ж. — мясц. (Насовіч), *аба́лак* н. 'пасак мязгі дрэва' — Лаг. (ЭСБМ), *былы́ок* м. — Кам. (АЛА, ЛАБНГ), *абза́* ж. — Віц. р., Лаг. (Варлыга, Каспяровіч, Станкевіч), *ка́шка* ж. — Капыл. (АЛА, ЛАБНГ).

мянш. 'зярняткі' — Смарг. (СПЗБ); **адно зярнятка збожжа, маку і інш.:** *каліва* н. — Чэрв. р., Мсцісл. (Бялькевіч, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік), *каліўка* н. памянш. — Рас. (Бялькевіч, Насовіч), *каліўца* н., памянш. — мясц. (Насовіч), *бўбка* ж. — Гродз., Лоеў., Чач. (Мат. Гродз., Насовіч, Янкова, Мат. апыт.), *бўба* ж. — Жытк. (ТС), *бўбачка* ж. памянш., *бўбенка* ж. памянш. — зах.-бран. р. (Растаргуеў, Насовіч); **пустое насенне, няякаснае, слабое:** *заморак* м. — Браг. (Шаталава), *заморнік* м. — Браг. (Шаталава), *заморыш* м. — Чач. (Мат. апыт.), *зелянкі* мн. 'заморкі насення канапель' — Лаг. (Варлыга), *плюшчак* м. — Жытк., Стол., Акц. (Мат. Гом., ТС), *плюшка* ж. — Ельск. (Мат. Гом.), *пужсыла* ж., *пужсыла* ж. — Стол., Жытк. (ТС).

**Зерне, семя раслін, прызначанае для пасеву:** *насевак* м. — Астр., Гродз., Мядз. (Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Сл. Гродз., СЦБ), *засевак* м. — мясц. (Насовіч), *насене* н. — Ваўк., Зэльв. (Мат. Гродз.), *насенне* н. — Дзятл., Лаг., Чач. (Мат. Гродз., Мат. апыт., Варлыга), *насенне* н. 'семя збожжавых' — Чэрв. р. (Шатэрнік), *насена* н. — Лаг. (СЦБ), *насенак* м. — Навагр. (Сл. Гродз.), *насенка* ж. 'семянная канюшына ці бульба' — Чэрв. р. (Шатэрнік), *семяно* н. — Лоеў. (Янкова), *семянё* н. — Карэл. (Шаталава), *сяменне* н. — Смарг. (Шаталава), *сяўба* ж. — Астр. (Мат. Гродз.), *парніна* ж. зборн. 'насенне пад пар ' — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *пашня* ж. зборн., *пашніца* ж. зборн. 'насенне ўсіх збожжавых культур, лёну, бульбы, гародніны' — Слаўг. (Яшкін); **насенне гародніны:** *насенне* н. — мясц. (Насовіч), *зярняткі* мн. — Навагр. (Мат. Гродз.); **насенне садавіны:** *зерка* м. — мясц. (ЭСБМ); **насенне злакаў, збожжа:** *зярно* н. — Слон., Навагр., усх. з., Вілен. р. (АЛА, ГЧ, Мат. Гродз., СПЗБ, Мат. апыт.), *зярнё* н. — Вілен. р., паўн.-зах. з. (АЛА, Сцяшковіч), *зерне* н. — Стол., Капыл., Бяроз., Калінк., Хойн., Маз., Лельч. (АЛА, Насовіч, ТС), *зерня* н. — Смарг., Валож., Гродз., Ганц., Лун., Кам., Драг. (АЛА, ЛП, СПЗБ), *зярняты* мн. — Слон., Зэльв. (Мат.

Гродз., Насовіч), *зéрнета* н. — Брасл., Воран., Краснап., Маз. (ГЧ, СПЗБ), **памяншальныя назвы:** *зéрнетка* н. — Шчуч., Маст., Віл., Леп. (СПЗБ, Мат. апыт.), *зярня́тка* н. — мясц. (Ластоўскі), *зярня́ткі* мн. — Слон. (Мат. апыт.), *зёрнышка* н. — Леп. (Мат. апыт.), *зярёнушка* н. — Гарад. (ЛАБНГ), *зёрка* н., *зёрачка* н., *зёранка* н. — мясц. (Насовіч), *збóжжа* н. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *збóжа* н. — Навагр. (Мат. Гродз.), *збажá* ж. — Навагр. (Мат. Гродз.), *збажынá* ж. — Гродз. (Мат. Гродз.), *збóжа* н. і ж., *збóж'е* н. зборн., *збóж'ё* н. зборн., *збош* н. зборн. — Шчуч., Лях., Ганц., Барыс., Пруж., Вілен. р., Беластоц. р. (СПЗБ), *дабрó* н. — Гродз. (Мат. Гродз.), *дабрынá* ж., *дабрыня́* ж. — Брасл., Глыб. (СПЗБ); **азімае збожжа:** *азíміна* ж. — Жытк. (ТС); **яравóе збожжа:** *я́ра* ж. зборн. — Жытк. (Мат. Гом.), *яры́ца* ж. зборн. — Ельск., Браг. (Мат. Гом.); **іншыя назвы збожжа:** *бýба* ж. дзіц. — Ваўк. (СПЗБ), *кóлас* м. — Лоеў. (Янкова); **адборнае, найбольш буйное зерне:** *чалó* н. — Воран., Гродз., Ваўк., Карэл., Браг. (Цыхун, Шаталава), *адбры́зак* м., *абры́зак* м., *бры́жчык* м. — усх.-маг. р. (Бялькевіч), *бры́зак* м., *бры́зачка* ж. памянш. — мясц. (Насовіч), *галавíца* ж. — 'самыя лепшыя буйныя зярняты пры веянні ўручную збожжа, канапель' — Стол., Пін. (ДСБ, ТС); **дробнае зерне:** *азáдкі* мн. зборн. — Жытк. (ТС), *азáдак* м. — Стол. (ТС), *азáддзе* н. зборн. — Драг. (ЛП), *вы́тычкі* мн. — усх.-маг. р. (Бялькевіч), *кáліўца* н. — мясц. (Насовіч), *сýбар* м. 'дробнае зерне з розных відаў злакаў' — Рэч. (НС); **недаразвітае зерне ў коласе:** *недагóніч* м. — Стол. (ТС), *недагóніца* ж. — Жытк. (ТС); **збожжа, пакінутае на насенне:** *сяўбá* ж. зборн. — Віл. (Станкевіч), *сеўбянóе* (*жы́та*) — Паст., Мядз. (ЛАБНГ), *семянó* н. зборн. — Асіп. (Шаталава), *сéміны* мн. — Віц. р. (Станкевіч), *сямéне* н. — Іўеў. (Мат. мін.-мал.); **адно зерне злакаў:** *зéрне* н. — паўн. р., Чэрв. р., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *зярня́* н. — Панням. р. (АЛА, ЛАБНГ, Сцяцко, Цыхун), *зéрнета* н. — Пол. (ЛАБНГ, ЖНС), *зярню́к* м. — Паст., Воран., Іўеў., Пін., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ), *бýбка* ж. — Ветк., Гом., Рэч., Лоеў. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *бýба* ж. дзіц. — Ваўк. (СПЗБ), *крупíна* ж. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *аўсíна* ж. 'зярнятка аўса' — Бяроз. (ЖНС), *жыт-*

*нёўка* ж. 'жытняе зерне' — Гом. р. (НЛГ), *прасінка* ж. 'каліўца проса, прасяное зярнятка' — Гл., Пруж. (СПЗБ, Янкоўскі), *ячменіна* ж. 'ячменнае зерне' — Жытк. (ТС).

### Насенне траў, пустазелля

*зелле* н. — віц.-маг. г. (ЛАБНГ), *зяло* н. — Лаг. (Варлыга, СПЗБ), *зеліва* н. — мясц. (Насовіч), *буза* ж. 'насенне пустазелля ў збожжы' — Чэрв. р. (Шатэрнік), *кукальван* м. 'семя кукаля (пустазелля)' — Гом. р. (НЛГ), *нёпша* ж. 'прымесь у зерні проса' — Лоеў. (Янкова).

### Назвы насення асобных раслін

**насенне буракоў:** *буракі* мн. — Паст. (СПЗБ); **насенне сланечніку і гарбузоў:** *семкі* мн. — Жлоб., Чач., Буда-Каш. (Мат. апыт.), *семячкі* мн. — Зэльв., Астр., Навагр., Слон., Дзятл., Ваўк. (Мат. Гродз., Мат. апыт.), *семачкі* мн. — Астр., Уздз. (Мат. Гродз., Мат. мін.-мал.), *пэсткі* мн. — Брэсц. (ДСБ), *ядро* н. — Кобр. (НЛ); **насенне гарбуза:** *гарбузікі* мн. — Гл., Лун., Пруж., Івац., Ганц., Драг., Стол. (ДСБ, ЖНС, СПЗБ, ТС, Янкоўскі), *гарбузік* м. 'адно зерне гарбуза' — Чэрв. р., (Шатэрнік), *гарбузы* мн. — Слон., Уздз, (Мат. мін.-мал., Мат. апыт.), *гарбузяняты* мн. — Шчуч., Кам. (ЖНС, СПЗБ), *гарбузянікі* мн. — Жытк. (ТС), *семка* ж. 'зернейка гарбуза' — Ветк., Карм., Калінк., Светлагор., Жлоб., Буда-Каш., Чач., Лоеў. (Мат. Гом.), *семака* ж. — Ветк. (Мат. Гом.), *семачка* ж. — Хойн. (Мат. Гом.), *семкі* мн. — Смарг., Буда-Каш., Чач. (СПЗБ, Мат. апыт.), *семяно* н. — Слон. (Мат. апыт.), *зярняты* мн. — Стол., Жаб., Жытк. (З нар. сл., ДСБ), *зернеты* мн. — Лоеў. (Янкова), *буба* ж. зборн. — Маз. (З нар. сл.), *дынька* ж. 'адно семя гарбуза, сырое або пражанае' — Малар. (НЛ), *насеннік* м. 'зернейка гарбуза' — Чэрв. р. (Шатэрнік), *пэсткі* мн. — Бар. (ЖС); **насенне гароху:** *гарушкі* мн. — Уздз. (СЦБ); **насенне дзьмухаўца:** *адувачка* ж. 'сухая галоўка з насеннем' — Брэсц. (НЛ); **насенне з ільну:**

*се́мя* н. — Сен., Чэрв. р., Валож., Буда-Каш. (Варлыга, Насовіч, ГЧ, Мат. мін.-мал., Шатэрнік), *се́м'е* н. — Лаг. (Мат. мін.-мал.), *сі́ме* н., *сі́мя* н. — Брэсц. (ДСБ), *се́мя ад лёну* — Уздз. (ЛАБНГ), *се́м'е з ілну* — Лун. (ЛАБНГ), *се́мянё* н. — Слон., Зэльв. (НЛ, Сцяцко, Шаталава), *семянё* н. — Гродз. (Цыхун), *се́мене* н. — Гл. (Янкоўскі), *сяме́ня* н., *сяме́нне* н. зборн. — Брасл., Астр., Віл., Ашм., Воран., Навагр., Смарг., Гродз., Вілен. р. (СПЗБ), *сяме́нне* н. зборн. — Мядз., Ашм., Воран. (ЛАБНГ, Станкевіч, Шаталава), *сі́мень* м. — Брэсц., Пін. (ДСБ, НЛ), *семяля́нка* ж., толькі адз. — Гом. р. (НЛГ), *ільняно́е се́ме* — спарадычна агульн. (АЛА. ЛАБНГ), *ільня́нае се́мя* — спарадычна паўдн.-зах. д., спарадычна сярэд.-бел. г., акрамя усх.-маг. р., (АЛА, ЛАБНГ), *ільно́е се́мя* — Бярэз. (ЛАБНГ), *ілляно́е се́мя* — паўн. р., спарадычна усх. з. (АЛА, ЛАБНГ), *ілля́нае се́ме* — Віл., Барыс., Асіп., Жлоб., Браг. (АЛА, ЛАБНГ), *іляно́е се́мя* — Мёр., Пол. (АЛА, ЛАБНГ), *іллі́на́я* прым. — Шарк. (ЛАБНГ, АЛА), *ілліняну́* прым. — Леп. (ЛАБНГ), *альняно́е се́мя* — Ушацк., Круп., Краснап. (ЛАБНГ),

*альня́нае се́мя* — Калінк. (ЛАБНГ), *альняна́я* прым. — Калінк. (ЛАБНГ), *алляно́е се́мя* — віц.-маг. г., усх.-маг. р. (ЛАБНГ), *алля́нае се́мя* — Бых., Ветк. (АЛА, ЛАБНГ), *се́мя альяно́е* — Віл. (ЛАБНГ), *лляно́е се́мя* — спарадычна агульн. (АЛА, ЛАБНГ), *лля́нае се́мя* — спарадычна паўдн.-зах. д., а таксама Барыс., Валож., Пін. (АЛА, ЛАБНГ), *льняно́е се́мя* — спарадычна агульн. (АЛА, ЛАБНГ), *льня́нае се́мя* — спарадычна агульн., акрамя усх.-маг. р. (АЛА, ЛАБНГ), *ляно́е се́мя* — зах.-пал. г., а таксама Ашм., Гродз., Акц., Івац., Слон. (ЛАБНГ), *ля́нае се́мя* н. — паўн.-зах. з., Гродз. р., Рэч. (ЛАБНГ), *ля́но се́мя* — Гродз. (ЛАБНГ), *се́мя льняно́е* — Маз. (ГЧ), *се́мя льяно́* — Нараўл. (ЛАБНГ), *ленаво́е насе́нне* — Добр. (ЛАБНГ), *ляне́* н. — Пін. (ЛАБНГ), *ляні́чый* м. — Пін. (АЛА, ЛАБНГ), *насе́нне лёну* н. — Кам. (ЛАБНГ); **насенне канопляў:** *кано́плі* мн. — паўн.-зах. д., цэнтр. з., віц.-маг. г., усх.-маг. р. (АЛА, ЛАБНГ, ГЧ),

*канаплі* мн. — паўн.-зах. з., Пол., Віц. р., зах.-пал. г., Лельч. (АЛА, ЛАБНГ), *канапе́лька* ж. — Жытк., Стол. (ТС), *канапе́лькі* мн. памянш. — мясц. (Станкевіч), *канапля́нае се́мя* — агульн. (ЛАБНГ), *каноп́лянае се́мя* — Гродз., Драг., Пін., Лельч. (ЛАБНГ), *кано́пнае* прым. — Дзятл., Ваўк., Слон., Бяроз. (ЛАБНГ), *калапні́* мн. — Пол., Мядз., паўн.-зах. з., Кам. (АЛА, ЛАБНГ), *кало́пні* мн. — Віл., Леп. (ЛАБНГ, Насовіч, Станкевіч. СЦБ), *калапня́нае се́мя* — паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *калапля́нае* прым. — Верхнядзв., Ушацк., Докш., Калінк. (ЛАБНГ), *калапне́* н., *калапня́* ж. — Мядз. (СЦБ), *калапе́нькі* мн. памянш. — мясц. (Насовіч), *се́мне* н. — Малар. (ЛАБНГ), *се́мене* н. — Кам. (ЛАБНГ), *се́мне з канапе́ль* — Драг. (ЛАБНГ), *насе́нне з канапе́ль* — Лельч. (ЛАБНГ), *зяро́нкі* мн. — мясц. (Насовіч); **насенне маку:** *мак* м. — Браг. (ГЧ), *ма́кавінка* ж. — Раг. (Мат. Гом.), *ма́каўка* ж. — Браг. (ГЧ), *мачы́на* ж. — Стол. (ТС), *ма́чына* ж. — Лоеў. (Янкова), *ма́чынка* ж. — мясц. (Станкевіч), *зяры́нка* ж. — Калінк. (Мат. Гом.); **насенне сланечніку:** *се́мачкі* мн. — Пух., Жытк. (СПЗБ, ТС), *се́мечкі* мн. — Клім., Гл., зах.-бран. р. (Бялькевіч, Растаргуеў, Янкоўскі), *ся́мечка* н. ’адно зернейка сланечніку’ — Гл. (Янкоўскі), *се́мкі* мн. — Чач., Лоеў. (Янкова, Мат. апыт.), *зе́рне* н. — Лоеў. (Янкова), *зе́рнета* мн. — Стол., Жытк. (ТС), *пэ́сткі* мн. — Гродз., Лід. (Мат. Гродз., Цыхун), *фэ́сткі* мн. — Гродз. (Цыхун), *падсо́лнушкі* мн. — мясц. (Шаталава), *сло́нкі* мн. — Чэрв. (ЖС), *со́нчыкі* мн. — Пін. (ДСБ), *стралкі́* мн. — Драг. (ДСБ); **насенне шыпшыны:** *во́шы* мн. — Маз. (ГЧ).

## Костачка

Семя ў некаторых пладах, пакрытае цвёрдай абалонкай.

*ко́стачка* ж. — Гарад., Слон. (СПЗБ, Мат. апыт.), *ко́стка* ж. — Чач. (Мат. апыт.), *каме́ньчык* м. — Старадарож., Драг., Жытк., Нараўл., Лоеў. (ЖНС, Мат. Гом., ТС, Янкова).

### Часткі насення

*вáта* ж. ’каланасенны валакністы прыдатак у некаторых раслін’ — мясц. (Ластоўскі), *клёк* м. ’жыццёвая сіла ў зерні, клейкавіна’ — Чэрв. (Насовіч, Станкевіч), *я́кар* м. ’ядро збожжавага зерня’ — Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч).

## РЭЧЫВЫ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў ЖЫВЫХ ТКАНКАХ РАСЛІН ЦІ ВЫДЗЯЛЯЮЦЦА РАСЛІНАМІ

**Алей** ’тлушч з раслінных зярнят’: *алей* м. — пашыр. (Варлыга, Мат. апыт.), *але́я* ж. — Драг. (Мат. апыт.), *алíва* ж. — Гродз. р., Віц. р., Чэрв. р. (Мат. Гродз., Сцяшковіч, Насовіч, Каспяровіч, ЭСБМ), *бальсáм* м. ’раслінны тлушч з прыемным пахам’ — мясц. (Насовіч).

**Нектар** ’цукрысты сок, які выдзяляецца нектарнікамі вышэйшых раслін (цукрысты сок з кветак) ’: *асэ́ж’е* н. — Бераст. (Сл. Гродз.), *манá* ж. — Лельч. (НЛ), *мёд* м. — Стол. (ТС), *салóдзіна* ж. — Жытк. (ТС).

**Падзь** ’салодкая клейкая вадкасць на лістах раслін’: *падзь* ж. — Добр., Стол. (Мат. Гом., ТС), *пад* м. — Стол. (ТС), *мяднíца* ж. — Вілен. р. (З нар. сл., СПЗБ).

**Смала** ’ліпкае пахучае вязкае рэчыва, якое выдзяляюць хваёвыя і некаторыя іншыя расліны’: *смалá* ж. — пашыр. (ЖС, Станкевіч, Мат. апыт.), *смоль* ж. ’тлеючае смалістае рэчыва’ — мясц. (Насовіч), *вар* м. — мясц. (Насовіч), *канфóра* ж. ’смолка канфорнага дрэва’ — мясц. (Ластоўскі); **смала з вішнёвых і івавых дрэў:** *клей* м. — Стол. (ТС), *мед* м. — Жытк. (ТС), *смалá* ж. — Стол. (ТС), *шпік* м. — Жытк. (ТС); **смала з хваёвых дрэў:** *смалá* ж. — Астр., Слон., Жытк., Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Насовіч, Мат. Гродз., ТС, Мат. апыт.), *жывíца* ж. — Ашм., Лаг., Чэрв., Клім., Дзятл., Слон., Жытк. (Бялькевіч, Варлыга, СПЗБ, Станкевіч, ТС, Шатэрнік, ЭСБМ, Мат. апыт.), *жывáя смалá* — Слон. (Мат. апыт.), *смóлка* ж. ’мяккая

вадкая смала з маладых хваёвых шышак' — Чэрв. (Шатэрнік).

**Сок** 'вадкасць з жывых тканак раслін і пладоў': *сок* м. — пашыр. (ТС, Мат. апыт.), *цок* м. — Стол. (ТС), *сядзёр* м. — Пол., Барыс., Леп. (Станкевіч), *сакавік* м. 'сок бярозы, клёна, які ўжываецца як пітво' — Чэрв. р. (Станкевіч, Шатэрнік), *клёк* м. 'сок з ягад' — Гродз., Навагр., усх-маг. г. (ЛАБНГ), *ма́нна* ж. 'застылы сок манніка і некаторых іншых раслін' — Маг. (ЭСБМ), *гуміля́стыка* ж. 'сок дрэва гумілястыка (каўчука)' — мясц. (Ластоўскі); **бярозавы сок:** *бяро́завік* м. — Навагр., Старадарож., Чэрв., Жлоб., Буда-Каш., Чач., зах.-бран. р., Смален. р. (Дабравольскі, Мат. Гродз., Растаргуеў, СПЗБ, Шатэрнік, Мат. апыт.), *бе́рка* ж. — Віц. р. (Каспяровіч, Ластоўскі, ЭСБМ), *бі́рка* ж. — Пруж. (ЖС), *квас* м. — Маз. (ГЧ); **кляновы сок:** *кляно́вік* м. — Віц. р., Гл., Гом. (Каспяровіч, Мат. Гом., Станкевіч, ЭСБМ), *кленаві́к* м. — зах.-бран. р., Смален. р. (Дабравольскі, Растаргуеў), *кляно́ўнік* м. — Светлагор. (Мат. Гом.), *кляно́вы сок* — Брасл. (СПЗБ).

**Млечны сок** 'вадкасць белага ці белаватага колеру ў сцёблах, лісці і каранях некаторых раслін': *малако́* н. — усх.-маг. р., паўн.-зах. з., Пол. (Бялькевіч, НС, СПЗБ), *дзягно́* н. 'канаплянае малако' — паўн. р., віц.-маг. г. (ЛАБНГ), *за́ліўка* ж. 'канаплянае малако' — мясц. (Насовіч).

**Хларафіл** 'рэчыва, што надае лісту зялёны колер': *лістазе́лень* м. — мясц. (Станкевіч).

## 3.4. ЛЕКСІКА ЖЫЦЦЯДЗЕЙНАСЦІ РАСЛІН І ГРЫБОЎ

### АГУЛЬНЫЯ З'ЯВЫ, ПРАЦЭСЫ, ПРЫКМЕТЫ, ЗВЯЗАНЫЯ З РОСТАМ РАСЛІН

#### Расці

У выніку жыццёвага працэсу станавіцца большым, даўжэйшым, вышэйшым.

*расці* незак. — агульн. (Станкевіч, ТС, Мат. апыт.), *расту́чы* прым. 'які хутка расце, размнажаецца' — Лаг. (Мат. мін.-мал.), *пуска́ць роичч* незак. — Драг. (ЛП), *жыць* незак. — Пух. (З нар. сл.), *ісці* незак. 'расці, прарастаць' — Лоеў. (Янкова), *ніціць* незак. — Хойн. (Мат. Гом.), *удава́цца* незак. 'добра расці, даваць плён' — Стол., Жытк. (ТС), *сла́цца* незак. 'расці, пакрываючы паверхню, прылягаючы да паверхні чаго-небудзь' — мясц. (Станкевіч), *расціла́шчы* прым. 'які сцелецца' — Жытк. (ТС), *сядзе́ць* незак. 'расці ў пэўным месцы' — Слон. (Мат. апыт.), *узя́цца* зак. 'прыняцца, пайсці ў рост' — Жытк. (ТС); **рост**: *рост* м. — пашыр. (ДСБМ, Мат. апыт.), *ро́сласць* ж. — мясц. (Насовіч), *ро́сля* ж. — Лун. (БДС), *ро́шча* ж. — Лоеў., Зэльв., Брэсц., Драг. (ЖС, ЛП, Сцяцко, Янкова), *паго́нь* ж. 'хуткі рост' — Смарг. (Сл. Гродз.); **слаба расці:** *выцяка́цца* незак., *выцячы* зак. 'расці кволым, выцягвацца ўверх' — Смарг., Іўеў. (СПЗБ), *сядзе́ць* незак. — Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.), *сядзе́ць дзёбам* незак. 'не расці' — Уздз., Лоеў. (Мат. мін.-мал., Янкова), *ма́кам сядзе́ць* незак. — Калінк. (ЭСБМ), *гне́сціся* незак. — Жытк., Стол. (ТС), *заярэ́ць* зак., *з'ярэ́ць* зак. 'перастаць расці' — Бял. (НС), *каржане́ць* незак. 'не расці' — Лоеў. (ЭСБМ), *цві́гнуць* незак., *зацві́гнуць* зак., *сцві́гнуць* зак. 'жаўцець, глохнуць' — мясц. (Насовіч), *шчырэ́ць* незак. 'расці кволым' — Смарг. (СПЗБ), **хутка расці, буяць:** *гусці* незак. — Уздз., Стаўб. (Мат. мін.-мал., СЦБ), *бахта́ць* незак. — Стол. (ТС), *ле́зці* (*з поля*) незак. — Жытк. (ТС), *раскашава́цца* незак. — Гом. р. (НЛГ), *адбуры́ць* зак. 'прайсці перыяд буйнага росту' — Стол. (ТС), *пусці́цца* зак. 'пачаць хутка расці' — мясц. (Станкевіч), *буя́лы* прым. 'густы, добра прарослы' — Лід. (Сл. Гродз.).

## Адрасці, адрастаць

Вырасці зноў пасля таго, як было зрэзана, падстрыжана.

*адрасці* зак. — Стол., Жытк. (ТС), *адро́стваць* незак. ' адрастаць' — Стол. (ТС), *адско́чыць* зак. 'хутка адрасці' —

Чэрв., Жытк. (ТС, Станкевіч, Шатэрнік), *падско́чыць* зак. 'хутка вырасці, з'явіцца (пра траву)' — Жытк. (ТС), *адхо́дзіць* незак. 'адрастаць, даваць парасткі' — Стол. (ТС).

**Вырасці**

Закончыць рост, стаць большым, падрасці.

*вы́расці* зак. — пашыр. (ТС, Станкевіч, Мат. апыт.), *парасці́* зак. — Стол., Жытк. (ТС), *узрасці́* зак. — Мін. (Станкевіч), *вы́гнаць* зак. 'хутка вырасці, выперці' — Жытк. (ТС), *урасці́* зак. 'змагчы вырасці, развіцца' — Жытк. (ТС).

**Нарасці**

Вырасці ў вялікай колькасці.

*нарасці́* зак., *нараста́ць* незак. — Стол., Жытк. (ТС), *панараста́ць* зак. — Жытк. (ТС), *наспары́ць* зак. — Пол. (ЭСБМ), *паўпіра́ць* зак. 'парасці вялікім' — Лоеў. (Янкова).

**Зарастаць**

Пакрывацца расліннасцю.

*зараста́ць* незак., *зарасці́* зак. — Бар., Пух., Жытк., Стол., Вілен. р. (СПЗБ, ТС), *зарасці́* зак. — Чэрв. (Станкевіч), *абраста́ць* незак., *абрасці́* зак. 'зарасці з усіх бакоў' — мясц. (Станкевіч), *пазараста́ць* зак. — Жытк. (ТС), *параста́ць* незак. — мясц. (Станкевіч), *ураста́ць* незак., *урасці́* зак. — Ашм. (Станкевіч), *заро́станы* дзеепрым., *заро́шчаны* дзеепрым. 'зарослы'—Жытк. (ТС), *засяда́ць* незак., *засе́сці* зак. — Жытк., Стол. (ТС), *залясе́ць* зак., *залясе́цца* зак. 'зарасці лесам' — Мсцісл. (Юрчанка), *лясі́сты* прым. 'зарослы лесам' — Верхнядзв., Паст. (СПЗБ), *лясно́* прысл. 'лясісты' — Стол. (ТС), *укамяне́ць* зак. 'знерухомець, зарасці, узяцца дзірваном (пра палеткі)' — Карэл. (Сл. Гродз.); **зарастаць травой:** *траве́ць* незак. — Віц., Воран., Смален. р. (Дабравольскі. Каспяровіч, Сл. Гродз., Станкевіч), *утраве́ць* зак. — Карэл., Смален. р. (Дабравольскі, Сл. Гродз.),

*утравіцца* зак. — Пух. (3 нар. сл.), *затравéць* зак. — Мёр. (НС), *забíць* (*грáды*) зак. — Стол. (ТС), *зашчырыць* зак. — Дзятл. (Сл. Гродз.), *сцякцí* зак. 'зарасці пустазеллем' — Шчуч. (Сл. Гродз.); **зарослы травой:** *затравéлы* прым. — Гродз., Іўеўск. (Сл. Гродз.), *траўлíвы* прым. 'зарослы пустазеллем' — Пух., Уздз. (Мат. мін.-мал.), *траўляны́* прым. — Чэрв. (СПЗБ), *утравéлы* прым. — Астр. (Сл. Гродз.), *неўтравéлы* прым. 'не зарослы травой' — Карэл. (Сл. Гродз.); **зарастаць імхом:** *імшэ́ць* незак. — мясц. (Станкевіч), *замшэ́ць* зак. — мясц. (Станкевіч); **зарослы імхом:** *амшáлы* прым. — Жытк., Стол. (ЭСБМ), *імшáрысты* прым. — Віл. (СПЗБ), *мшáрысты* прым. — мясц. (Насовіч), *машы́сты* прым. — Стол. (ТС); **зарослы (іншыя назвы):** *задрымýшчаны* дзеепрым. — Іўеў. (Сл. Гродз.), *захáшчаны* дзеепрым. — Жытк. (ТС), *асачы́сты* прым. 'зарослы асакой' — Лід. (СПЗБ), *лебядóвы* прым. 'зарослы лебядой' — Мсцісл. (Юрчанка).

## Прарастаць

Выпускаць расткі, парасткі.

*прарасцí* зак. — агульн. (ЛАБНГ), *прарасцíцца* зак. — Кам., Стол. (ЛАБНГ), *прарастáць* незак. — Лун. (ЛАБНГ), *парасцíцца* зак. — Кам., Кобр., Драг., Іван., Пін. (ЛАБНГ), *парасцí* зак. — Рас., Лельч., Зэльв. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *парасліцца* зак. — мясц. (Насовіч), *зарасцí* зак. — Уздз. (СЦБ), *рóсліцца* незак. — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *пусцíць расты́* зак. — Леп. (Мат. апыт.), *пускáць растóчкі* незак. — Стол. (ЛАБНГ), *пазýбіцца* зак. — Лід., Асіп., Бых., Бяроз., Драг., Іван., Акц. (ЛАБНГ, ЛП, Мат. Гом.), *празýбіцца* зак. — Навагр. (НС), *назýбіцца* зак., *назубíцца* зак. — Рэч., Чач., Ветк. (ЖНС, Мат. Гом.), *вы́зубіцца* зак., *вызýбвацца* незак. — Ашм., Воран., Чач. (Сл. Гродз., Мат. апыт.), *зазýбіцца* зак. — Лаг. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *пахрасцíцца* зак. — паўдн.-зах. д., акрамя усх.-пал. р., ся-

рэд.-бел. г., акрамя усх.-маг. р. (ЛАБНГ, НС, Мат. мін.-мал., СПЗБ, Сцяцко, НЛ, Шаталава), *храсціцца* незак. — Гарад., Навагр., Маст., Дзятл., Лях. (Мат. Гродз., СПЗБ), *клычыцца* незак. — Мін. (СПЗБ), *наклюнуцца* зак. — Калінк. (Мат. Гом.), *ніцець* незак. 'расці ў парасткі' — Бераст. (Сл. Гродз.); **які прарос, прарослы**: *рослы* прым. 'пра насенне збожжавых: якое пусціла парасткі' — мясц. (Насовіч), *парослы* прым. 'які прарос у снапах (пра жыта, пшаніцу)' — мясц. (Насовіч), *назублены* прым. — Жытк. (ТС), *назублены* прым. 'пра насенне, якое толькі пачынае прарастаць' — Чэрв., Бяроз., Уздз. (Мат. мін.-мал.), *наклюнуты* прым. 'які толькі пачынае прарастаць, назублены' — Ашм., Смал., Мядз. (Мат. мін.-мал.).

## Разрастацца

Захопліваць у выніку росту больш месца.

*гусціцца* незак. — Гом. р. (НЛГ), *лапушыцца* незак. 'пышна разрастацца, выпускаць многа лісця' — Ваўк. (ЭСБМ), *параскадацца* зак. 'разрасціся' — Стол. (ТС), *парастапурыцца* зак., *парастапурваць* зак. 'рассунуцца ў бакі' — Стол., Жытк. (ТС), *разыйціся* зак. 'разрасціся, распаўсюдзіцца' — Жытк. (ТС), *раскалясіцца* зак. 'разрасціся ў кроне' — Слон. (ЖС), *раскапусціцца* зак. — Гом. (Мат. Гом.), *распоўзвацца* незак. — Стол. (ТС), *разгалінацца* незак., *разгалінаць* незак. 'разрастацца ў галінах' — мясц. (Ластоўскі), *разрослы* прым. 'які ў выніку росту захапіў больш месца, разросся' — мясц. (Насовіч).

## Узыходзіць

Даваць усходы, прарастаць, паказвацца з-пад зямлі.

*усходзіць* незак. — Малар., Маз., Стол., Пін., Лун. (ЛП), *узайці* зак. — Жытк. (ТС), *паўсходзіць* зак. — Лід. (Сл. Гродз.), *сходзіць* незак. — Петр., Нараўл. (ЛП), *сходзіць* незак. — Драг., Стол., Іван. (ЛП), *абысці* зак. — Віл.,

Навагр. (ЖС, Мат. апыт.), *вытыка́цца* незак. 'пра першыя ўсходы' — Бяроз., Стол. (ЛП), *павуска́каць* зак. — Житк. (ТС).

## ІНШЫЯ ПРАЦЭСЫ, ЗВЯЗАНЫЯ З РОСТАМ РАСЛІН

### Адходзіць

Пра заканчэнне росту грыбоў, ягад.

*адхо́дзіць* незак. — Смален. р., Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Дабравольскі, Станкевіч, Мат. апыт.).

### Акапурыцца

Абсесці нарастамі (пра капусту).

*акапу́рыцца* зак. — Жытк. (ТС).

### Буяць

Пра гародніну: праз меру расці ў сцябло, націну і не даваць добрых пладоў (на шкоду пладам).

*буя́ць* незак. — Лаг., Уздз. (Варлыга, Мат. мін.-мал.), *збуя́ць* зак. — Воран., Іўеў., Шчуч., Гродз., Лях., Навагр., Гл., Малар., Лун., Стол. (ЛП, СПЗБ, Мат. Гродз., ТС, Шаталава, Янкоўскі), *пабуя́ць* зак. — Гл., Раг., Стол. (СПЗБ, ТС, Янкоўскі), *вы́буянець* зак. — Астр. (Мат. Гродз.), *зніце́ць* зак. — Іўеў. (Сл. Гродз.), *зні́ціцца* зак. — Гом. (Мат. Гом.), *вы́цянець* зак. — Астр. (Мат. Гродз.), *збуце́ць* зак. — Старадарож. (ЖНС), *збуша́віць* зак. — Слон. (Мат. апыт.), *звіша́ць* зак. — Лях. (СПЗБ), *лахну́ць* незак. 'пра бульбу: расці ў сцябло, а не ў клубень' — Драг. (ЛП).

### Выкідацца

Пра грыбы, ягады: з'яўляцца ў пэўных месцах і ў досыць вялікай колькасці.

*выкіда́цца* незак., *вы́кінуцца* зак. — Бых. (ЖНС), *пракіда́цца* незак., *пракі́нуцца* зак. — Буда-Каш., Чач. (Мат.

апыт.), *пракінуцца* зак. 'пачаць расці зрэдку (пра грыбы)' — Мсцісл. (Юрчанка).

**Даць семянную сцябліну:**

*пайсці ў пукі* зак. — Стаўб., Бярэз., Круп. (СЦБ), *пайсці ў стоўп* зак. (пра цыбулю, моркву, капусту) — Стол. (ТС), *пукаваты* прым. 'пра расліну, якая пайшла ў пукі, дала семянную сцябліну' — Смарг. (Мат. мін.-мал.), *пукавы* прым. 'тое, што і пукаваты' — Верхнядзв. (СПЗБ).

**Даць старчака**

Вырасці ўніз (пра галіну на хвоі).

*даць старчака* зак. — Стол. (ТС).

**Зацяняць**

Разрастаючыся, перашкаджаць росту іншых раслін.

*глушыць* незак. — Стол., Чач. (ТС, Мат. апыт.), *забуяць* зак. 'быць падаўленым другой раслінай, зарасці' — зах.-бран. р. (Растаргуеў).

**Звіцца**

Пра капусту: зрабіцца качаном.

*звіцца* зак. — пашыр. (Мат. апыт.), *павіцца* зак. — Жытк., Стол. (ТС), *вялая* прым. 'пра капусту: якая звіваецца ў качан' — Смален. р. (Дабравольскі).

**Зрастацца**

Злучацца ў працэсе росту, утвараючы адно цэлае.

*зрастацца* незак., *зрасціся* зак. — пашыр. (Насовіч, Станкевіч, ТС, Мат. апыт.), *зрасляцца* незак., *зрашчацца* незак. — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *зрасціцца* зак., *зросціцца* зак. 'сплесціся паміж сабой парасткамі (гаворыцца

пра збожжа, асабліва ў снапах) — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *спарышавáны* прым. ’пра дрэвы: зрошчаны’ — Раг. (Мат. Гом.).

**Зелянець**

Набываць зялёны колер.

*зеляніць* незак. — Зэльв. (ЖС), *замуражэць* зак. ’зазелянець (пра траву)’ — Ветк. (Мат. Гом.), *зéлкі* прым. ’пазелянелы (пра бульбу)’ — Вілен. р. (СПЗБ), *парутнéць* зак. ’пазелянець’ — мясц. (Ластоўскі).

**Караніцца**

Пускаць карэнне.

*караніцца* незак. — Ваўк., Віц. р., Чэрв. р. (Каспяровіч, Станкевіч, Шатэрнік), *укараніцца* зак. — Віц. р., Чэрв., Чач. (Каспяровіч, Шатэрнік, Мат. апыт.), *укамéльвацца* незак. — Іўеў. (Сл. Гродз.), *укамліцца* зак. — Навагр. (Сл. Гродз.), *прыняцца* зак. — Навагр., Дзятл. (Мат. Гродз.).

**Кусціцца**

Разрастацца карчом.

*кусціцца* незак. — Ваўк. (Мат. Гродз.), *накýшчвацца* незак. — Стол. (ТС), *раскусціцца* зак. — Чач., Жытк., Стол. (ТС, Мат. апыт. ), *куставáты* прым. ’кусцісты’ — Гродз. (СПЗБ), *карчыцца* незак. — Слон. (Мат. апыт.), *раскарчыцца* зак. ’разрасціся карчом (пра гародніну)’ — Бераст., Зэльв. (Сл. Гродз., Сцяцко), *раскóрчыцца* зак. — Стол. (ТС), *карчысты* прым. ’кусцісты’ — Гл. (Янкова), *грázніцца* незак. — Тал. (Шаталава), *караніцца* незак. — Пруж. (СПЗБ), *каркаліцца* незак. — Верхнядв. (СПЗБ), *кашлатáць* незак. ’пускаць парасткі, кусціцца’ — Раг. (СПЗБ), *на рáла* (пайсці, разбіцца) ’пра разгалінаванне, кушчэнне’ — Жытк., Стол. (ТС); **кусцісты (іншыя назвы)**: *растýчы*

прым. — Рэч. (Мат. Гом.), *ра́сны* прым. ’кусцісты (пра бульбу)’ — Браг., Ельск. (Мат. Гом.).

**Ліствяніцца**

Пакрывацца лісцем.

*ліствя́ніцца* незак. — Навагр. (Сл. Гродз.).

**Маладзіцца**

Пра расліны: свяжэць, станавіцца больш жыццяздольным.

*маладзі́цца* незак., *абмаладзі́цца* зак. — Смален. р. (Дабравольскі).

**Межань**

Веснавы рух сокаў у дрэвах.

*межа́нь* м., *ме́жынь* м. — усх.-маг. р. (Бялькевіч, ЭСБМ), *адсача́ць* незак, *адсычэ́ць* зак. ’пра кару падчас межані: няшчыльна прылягаць да абалоні, лёгка адставаць’ — Лаг., Мсцісл. (Варлыга, Юрчанка).

**Навыскакваць**

Раптоўна з’явіцца (пра грыбы).

*навыска́кваць* зак., *наўска́кваць* зак. — Жытк., Чач. (ТС, Мат. апыт.).

**Насявацца**

Насейвацца, распаўсюджвацца ў пэўных мясцінах.

*насява́цца* незак. — Навагр. (Мат. апыт.).

**Палегці**

Ад цяжару схіліцца да зямлі.

*пале́гці* зак. — агульн. (Мат. апыт.), *пале́ч* зак. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *вы́легці* зак. — Жытк. (ТС), *пале́глы* прым. ’які палёг’ —Леп., Жлоб., Чач., Буда-Каш. (Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік, Мат. апыт), *як рагóжа ляжы́ць*

'пра палеглае збожжа' — Стол. (ТС), *клякаць* незак. — Стол., Драг. (ЛП), *паклёкнуць* зак. — Навагр. (ЖС); **палеглае збожжа, лён, трава:** *палéгліца* ж. — Лаг., Пух., Стол., Жытк. (СЦБ, ТС); *палéгля* ж. — Стол. (ТС); **іншыя назвы:** *стаяк* м. 'непалеглы лён' — Навагр. (ЖС).

### Радзець

Пра лес: станавіцца рэдкім.

*радзéць* незак. — Віц. р. (Каспяровіч).

## ПРАЦЭСЫ І ПРЫКМЕТЫ, ЗВЯЗАНЫЯ З РОСТАМ І ВЫСПЯВАННЕМ ЖЫТА, ПШАНІЦЫ

### Абсыпацца

Пра зерне: не трымацца ў коласе.

*ацірáцца* незак. — Мсцісл. (Юрчанка), *выплывáць* незак. — Чэрв. (Шатэрнік), *спáсці з кóласа* — Жытк. (ТС).

### Выплываць

Утвараць колас, каласаваць.

*выплывáць* незак. — паўн.-зах. з., Паням. р., Лаг., Валож., Вілен. р. (ЛАБНГ, Насовіч, СПЗБ, СЦБ), *выплывáнне* н. 'з'яўленне каласоў' — Астр., Лаг. (Варлыга, СПЗБ), *каласавáцца* незак. — Верхнядзв., віц.-маг. г., паўдн. р. (ЛАБНГ, Каспяровіч, СПЗБ), *каласавáць* незак. — Гл. (Янкоўскі), *каласíцца* незак. — Краснап. (Бялькевіч), *закаласíцца* зак. 'пачаць каласаваць' — Чэрв. (Шатэрнік), *пакаласíцца* зак. 'выпусціць колас' — Жытк. (ТС), *высыпáцца* незак. — зах.-пал. г., паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *вы́сыпацца* зак. — Жытк. (ТС), *усыпáцца* незак. — Петр. (Шаталава), *вырэ́зьвацца* незак. — Стол., Малар., Іван., Ельск., Пін., Маз. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *вымятáцца* незак. — Чэрв., Пін. (ЛАБНГ, СПЗБ), *выкідáць* незак. — Кам. (ЛАБНГ), *вырýніваць* незак. — мясц. (Ластоўскі),

*зцвітáць* незак. — Мсцісл. (ЛАБНГ), *узя́цца ў кóлас* — Бераст. (Сл. Гродз.); **пра жыта, якое яшчэ не выкаласілася:** *жы́та ў калóдзе* — Жытк. (ТС), *жы́та ў трýбку* — Стол. (ТС).

## Красавацъ

Цвісці: пра жыта, пшаніцу.

*красавáць* незак. — агульн., акрамя пал.-гродз. р. (ЛАБНГ, Варлыга, ДСБ, Ластоўскі, Каспяровіч, СПЗБ, ТС, Шатэрнік, Янкоўскі), *красавáцца* незак. — зах.-пал. г., Глыб., Докш., Докш., Мядз., Рэч., Буда-Каш., Добр., Раг., Ветк., Лоеў., Хойн., Нараўл., Браг. (ЛП, Мат. Гом., СПЗБ, СЦБ, ТС), *адкрасавáцца* зак. 'адцвісці' — Жытк. (ТС), *скíдаць крáску* 'адцвятаць' — Петр. (Шаталава), *красá* ж. 'цвіценне' — Смарг., Пух., Ганц. (СПЗБ), *расавáць* незак. — пал.-гродз. р., Слон., Зэльв. (ЛАБНГ, ЛП, НЛ, Сл. Гродз., Сцяцко, Шаталава, Мат. апыт.), *здрасавáць* зак. 'зацвісці' — Свісл. (Сл. Гродз.), *расá* ж. 'цвіценне' — Воран. (СПЗБ), *расавáнне* н. 'тое, што і раса' — Слон. (Мат. апыт.), *квітавáць* незак. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ЛП), *грацъ* незак. — Кам., Лун. (ЛАБНГ, Шаталава), *ігрáць* незак. — Лун., Маз. (ДСБ, ЛП), *цвісцí* незак. — Віц. р., усх.-маг. р., Гом., Добр., Лун., Брэсц., Кобр. (ЛАБНГ), *цвіцéць* незак. — Шум., Латгал. р. (СПЗБ), *рабíць* незак. — Кобр., Малар., Бяроз., Драг., Стол. (ЛП, НЛ), *рабíтка* ж. 'пара цвіцення' — Кобр. (НЛ), *рунíць* незак. — Слуц., Кам. (ЛАБНГ), *мáяць* незак. — Брэсц. (ДСБ).

## Наліваццa

Напаўняцца сокам, спець.

*налівáцца* незак. — агульн. (ЛАБНГ, ТС), *налівáць* незак. — Слон. (Мат. апыт.), *налíцца* зак. — Стол. (ТС), *налíў* м. 'наліванне' — Стол., Жытк. (ТС), *паспявáць* незак. — Стол., Ельск., Драг., Іван., Бяроз., Нараўл. (ЛП), *спець*

незак. — Валож. (ЛАБНГ), *поўніцца* незак. — Бяроз., Драг., Пін. (ЛП, Шаталава), *спаўняцца* незак. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *споўніцца* зак. — Жытк. (ТС), *бялець* незак. — Зэльв., Петр. (ЛП, Сцяцко, НЛ), *выраўняцца* незак. — Бяроз. (СПЗБ), *назубрывацца* незак. 'вытыркацца з коласа' — Стол. (ТС), *наплываць* незак. — Віц., Навагр., Пін. (ЛАБНГ, ЛП), *расці* незак. — Воран., Ваўк. (ЛАБНГ), *сісярэць* 'жаўцець, рудзець, спець' — Лаг. (Варлыга), *скарадзіцца* незак. — Петр. (Шаталава), *тужаць* незак. 'цвярдзець' — Стол. (ЛП), *палавець* незак. 'даспяваць (пра авёс)' — Пін. (ЛП), *ёдрыністы* прым. 'пра колас: поўны' — мясц. (ЭСБМ), *зваліцца* зак. 'пераспець' — Ашм. (Мат. мін.-мал.).

## Рунець

Узыходзячы зелянець, разрастацца.

*рунець* незак., *рунець* незак. — пашыр. (Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік, Мат. апыт.), *зарунецца* зак. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *урунець* зак. — Чэрв. (Шатэрнік, Насовіч, Станкевіч), *руніць* незак. — Слон. (Мат. Гродз.), *руніцца* незак. — Жытк. (ТС), *уруніцца* зак., *уруніцца* зак. — Драг., Пін., Стол., Жытк. (ЛП, ТС), *уруніць* зак. — Карм. (Мат. Гом.), *урунівацца* незак. — Пін., Стол. (ЛП), *урунівацаь* незак. — Чэрв. (Шатэрнік), *паруніцца* зак. — Жытк. (ТС), *абрунівацъ* незак., *абрунець* зак., *зарунівацъ* незак., *зарунець* зак., *нарунівацъ* незак., *нарунець* зак. — мясц. (Насовіч), *выруніць* зак. 'выпусціць сцябло з пучка зелені' — мясц. (Насовіч, ЭСБМ), *руністы* прым. 'кусцісты, добра разрослы' — мясц. (Насовіч), *зелянець* незак. — Слон. (Мат. апыт.), *зеляніцца* незак. — Малар., Стол. (ЛП), *скарадзіцца* незак. — Ельск. (ЛП), *храсціцца* незак. — Бяроз. (ЛП); **кусцістыя ўсходы збожжавых, рунь**: *рунь* ж. — Слон. (Мат. апыт.), *урунь* ж. — Гродз. (Мат. Гродз.), *урунне* н. — Ушацк. (НЛ), *руна* н. — мясц. (Насовіч), *уруненне* н. — мясц. (Насовіч).

## Узыходзіць

Паказвацца на паверхні глебы.

*вызу́бвацца* незак. — Зэльв. (Сцяцко), *назу́бвацца* незак., *назу́біцца* зак. — Жытк. (ТС), *ярьі́цца* незак. 'пра пшаніцу' — Ваўк. (Мат. Гродз.), *усхо́д* м. 'вырастанне з зямлі маладых збожжавых раслін' — Лаг. (Варлыга), *усхо́ды* мн. 'усходы яравых культур' — Ваўк. (Мат. Гродз.), *неабхо́дны* прым. 'пра зерне, якое не дае ўсходаў'—Мядз. (СЦБ).

### Іншыя дзеянні

*бусе́ць* незак. 'псавацца, пакрывацца іржой' — мясц. (ЭСБМ), *паласава́ць* незак. 'пра калоссе: хістацца' — Верхнядзв., Мёр. (Шаталава), *спарьі́ць* зак. 'добра пайсці ў рост, хутка вырасці' — Віл., Буда-Каш., Чач. (Мат. мін.-мал., Мат. апыт.).

## ДЗЕЯННІ І ПРЫКМЕТЫ, ЗВЯЗАНЫЯ З ЦВІЦЕННЕМ РАСЛІН І ВЫСПЯВАННЕМ ПЛАДОЎ

### Ападаць

*апада́ць* незак., *апа́сці* зак. — Чэрв. р., Стол. (ТС, Шатэрнік), *адпа́дваць* незак. — Жытк. (ТС), *адпа́сці* зак. — Стол., Жытк. (ТС), *адпа́дзены* дзеепрысл. *адпа́лы* прым. — Жытк. (ТС), *адпа́длы* прым. 'які апаў' — мясц. (Насовіч), *па́даны* прым. 'апалы' — Жытк. (ТС), *па́данкі* мн. 'апалыя яблыкі, апад' — Стол. (ТС), *асьі́пацца* незак. — Лаг., Стол., Жытк. (Варлыга, ТС), *абсьі́пацца* незак. — Чэрв. р. (Шатэрнік), *валі́цца* незак., *звалі́цца* зак. — Ашм., Пух. (СЦБ), *пу́каць* незак., *папу́каць* зак. 'пра садавіну: гулка ападаць' — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *пя́каць* незак. 'тое, што і пукаць' — Бых. (ЖНС), *шпо́каць* незак. 'тое, што і пукаць' — Бых. (ЖНС), *шпу́каць* незак. 'тое, што і пукаць' — Ушацк. (НЛ), *адкаці́цца* зак. 'апасці' — Стол. (ТС), *нацю́паць* зак. 'пра садавіну: *напа́даць*' — Стол. (ТС).

### Апыляцца

*курьі́ць* незак. — Пін., Стол., Лун. (ЛП), *выпу́львацца* незак. 'пускаць пылок' — Жытк. (ТС).

**Буйнець**

Спеючы, павялічвацца ў памерах, станавіцца сакавітым.

*буйне́ць* незак. — Віц. р. (Каспяровіч), *пабуйне́ць* зак. — мясц. (Насовіч), *бу́йны* прым. 'вялікага памеру, большы, чым сярэдні' — Віц. р. (Каспяровіч), *ядране́ць* незак. — Гарад., Лёзн., Сен. (Каспяровіч, Насовіч), *паядране́ць* зак. — мясц. (Насовіч), *я́драны* прым. — Гарад., Сен., Буда-Каш., Чач. (Каспяровіч, Насовіч, Мат. апыт.).

**Вылушчвацца**

Пра плады: пазбаўляцца знешняй абалонкі.

*вылу́шівацца* незак. — Слон. (Мат. апыт.), *лу́шчыцца* незак. 'лузацца, аблуплівацца' — Вілен. р. (СПЗБ), *вылупа́вацца* незак., *вылу́плівацца* незак., *вылупля́цца* незак. — мясц. (Насовіч), *пралу́плівацца* незак. — мясц. (Насовіч),

**Высеяцца**

Даць насенне і распаўсюдзіцца.

*вы́сеяцца* зак. — Воран. (СПЗБ).

**Завязацца**

У час цвіцення ўтварыць зародак плода.

*завяза́цца* незак. — Жытк., Чач. (ТС, Мат. апыт.), *назавя́звацца* зак. 'завязацца ў вялікай колькасці' — Жытк. (ТС), *пазавя́звацца* зак., *пазавя́зваць* зак. — Жытк., Чач. (ТС, Мат. апыт.), *зві́цца* зак. — Стол. (ТС).

**Набрыняць**

Павялічыцца ў аб'ёме (пра пупышкі на дрэвах).

*набрыза́ць* незак. — мясц. (Ластоўскі), *напуцне́ць* зак. — Драг. (Мат. апыт.), *набубні́цца* зак. — Верхнядзв. (НС), *напры́шчыцца* зак. — Браг. (Шаталава); **набрынялы**: *набу́х-*

*шы* прым. — Дзятл. (Мат. Гродз.), *набра́клы* прым. ’пра намочанае, але не прарослае насенне’ — Мядз. (Мат. мін.-мал.), *набра́кшы* прым. ’тое што і набраклы’ — Маладз., Смарг. (Мат. мін.-мал.).

## Наліваццa (сокам)

*наліва́цца* незак. — Жлоб., Буда-Каш., Чач., Жытк. (ТС); **наліты сокам, сакавіты:** *сакаві́сты* прым. — Жытк. (ТС), *сакаві́* прым. — Жытк. (ТС), *сакаўні́* прым. — Лаг. (Варлыга), *сачы́сты* прым. — Шчуч. (Сл. Гродз.), *наліўні́* прым. — Воран., Жытк. (ТС), *сукры́сты* прым. — Гродз. (Мат. Гродз.), *я́драны* прым. — Воран., Шчуч., Смарг. (СПЗБ), *ядро́ны* прым. — Навагр. (Мат. Гродз.), *ся́дравы* прым. — Рэч. (НС).

## Пахнуць

Вылучаць які-небудзь пах.

*па́хнуць* незак. — пашыр. (Мат. апыт.), *пахню́чы* прым. ’які прыемна і моцна пахне, духмяны’ — мясц. (Станкевіч), *запашы́сты* прым. ’тое, што і пахнючы’ — Лоеў. (Мат. Гом.), *мане́ць* незак. — Драг. (ЛП), *мані́ць* незак. — Бяроз. (Шаталава), *тро́нціць* незак. ’прыемна пахнуць’ — Іўеў. (Сл. Гродз.); **пах:** *пах* м. — пашыр. (Мат. апыт.), *за́пах* м. — Буда- Каш., Жлоб. (Мат. апыт.), *ва́гер* м. ’водар’ — Карэл. (Сл. Гродз.), *і́мпат* м. ’пах’ — Стаўб. (СЦБ.).

## Радзіць

Пра расліны: прыносіць плады.

*радзі́ць* незак. — пашыр. (Станкевіч, Мат. апыт.); **даць добры ўраджай:** *урадзі́ць* зак. — Чэрв., Гродз., Стол., Жытк. (ЛП, Насовіч, НЛ, Сл. Гродз., Станкевіч, ТС, Цыхун), *урадзі́цца* зак. — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *зарадзі́ць* зак. — Чэрв., Люб., Стол., Жытк., Карм. (Мат. Гом., ТС, Шатэрнік, Мат. апыт.), *заўрадзі́цца* зак. ’пачаць пладаносіць’ — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *вы́даць* зак. — Стол. (ТС), *упло́дзіць* зак. — мясц. (Насовіч); **які дае добры ўраджай, ура-**

**джайны:** *урадлíвы* прым., *урóдлівы* прым. — Лёзн., Чэрв., Слуц., Гродз., Люб., Жлоб., Чач., Буда-Каш. (Каспяровіч, Станкевіч, Цыхун, Мат. апыт.), *урóдны* прым. — Чэрв. (НЛ, Станкевіч), *раджáйны* прым. — Карэл. (Мат. Гродз.), *ражáйны* прым. — Ашм. (Сл. Гродз.), *рóсны* прым., *расны́* прым. — Жытк., Стол., Лоеў. (ТС, Янкова), *ядрóны* прым., *я́драны* прым. — Зэльв., Пін. (ЖС, Сцяцко, НЛ), *вядрóны* прым. — Ашм. (Сл. Гродз.), *сíльны* прым. — Драг., Стол., Жытк. (НЛ, ТС), *пладзю́чы* прым. 'пладаносны (пра дрэва)' — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *плóдны* прым. 'тое, што і ўрадлівы' — Ашм. (Насовіч, Станкевіч), *плóднасць* ж. 'ураджайнасць' — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *бу́чна* прысл. 'густа, ураджайна' — Ваўк. (Сл. Гродз.), *картó-пелісты* прым. 'урадлівы на бульбу' — Астр. (Сл. Гродз.), *узбу́йнена* прысл. 'урадліва' — Лід. (Сл. Гродз.).

## Распускацца (пра кветкі, пупышкі)

*распускáцца* незак., *распусцíцца* зак. — Беш., Слон. (Каспяровіч, Насовіч, Мат. апыт.), *распукáцца* незак. — Жытк. (Насовіч, ТС), *распукну́цца* зак. — Гом., Буда-Каш., Гл. (Мат. Гом., Янкова), *распу́кнуць* зак. — Стол. (ТС), *распу́квацца* незак. — Стол., Жытк., Петр. (Мат. Гом., ТС), *распóкацца* незак. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *пóкацца* незак. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *пóкаць* незак. 'трэскацца, лопацца' — Карэл. (Мат. Гродз.), *пу́кацца* незак. — Чэрв., Жытк. (Ластоўскі, Насовіч, Станкевіч, ТС, Шатэрнік), *напукну́цца* зак. 'набухнуць, пачынаць распускацца' — Стол. (ТС), *папу́кацца* зак. 'распусціцца ў вялікай колькасці' — мясц. (Ластоўскі, Насовіч), *распу́к-ванне* н. 'раскрыццё пупышак, бутонаў' — Гл. (Янкова), *распу́кшы* дзеепрым. 'які распусціўся' — Стол. (ТС), *развi-вáцца* незак., *развíцца* зак. — Стол., Жытк. (ТС), *раскідáц-ца* незак., *раскíнуцца* зак. — Віц. р. (Каспяровіч, Станке-віч), *распупы́шыць* зак. 'распусціць пупышкі' — Гом. р. (НЛГ), *распушы́цца* зак. 'раскрыцца, расцвісці (пра кветку)'— Стол.

(ТС), *трыишчыцца* незак., *патрыишчыцца* зак. ’пра пупышкі на дрэвах’ — Беш. (Каспяровіч).

## Рэпацца

Пра спелыя плады: трэскацца, лопацца.

*рэ́пацца* незак., *парэ́пацца* зак. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *парэ́паны* прым. ’патрэсканы (пераважна пра яблыкі)’ — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *ло́пацць* незак. — Зэльв. (Сцяцко, НЛ).

## Семяніцца

Даваць насенне.

*семяні́цца* незак. — Свісл. (Шаталава).

## Спець

Станавіцца прыгодным для ўжывання.

*спець* незак. — агульн. (АЛА, Ластоўскі, Мат. Гродз., ТС, Шатэрнік, Мат. апыт.), *спі́ліць* незак. — Драг. (НЛ), *спяле́ць* незак. — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *паспе́ць* зак. — агульн. (Гарэцкі, Каспяровіч, Ластоўскі, Станкевіч, ТС, Шатэрнік, Мат. апыт.), *наспе́ць* зак. — Ашм. (Станкевіч), *успе́ць* зак. — мясц. (Станкевіч), *спе́лы* прым. ’які паспеў’ — агульн. (Каспяровіч, Ластоўскі, Станкевіч, ТС, Мат. апыт.), *саспе́лы* прым. — Шчуч. (Сл. Гродз.), *паспе́лы* прым. — мясц. (Насовіч), *спяле́йшы* прым. ’параўнальная ступень да спелы’ — Чэрв. (Шатэрнік), *спяле́цкі* прым. экспр. ’які добра выспеў’ — Стол. (ТС), *спе́ласць* ж. ’уласцівасць спелага’ — мясц. (Ластоўскі), *спе́нне* н. ’дзеянне паводле дзеяслова спець’ — мясц. (Ластоўскі); **даспець, даспяваць** ’станавіцца, стаць поўнасцю спелым’: *даспе́ць* зак., *даспява́ць* зак. — Малар., Стол. (ЛП, Ластоўскі, Станкевіч), *даспе́лы* прым. ’які даспеў’ — мясц. (Ластоўскі), *даспява́нне* н. ’дзеянне паводле дзеяслова даспяваць’ — мясц. (Лас-

тоўскі), *выспець* зак. — Лаг., Жытк., Стол. (Станкевіч, ТС), *выспяваць* незак. — Стол. (ТС), *падспе́ць* зак., *падспява́ць* незак. 'неканчаткова паспець, знаходзіцца ў стадыі выспявання' — мясц. (Станкевіч), *прыспе́ць* зак. — Гродз. (З нар. сл.), *дайці́* зак. — Буда-Каш., Жлоб., Чач., Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч, Мат. апыт.), *вы́зраць* зак. — Лоеў. (Янкова), *зазрэ́ць* зак. —Жытк. (ТС), *дасціга́ць* незак. — Малар. (ДСБ, ЛП), *вы́жаўрэць* зак. — мясц. (Ластоўскі); *папапуха́ць* зак. 'паспець у вялікай колькасці' — Жытк. (ТС), *ядраве́ць* незак., *ядрэ́ць* незак. 'спець, налівацца' —мясц. (Ластоўскі); **даспяваць знятым, лежачы на сонцы (пра садавіну)**: *адле́жвацца* незак. — Стол., Жытк. (ТС), *ле́жыцца* незак. — Мёр. (НС), *зары́цца* незак. — Драг., Стол. (ЛП, ТС); **чырванець ад спеласці**: *пачырване́ць* зак. — мясц. (Насовіч), *бруснець* незак. —Чач. (Мат. апыт.), *брусне́лы* прым. 'чырванаваты ад спеласці' — мясц. (Насовіч), *заруме́ніцца* зак. — мясц. (Ластоўскі); **недаспелы**: *зялёны* прым. — пашыр. (Янкова, Мат. апыт.), *зе́лены* прым., *зеляня́вы* прым., *зелянца́вы* прым. — Карэл. (СПЗБ), *зелянцо́вы* прым. — Стаўб. (СПЗБ), *зеленкава́ты* прым. — Жытк. (Насовіч, ТС), *на́дзелень* ж. 'пра нешта недаспелае, крыху зеленаватае' — Карэл., Бярэз., Мсцісл. (ЖНС, СЦБ, Юрчанка), *малады́* прым. 'недаспелы, у малочна-воскавай стадыі' — Бярэз. (СЦБ), *зягра́ты* прым. — Зэльв. (Сцяцко), *недаспе́лы* прым. — мясц. (Ластоўскі, Насовіч), *недаспеласць* ж. 'уласцівасць няспелага' — мясц. (Насовіч), *я́драны* прым. — мясц. (Насовіч).

## Пераспець

Прайсці пару спеласці.

*пераспе́ць* зак., *пераспява́ць* незак. — Леп., Чэрв., Смарг., Слон., Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Ластоўскі, Станкевіч, Шатэрнік, Мат. апыт.), *пераспе́лівацъ* незак., *пераспе́ліцца* зак. — мясц. (Насовіч), *пераспе́лы* прым. — Леп., Слон., Шчуч., Буда-Каш. (Насовіч, Мат. Гродз., Мат. апыт.),

*перажаўрэць* зак. — мясц. (Ластоўскі), *лежаны* прым. 'пераспелы' — зах.-бран. р. (Растаргуеў).

## Цвісці

Пакрывацца кветкамі.

*цвісці* незак. — агульн., акрамя паўн.-усх.-д. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Станкевіч, ТС, Шатэрнік, Янкова, Мат. апыт.), *цвіцець* незак. — паўн.-усх. д., усх.-маг. р. (ЛАБНГ, Варлыга, СПЗБ), *цвісць* незак. — усх.-маг. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Бялькевіч, Насовіч, Растаргуеў), *цвыць* незак. — Паст. (ЛАБНГ), *цвет* м. 'пара цвіцення' — Сен. (Каспяровіч), *цвет* м. 'цвіценне на дрэвах, ягадных раслінах' — Віл., Ашм. (СПЗБ), *цветабой* м. 'перыяд росквіту' — Гродз. (Мат. Гродз.), *квітнуць* незак. — Вілен. р., Воран., Паст., Брасл., Астр. (СПЗБ), *квіцець* незак. — Астр., Драг. (ДСБ, СПЗБ), *квісці* незак., *квісціся* незак., *квісць* незак. — мясц. (Ластоўскі, Насовіч, Станкевіч), *паквітнуць* зак., *паквіцець* зак. 'цвісці на працягу некаторага часу' — мясц. (Ластоўскі), *гарэць* незак. 'цвісці' — Барыс., Паст., Люб., Пух., Жытк. (Мат. мін.-мал., СПЗБ, ТС), *расавацца* незак. — Зэльв. (Сл. Гродз.), *расаванне* н. 'цвіценне кветак' — Шчуч. (Сл. Гродз.), *драмаць* незак. 'цвісці (пра лён)' — Драг. (ЛП), *кракосіцца* незак. 'цвісці, красавацць' — Гом. (НЛГ), *лялеяць* незак., *лялеіць* незак. —мясц. (ЭСБМ), *рунець* незак. — Старадарож. (НС, СПЗБ), *ичаніцца* незак. — Брасл. (СПЗБ).

## Адцвісці

Скончыць цвіценне.

*адцвісці* зак., *адцвятаць* незак. — Віц. р., Лаг., Жлоб., Чач., Буда-Каш. (Каспяровіч, Насовіч, СПЗБ, Мат. апыт.), *адцвісць* зак. — усх.-маг. р. (Бялькевіч), *абцвісці* зак. — Стол. (ТС), *перацвісці* зак. — Стол., Жытк. (ТС), *перацвітаць* незак. — Зэльв. (ЖС), *паадцвітаць* зак. 'адцвісці ў мност-

ве' — Житк. (ТС), *выцвілы* прым. 'які адцвіў' — мясц. (Станкевіч), *перагарэ́ць* зак. 'адцвісці (пра гуркі)' — Стол. (ТС), *адквісці́* зак., *адквіта́ць* незак. — мясц. (Ластоўскі, Насовіч, Станкевіч), *адквіта́нне* н. 'адцвітанне' — мясц. (Ластоўскі, Насовіч), *выквіта́ць* незак. 'пераходзіць пару паўнакветнасці' — мясц. (Ластоўскі), *пераквіта́ць* незак. — мясц. (Ластоўскі), *пераквéт* м. 'адцвітанне' — мясц. (Ластоўскі), *вы́чаўрэць* зак. — мясц. (Ластоўскі).

## Зацвісці

Пачаць цвіценне, пакрыцца кветкамі.

*зацвісці́* зак., *зацвіта́ць* незак. — Астр., Віл., Ганц., Жлоб., Чач., Буда-Каш., Житк. (СПЗБ, ТС, Мат. апыт.), *зацві́тваць* незак. 'зацвітаць' — Житк. (ТС), *перацві́сць* зак. — мясц. (Насовіч), *расцвіва́ць* незак. 'расцвітваць'— Стол. (ТС), *заквітнéць* зак. — Астр., Смарг. (СПЗБ), *расквісці́* зак., *расквіта́ць* незак., *расквіці́цца* зак., *расквéціцца* зак. — мясц. (Станкевіч), *расквéчаны* прым. 'пакрыты кветкамі' — мясц. (Станкевіч), *закрасава́ць* зак. — Віц. р. (Каспяровіч), *распушы́цца* зак. 'распусціцца' — Лоеў. (Янкова), *узвéсніцца* зак. — Гродз. (Сл. Гродз.).

## Чарвівець

Станавіцца чарвівым.

*чарві́вець* незак., *счарві́вець* зак. — Жлоб., Буда-Каш. (Мат. апыт.), *пачарвéць* зак. — Навагр. (СПЗБ), *чарвава́ць* незак. — Житк. (ТС), *чарві́вы* прым. — Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.), *каро́слівы* прым. 'пра бульбу: чарвівая' — Лоеў. (Янкова).

## Іншыя дзеянні, звязаныя з выспяваннем пладоў

*зажураві́нець* зак. 'пакрыцца журавінамі' — Іўеў. (Сл. Гродз.), *здрабнéць* зак. 'зрабіцца дробным' — зах.-бран. р. (Растаргуеў).

## НЕКАТОРЫЯ СПАЖЫЎНЫЯ ЯКАСЦІ ПЛАДОЎ

### Лёжкі

Які добра захоўваецца.

*лёжкі* прым. — Ашм., Лоеў. (Сл. Гродз., Янкова).

### Разварысты

Пра бульбу: якая добра разварваецца.

*зо́бкі* прым. — Навагр. (Сл. Гродз.), *со́пкі* прым. — Драг. (ЛП), *мы́лкі* прым. ’пра бульбу; якая не разварваецца, вадзяная’ — Вілен. р. (ЭСБМ).

## ДЗЕЯННІ, ЗВЯЗАНЫЯ З ЗАВЯДАННЕМ, АДМІРАННЕМ, ГНІЕННЕМ РАСЛІН І ПЛАДОЎ

### Буцвець

Гнісці, прэць, парахнець.

*буцве́ць* незак., *буце́ць* незак., *пабуцве́ць* зак. — мясц. (Ластоўскі, Станкевіч), *перабуцве́ць* зак. ’пра дрэва, палена: згнісці’ — Хойн (Мат. Гом.), *збуце́ўшы* прым. ’спарахнелы’ — Хойн. (Мат. Гом.), *бутле́ць* незак. — Беш., Слон. (ЖС, НС), *збутне́ць* зак. ’збуцвець, сапрэць, струхлець’ — Гродз. (Цыхун), *пцець* незак. — Віц. р. (Станкевіч), *пце́лы* прым. — Віц. р. (Станкевіч), *прэць* незак. — Жытк., Жлоб., Буда-Каш., Чач. (ТС, Мат. апыт.), *перапа́рыцца* зак. ’збуцвець, перапрэць’ — Жытк. (ТС), *скаладне́ць* зак. ’збуцвець, сапрэць’ — Жытк. (ТС).

### Вышышкацца

Спустошвацца, пазбаўляцца ядра, мякаці.

*вышышка́цца* незак. — мясц. (Насовіч, Станкевіч).

## Вянуць

Страчваць вільгаць, свежасць.

*вя́нуць* незак., *вяць* незак. — пашыр. (Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, ЭСБМ, Мат. апыт.), *в'я́нуць* незак., *в'яць* незак. — Стол., Жытк., Маз. (ТС, ГЧ), *зау́я́ць* зак. — Стол. (ТС), *звя́нуць* зак. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *звя́гнуць* зак. — (СПЗБ), *завя́лы* прым., *завя́ўшы* прым. 'пра расліну, часцей пра кветку, якая страціла вільгаць, свежасць' — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *звя́ты* прым. — Слон. (Мат. Гродз.), *непрывя́лы* прым. 'пра плады: свежы, сакавіты' — Бераст. (Сл. Гродз.), *паўя́ць* зак. 'звянуць' — Жытк. (ТС), *свя́нуць* зак. — мясц. (Ластоўскі), *вя́дзець* незак. — Мін., Чэрв. р. (Шатэрнік, Станкевіч, ЭСБМ), *ба́бець* незак. 'вянуць, маршчыніцца, карабаціцца (пра плады)' — Зэльв. (НЛ), *зба́бець* зак. 'звянуць, пакарабаціцца (пра плады)' — Зэльв. (Сцяцко), *зба́біць* зак. 'тое, што і збабець' — Маст. (СПЗБ), *паба́бець* зак. 'тое, што і збабець' — Зэльв. (Сцяцко, НЛ), *бля́кнуць* незак. — мясц. (Насовіч), *бля́клы* прым. — мясц. (Насовіч), *забля́кнуць* зак. — мясц. (Насовіч), *забля́клы* прым., *зbléклы* прым. — мясц. (Насовіч), *аблягáць* незак. 'вянучы, абвісаць' — Маз. (ГЧ), *пасну́ць* зак. 'завяць' — Стол. (ТС), *смя́гнуць* незак., *сме́гці* незак., *асмягáць* незак.— мясц. (Насовіч, Станкевіч), *урэ́ць* незак., *ваўрэ́ць* зак., *саўрэ́ць* зак. — мясц. (Насовіч), *урэ́лы* прым. 'звялы ад гарачыні' — мясц. (Насовіч), *ча́нуць* незак. — мясц. (Ластоўскі), *ча́ўраць* незак. — Зэльв. (Сцяцко, НЛ); **вялы, звялы (іншыя назвы):** *буцвя́лы* прым. 'вялы, пажоўклы' — Шум. (СПЗБ), *зачэ́злы* прым. — Лід. (Сл. Гродз.), *карабава́ты* прым. 'вялы, маршчыністы' — Зэльв. (Сцяцко).

## Гнісці

*гні́сці* незак. — пашыр. (ТС, Мат. апыт.), *згні́сці* зак. — пашыр. (ТС, Мат. апыт.), *пагні́ць* зак. 'згнісці ў вялікай

колькасці' — пашыр. (Мат. апыт.), *дагніць* зак. 'стаць зусім гнілым' — Стол. (ТС), *загніваицца* незак. 'пачынаць гнісці' — Жытк. (ТС), *загніць* зак. 'згнісці' — Стол., Жытк. (ТС), *сагніць* зак. 'згнісці' — Стол. (ТС), *падгніваць* незак. 'гнісці знізу' — Стол. (ТС), *гнілы́* прым. 'які згніў' — пашыр. (Мат. апыт.), *загнойны* прым. — Жытк. (ТС), *прагнойсты* прым. 'пра дрэва: падгніўшы, сітаваты' — Стол. (ТС), *прагной* м. 'загніванне, сітаватасць у драўніне' — Стол. (ТС), *выкісаць* незак. 'вымакаючы, гнісці (аб гародніне)' — пал. р. (ЭСБМ), *гарэць* незак. — Жытк. (ТС), *налойніваць* незак. 'гнісці, чарнець ад вільгаці (пра дрэва)' — мясц. (Насовіч), *псініць* незак. 'намакаць ад гніення, прымаючы сіні колер (пра дрэва)' — мясц. (Насовіч); **гнілы, гніль (іншыя назвы):** *мурша́вы* прым. — Свісл., Ваўк., Смарг. (Сл. Гродз., СПЗБ, ЭСБМ), *мурашывы* прым. 'гнілы, струхнелы' — Маст. (Сл. Гродз.), *дупліна́ты* прым. 'пра дрэва, у якім выгніла нутро' — Лаг. (Варлыга), *казлівы* прым., *казлякава́ты* прым. 'паточаны, шашаляваты' — Стол. (ТС), *по́дпар* м., *падпа́р* м. 'загніванне ў дрэве; тое, што і прагной' — Жытк. (ТС), *распа́даны* дзеепрым. 'гнілы, сапсаваны' — Жытк. (ТС).

## Жоўкнуць

Рабіцца жоўтым, набываць жоўтае адценне пры завяданні.

*жо́ўкнуць* незак. — Сен., Буда-Каш., Чач., Жлоб., зах.-бран. р. (Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, Мат. апыт.), *жо́ўклы* прым. — Сен., Жытк. (ТС, Каспяровіч), *пажо́ўкнуць* зак. — Маз., Буда-Каш., Жлоб., Чач., зах.-бран. р. (ГЧ, Насовіч, Растаргуеў, Мат. апыт.), *пажо́ўкці* зак. — мясц. (Насовіч), *пажо́ўклы* прым. — Чэрв., Буда-Каш., Чач. (Шатэрнік. Мат. апыт.), *ажо́ўкнуць* зак. — мясц. (Насовіч), *ажо́ўклы* прым. — мясц. (Насовіч), *зжо́ўкнуць* зак. — мясц. (Насовіч), *зжо́ўклы* прым. — мясц. (Насовіч), *ізжо́ўк-*

*нуць* зак. — Ганц. (СПЗБ), *жаўцéць* незак. — Ашм. (Насовіч, Станкевіч), *жаўцéцца* незак. — мясц. (Станкевіч), *зажаўцéцца* зак. — мясц. (Станкевіч), *зажóўціцца* зак. — мясц. (Насовіч), *жóўты* прым. 'пажоўклы, пераспелы (пра агуркі)' — Віл., Стаўб. (СЦБ), *палавéць* незак. 'спеючы, жоўкнуць (пра жыта, пшаніцу)' — Стол., Жытк., зах.-бран. р. (ТС, Растаргуеў), *спалавéлы* прым. 'пажоўклы' — Гродз. (Сл. Гродз.).

## Зарастаць, дзічэць

*глýхнуць* незак. — мясц. (Насовіч), *загінáць* незак. — мясц. (Насовіч), *зацвíгіваць* незак. — мясц. (Насовіч), *зацвíглы* прым. 'зарослы, здзічэлы' — мясц. (Насовіч), *траванéць* незак. — мясц. (Ластоўскі), *пасíліваць* незак. 'заглушаць' — мясц. (Насовіч).

## Ніцець

Рабіцца тонкім, кволым.

*ніцéць* незак. — Верхнядзв., Пол., Пух. (НЛ, СПЗБ, СЦБ), *зніцéць* зак. — паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава), *заніцéць* зак. — паўн.-зах. з. (СПЗБ, ЭСБМ), *паніцéць* зак. 'пра бульбу: парасці тонкімі сцяблінкамі' — Валож., Стаўб., Кругл. (СЦБ), *ніціць* незак. — Лаг. (Варлыга), *сцякáць* незак. — зах.-пал. г., паўдн.-зах. д. (ЛАБНГ, НС, НЛ), *пасцякáць* зак. — Рэч. (НС), *сцéкаць* незак. 'марнець ад ценю' — Жытк. (ТС), *пасцéкаць* зак. — Драг., Стол. (ЛП, ТС), *ісцячы́* зак. — Маст. (СПЗБ), *сцéкціся* зак. — Латгал. р. (СПЗБ), *сцёклы* прым. 'тонкі, слабы, кволы' — Латгал. р. (СПЗБ), *сценяцéць* зак. — Паст., Чашн., Круп., Кругл., Касц. (ЛАБНГ), *зашчы́рыць* зак. — Іўеў., Дзярж., Слуц. (ЛАБНГ), *звішэ́ць* зак. — Лях., Лельч. (ЛАБНГ), *збутвéць* зак. — Петр. (Шаталава), *пазбычáць* зак. 'зарасці пустазеллем і ад недахопу святла зрабіцца

вельмі малым (пра буракі)' — Малар. (НЛ), *сцвіклы* прым. 'слабы, кволы (пра націну)' — Гродз. (Сл. Гродз.).

## Парахнець, трухлець

Разбурацца ад часу, ператварацца ў пацяруху, парахню, труху.

*спарахнéць* зак. — Віц. р., Чэрв. (Каспяровіч, Шатэрнік), *парахнéць* незак. — мясц. (Станкевіч), *спарахнéлы* прым. 'які спарахнеў' — Драг. (ЛП), *парахáнавáты* прым. 'спарахнелы, трухлявы' — Жытк. (ТС), *парахня́вы* прым. 'спарахнелы, трухлявы' — Жытк., Стол. (ТС), *парахня́* ж. 'дробныя, як пясок, сухія рэшткі сапрэлага або паточанага шашалем дрэва' — Чэрв. (Станкевіч, Шатэрнік), *парахнó* н. 'тое, што і парахня' — Віл. (Станкевіч), *парахóнь* м. 'тое, што і парахня' — Віц. р. (Каспяровіч), *трухлéць* незак. — Мін. (Станкевіч), *датрухлéць* зак. 'струхлець да канца' — Мсцісл. (Юрчанка), *трупéхнуць* незак. — Віц. р., Мсцісл. (Каспяровіч, Станкевіч, Юрчанка), *затрупéхнуць* зак. — мясц. (Станкевіч), *патрупéхнуць* зак. — мясц. (Насовіч), *струпéхнуць* зак. — Беш. (Каспяровіч), *трýхнуць* незак. — Стол. (ТС), *трóхнуць* незак. — Драг. (ЛП), *патрухнéць* зак. — Жытк. (ТС), *ператрýхаць* незак. — Жытк. (ТС), *ператрýхнуць* зак. — Жытк. (ТС), *пратрýхнуць* зак. — Стол. (ТС), *прухнéць* незак. — Мясц. (Насовіч); **трухлявы:** *трухля́вы* прым. 'які струхлеў, ператварыўся ў труху' — Дзятл., зах.-бран. р. (Растаргуеў, Сцяшковіч), *трýхлы* прым. 'трухлявы, крохкі, нямоцны' — Мін., Чэрв., Жытк., Стол. (Мат. Гом., Станкевіч, ТС, Шатэрнік), *патрýхлы* прым. — Петр. (Мат. Гом.), *трáхлы* прым. — Добр. (Мат. Гом.), *трухня́вы* прым. — Буда-Каш., Лоеў., Калінк. (Мат. Гом.), *трухнíвы* прым., *трухня́вы* прым. — Жытк. (ТС), *трупéхлы* прым. — Віц. р., Воран., Лаг., Мсцісл. (Каспяровіч, Станкевіч, Варлыга, Юрчанка), *трупéшлы* прым. — Ашм. (Сл. Гродз.), *прухня́вы* прым. — мясц. (Насовіч); **труха:** *трухá* ж. 'трухлявая драўніна' — Добр. (Мат. Гом.), *трухлё* н. — 'гнілое дрэва' — Навагр.

(ЖС), *трупе́ишка* ж. 'спарахнелае дрэва, сухая гніліна' — Мсцісл. (Юрчанка); **трухлявы, спарахнелы (іншыя назвы):** *хаўтны* прым. 'пра дрэва: з гнілым стрыжнем' — Стол., Жытк. (ТС), *ха́ўтны* прым. 'спарахнелы' — Лельч. (ЖС), *прытле́лы* прым. — Жытк. (Мат. Гом.).

### Перарадзіцца

Страціць ранейшыя каштоўныя якасці, сапсавацца.

*перараджа́цца* незак. — мясц. (Насовіч), *вы́радачны* прым. 'які перарадзіўся' — мясц. (Насовіч).

### Прапасці

*вы́гібнуць* зак. 'прапасці на корані' — Петр. (Шаталава), *вы́гінуць* зак. 'прапасці на корані' — Стаўб. (СЦБ), *па́даць* незак. 'гінуць, звальвацца з кораня' — Стаўб. (СЦБ), *пачэ́пліць* зак. 'пра плады: прапасці' — Жытк. (Мат. Гом.).

### Сітавець

Трухлець, парахнець (пра дрэва).

*сітаве́ць* незак. — Чач. (Мат. Гом.), *сітава́ты* прым. 'пра драўніну: падгніўшая і таму мяккая, валакністая' — Астр., Лаг., Чэрв., Жытк. (Мат. Гродз., Варлыга, ТС, Шатэрнік), *сітава́тавы* прым. 'тое што і сітаваты' — Дзятл. (Мат. Гродз.), *асі́ты* прым. — 'тое, што і сітаваты' — Драг. (ЛП), *сітава́* ж. 'трухлявае дрэва' — Жытк., Чач. (Мат. Гом.); **сітаваты (іншыя назвы):** *бердзява́ты* прым. — Стол. (ТС), *жабердзява́ты* прым. — Жытк. (ТС), *забярджо́васты* прым. 'абалонны, з нетрывалымі, спарахнелымі слаямі (пра драўніну)' — Жытк. (ТС), *забе́рдзеваты* прым., *забердзява́ты* прым. — Стол., Жытк. (ТС), *забрэ́дзісты* прым. — Стол. (ТС).

### Скідаць лісце

*скіда́ць* незак. — Слон. (Мат. апыт.), *падалі́ст* м. 'лістапад' — Свісл. (Сл. Гродз.).

## Сохнуць

Пазбаўляцца вільгаці.

*со́хнуць* незак. — агульн. (ЛАБНГ), *со́хці* незак. — усх.-пал. р., спарадычна сярэд.-бел. г., зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *сухе́ць* незак. — Маз. (ГЧ), *схну́ць* незак., *схну́ці* незак. — зах.-пал. г., сл.-маз. г., спарадычна Панямо. р. (ЛАБНГ), *пасо́хнуць* зак. — Леп., Навагр., Слон., Люб., Буда-Каш., Жлоб., Чач. (Мат. апыт.), *пасо́хці* зак. 'высахнуць у множстве' — Жлоб., Буда-Каш. (Станкевіч, Мат. апыт.), *усо́хці* зак. 'высахнуць' — мясц. (Станкевіч), *сухі́* прым. 'які высах' — Навагр., Слон., Леп., Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.), *пасо́хлы* прым. 'тое, што і сухі' — Леп., Навагр., Слон., Люб., Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.), *сухалі́нны* прым. 'пра дрэва: вельмі сухі' — Віц. (Станкевіч), *сухалі́на* ж. 'высахлае і гады два прастаяўшае на пні дрэва' — Віц. (Станкевіч), *пашэ́рхлы* прым. 'пра траву: высахлая' — Лід. (Сл. Гродз.), *учаўрэ́ць* зак. 'загінуць, засохнуць' — Верхнядзв., Лід. (Сл. Гродз., СПЗБ), *вы́чаўралы* прым. — Навагр. (Сл. Гродз.), *вы́шаптацца* зак. 'высахшы, зрабіцца ў сярэдзіне пустым (пра плады)' — Пол. (НЛ), *зача́хнуць* зак., *сча́хнуць* зак. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *абча́хнуць* зак. 'абсохнуць (пра траву)' — Кобр. (НЛ), *пазасу́квацца* зак. 'пра лісце: паскручвацца' — Стол. (ТС), *се́ніцца* незак. 'высыхаючы, пераўтварацца ў сена' — Пух. (Шатэрнік), *спятрэ́ць* зак. 'вянучы, высахнуць' — Сен. (Каспяровіч), *счэ́знуць* зак. 'ссохнуць' — Хойн (Мат. Гом.), *шаты́рыцца* незак. 'пра траву і збожжавыя: высыхаючы, раздавацца ў бакі' — Мін. (Станкевіч, Шатэрнік); **засыхаць на корані:** *вішэ́ць* незак. — паўдн. р. (ЛАБНГ, ТС), *звішэ́ць* зак. — Бераст. (Сл. Гродз.), *звіша́ць* зак. — Нясв. (Мат. мін.-мал.), *вішава́ць* незак. — Бар., Старадарож. (ЛАБНГ, СПЗБ), *вішы́ць* незак., *вышы́ці* незак. — Ганц., Пін. (ЛАБНГ), *вішарава́ць* незак. — Гл. (ЛАБНГ), *упалыне́ць* зак. 'зарасці палыном, засохнуць' — Навагр. (Сл. Гродз.).

## ІНШЫЯ ДЗЕЯННІ І ПРЫКМЕТЫ, ЗВЯЗАНЫЯ З ФІЗІЧНЫМІ ЎЛАСЦІВАСЦЯМІ РАСЛІН І ПЛАДОЎ

### Брыняць, набіраць вільгаці

*набрыня́ць* зак. 'набрацца вільгаці' — Ваўк. (Сцяшковіч), *адмя́кнуць* зак. 'увабраць у сябе вільгаць 'пра бульбу, збожжа' — Лёзн. (Каспяровіч), *адпіва́цца* незак., *адпі́цца* зак. 'пра насенне, зерне: увабраўшы ў сябе вільгаць, павялічыцца ў аб'ёме, брыняць' — мясц. (Насовіч), *распука́ць* незак., *распу́кнуць*, зак. 'тое, што і адпівацца' — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *спла́ўваць* незак., *сплыва́ць* (*сплува́ць*) незак. 'аплываць ад вільгаці (пра грыбы)' — Жытк. (ТС).

### Віцца

Размяшчаючыся вакол, на паверхні чаго-небудзь, заплятаць, пакрываць сабой.

*ві́цца* незак. — Леп., Слон., Навагр., Буда-Каш., Жлоб., Чач. (Мат. апыт.), *віну́цца* незак. — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *дра́цца* незак. — Браг. (Мат. Гом.), *пле́сціся* незак. — Слон. (Мат. апыт.).

### Вылежацца

Набыць патрэбныя якасці, праляжаўшы пэўны тэрмін у адпаведных умовах.

*вы́лежацца* зак. — Леп., Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.), *вы́легчыся* зак., *вы́лажацца* зак., *павылягá́цца* зак., *паўле́жыцца* зак. — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *выле́гацца* незак. — Ашм. (Станкевіч).

### Выветраны

Пазбаўлены вільгаці, высахлы.

*вы́петрахлы* прым. — Бераст. (Сл. Гродз.).

## Гнуцца

Пад уздзеяннем чаго-небудзь станавіцца крывым, няроўным.

*гнýцца* незак. — пашыр. (Мат. апыт.), *гнýткі* прым. 'які добра гнецца (пра галіну, дубец)' — Драг. (ЛП), *жыдкавáць* незак. 'выгінацца і не ламацца' — Зэльв. (Сцяцко), *жы́ткі* прым. 'тое, што і гнуткі' — Слон. (НЛ), *крóхкі* прым. 'які не гнецца, а ламаецца' — Лаг. (Варлыга), *хісля́вы* прым. 'пра малое тонкае дрэва' — мясц. (Насовіч).

## Калючы

З мноствам калючак; такі, які колецца.

*калю́чы* прым. — пашыр. (Мат. апыт.), *калю́шчы* прым. — Шчуч., Пух. (З нар. сл., НЛ), *калю́шчавы* прым. — Кам. (ЖНС), *каля́чы* прым. — Лях. (СПЗБ), *бадзю́чы* прым. — мясц. (Насовіч), *шóрсткі* прым. — Чэрв. (Шатэрнік).

## Калыхацца

Мерна рухацца зверху ўніз ці збоку ў бок.

*калыхáцца* незак. — пашыр. (Мат. апыт.), *заважсыняцца* зак. — Шчуч. (Сл. Гродз.), *лялéяць, лялéіць* незак. 'калыхацца (пра збожжа, траву)' — усх.-пал. р. (ЭСБМ).

## Пераплесціся

*пераплéсціся* зак., *сплéсціся* зак. — Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.), *сплы́ціцца* зак. 'пераплесціся галінкамі, лапкамі' — Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *узя́цца ў рунó* 'сплесціся, збіцца' — Стол. (ТС).

## Раскашлаціцца

Стаць кашлатым, разгалістым.

*раскашлáціцца* незак. — Стол. (ТС).

**Стрыкацца**

Пра крапіву: апякаць скуру.

*стрыка́цца* незак. — Жлоб., Гом., Буда-Каш., Ветк., Чач. (Мат. Гом., Мат. апыт.), *стрыка́ць* незак. — Леп., Люб., Буда-Каш., Жлоб., Чач. (Мат. апыт.), *стрыклі́вы* прым. 'які пячэцца, стрыкаецца' — Краснап., Касц., Буда-Каш., Смален. р. (Бялькевіч, Дабравольскі, Мат. апыт.), *стры́кны* прым. — Мсцісл. (Бялькевіч), *стрыку́чы* прым. — зах.-бран. р. (Растаргуеў, Станкевіч), *джга́цца* незак., *джгаць* незак., *джы́гнуць* зак. — Мсцісл., Чач. (Юрчанка, Мат. апыт.), *джы́галіць* незак., *джыга́сіць* незак., *джы́гаць* незак. 'стракаць крапівай' — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *джагі́вы* прым. 'які стрыкаецца, стрыклівы, пякучы' — Лоеў. (Янкова), *жыгка́вы* прым. 'тое, што і стрыклівы' — Віл. (СПЗБ), *пяку́чы* прым. 'тое, што і стрыклівы' — Люб. (Мат. апыт.), *непяку́шчы* прым. 'які не стрыкаецца' — Навагр. (Мат. апыт.).

**Усмаліцца**

Стаць смольным, набрацца смалы.

*усмалі́цца* зак. — Стол. (ТС).

**Шалясцець**

Утвараць шолах, шум; шапацець.

*хлепята́ць* незак. — Гом. (НЛГ).

## 3.5. СЛОВЫ СА ЗНАЧЭННЕМ КОЛЕРУ, ВЕЛІЧЫНІ, ВЫГЛЯДУ РАСЛІН І ГРЫБОЎ

**Абалоністы**

Які мае тоўстую абалонку.

*абало́ністы* прым. — Іўеў., Воран., Чэрв., Стол., Жытк. (Сл. Гродз., ТС, Шатэрнік), *бало́ністы* прым. — Жытк.

(ТС), *абзо́льны* прым. — Лоеў. (Янкова), *буехава́ты* прым. — Жытк. (ТС).

**Ажэвісты**

З markerрознай прорасцю.

*ажэ́вісты* прым. — Астр. (Сл. Гродз.).

**Азадні**

Пра зерне: няякасны, дробны.

*аза́дні* прым. — Стол. (ТС).

**Асцяваты**

Пра зерне: з гірсой.

*асцява́ты* прым. — мясц. (Ластоўскі), *асцюкава́ты* прым. — Чэрв. р. (Шатэрнік), *аськава́ты* прым. — Ушацк. (НС), *асі́сты* прым. — Верхнядзв. (СПЗБ).

**Атрутны**

Які ўтрымлівае атруту; якім можна атруціцца.

*ядаві́ты* прым. — Лаг. (Варлыга).

**Бадзюлькаваты**

Які мае калючкі.

*бадзюлькава́ты* прым. — мясц. (Насовіч).

**Бадылісты**

З мноствам камельчыкаў, што застаюцца ад сцёблаў буйной травы.

*бады́лісты* прым. — Карэл. (Сл. Гродз.).

**Бахматы**

Пышны, разложысты.

*бахматы* прым. — мясц. (Ластоўскі), *валахаценькі* прым. — Хойн. (ГЧ), *купчасты* прым. — Маст., Шчуч., Гродз. (СПЗБ).

**Бацвіністы**

З добрым бацвіннем.

*бацвіністы* прым. — Шчуч. (Сл. Гродз.).

**Безгрыбоўны**

Такі, у якім няма грыбоў.

*безгрыбоўны* прым. — Мсціслю (Юрчанка).

**Безладыгі**

Пра ліст, які не мае чаранка, з вельмі кароткім чаранком.

*безладыгі* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Бузяны**

Пра ваду ў рацэ, возеры: мутна-зялёнага колеру, з вялікай колькасцю ілу.

*бузяны* прым. — Беш. (Каспяровіч).

**Буйны**

Вялікага памеру і добрай якасці (пра плады, часцей пра зерне).

*буйны* прым. — Верхнядзв., Глыб., Паст., Чэрв., Н-авагр., Іўеў., Смарг. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *бойны* прым. — Рэч. (НС), *ядраны* прым. — Лаг. (Варлыга), *ядраны* прым. — Драг. (НЛ), *ядраністы* прым. — Гом. р. (НЛГ), *ядроны*

прым. — Слон. (Мат. апыт.), *ядрысты* прым. — мясц. (Ластоўскі), *вядроны* прым. — Навагр. Зэльв., Маст. (СПЗБ), *чалавы* прым. 'пра жыта' — Браг., Воран. (Шаталава), *якарны* прым. — мясц. (Насовіч).

**Бязлузгі**

Які не мае лускі.

*бязлузгі* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Бясквєтны**

Аб раслінах, што не выпускаюць кветак, не цвітуць.

*бяскветны* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Бяскмельны**

Пра расліну, якая не мае ствала (падаецца ў якасці прыкладу папаратнік).

*бяскмельны* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Варсаваты**

З крапінкамі (пра плады).

*варсаваты* прым. — Беш. (Каспяровіч).

**Вачакаваты**

З парасткавымі вочкамі (пра бульбу).

*вачакаваты* прым. — Вілен. р. (СПЗБ).

**Вінны**

Кісла-салодкі на смак (пра яблыкі).

*вінны* прым. — Бярэз. (СЦБ).

**Воўчы**

Пра плады: неядомыя, атрутныя.

*вóўчы* прым — Леп., Слон., Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.), *ваўчыíны* прым. — Ушацк. (ЖС).

**Высокі**

Пра расліну: з доўгім і моцным ствалом ці сцяблом.

*высóкі* прым. — агульн. (Мат. апыт.), *дубцавáты* прым. — Іўеў. (Сл. Гродз.), *гóнкі* прым. 'пра высокія дрэвы ў лесе' — Чач. (Мат. апыт.).

**Вярцісты**

Пра капусту: пакручаная.

*вярцíсты* прым. — Навагр. (ЭСБМ).

**Вяцісты**

Пра суквецце аўса, канопляў: з вялікай мяцёлкай.

*вяцíсты* прым. — Мёр., Лаг. (ЖНС, СЦБ), *кунáты* прым. — Чэрв. (НЛ).

**Галавісты**

З вялікай галоўкай (пра капусту, цыбулю).

*галавíсты* прым. — Рэч. (НС).

**Галінасты**

Пра дрэва: з вялікімі і моцнымі галінамі, разрослае, з буйной кронай.

*лáпісты* прым. — Карэл., Лях., Слон. (СПЗБ, Мат. апыт.), *галінáсты* прым. — Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.), *галінясты* прым. — Гарад., Жытк., Смален. р. (Дабравольскі, НЛ, ТС), *галíсты* прым. — Жытк. (ТС), *гал-*

*ністы* прым. — Слон. (Мат. апыт.), *разгалістыя* прым. — мясц. (Ластоўскі), *галявісты* прым. — Рэч. (НС), *гамлісты* прым. — Гродз. (Сл. Гродз.), *вяцісты* прым. — Стол., Жытк., Петр. (ТС, ЭСБМ), *вяцьвісты* прым. — усх.-маг. р. (Бялькевіч, ЭСБМ), *вілаваты* прым. — Смален. р. (Дабравольскі), *вільён* м. 'эпітэт дуба ў выразе дуб-вільён' — Смален. р. (Дабравольскі), *кунаты* прым. 'галінасты, з густой пышнай кронай' — Лаг., Барыс., Пух., Чэрв. (НЛ, СЦБ, Станкевіч), *ралаваты* прым. — Лун., Стол. (ТС, Шаталава), *на ралцах*, у выразе: увесь на ралцах 'пра шматлікія разгалінаванні' — Стол. (ТС), *на дзве (тры) ралі* 'у два (тры) сукі, адгалінаванні' — Стол., Жытк. (ТС), *рассахаты* прым. 'пра шырокае дрэва з доўгімі сукамі' — Астр., Лаг. (Варлыга, Мат. Гродз.), *расахаваты* прым. 'пра дрэва з разгалінаваннем' — Стол. (ТС ), *расахаты* прым. — Ашм. (Станкевіч), *сахаты* прым. — мясц. (Ластоўскі), *разлапы* прым. — Астр. (Сл. Гродз.), *лапісты* прым. — Слон. (Мат. апыт.), *карчавы* прым. — Гродз. (Сл. Гродз.), *карчысты* прым. — Валож. (СЦБ), *галавачысты* прым. — Свісл. (Сл. Гродз.), *каранаваты* прым. 'нізкі і галінасты' — Лоеў. (Янкова), *каркалісты* прым. — Верхнядзв. (НС), *купкаваты* прым. 'з густой кронай' — Пух. (СЦБ), *кучаравы* прым. — Чач. (Мат. апыт.), *разлажысты* прым. — Навагр. (Сл. Гродз.), *разложысты* прым. — мясц. (Станкевіч), *расхілісты* прым. — Стол. (ТС), *развіслы* прым. — мясц. (Станкевіч), *разгаты* прым. — Чэрв. (Шатэрнік), *сукаваты* прым. — мясц. (Ластоўскі), *шатрасты* прым. — Гом. р. (НЛГ), *шатрысты* прым. — Дзятл. (НЛГ).

## Галоўчысты

Пра лён: з вялікай колькасцю галовак.

*галоўчысты* прым. — Стол. (ТС).

## Гірслівы

Пра збожжа: засмечанае гірсой, чорнае.

*гірслі́вы* прым. — Верхнядзв., Мядз. (СПЗБ, СЦБ), *гірсяны́* прым. — Вілен. р. (СПЗБ).

**Гонкі**

Пра дрэва з высокім роўным ствалом, які надта паволі танее да верху, а таксама пра лес, у якім растуць такія дрэвы.

*го́нкі* прым. — Лаг., Чэрв. р., Стол., Смален. р. (Дабравольскі, Варлыга, ТС, Шатэрнік), *выганя́сты* прым. — Маст. (Сл. Гродз.), *узго́ністы* прым. — Смален. р. (Дабравольскі), *падгалёністы* прым. — Смален. р. (Дабравольскі), *выно́сны* прым. — Драг., Стол., Жытк. (ТС, ЭСБМ), *вынёслы* прым. — Гродз. (Цыхун), *выно́сісты* прым. 'высокі і тонкі' — Ветк. (Мат. Гом.). *ро́ўны* прым. — Жытк. (ТС), *стро́мкі* прым. 'высокі і тонкі'— Жытк. (ТС).

**Горкі**

Які мае своеасаблівы едкі смак.

*го́ркі* прым. — пераважна агульнае (Мат. апыт.), *гарка́вы* прым. — Чач., Буда-Каш. (Мат. апыт.), *гаркі́* прым. — Маладз. (Маз.), *го́ркач* ж. 'уласцівасць горкага, горыч' — Уздз. (СЦБ), *асінава́ты* прым. — мясц. (Насовіч).

**Гургунаваты**

Пра дрэва: пакрытае жаўлакамі, наростамі.

*гургунава́ты* прым. — Стол Жытк. (ТС), *мачу́лісты* прым. — Стол., Жытк. (ТС).

**Густы**

Пра лес: з мноствам дрэў і кустоў, што шчыльна параслі адно каля аднаго; непраходны.

*густы́* прым. — агульн. (Мат. апыт.), *гусце́нны* прым. — Добр. (Мат. Гом.), *кало́даю* прысл. (у выразе: трава кало-

даю) — Жытк. (ТС), *як калóда* (у выразе: жыта (трава) як калода) — Стол. (ТС).

**Даўгалыты**

Пра грыб: на доўгай ножцы.

*даўгалы́ты* прым. — Глыб. (СПЗБ).

**Даўкі**

Які перасядае ў горле, выклікае аскому.

*дáўкі* прым. — Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт., Насовіч), *кóрсткі* прым. — мясц. (Насовіч), *сáдкі* прым. — мясц. (Насовіч), *сáдкасць* ж. — мясц. (Насовіч).

**Двайнёвы**

Пра расліну: што складаецца з дзвюх частак.

*двайнёвы* прым. — Буда-Каш., Чач. (Мат. Гом.), *двайнясты* прым. — Ветк. (Мат. Гом.).

**Драпчасты**

Шурпаты, шорсткі; з дробнымі няроўнасцямі.

*драпчáсты* прым. (*вербалóс: карá на ім драпчáстая, дзераскавáтая*) — Слон. (Мат. апыт.), *дзераскавáты* прым. — Слон. (Мат. апыт.).

**Драпчасты**

Дробненькі, з дробнымі кветачкамі.

*драпчáсты* прым. — Драг. (ЖНС).

**Дробны**

Пра плады, караняплоды: невялікага памеру, малы.

*дрóбны* прым. — агульн. (Мат. апыт.), *дрóмны* прым. — Віл. (НС).

**Дуплаваты**

Які мае дупло, пусты ў сярэдзіне (пра дрэва ці караняплод).

*дуплінáты* прым. — Бял. (НС), *дуплянáты* прым. — Мядз., Стол. (НС, ТС), *дупляня́ты* прым. — Ветк. (Мат. Гом.), *дупленявáты* прым. — Жытк. (ТС), *дупляня́сты* прым. — Стол. (ТС), *дуплíсты* прым. — Чэрв. (Шатэрнік), *дзюплíсты* прым. — мясц. (Ластоўскі). *дупля́вы* прым. — Гродз., Свісл. (Мат. Гом., Цыхун), *дуплёны* прым. 'пра бульбу' — Рэч. (Мат. Гом.), *дупля́ты* прым. — Рэч. (Мат. Гом.), *дрáблы* прым. 'пусты ў сярэдзіне (пра рэдзьку, радыску) — Лоеў. (Янкова).

**Дуплісты**

Пра качан капусты ці караняплод: мяккі, рыхлы, пуставаты.

*шуплавáты* прым. — Лід., Зэльв. (Сл. Гродз., Сцяцко), *ашóмкі* прым. — Чач. (Мат. апыт.), *шулякавáты* прым. — Стол. (ТС), *вы́шупцелы* прым. — Лоеў. (Янкова), *хлупяны́* прым. 'пра рэдзьку' — Чач. (Мат. Гом.).

**Духмяны**

Які прыемна пахне.

*духмя́ны* прым. — Сен. (Каспяровіч), *бальсáмны* прым. — мясц. (Насовіч).

**Жаўтлявы**

Жоўтага колеру.

*жаўкля́вы* прым. — Мёр., Лельч., Чач. (ЖНС, Мат. Гом.).

**Жухлы**

Пра траву, што звяла і высахла.

*жу́хлы* прым. — Гом. р. (НЛГ).

**Жывы**

Які адносіцца да жывёльнага ці расліннага свету.

*жыві́* прым. — пашыр. (Мат. апыт., Станкевіч).

**Жырны**

Цёмна-зялёны (пра траву, якая вырасла на месцы, дзе быў памёт).

*жы́рны* прым. — Вілен. р. (СПЗБ).

**Заасянелы**

Пра траву: што стаіць зялёнай да самай вясны.

*заасяне́лы* прым. — Слон. (Сл. Гродз.).

**Занорысты**

Пра бульбу: з няроўнай паверхняй, бугрысты.

*зано́рысты* прым. — Ваўк., Гродз. (Мат. Гродз., Цыхун).

**Захвослівы**

Пра дрэва з тонкай вершалінай.

*захво́слівы* прым. — Астр., Лоеў. (Мат. Гродз., Янкова), *захво́ставаты* прым. — Стол. (ТС), *захво́ставы* прым. 'пра вершаліну дрэва: закручаная, паперакручаная' — Мсцісл. (Юрчанка), *зво́дзісты* прым. — Стол. (ТС).

**Звязісты**

Пра дрэва: якое дрэнна шчапаецца.

*звя́зісты* прым. — Слон. (Мат. апыт.).

**Зеленкаваты**

Пра плады: зялёнага колеру, недаспелыя.

*зеленкава́ты* прым. — Жытк., Чач. (ТС, Мат. апыт.).

**Зелляваты**

З пустазеллем.

*зелліва́ты* прым. — Стол. (ТС).

**Злосны**

Пра лес: у якім растуць высокія і роўныя дрэвы.

*зло́сны* прым. — Малар. (НЛ).

**Зяграты**

Буйны (пра семя).

*зягра́ты* прым. — Зэльв. (Сцяцко).

**Зялёначубы**

Пра дрэва: з зялёным верхам.

*зялёначубы* прым. — Карэл. (Сл. Гродз.).

**Зялёны**

Недаспелы.

*зялёны* прым. — пашыр. (Мат. апыт.), *зе́лены* прым. — мясц. (Насовіч), *зеляня́вы* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Імшысты**

Парослы мохам.

*імшысты* прым. — Чэрв. (Станкевіч, Шатэрнік), *мшаны́* прым. — Пух. (СЦБ).

**Каласісты**

З буйным калоссем.

*каласі́сты* прым. — Лаг., Чач., Жытк. (Варлыга, ТС, Мат. апыт.), *каласён* прым. — Гом. (НЛГ), *каласавы́* прым. — Чэрв. (Станкевіч, Шатэрнік), *каласава́ты* прым. — мясц. (Ластоўскі), *кало́сны* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Камлісты**

З тоўстым камлём (пра дрэва, а таксама іншую расліну).

*камлі́сты* прым. — Астр. Чэрв. р. (Мат. Гродз.), *ко́млісты* прым. — Калінк. (Мат. Гом.), *камлява́ты* прым. — Добр. (Мат. Гом.), *закаме́лісты* прым. — Светлагор., Нар. (Мат. Гом.), *закамялі́сты* прым. — Лоеў. (Янкова), *гало́місты* прым. — мясц. (Ластоўскі), *дзядкава́ты* прым. — Хойн. (Мат. Гом.), *пні́сты* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Камяністы**

Цвёрды, падобны да костачкі.

*камяні́сты* прым. — Жытк. (ТС).

**Карабаваты**

Пра дрэва: пакрыты тоўстай растрэсканай карой.

*карабава́ты* прым. — Карэл., Слон. (Сл. Гродз., Мат. апыт.), *кара́бісты* прым. — Слон. (Мат. апыт.).

**Каравы**

Пакрыты карою, лускою, шурпаты, шорсткі.

*кара́вы* прым. — Стол. (ТС), *кары́кавы* прым. — Смален. р. (Дабравольскі), *кару́злы* прым. — Смален. р. (Дабравольскі), *кару́злы* прым. ’шурпаты (пра бульбу)’ — Лоеў. (Янкова), *бальклі́вы* ’пра бульбу: карослівая, шурпатая’ прым. — мін.-мал. г. (ЭСБМ).

### Карамзаты

Нізкарослы і крывы (пра дрэва).

*карамза́ты* прым. — Чэрв. (Шатэрнік).

### Караністы

З моцным коранем.

*карані́сты* прым. — Чэрв. (Шатэрнік), *карана́сты* прым. — Жытк. (ТС), *кака́цісты* прым. ’з багатай каранёвай сістэмай’ — Мсцісл. (Юрчанка), *какаціце́нькі* прым. памянш. — Мсцісл. (Юрчанка).

### Каржакаваты

Пра дрэва: нізкі, з тоўстым сукаватым ствалом.

*каржакава́ты* прым. — Сен., Чэрв. (Каспяровіч, Шатэрнік), *кра́жаваты* прым. — Стаўб., Стол. (ЖС, ТС), *карамза́ты* прым. — Стол., Жытк. (ТС), *карамзава́ты* прым. — Стол. (ТС), *карамзакава́ты* прым. — Жытк. (ТС), *каркалі́сты* прым. ’сукаваты, крывы’ — Верхнядзв. (СПЗБ), *каркале́сты* прым. ’сукаваты’ — Смален. р. (Дабравольскі), *карка́ты* прым. ’тое, што і каркалісты’ — Верхнядзв. (СПЗБ), *карлава́ты* прым. — Гродз., Ваўк. (СПЗБ), *карна́ты* прым. ’прысадзісты’ — Лід. (СПЗБ).

### Карчысты

Які расце гронкамі.

*карчы́сты* прым. — Лун. (ЛАБНГ).

**Касаты**

Пра дрэва: калі галіны абвісаюць на дол.

*каса́ты* прым. — Лаг. (ЭСБМ).

**Кастрывы**

З прымессю кастрыцы.

*кастры́вы* прым. — Чэрв. (Шатэрнік), *кайстры́вы* прым. — Чэрв., Лоеў. (Станкевіч, Янкова).

**Качаністы**

З вялікім качаном.

*кача́ністы* прым. — Ваўк., Гл. (Сл. Гродз., СПЗБ).

**Квяцісты**

З вялікай колькасцю кветак; з буйнымі кветкамі.

*квяці́сты* прым. — мясц. (Ластоўскі), *кваці́сты* прым. 'пра расліну, кветкі якой складаюцца з кветкавых лісткоў' — Лаг. (ЭСБМ).

**Кілаты**

Пра капусту: з нарастамі на карэнні.

*кіла́ты* прым. — Рас. (Шаталава), *кілава́ты* прым. — Лун. (Шаталава).

**Кіслы**

Пра плод: які мае своеасаблівы смак, падобны да смаку недаспелага яблыка.

*кі́слы* прым. — пашыр. (Мат. апыт., Станкевіч), *кіслʼя́вы* прым. — мясц. (Станкевіч), *кіслʼя́васць* ж. 'якасць кіслага, кіслінка' — мясц. (Станкевіч).

**Кромлены**

Раскідзісты; са спілаванай ці зламанай вершалінай (пра дрэва).

*кро́млены* прым. — Стол. (ТС), *укро́місты* прым. — Жытк. (ТС).

**Крутасты**

Пра капусту: пакручаная.

*крута́сты* прым. — Пруж., Кобр., Пін. (ЭСБМ), *круцёсты* прым. — Навагр. (ЭСБМ).

**Круты**

Пра дрэва з няроўнымі, перавітымі слаямі, якое цяжка шчапаецца.

*круты́* прым. — Жытк., Драг. (ТС), *кру́чаны* прым. — Пух. (СЦБ), *пакару́чаны* прым. — Стол., Жытк. (ТС), *візава́ты* прым. — Лаг. (ЭСБМ), *начо́савы* прым. 'пакручасты, з няроўнымі слаямі' — Стол. (ТС), *паві́ты* прым. — Жытк. (ТС), *паво́рысты* прым. — Бяроз. (ЛАБНГ), *сувярто́чысты* прым. — мясц. (Насовіч).

**Крывы**

Пра дрэва: з крывым ствалом.

*крывы́* прым. — пераважна агульн. (Мат. апыт.), *карамка́ты* прым. — Малар. (НЛ), *каракава́ты* прым. — Стол. (ТС), *карачава́ты* прым., *карачу́наваты* прым. — мясц. (ЭСБМ), *украмава́ты* прым. — Жытк. (Мат. Гом.), *укро́місты* прым. — Светлагор. (Мат. Гом.).

**Кусцісты**

Які разрастаецца кустом, мае шмат парасткаў.

*кусцíсты* прым. — Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.), *карчы́сты* прым. — Гл. (Янкоўскі), *карчавáты* прым. 'прысадзісты, кусцісты' — Жытк., Стол. (ТС), *каракавáты* прым. — Стол. (ТС), *ралясты* прым. 'кусцісты шматпарасткавы' — Жытк. (ТС).

**Ламбукаваты**

Таўставаты, грубаваты (пра сцяблы).

*ламбукавáты* прым. — Карэл. (СПЗБ).

**Лапушысты**

Пра ліст: вялікі, шырокі, падобны на лісце лопуху.

*лапушы́сты* прым. — Віл., Мсцісл., Жытк. (З нар. сл., СПЗБ, ТС), *лапушны́* прым. — Жытк. (ТС), *лапухавáты* прым. — Жытк. (ТС), *лапáты* прым. — Кам. (СПЗБ), *расклáдзісты* прым. — Стол. (ТС).

**Лекавы**

Які выкарыстоўваецца ў леках, якім можна лячыць якія-небудзь хваробы (пра расліны).

*гаю́чы* прым. — Гродз. (Мат. Гродз.), *памóцны* прым. — Гродз. (Сл. Гродз.).

**Ліпаваты**

Мяккі (пра драўніну).

*ліпавáты* прым. — Стол. (ТС).

**Лясісты**

Які парос лесам.

*лясíсты* прым. — мясц. (Ластоўскі), *палéсісты* прым. — мясц. (Станкевіч).

**Магутны**

Пра стары лес, у якім растуць вялікія дрэвы.

*магу́тны* прым. — Віц. р. (Каспяровіч).

**Малады**

Які нядаўна вырас, свежы (пра гародніну).

*малады́* прым. — Віц. р., паўн.-зах. з., Чэрв. р., усх-маг. р., Лоеў. (ЭСБМ).

**Махнаты**

З густой ігліцай.

*махна́ты* прым. — Іўеў., Лаг. (ЭСБМ).

**Махрысты**

З мноствам махроў, дробных карэньчыкаў.

*махры́сты* прым. — Петр. (Шаталава).

**Мяккакоры**

Пра плады: з мяккай скуркай.

*мяккако́ры* прым. — Стол. (ТС).

**Наворысты**

Пахілы, нахілены (пра дрэва).

*наво́рысты* прым. — Жытк. (ТС).

**Нарыцаваты**

Пра караняплоды: з чарваточынай.

*нары́цаваты* прым. — Стол. (ТС).

**Ніцы**

Нізкі, паніклы (звычайна пра дрэва).

*ніцы* прым. — паўн.-зах. з., Віц. р., Пін. (СПЗБ, ЭСБМ).

**Падгалы**

Пра дрэва: з доўгім ствалом без галін знізу.

*падгáлы* прым. — Лаг., Нараўл., Ашм. (Варлыга, Мат. Гом.), *падгáлісты* прым. — Стол. (ТС).

**Поўны**

Пра насенне: дабраякасны.

*пóўны* прым. — Ашм., Лоеў. (Янкова, Мат. мін.-мал.).

**Праставерхі**

Пра дрэва: з прамым верхам.

*праставéрхі* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Пульхнаваты**

Мяккі, быццам надзьмуты, пухлы.

*пухавáты* прым. — Стол. (ТС).

**Пупышкавы**

Які мае шмат пупышак.

*струплівы* прым. — Люб. (ЖНС).

**Пусты**

Недабраякасны (пра насенне).

*пусты́* прым. — Лоеў. (Янкова), *няпэ́ўны* прым. — Уздз. (Мат. мін.-мал.).

**Разнабокі**

Пра кавун: неаднолькавага колеру; недазрэлы.

*разнабóкі* прым. — зах.-бран. р. (Растаргуеў).

**Расісты**

Пра авёс: з вялікай мяцёлкай.

*расíсты* прым. — Мсцісл. (З нар. сл.).

**Раскідзіста**

Пра рост кораня: шырока ў бакі і неглыбока, блізка да паверхні.

*расклéіста* прысл. — Стол. (Мат. апыт.)

**Рослікавы**

Пра збожжа: у якім многа спарынні.

*рóслікавы* прым. — Браг. (ГЧ).

**Руністы**

Пра ўсходы збожжа: кусцісты, разрослы.

*руністы* прым. — мясц. (Насовіч, Станкевіч).

**Рэдкі**

Пра пасевы збожжавых.

*рэ́дкі* прым. — агульн. (Мат. апыт.), *пахаджáлы* прым. — Чав. (НС), *чэ́злы* прым. 'пра лес, у якім дрэвы параслі далёка адно ад аднаго' — Карэл. (Мат. Гродз.).

**Сакавіты**

Які ўтрымлівае многа соку.

*сакавíты* прым. — Ашм., Слуц. (Станкевіч), *сакавы́* прым. — Ашм., Слуц. (Станкевіч), *сакаўны́* прым. — Ашм., Слуц. (Станкевіч), *асóтлівы* прым. — Чэрв. (Шатэрнік), *сядзёрысты* прым. — Пол., Леп., Барыс. (Станкевіч).

**Семенны**

Поўны спелага семя.

*се́менны* прым. — мясц. (Насовіч, Станкевіч).

**Слаісты**

*слаява́ты* прым. — Жытк. (ТС), *хлапава́ты* прым. 'буйна слаісты, мяккі на буйных слаях (пра хваёвае дрэва) ' — мясц. (Насовіч).

**Смалісты**

Які ўтрымлівае смалу, насычаны смалой (пра дрэва).

*смалóвы* прым. — усх.-маг. р. (Бялькевіч), *смóлны* прым. — Жытк. (ТС), *смóльны* прым. — Чэрв. (Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік), *смóлкі* прым. — мясц. (Станкевіч), *сма́льны* прым., *смаляны́* прым. — мясц. (Насовіч), *укрэ́ністы* прым. — Рас. (Шаталава).

**Сопкі**

Рассыпісты, з рыхлай мякаццю; маласакаўны, але мяккі (пра плады).

*сóпкі* прым. — Брасл., Чэрв. (Ластоўскі, Станкевіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *сóпкасць* ж. 'уласцівасць сопкага' — мясц. (Ластоўскі).

**Спічасты**

Пра дрэва: з вострай і тонкай вяршыняй, вастраверхае.

*мышахвóсты* прым. — Дзятл. (Мат. Гродз.).

**Старакоры**

З застарэлай карой.

*старакóры* прым. — Стол. (ТС).

**Стары**

Пра дрэва, што расце многа гадоў.

*стары́* прым. — агульн. (Мат. апыт.), *дравя́ны* прым. — Чач. (Мат. Гом.).

**Стаўбурны**

Які мае кветканоснае сцябло, стаўбур, стрэлку (пра травяністыя расліны).

*стаўбу́рны* прым. — Маз. (ГЧ).

**Стручны**

У якім многа струкоў.

*стручны́* прым. — Ашм. (Станкевіч), *стручы́сты* прым. — Мядз. (НС), *стручáны* прым. — Тал. (Шаталава), *стру́чны* прым. 'з мноствам ягад' — Бяроз. (Шаталава).

**Стрыжнёвы**

Які мае тоўстую сярэдзіну, стрыжань.

*стрыжнёвы* прым. — Стол. (ТС), *стрыжнявáты* прым. — Стол. (ТС).

**Сукаваты**

З мноствам сукоў.

*сукавáты* прым. — Слон., Мсцісл., Чач., Жлоб., Буда-Каш., Стол. (ТС, Мат. апыт.), *сукáты* прым. — Віц. р., зах.-бран. р. (Каспяровіч, Растаргуеў, Насовіч), *сукалéнны* прым., *сукалéнчаты* прым. — мясц. (Насовіч), *павівáсты*

прым. — Лоеў., Браг. (Мат. Гом.). *ражнава́ты* прым. — Свісл. (Сл. Гродз.).

**Сцяблісты**

Выносісты, з высокім моцным сцяблом.

*сцяблі́сты* прым. — Чашн., Навагр., Зэльв. (Каспяровіч, Мат. Гродз., СПЗБ, Станкевіч), *сцеблава́ты* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Сыры**

Які ўтрымлівае многа вільгаці.

*глейкава́ты* прым. — Ваўк. (Сл. Гродз.).

**Травяністы**

Які мае ўласцівасці травы.

*траўляны́* прым. — Стол. (НЛ).

**Траўлівы**

На якім добра расце трава.

*траўлі́вы* прым. — Ашм. (Станкевіч).

**Цвёрды**

Пра дрэва: з плотнай драўнінай.

*лубава́ты* прым. — Чэрв. (Шатэрнік).

**Цягучы**

Пра смалу.

*расцяга́ты* прым. — Слон. (Мат. апыт.).

**Шырматы**

Шырокі і круглы, пляскаты (пра зерне сачавіцы).

*шырма́ты* прым. — Драг. (НЛ).

**Шышкаваты**

Пра рабіну, пакрытую гронкамі ягад.

*шышкава́ты* прым. — Слон. (Мат. апыт.).

**Ядраны**

Наліты сокам, жыццёвай сілай, добра развіты.

*я́драны* прым. — Чач. (Мат. апыт.).

**Яркі**

Які добра шчапаецца (пра дрэва).

*я́ркі* прым. — Лаг. (Варлыга), *ске́пісты* прым. — мясц. (Насовіч, Станкевіч).

## НАЗВЫ КОЛЕРАЎ ПАВОДЛЕ НАЗВАЎ РАСЛІН

**Аранжавы**

Падобны да колеру апельсінаў.

*арэ́шкавы* прым. 'светла-аранжавы' — Карэл. (Сл. Гродз.), *баркО́ўны* прым. 'аранжавы, маркоўны' — Іўеў. (Сл. Гродз.), *памара́нчавы* прым. — Карэл. (Сл. Гродз.).

**Бэзавы**

Бледна-ліловы, колеру бэзу.

*базо́вы* прым., *бэзальто́вы* прым. — Астр. (Сл. Гродз.), *бузко́вы* прым. — зах.-бран. р.(Растаргуеў).

**Зялёны**

Колеру травы, зелені.

*зелянцо́вы* прым. ’светла-зялёны, пад колер маладой травы’ — Шчуч. (Сл. Гродз.), *малашча́вы* прым. ’ярка-зялёны, пра лісце на агурках)’ — Свісл. (Сл. Гродз.), *муравы́* прым., *мураўцо́вы* прым. ’светла-зялёны’ — Іўеў. (Сл. Гродз.), *махо́вы* прым., *мо́хавы* прым. ’які мае колер моху’ — Лід., Іўеў. (Сл. Гродз.).

**Канапляністы**

Колеру канапель.

*канапля́ністы* прым. — Мсцісл. (Бялькевіч), *канапе́лісты* прым. — мясц. (Станкевіч).

**Карычневы**

Буравата-жоўты, колеру жолуда або карыцы.

*баравіко́вы* прым. ’цёмна-карычневы, колеру шапачкі баравіка’ — Ашм. (СПЗБ), *табачко́вы* прым. ’зеленавата-карычневы, колеру тытуню’ — Беластоц. р., Ашм., Гродз., Ваўк. (СПЗБ, Насовіч, Сцяшковіч, Цыхун), *таба́чны* прым. — Рэч., Гом., Лоеў. (Мат. Гом.).

## 3.6. СЛОВЫ СА ЗНАЧЭННЕМ ПРЫКМЕТЫ ПАВОДЛЕ РОДАЎ І ВІДАЎ РАСЛІН, ІХ ЧАСТАК І ОРГАНАЎ

**Агрэставы**

Які адносіцца да агрэсту.

*а́грэ́ставы* прым. — мясц. (Ластоўскі, Насовіч), *я́груса-вы* прым. — Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.).

**Агурочны**

Які мае адносіны да агуркоў.

*агурко́вы* прым. — Чэрв. (Шатэрнік), *гурко́вы* прым. — мясц. (Насовіч), *гуро́чны* прым. 'зроблены з агуркоў' — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *гурэ́шны* прым. — мясц. (Насовіч).

**Аеравы**

Які адносіцца да аеру, уласцівы яму.

*ае́равы* прым. — Навагр., Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.), *яе́равы* прым. — мясц. (Насовіч), *я́варавы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Ажынавы**

Які адносіцца да ажыны.

*ажы́навы* прым. — мясц. (Насовіч), *жаві́навы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Альховы**

Які адносіцца да альхі.

*альхо́вы* прым. — Навагр., Чэрв., Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Ластоўскі, Шатэрнік, Мат. апыт.), *але́хавы* прым., *але́шневы* прым. — Чэрв. (Шатэрнік).

**Альясавы**

Які адносіцца да альясу.

*амо́савы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Арэхавы**

Які адносіцца да арэха.

*арэ́хавы* прым. — мясц. (Ластоўскі), *гарэ́хавы* прым. — Лід. (СПЗБ), *арэ́шневы* прым. — Чэрв. (Шатэрнік), *ляско́вы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Асінавы**

Які адносіцца да асіны.

*асі́навы* прым. — Леп., Слон., Чэрв., Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Шатэрнік, Мат. апыт.).

**Аўсюговы**

Які адносіцца да аўсюга.

*аўсюго́вы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Аўсяны**

Які адносіцца да аўса.

*аўся́ны* прым. — Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.).

**Бабовы**

Які мае адносіны да бобу.

*бабо́вы* прым. — Стол., Буда-Каш., Чач. (ТС, Мат. апыт.).

**Бадзяковы**

Які мае адносіны да бадзяку.

*бадако́вы* прым. — Ваўк. (Сл. Гродз.).

**Балотны**

Які расце ў балоце.

*бало́тны* прым. — асн. мас. г. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *бало́тні* прым. — зах. з. (ЛАБНГ), *бало́тлівы* прым. — Паням. р., Асіп., Мядз. (ЛАБНГ, ЖС), *балатавы́* прым. — Віл. (СПЗБ), *балацця́ны* прым. — Мёр., Валож., Чэрв., Пух. (ЛАБНГ), *балацяны́* прым. — Іван., Драг. (ЛАБНГ), *бало́цяны* прым. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ, З нар. сл.), *бало́цісты* прым. — Дзятл., Нараўл. (ЛАБНГ), *ба́гнавы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Бальзамінавы**

Які адносіцца да бальзаміну.

*бальзаме́нкавы* прым. — Буда-Каш. (Мат. Гом.).

**Баравіковы**

Які адносіцца да баравіка.

*баравіко́вы* прым. — Чэрв. (Шатэрнік).

**Баравы**

Які расце ў бары.

*баравы́* прым. — Чэрв., Бярэз., Жытк., Стол., Лоеў. (СЦБ , ТС, Шатэрнік, Янкова, Мат. апыт.).

**Баршчэўнікавы**

Які адносіцца да баршчэўніку.

*баршчо́вы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Берасцяны**

Зроблены з бярозавай кары.

*берасця́ны* прым. — Чашн., Жытк. (Каспяровіч, ТС), *бяро́ставы* прым. — Чэрв. (Шатэрнік).

**Бружмелевы**

Які адносіцца да бружмелю.

*бружме́левы* прым. — мясц. (Насовіч), *жы́ламатны* прым. — Мсцісл. (Насовіч, Юрчанка).

**Бруснічны**

Які мае адносіны да брусніц.

*брусні́чны* прым. — Іўеў. (Мат. Гродз.).

**Бручкавы**

Які адносіцца да бручкі.

*бручко́вы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Бузіновы**

Які адносіцца да бузіны.

*бзо́вы* прым., *бэ́завы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Бульбяны**

Які адносіцца да бульбы.

*бульбяны́* прым. — Лёзн., Жлоб., Буда-Каш., Чач., зах.-бран. р. (Каспяровіч, Ластоўскі, Насовіч, Растаргуеў, Мат. апыт.), *бульбавы́* прым., *бульба́вы* прым., *бульбо́вы* прым., *бульбо́венькі* прым. — Мсцісл. (Юрчанка), *бу́льбіны* прым. — Леп. (Мат. апыт.), *картапля́ны* прым. — Калінк., Барыс., Жытк., Лоеў. (СПЗБ, ТС, Янкова), *картафля́ны* прым. — Рэч. (Мат. Гом.), *картахля́ны* прым. — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *картафлёвы* прым. — Ваўк. (СПЗБ).

**Бураковы**

Які адносіцца да бурака.

*буракóвы* прым. — Жлоб., Буда-Каш., Чач., Стол., зах.-бран. р. (ТС, Насовіч, Растаргуеў, Мат. апыт.), *баракóвы* прым. — Мсцісл. (Юрчанка), *бурачкóвы* прым. — мясц. (Насовіч), *бурáчны* прым. — Смален. р. (Дабравольскі).

**Буяковы**

Які адносіцца да буякоў.

*буя́шны* прым. — Буда-Каш., Светлагор., Ветк., Лельч. (Мат. Гом.), *дурні́чны* прым. — Раг., Чач. (Мат. Гом.).

**Бэзавы**

Які адносіцца да бэзу.

*бэ́завы* прым., *бзóвы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Бярозавы**

Які адносіцца да бярозы.

*бярóзавы* прым. — Леп., Чэрв., Слон., Жлоб., Буда-Каш., Чач., Стол., Смален. р. (Шатэрнік), *берастóвы* прым. — Лоеў. (Янкова), *чачóткавы* прым. 'зроблены з карэльскай бярозы' — мясц. (Насовіч).

**Валяр'янавы**

Які адносіцца да валяр'яну.

*валяр'я́навы* прым. — Слон. (Мат. апыт.).

**Васільковы**

Які адносіцца да васілька.

*васількóвы* прым. — Воран., Смален. р. (Дабравольскі, Мат. Гродз.).

**Верасовы**

Які адносіцца да верасу.

*верасо́вы* прым. — Віл. (СПЗБ), *вераско́вы* прым. — Пух., Стол. (СПЗБ, ТС).

**Вербалозавы**

Які адносіцца да вербалозу.

*берало́завы* прым. — Стол. (ТС).

**Вікавы**

Які мае адносіны да вікі.

*вы́кавы* прым. — Чэрв. (СЦБ), *выко́вы* прым. — Мсцісл. (Юрчанка), *віча́ны* прым. — Віл. (СЦБ).

**Вішнёвы**

Які адносіцца да вішні.

*вінёвы* прым. — Леп., Слаўг., Жлоб., Буда-Каш., Чач., Жытк., Стол. (ТС, ГЧ, Мат. апыт.), *вішнёвенькі* прым. — Жытк., Стол., Чач. (ТС, Мат. апыт.).

**Вязавы**

Які мае адносіны да вязу.

*вязо́вы* прым. — Стол. (ТС), *берасто́вы* прым. 'які адносіцца да ільмы, разнавіднасці вяза' — Драг., Стол. (ТС, Мат. апыт.), *лямо́вы* прым. 'тое, што і берастовы' — Брасл. (СПЗБ).

**Вярбовы**

Які адносіцца да вярбы.

*ве́рбны* прым. — Чэрв., Смален. р. (Дабравольскі, Шатэрнік), *ве́рбны* прым. 'у спалучэннях тыпу вербная нядзеля, вербны тыдзень' — Жытк. (ТС), *вярбо́вы* прым. — Чэрв. (Шатэрнік), *вятло́вы* прым. — Стол., Жытк. (ТС).

**Гарбузовы**

Якi адносiцца да гарбуза.

*гарбузо́вы* прым. — Верхнядзв., Вiлен. р., Сен., Жлоб., Буда-Каш., Чач., зах.-бран. р. (СПЗБ, Каспяровiч, Насовiч, Растаргуеў, Шаталава, Мат. апыт.), *гарбузі́ны* прым., *гарбузя́ны* прым. — Жытк. (ТС).

**Гарохавы**

Якi адносiцца да гароху.

*гаро́хавы* прым. — Брасл., Паст., Воран., Астр., Леп., Слон., Навагр., Краснап., Буда-Каш., Чач. (Бялькевiч, Мат. Гродз., СПЗБ, Мат. апыт.), *аро́хавы* прым. — мясц. (СПЗБ), *аро́шаны* прым. — мясц. (СПЗБ), *гарахвя́ны* прым. — Жытк. (ТС).

**Гваздзiчны**

Якi адносiцца да гваздзiкi.

*гваздзі́кавы* прым. — мясц. (Насовiч).

**Грабавы**

Якi адносiцца да граба.

*грабо́вы* прым. — Свiсл., Жытк. (СПЗБ, ТС).

**Грачаны**

Якi мае адносiны да грэчкi.

*грача́ны* прым. — Стол., Лоеў. (ТС, Янкова), *грача́нны* прым. — Кам. (СПЗБ), *грэ́чаны* прым. — Стол. (ТС), *грэ́чанны* прым. — Кам. (СПЗБ), *грыча́ны* прым. — мясц. (Ластоўскi), *грэ́цкі* прым. — Чашн., Чэрв., Навагр., Дзятл., Жытк., Смален. р. (СПЗБ, ТС, Дабравольскi, Мат. Гродз.), *грацко́вы* прым. — Лаг., Мсцiсл. (СПЗБ, Юрчанка), *гра-*

*чы́шны* прым. — Сен., Мсцісл., Смален. р. (Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Юрчанка), *грачы́чны* прым. — Круп. (СЦБ), *грэ́чневы* прым. — Пух. (СЦБ), *грэ́чні* прым. — Докш. (СПЗБ).

**Грыбны**

Які мае адносіны да грыбоў.

*грыбны́* прым. — агульн. (СПЗБ, Мат. апыт.), *грыбо́вы* прым. — Свісл. (СПЗБ).

**Двойчаты**

Які належыць да двух сартоў.

*дво́йчаты* прым. — мясц. (Насовіч).

**Дзівасільны**

Які мае адносіны да дзівасілу.

*дзевяцьсі́льны* прым. — Лоеў. (Мат. Гом.).

**Драўляны**

Які адносіцца да дрэва, зроблены з дрэва.

*драўля́ны* прым., *драўля́сты* прым., *драўля́ністы* прым. — мясц. (Ластоўскі), *дзераўля́ны* прым. — Жытк. (ТС), *дзяр-вя́ны* прым. — Леп. (Мат. апыт.).

**Дубовы**

Які адносіцца да дуба.

*дубо́вы* прым. — Леп., Слон., Навагр., Хоц., Клім., Мсцісл., Жлоб., Буда-Каш., Чач., Жытк., Нараўл., Смален. р. (ТС, Бялькевіч, ГЧ, Мат. апыт., Дабравольскі, Юрчанка).

**Жалудовы**

Які адносіцца да жолуда, жалудоў.

*жалудо́вы* прым. — Брасл., Стол., Жытк. (СПЗБ, ТС), *жалудзёвы* прым., *жалу́дзевы* прым. — Стол., Жытк. (ТС). *жалу́дны* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Журавінавы**

Які адносіцца да журавін.

*жураві́навы* прым. — Віц. р. (Каспяровіч), *жураві́нны* прым. — мясц. (Ластоўскі, Насовіч, Станкевіч).

**Жытнёвы**

Які адносіцца да жыта.

*жытні́* прым., *жы́тны* прым. — Паст., Ашм., Віл., Лаг., Чэрв., Шчуч., Кам., Чач., Стол., Жытк., Маз., Лоеў, Вілен. р. (СПЗБ, ТС, Варлыга, ГЧ, Ластоўскі, Насовіч, Сл. Гродз., Станкевіч, СЦБ, Мат. апыт.), *жытняны́* прым. 'зроблены з жыта' — зах.-бран. р. (Растаргуеў), *аржаны́* прым. — Верхнядзв., Чэрв., Навагр., зах.-бран. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Насовіч, Растаргуеў, Шатэрнік), *ржаны́* прым. — Жытк. (ТС), *іржаны́* прым. — мясц. (Станкевіч).

**Зяберны**

Які адносіцца да зябру.

*зя́берны* прым. — мясц. (Насовіч).

**Івавы**

Які адносіцца да івы.

*і́вавы* прым. — Мсцісл. (Юрчанка), *яво́равы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Ільняны**

Які адносіцца да льну.

*ільняны́* прым., *ілля́ны* прым. — Верхнядзв., Глыб., Докш., Рас., Ашм., Жытк., Стол., Лоеў. (СПЗБ, ТС, Варлыга, Ластоўскі, Станкевіч, Янкова), *ільны́* прым. — мясц. (Ластоўскі), *альня́ны* прым. — Сен., Мсцісл. (Каспяровіч, Юрчанка), *алля́ны* прым. — Мсцісл., Слаўг., Ветк., Гом., Лоеў., Смален. р. (ГЧ, Дабравольскі, Мат. Гом., Насовіч, Юрчанка, Янкова), *алляне́нькі* прым. — Мсцісл. (Юрчанка), *лляны́* прым. — Рэч., Ветк. (Мат. Гом.), *ля́ны* прым. — Маладз., Навагр. (ЖС, Мат. Гродз.), *льня́ны* прым. — Слон., Смален. р. (Дабравольскі, Мат. Гродз.).

**Імховы**

Які адносіцца да імху.

*імхо́вы* прым. — мясц. (Ластоўскі), *імхавы́* прым. — Чэрв. (СПЗБ), *імшаны́* прым. — Чэрв. (СПЗБ), *мо́хавы* прым. — Стол. (ТС).

**Калінавы**

Які адносіцца да каліны.

*калі́навы* прым. — Верхнядзв., Ганц., Клім., Смален. р. (СПЗБ, Бялькевіч, Дабравольскі).

**Калуферавы**

Які адносіцца да калуферу.

*калу́феравы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Канапляны**

Які адносіцца да канапель.

*канапля́ны* прым. — Шчуч., Жлоб., Буда-Каш., Чач., Стол. (СПЗБ, ТС, Бялькевіч, Мат. апыт.), *канаплі́ны* прым. — Вілен. р. (СПЗБ), *калапля́ны* прым. — Верхнядзв., Глыб., Паст., Смарг. (СПЗБ), *калапня́ны* прым. — мясц. (Насовіч), *кано́пны* прым. — Ваўк., Свісл., Маст. (СПЗБ, Ластоўскі), *кано́пісты* прым. — мясц. (Ластоўскі), *пласко́нны* прым. — Чэрв. (Насовіч, Шатэрнік).

**Капусны**

Які адносіцца да капусты.

*капу́сны* прым. — Вілен. р. (СПЗБ), *капусця́ны* прым. — Астр., Іўеў., Вілен. р. (СПЗБ).

**Кармавы**

Звычайна пра бурак: які ідзе на корм свінням, каровам.

*быдля́чы* прым. — Мядз. (Мат. мін.-мал.).

**Кіпарысавы**

Які адносіцца да кіпарысу.

*кіпрысо́вы* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Кляновы**

Які адносіцца да клёна.

*кляно́вы* прым. — Астр., Леп., Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Ластоўскі, Мат. Гродз., Мат. апыт.).

**Кменны**

Які адносіцца да кмену.

*кме́нны* прым. — мясц. (Станкевіч), *кмі́нны* прым. — Мсцісл. (Насовіч, Юрчанка), *кмяно́вы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Крушынавы**

Які мае адносіны да крушыны.

*крушы́навы* прым. — Мсцісл. (Бялькевіч), *крушыно́вы* прым. — Слон. (Мат. апыт.), *крухо́вы* прым. — Жытк. (ТС).

**Кукурузны**

Які мае адносіны да кукурузы.

*кукуру́зны* прым. — Рас. (Шаталава), *кіяхо́вы* прым. — Жытк., Браг. (Мат. Гом., ТС), *кія́шны* прым. — Гом. р. (НЛГ).

**Кустовы**

Які мае адносіны да куста.

*кусто́вы* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Лазовы**

Які мае адносіны да лазы.

*лазо́вы* прым. — Паст., Смарг., Леп., Слон., Навагр., Жлоб., Буда-Каш., Чач., Драг., Стол., Смален. р. (СПЗБ, ТС, Дабравольскі, Мат. Гродз., Мат. апыт.), *лазяны́* прым. — Лоеў. (Янкова), *жылбуцёвы* прым. — Воран. (СПЗБ), *жылвіцёвы* прым., *жылгуцёў* прым. — Вілен. р. (СПЗБ), *шыльго́вы* прым. — Браг. (Мат. Гом.).

**Лаўровы**

Які мае адносіны лаўра.

*арло́вы* прым. — зах.-бран. р. (Растаргуеў).

**Лілейны**

Які мае адносіны да лілеі.

*ліле́йны* прым. — Буда-Каш. (Мат. Гом.).

**Лімонавы**

Які адносіцца да лімона, уласцівы яму.

*цытрынóвы* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Ліпавы**

Які мае адносіны да ліпы.

*ліпавы* прым., *ліпóвы* прым. — паўн.-зах. з., Жлоб., Рэч., Чач., Буда-Каш., Стол., Жытк. (Мат. Гом., Мат. Гродз., СПЗБ, ТС, Мат. апыт.), *лýтавы* прым. — Браг., Чач. (Шаталава, Мат. апыт.).

**Лісцвяны, лісцёвы, лісцяны**

Які мае адносіны да лісця, які мае лісце, з лістамі.

*лісцёвы* прым. — Глыб. (СПЗБ), *лісцявы́* прым. — Ветк. (Мат. Гом.), *лісця́сты* прым. — Астр., Вілен. р. (СПЗБ), *лісцявáты* прым. — мясц. (Ластоўскі), *ліставы́* прым. — Віл., Лід., Вілен. р. (СПЗБ).

**Лубінавы**

Які мае адносіны да лубіну.

*ліпінскі* прым. — Вілен. р. (СПЗБ).

**Лубяны**

Які мае адносіны да лубу, зроблены з яго.

*лубя́ны* прым. — Чэрв. р. (Шатэрнік).

**Лугавы**

Які мае адносіны да лугу, расце на ім; сенажатны.

*лугавы́* прым. — Жытк. (ТС).

**Лыкавы**

Які мае адносіны да лыку, зроблены з лыку.

*лыко́вы* прым. — Чэрв. р. (Станкевіч, Шатэрнік).

**Лясны**

Які мае адносіны да лесу.

*лясны́* прым. — Брасл., Вілен. р., Віл., Гродз., Леп., Буда-Каш., Чач., Смален. р., Жлоб. (Дабравольскі, СПЗБ, Мат. апыт.), *лесавы́* прым. — Глыб., Пух., Воран., Гл., Светлагор., Добр., Буда-Каш., Стол., Жытк., Лельч., Лоеў. (Мат. Гом., Мат. Гродз., СПЗБ, ТС, Янкоўскі), *лясо́вы* прым. — Стол., Жытк. (ТС).

**Ляшчынавы**

Які мае адносіны да ляшчыны.

*ляшчыно́вы* прым. — Астр. (СПЗБ), *ляшчы́нны* прым. — Краснап. (Бялькевіч, Станкевіч), *ляско́вы* прым. — Слуц. (СПЗБ), *ляско́ўны* прым. — Зэльв. (Шаталава).

**Майранавы**

Які адносіцца да майрану.

*майрано́вы* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Макавы**

Які адносіцца да маку.

*ма́кавы* прым. — Леп., Слон., Дзятл., Навагр., усх.-маг. р., Жлоб., Буда-Каш., Чач., Жытк. (ТС, Мат. Гродз., Бялькевіч, Ластоўскі, Станкевіч, Мат. апыт.).

**Малінавы**

Які адносіцца да малін.

*малінавы* прым. — пашыр. (ГЧ, Ластоўскі, Станкевіч, Мат. апыт.).

**Маркоўны**

Які адносіцца да морквы.

*маркóўны* прым. — Лоеў. (Янкова).

**Марэнавы**

Які мае адносіны да марэны, атрыманы з карэнняў марэны.

*прыстрэ́чны* прым. — Стол. (ТС).

**Міндальны**

Які адносіцца да міндалю.

*мігдалóвы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Мурожны**

Які адносіцца да мурагу, лугавой травы, мае яе якасці.

*мурóжны* прым. — Віц. р., Беластоц. р. (СПЗБ, Бяльекевіч, Каспяровіч, Ластоўскі, Насовіч, Станкевіч).

**Мускатны**

Які адносіцца да мускату.

*мушкатóвы* прым. — мясц. (Ластоўскі, Насовіч).

**Насенны**

Які адносіцца да насення.

*насéнны* прым. — Чэрв. р., Жытк. (ТС, Ластоўскі, Шатэрнік), *сéменны* прым. — мясц. (Ластоўскі), *семянны́* прым. — Мсцісл., Зэльв., Дзятл., Жлоб., Буда-Каш., Жытк. (ТС, Мат. Гродз., Юрчанка, Мат. апыт.).

**Пагніўны**

Які можа расці толькі ў вільготных месцах.

*пагніўны* прым. — Кам. (ЖНС).

**Палыновы**

Які адносіцца да палыну.

*палы́навы* прым. — Круп., Маладз. (СЦБ).

**Палявы**

Які расце ў полі.

*пальны́* прым. — Мёр. (ЖНС), *паляны́* прым. — Зэльв. (ЖС).

**Папаратнікавы**

Які адносіцца да папараці.

*папаратніко́вы* прым. — Смал. (СЦБ), *па́паратны* прым. — Буда-Каш. (Мат. Гом.).

**Парэчкавы**

Які мае адносіны да парэчак.

*парэ́чкавы* прым. — Астр., Жлоб., Буда-Каш., Чач. (Мат. Гродз., Насовіч, Мат. апыт.), *смуро́давы* прым. — Гом. р. (НЛГ).

**Прасяны**

Які адносіцца да проса.

*прася́ны* прым. — Дзятл., Смален. р. (Дабравольскі, Мат. Гродз.), *прcraся́ны* прым. — Воран. (Мат. Гродз.), *прася́начны* прым. — Кам. (СПЗБ), *пшаня́ны* прым. — Стол. (ТС).

**Пушчавы**

Які адносіцца да пушчы, расце ў ёй.

*пу́шчавы* прым. — Светлагор. (Мат. Гом.).

**Пшанічны**

Які адносіцца да пшаніцы.

*пшані́чны* прым. — Віц. р., усх.-маг. р., Паст., Чэрв., Ганц., Кам., Жлоб., Чач., Буда-Каш., Стол., Лоеў, Вілен. р. (СПЗБ, Бялькевіч, Каспяровіч, Ластоўскі, ТС, Янкова, Мат. апыт.), *пшані́чні* прым. — Стол. (ТС), *пашані́чны* прым. — Смален. р. (Дабравольскі), *пшо́нны* прым., *пшэ́нны* прым. — Вілен. р., Паст., Віл., Беш., Воран., Лід., Смарг., Гродз., Нараўл. (СПЗБ, Каспяровіч, Ластоўскі, Насовіч, Цыхун).

**Пырнікавы**

Які адносіцца да пырніку.

*пы́рнікавы* прым. — мясц. (Насовіч, Станкевіч).

**Пялёсткавы**

Які адносіцца да пялёстка, пялёсткаў.

*пелюстко́вы* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Пяргоеы**

Які адносіцца да пяргі.

*пярго́вы* прым. — Браг. (Мат. Гом.).

**Пярцовы**

Які адносіцца да перцу.

*пярцо́вы* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Рабінавы**

Які адносіцца да рабіны.

*рабінавы* прым., *рабіны* прым. — Стол., Жытк. (ТС).

**Рагозавы**

Які адносіцца да рагозу, зроблены з яго.

*рагозавы* прым. — Стол. (ТС).

**Ракітавы**

Які адносіцца да ракіты.

*ракітавы* прым. — Стол. (ТС).

**Рамонкавы**

Які адносіцца да рамонка.

*руменкавы* прым. — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *румянкавы* прым. — Іўеў. (Мат. Гродз.).

**Ружовы**

Які адносіцца да ружы.

*ружовы* прым. — мясц. (Ластоўскі), *рожавы* прым. — мясц. (Станкевіч).

**Рутовы**

Які адносіцца да руты, уласцівы ёй.

*руцвяны* прым. — мясц. (Станкевіч), *руцяны* прым. — Шчуч. (Мат. Гродз.).

**Рысавы**

Які адносіцца да рысу.

*рысавы* прым. — пашыр. (Ластоўскі, Мат. апыт.), *рыжкóвы* прым. — мясц. (Ластоўскі), *рыжавы* прым. — зах.-бран. р. (Растаргуеў).

**Садовы**

Які расце ў садзе.

*садóвы* прым. — агульн. (Насовіч, Станкевіч, Мат. апыт.).

**Саламяны**

Які адносіцца да саломы.

*саламя́ны* прым. — Чэрв. р. (Шатэрнік), *салóменны* прым. — Жытк. (ТС).

**Сачыўкавы**

Які адносіцца да сачыўкі.

*сачыўкавы* прым. — мясц. (Станкевіч).

**Свідзінавы**

Які адносіцца да свідзіны.

*швідóвы* прым. — Жытк. (ТС).

**Сілегавы**

Які адносіцца да сілегі, зроблены з яе.

*сілегавы* прым. — Стол. (ТС).

**Сланечнікавы**

Які адносіцца да сланечніку.

*сланéчнікавы* прым. — мясц. (Насовіч).

**Слівовы**

Які адносіцца да слівы.

*слівóвы* прым. — Слаўг. (ГЧ), *слíвашны* прым. — Жытк. (ТС), *слівíны* прым. — Стол. (ТС), *слíўкавы* прым. — Шчуч. (Сл. Гродз.).

**Смолкавы**

Які адносіцца да смолкі.

*смóлкавы* прым. — мясц. (Насовіч, Станкевіч).

**Стакроткавы**

Які адносіцца да маргарыткі.

*стакрóткавы* прым. — мясц. (Ластоўскі).

**Сталовы**

Які ўжываецца ў ежу.

*цвіклóвы* прым. 'пра бурак' — Мядз. (Мат. мін.-мал.).

**Сунічны**

Які адносіцца да суніц.

*сунíчны* прым. — Клім. (Бялькевіч, Насовіч), *пазéмкавы* прым., *пазёмкавы* прым. — Мядз., Маладз. (СЦБ).

**Травяны**

Які адносіцца да травы.

*травянЫ́* прым. — мясц. (Ластоўскі, Станкевіч), *трáўны* прым. — мясц. (Станкевіч), *траўлянЫ́* прым., *траўля́ны* прым. — Жытк. (ТС).

**Трыпутнікавы**

Які адносіцца да трыпутніку.

